**Галасы Беларусі — 2020.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2021. 434 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

У фармаце шматгалосься кніга распавядае пра беспрэцэдэнтны ў гісторыі Беларусі 2020 год. Сотні сьведкаў адкрыта загаварылі пра свае клопаты, жаданьні, радасьці і пакуты ў часе, дзе сышліся пандэмія, прэзыдэнцкія выбары і масавыя рэпрэсіі. Вялікія гісторыі суседзяць з кароткімі эпізодамі і рэфлексіямі „адным сказам“.
У кнізе выкарыстаныя матэрыялы Радыё Свабода, а таксама іншых СМІ, сацыяльных сетак, якія публікаваліся на плятформах РС.
Ананімнасьць у некаторых выпадках захоўваецца дзеля бясьпекі сьведкаў, журналістаў і крыніцаў. Рэдакцыя мае намер апублікаваць поўны варыянт кнігі, калі гэта стане магчымым.


FOL

ISBN 978-0-929849-91-1

# ЗЬМЕСТ

# ГАЛАСЫ ПАД СЯРПОМ ТВАІМ*

Паглядзі,
хто паўстаў,
куды ідзе,
што нясе,
чаго хоча,
у што верыць,
чым ахвяруе,
што даруе,
што не даруе,
узрадуйся
і жахніся,
Нялітасьцівы.

*Аляксандар Лукашук,*
*Бібліятэкар Свабоды*

*„Бедныя, бедныя людзі! Як каласы, як травы пад сярпом тваім, нялітасьцівы Божа!“

Уладзімер Караткевіч, дацэнзурная рэдакцыя раману „Каласы пад сярпом тваім“.

# БЕЛАРУСКАЯ ЗВЫШЛІТАРАТУРА

## *Прадмова ўкладальніка*

Ад чытаньня гэтых сьведчаньняў валасы на скронях ператвараюцца ў жорсткі дрот. Эмоцыі — або толькі адмоўныя або толькі станоўчыя, без паўтонаў. Як і увесь гэты год 2020 — у рэжыме „беларускай сынусоіды“, уверх-уніз: нас расстраляюць — мы пераможам — нас усіх пасадзяць — мы пераможам… Як і раніца кожнага дня, яшчэ ад пачатку пандэміі — суцэльныя bad news на сайтах і ў сетках — народ не пачуў ад уладаў ніводнага слова спагады і падтрымкі, толькі рэпрэсіі, абразы, пагрозы. Народ адказаў эўфарыяй вулічных шэсьцяў, дваравых канцэртаў, бел-чырвона-белых колераў паўсюль. На маршах у Беларусі ніколі ў гісторыі не было столькі шчасьлівых людзей. Гэта было шчасьце яднаньня ў галоўным — у візіі сваёй краіны, якой яна можа быць.

Беларускага лета 2020-га не чакаў, не прагназаваў, ня мог наваражыць ніхто. Падзеі відавочна не завяршыліся, і ўсё, што мы маем цяпер — факты і эмоцыі ў расповедах людзей, якія апынуліся ў цэнтры віраваньня. Зь іх галасоў і складаецца гэтая кніга.

Купалаўскае „мяшаецца праўда і зло“ ў Беларусі раптам перастала мяшацца. Мы думалі, што прывыклі жыць у гэтай сумесі дабра і зла, а аказалася — не прывыклі, цярпелі проста як не сваё, не беларускае зусім, нялюдзкае.

Шмат хто са сьведкаў кажа пра пераадоленьне страху, які раней сьціскаў сэрца і замінаў выходзіць. Але страх не прагоніш без замяшчэньня. На яго месцы павінна паўстаць штосьці іншае. Гледзячы на лавіну людзей, якія выйшлі ў 2020-м, разумееш, што страх замяшчаецца місіяй чалавечага адзінства, нібыта сотні тысяч людзей упершыню паглядзелі ў люстэрка і ўбачылі сябе сучаснай нацыяй.

Героі гэтай кнігі, якім давялося прайсьці праз катаваньні, часта распавядаюць пра тое самае, але сваімі словамі, шматгалосьсе стварае аб'ёмную карціну падзеяў. Але ведаеце, якую фразу сьведкі паўтараюць найчасьцей? „Мне пашанцавала“. У параўнаньні з тымі, каму не пашанцавала — хто выйшаў калекам або ня выйшаў увогуле.

Зьмянілася важнасьць словаў. Простыя і ў мінулым жыцьці банальныя словы сталі важнымі. Журналісты афармляюць іх па-ранейшаму: свая прэамбула, цытата, перабіўкі-пераказы, цытата, завяршэньне — усё так ці інакш са словаў сьведкі. Вяртаеш іх „назад“ — у маналёг ад першай асобы і проста фізычна адчуваеш, як тэкст амаль стопрацэнтава становіцца літаратурай.

Кніга ўкладалася ў жанры „шматгалосься“, за такі фармат Сьвятлана Алексіевіч атрымала Нобэлеўскую прэмію, а яшчэ раней яго вынаходнік Алесь Адамовіч назваў яго „звышлітаратурай“, бо тут — абсалютная праўда, больш верагодная

за дакумэнт. Дакумэнты можна падрабіць. Тут жа няма спакусы атрамаць ад падробкі нейкую карысьць, бо сьведчаньне толькі на шчырасьці і трымае давер да сябе, і адна фальшывая нота адразу разбурае інтанацыю ўсяго расповеду.

У гэтай кнізе няма галасоў ка́таў. Але ў аб'ёмных сцэнах, што паўстаюць з розных ракурсаў шматгалосься, можна пачуць і іх. Іх можна пачуць і ў галасах з праўладных мітынгаў, якія шукаюць сваё апраўданьне бесчалавечнасьці.

Ня простая загваздка — цытаваць турэмнага ка́та, калі ён літаральна размаўляе расейскім матам. З аднаго боку, для верагоднасьці апісаньня цытаты мусяць быць дакладнымі, як таго патрабуе дакумэнт. Але такая дакладнасьць якраз і парушае верагоднасьць, бо надае сьведку не ўласьцівыя яму рысы, бо ён сам расейскага мату не ўжывае. Мат у турмах — прылада катаваньня, і ў нас ня мусіць складацца вобразу апавядальніка, які гэта прыняў. Бо не прыняў. Урэшце, са справаў мы пазнаем іншых, а не са словаў.

На першы погляд, гэтая кніга распавядае пра гвалт. Але гвалт з боку ўладаў не зьявіўся ў 2020-м, ён прысутнічаў у беларускім жыцьці заўсёды, быў і застаецца прадказальным. Непрадказальным героем уласнай гісторыі паказаў сябе беларускі народ, а гэта значыць, што ягоная непрадказальная будучыня залежыць толькі ад яго.

# РЭВАЛЮЦЫЯ ВУЛІЦ

*24 траўня 2020 году тысячы людзей сталі ў чэргі каля менскай Камароўкі. Яны самі назвалі падзею „Рэвалюцыяй чэргаў“. Гэта быў першы пікет за вылучэньне Сьвятланы Ціханоўскай кандыдатам у прэзыдэнты Беларусі. Сьледам такія чэргі ўтвараліся ў іншых гарадах па ўсёй краіне. Журналісты вялі стрымы з падзеі і давалі слова людзям у чарзе.*

## *„Хопіць подлічаць“*

— Мяне завуць Натальля Віктараўна, я пэнсіянэрка. Я сюды прыйшла, каб асабіста сказаць: Лукашэнка, сыходзь! Хопіць подлічаць. Ты ператварыў нашу краіну ў калёнію Кітая. Учора ў тэлевізары паказвалі нашу вайсковую вытворчасьць. Дык усё складаецца з камплектуючых Кітая. А ў нас вельмі працавіты беларускі народ. Дзе наша лепта ў краіну? Гэта першае. Другое, я хачу сказаць: ён бяз нашае згоды павялічыў пэнсійны ўзрост на тры гады. Трэцяе. Ён біў паўсюль сябе пяткай у грудзі, што трэцяе дзіця беларуса — гэта ягонае. А якія ён дае працэнтныя пазыкі маладым сем’ям? Крайне непрадуманая сацыяльная палітыка ня толькі ў дачыненьні да пэнсіянэраў, але і інвалідаў, інвалідаў-дзяцей. Як цяжка маці-адзіночкам гадаваць дзяцей. А колькі ў яго рэзыдэнцый… Нахапаўся ўжо! Чацьвёртае. Ён трымае аграмаднейшую ахову. Ад каго ён бароніцца? Ад нас, простых беларусаў. Але хай ён у

такім выпадку плаціць за гэтую ахову свае грошы, але ня нашы. Я буду галасаваць за тое, каб былі сумленныя справядлівыя выбары, за тое, каб ён не ўчыняў генацыд беларускага народу. За тое, каб мы маглі спакойна жыць сумленна і хадзіць з высока паднятай галавой. У нас адна радзіма, іншай ня будзе. Мае два дзяды ваявалі, маюць узнагароды. Калі б яны маглі, яны б прыйшлі сюды на плошчу зь вінтоўкамі, але не дазволілі б разваліваць нашу краіну, найлепшую краіну ў сьвеце. Здаецца, усё сказала. Жыве Беларусь!

### *„Не падабаюцца адносіны ўлады да мяне“*

— Мы прыехалі з Горадзенскай вобласьці падтрымаць Сяргея Ціханоўскага. Беларусь вельмі добрая краіна, тут жывуць цудоўныя людзі. Усё, што мяне атачае, мне падабаецца. Але мне не падабаюцца адносіны ўлады да мяне. Увесь сьвет прыйшоў да таго, што ўлада павінна мяняцца. Новыя погляды, новыя людзі. Тут такога не адбываецца, і гэта няправільна. Так, безумоўна, нейкія заслугі ёсьць і ў Лукашэнкі. Але ўсё тое, што нэгатыўнае, яно ўжо перакрыла гэта. Ён павінен проста сысьці, бо ўсё, рэсурс яго вычарпаны.

### *„Паспрабуй падысьці да міліцыянта“*

— Мне 19 гадоў. Перамены ў маім разуменьні — гэта цалкам убраць Лукашэнку. Далей мы павінны правесьці поўную рэформу паліцыі. Там ёсьць псыхічна нездаровыя людзі. Ім падабаецца біць людзей, ім падабаецца забіваць. У мінулым годзе я быў ва Ўкраіне і гаварыў там з паліцыянтамі. Я пытаўся ў іх: хлопцы, можна я з вамі

паразмаўляю, як у вас справы? — Вядома, сядай. Гэта былі маладыя хлопцы, ім як мне, 20-21 год. Я быў шчасьлівы, што магу падысьці да паліцыянта і спытацца: што ў вас зьмянілася? А паспрабуй у нас падыдзі да міліцыянта, спытай: як у вас справы, як абстаноўка ў краіне? Ён мяне павяжа, і я паеду ў які-небудзь карцар. І ўсё, без суду і сьледзтва. І скажуць: непадпарадкаваньне закону, непадпарадкаваньне міліцыі. Якое непадпарадкаваньне, я проста спытаў: як справы? А яму проста я не спадабаўся, што задаю пытаньні.

### *„Паўсюль разруха“*

— У далёкім 1994 годзе мае бацькі зрабілі выбар, дзякуючы якому кожныя чатыры гады я як прадпрымальнік адчуваю крызіс у нашай краіне. Гэта вельмі складана. Толькі пачнеш выкарасквацца, зноў — крызіс. І таму я заклікаю моладзь, якой цяпер 18 гадоў, не хадзіць на тусоўкі, а думаць пра будучыню сваіх дзяцей, каб у 40 гадоў не апынуцца ў такім вось стане, як мы цяпер апынуліся. Бо тое, што Сяргей Ціханоўскі паказаў у сваіх роліках, насамрэч — ува ўсіх сфэрах. Гэта сельская гаспадарка, заводы, мэдыцына, — паўсюль разруха. Я жыла ў сваім маленькім сьвеце і ня бачыла ўсёй гэтай праўды, бо па БТ гэтага не паказваюць. Таму я на баку галоснасьці, праўды, сумленных выбараў, свабоды, бо людзей за тое, што яны кажуць праўду, саджаюць. Гэта ўвогуле няправільна. Ніякіх правоў у нас няма. Канстытуцыя не выконваецца.

### *„Паверылі тады, што калхозьнік падтрымае ўсіх“*

— У 90-м я прыйшоў з арміі і ў 94-м першы раз галасаваў за яго. Бо я сам калхозьнік па жыцьці. Але больш мая сям'я і я за яго не галасавалі. Мы паверылі тады, што калхозьнік падтрымае ўсіх. А куды ён нас прывёў? Калісьці я працаваў вартаўніком на сьвінарніку. І вось прыехаў гадоў пяць ці шэсьць назад чарвякоў накапаць на рыбалку... А дзе фэрма? Фэрмы няма. Старшыня калгасу здаў сьвіней, сьвінаматак на мясакамбінат. Яму нічога не зрабілі. Куды грошы сышлі? А сьвінаматка адна прыводзіць 10-12 сьвіней. Цяпер там трава расьце. Хто адказаў за гэта? Ніхто. Людзей звольнілі. І вы хочаце далей у гэтай краіне жыць, дзе бясчынства?

### *„У мяне цешча — дачка Машэрава“*

— Народ хоча той праўды, якой ён хоча. Але праўда не салодкая, яна горкая. Цяпер адбываецца генацыд беларускага народу. Я тлумачу, што гэтыя ўсе, што цяпер стаяць, чэргі, гэта ўсе стаяць падманутыя людзі, бо іх паперы нікому не патрэбныя. Яны зойдуць у гэтую кабінку, апусьцяць як у туалет сваю паперу... Самае галоўнае ў гэтай гісторыі — гэта акт. А акт захоўваецца 25 гадоў. Пры любым раскладзе Лукашэнка скажа: падыміце акты. І паўсюль будзе, што ён перамог. А ўсе бюлетні будуць спаленыя. Я сам хацеў быць кандыдатам у прэзыдэнты, але я ад гэтага шоў адмовіўся. Бо я працаваў у Камітэце, жыў у Драздах 15 гадоў, у мяне цешча — дачка Машэрава, таксама балятавалася. Я ведаю болей, чым увесь гэты

ўзяты народ. Я Аляксандра Рыгоравіча ведаю асабіста. Калі ён быў дэпутатам і ня быў прэзыдэнтам. Цяперашнюю апазыцыю я не разумею і не хачу прызнаваць. Я вельмі добра дачыняюся з Пазьняком праз людзей. Ён жыве ў Нью-Ёрку ў адным пад'езьдзе з маім таварышам. І ён сказаў: улада проста так дэмакратычным шляхам выбараў не аддаецца. Яе трэба браць сілавым мэтадам. Ня трэба зброі. У сёньняшні момант калі паўмільёна з усёй Беларусі прыйдзе да 12, напрыклад, гадзін, то да шасьці гадзін вечара гэтай улады ня будзе. Як пала камуністычная ўлада — вы памятаеце?

### *„Проста дай жыць“*

— Я сымбалічна ўзяў газэту. Гэта „Советская Белоруссия“. У лютым пра мяне выйшаў разносны рэпартаж. Я фэрмэр. На ўсю краіну маё імя было спаганенае і спаскуджанае, нібыта я неэфэктыўна выкарыстоўваў зямельныя рэсурсы, якія мне, падкрэсьліваю, у 18-м годзе ўвосені перадалі як фэрмэру. Насамрэч нават тры гады па нашым дзейным заканадаўстве я вызвалены ад падаткаў і гэтак далей. Але іншай дапамогі ад дзяржавы няма. І яшчэ я хацеў скарыстацца выпадкам, я ўпэўнены, што нехта з ураду глядзіць. Я некалькі гадоў таму праяжджаў каля яго рэзыдэнцыі ў Астрашыцкім гарадку і я бачыў за высокім плотам навюткі бульбаўборачны камбайн. Я яшчэ пасьмяяўся сам сабе. І праз паўтара месяца ў навінах па ўсіх каналах БТ паказваюць рэпартаж, як ён уручную капае бульбу. Колькі можна хлусіць. Сыдзі. Забяры мільярды нарабаванага і проста сыдзі. Проста дай жыць.

### *„Матэматычны квадрат“*

— Вось можаце зьняць майго дзядулю, яму 72 гады, папрасіў: адвязі мяне паставіць свой голас за перамогу. Ён вынаходнік.

— Так, вынаходнік. Ну, думаю, паколькі ён (Цапкала) навукай займаецца, я як бы кампаньёнам станаўлюся. Таварыш параіў, што ён мне дапаможа па матэматыцы прасунуць свае вынаходніцтвы.

— У яго ашаламляльныя вынаходніцтвы. Пакажы, вось. Яго вынаходніцтва можа прасоўваць інфармацыйныя тэхналёгіі. І вось Валеры Цапкала, ён якраз пазыцыянуецца з ПВТ. І калі ўся краіна стане ПВТ... Вось глядзіце, вось гэты ўнікальны квадрат, які вынайшаў вось гэты чалавек, Мікалай Лявонаў, наш, беларус. Квадрат дазваляе вывучаць матэматыку ў пачатковых клясах. І стаіць задача, каб у кожным сшытку быў надрукаваны гэты матэматычны квадрат.

— Справа ў тым, што я Аляксандра Рыгоравіча таксама вельмі моцна паважаю, бо пры яго ўладзе не адбываліся вялікія войны ў нас і канфлікты. І за тое, што ён спартовец добры. І я таксама спартовец, рэкардсмэн. Таму ведаеце, як гаворыцца, у нас добрыя людзі і прэзыдэнты добрыя. Таму нічога супраць яго ня маем. Ну а гэты таварыш мне дапаможа ў гэтым.

### *„Стаім, каб паказаць, што мы ёсьць“*

— Мы гадзіны дзьве ўжо, напэўна, стаім. Мы не стаім, каб паставіць свае подпісы, у нас няма такой мэты. Стаім, каб паказаць, што мы ёсьць, што мы пратэст супраць гэтай улады. Подпісы пакуль

незразумела за каго ставіць, бо я як бы супраць і тых блогераў, якія выступаюць і лічаць, што яны могуць быць прэзыдэнтамі. Я лічу, што пакуль няма годнага кандыдата, трэба байкатаваць гэтыя выбары. І рабіць іншыя. Даць магчымасьць людзям, якія сапраўды хочуць сябе паказаць, якія разумныя. Каб яны выступілі і каб мы выбралі. А гэта проста фарс. Я з тых людзей, хто перамены прыйшоў падтрымаць. Трэба па паўгода-год прызначыць якога-небудзь выканаўцу абавязкаў і каб за гэты час народ паглядзеў на вартых кандыдатаў. А ня так, як цяпер, калі па дзяржканалах не паказваюць нічога.

## *„Беларусь вельмі багатая дзяржава“*

— Беларусы знаходзяцца пад гіпнозам, што Беларусь бедная дзяржава. Вось я працую на будоўлі, ужо 16 гадоў, тут у Менску на вялікіх аб’ектах — рэканструкцыя вуліц, разьвязкі. І мне хацелася б зьвярнуць увагу, што насамрэч Беларусь вельмі багатая дзяржава, адна з найбагацейшых краінаў Эўропы па рэсурсах. Але людзі пра гэта ня ведаюць, гэтая інфармацыя схаваная. Вось, напрыклад, узяць зямельны рэсурс. У нас 2,6 гектара, Вялікабрытанія, Бэльгія — 0,3 гектара. У нас атрымліваецца на кожнага чалавека зямлі ў 10 разоў болей, чым у асобных эўрапейскіх дзяржавах. Што да карысных выкапняў, у нас ёсьць жалезная руда, каменны і буры вугаль, сусьветныя запасы солі, эўрапейскія запасы вады. У нас сваёй нафты беларускай на 30 гадоў. Але ўся гэтая інфармацыя замоўчваецца. Пра тое, што знайшлі буйное радовішча ў Прыпяцкім прагібе — навіна

прайшла адзін толькі раз. І атрымліваецца, што па чалавечых рэсурсах Беларусь найбагацейшая дзяржава. Колькі ў нас найразумнейшых людзей на будоўлі: прарабы, майстры. Ну як можа дзяржава не выкарыстоўваць такі рэсурс, як чалавечы энтузіязм?! І людзі нават ня ведаюць, што энтузіязм чалавечы — гэта рэсурс дзяржавы. Дзяржава павінна быць пабудаваная не на страху, як у нас, а на энтузіязме. Час страху закончыўся, час гопнікаў мінуў. Цяпер прыходзіць час рамантыкаў. І толькі рамантыкі створаць умовы для разьвіцьця Беларусі і створаць краіну для жыцьця.

*25 траўня адбыўся пікет за Ціханоўскую ў Слуцку.*

### *„Пятнаццаць гадоў пражыла з мужам амонаўцам“*

— Напэўна, накіпела. Ці гэта нармальна, калі я, маці дваіх дзяцей, маю чатыры крэдыты, працую на дзьвюх працах, каб хоць неяк іх утрымліваць? І гэта толькі вярхушка айсбэргу. Валік, раскажы, якія ў нас праблемы.

— Ды, блін, тут можна днямі і тыднямі расказваць. Пачынаючы ад дзіцяці, у якога з нараджэньня ўжо дзьве тысячы даляраў доўгу вісіць. Трэба было будаваць лякарні, школы, а ён будаваў лядовыя палацы, свае рэзыдэнцыі, самалёты купляў. Таму так накіпела. Тут, я гляджу, знаёмых мала чамусьці. А так у каго ні спытай, усе супраць. Таму што так, у людзей крэдыты, інакш немагчыма пабудаваць дом. Недзе хтосьці там можа, набліжаныя, за нейкія хабары...

— Вядома, хабары. А як у нас працьвітае наша слуцкая міліцыя, прывет! Як яны фабрыкуюць справы. Як штурхаюць людзей на злачынствы, каб зарабіць сабе зоркі на пагонах. А тое, што сям’я пазбаўляецца кармільца... Я першы раз за свае 36 гадоў прыйшла галасаваць. Пятнаццаць гадоў пражыла з мужам амонаўцам, дык іх абавязвалі галасаваць. А я не хадзіла ні разу, не хацела. Навошта? Адмоўчвалася. Думала, можа муж за мяне прагаласуе. А тут, прабачце, я ўжо разьвялася. І маю права голасу.

*28 траўня жыхары Гомля сталі ў чаргу, каб падпісацца за Сьвятлану Ціханоўскую.*

## *„Чаму я павінна так адзета быць?“*

— Так жыць нельга болей. Таму я ўжо за любога, хоць з рогамі, толькі не за яго. 26 гадоў... Калі мы яшчэ два пэнсіянэры былі, то і муж падпрацоўваў. Тры гады як ён памёр... Я сябе не магу паважаць як чалавека. Вы разумееце чаму? Чаму я павінна так адзета быць? Чаму я не магу выехаць адпачыць. Я ў савецкі час лятала, у мяне сваякі ў Казахстане. Я лятала на самалёце. Я магла сплянаваць. Я год зьбірала гэтыя рублі, але я магла. Бо рубель быў рубель. А цяпер?.. Вось здарыцца зараз са мной нешта, я лягу на рукі дзяцей. А дзеці такія самыя, па трыста рублёў атрымліваюць. І я яшчэ са сваёй пэнсіі хачу штосьці дзецям. Ува ўсіх ёсьць дні нараджэньня, Новы год ва ўнукаў. Вось як жыць?

### *„Дзіцёнак увогуле беларускую не разумее“*

— Па-беларуску крышачку размаўляю. Як называецца ў народзе, трасяначка. Вядома, мы больш прывыклі да рускай. Калі ўсё памяняецца, больш перавагі будзе беларускай мове, вядома, усе будуць размаўляць, старацца, і дзяцей сваіх прывучаць. У мяне дзіцёнак увогуле беларускую не разумее. Ну ўвогуле. На беларускай мове вершык — ён яго не разумее. Мне даводзіцца перакладаць на рускую, каб ён хоць трошкі зразумеў, пра што гаворка. Беларускай мове трэба болей гадзін аддаваць у школе. Бо гэта родная мова. Мы ўсё ж такі беларусы, мы ж ня рускія. Так, размаўляем па-руску, таму што 26 гадоў размаўляем па-руску. А хацелася б, каб дзеці ведалі родную мову, бо мы беларусы.

### *„Чаму не пакажуць у тэлевізары?“*

— Чаму не пакажуць у тэлевізары вось гэтую масу народу? Чаму? Чаму не пакажуць, што ёсьць праблемы ў дзяржаве. І людзі прыходзяць выказаць сваю нязгоду з гэтай пазыцыяй дзяржавы. Чаму нашы пэнсіянэры, якія па сорак гадоў адпрацавалі, чаму яны жывуць як жабракі? Мая маці сорак гадоў адпрацавала на прадпрыемстве, у гандлі, яна атрымлівае трыста рублёў пэнсіі. Чаму гэтая Ярмошына і плюс сьвіта гэтая ў Драздах жывуць у мільённых катэджах? Адкуль у іх грошы, за што яны жывуць? За кошт народу. Дык навошта такая ўлада нам? Бясплатная мэдыцына? Мая маці ходзіць у лякарню. Якая бясплатная! За кожную паслугу заплаці грошы.

## *„Адпрацавала... на стале танцавала“*

— Я бяз працы з 45-ці гадоў. Мяне проста прыбралі па сканчэньні кантракту, і больш я працы ў горадзе знайсьці не магла. У мяне малодшаму дзіцяці тады было 9 гадоў. Я вымушаная была зьехаць і зарабляць грошы на дзіцёнка дзесьці там — у Польшчы, у Расеі, у Рызе, па ўсім сьвеце. Разумееце? У мяне быў стаж 21 год на адным месцы. І калі я прыйшла ў адну арганізацыю ЖБІ па спэцыяльнасьці, узялі маю працоўную і сказалі: з такімі, як вы, проста так кантракты не разрываюць. Я кажу, дык што, я 21 год адпрацавала, а на 21-ы на стале танцавала? У мяне ні заўвагаў, ні вымоваў. І я кажу гэтай жанчыне: ведаеце, у вас зьменіцца кіраўніцтва і вы, дакладна так, як я, можаце аказацца на вуліцы. Яна кажа: чаму я? Я кажу: рукі потныя, фрызура не спадабаецца, тысяча прычын. Гэта маё дзяцінства, кіно „Цацка“, рукі потныя... Я не запатрабаваная, я не патрэбная радзіме. Павінны быць працоўныя месцы. Плюс. У якую кантору ў Гомелі ні зайдзі, на кожным паверсе сядзяць аднафамільцы. Гэта ні для каго не сакрэт. Ну жаночы пол замуж узялі, яны прозьвішчы памянялі, а так яны ўсе аднафамільцы. У нас павыцягвалі з усіх вёсак, усе свае, радня, дзядзькі-пляменьнікі. А тыя, хто нарадзіўся ў Гомелі, ня маюць вялікай радні, усе беспрацоўныя.

## *„Як у Эўропе, Амэрыцы“*

— Што трэба мяняць? Адносіны да народу, каб былі больш цывілізаваныя, як у Эўропе, Амэрыцы. Каб не было грубасьці, жорсткасьці з боку дзяржавы.

### *„Нічога не атрымала ад яго праўленьня“*

— Буду галасаваць за Лукашэнку. Я ў Расеі працавала, падлогі мыла сем гадоў там. Я бачыла расейскіх дзяцей у Скліфасоўскага, якія бяз ног, бяз рук ляжалі там. А я Лукашэнку дзякую, бо мае дзеці не ваявалі ні ў Чачні, ні ў Афганістане. Я пра іншае не кажу. Я пэнсію зарабіла, мая пэнсія 300 рублёў. І мае дзеці мяне ўтрымліваюць. А мае ўнукі ў Расеі цяпер сядзяць на карантыне і ў школу ня ходзяць ужо тры месяцы. Яго штрафуюць, майго сына, за тое, што ён па хлеб выходзіць у Туле... 26 гадоў, можа быць, і многа. Але нельга вось так агульна вось так. Я асабіста нічога не атрымала ад яго праўленьня. 300 рублёў пэнсіі. Я пэдагог-дашкольнік, што я магла зарабіць? Але ва ўсякім разе мы ходзім цяпер па вуліцы. У Расеі людзей душаць за гэта, а ў нас людзі ходзяць свабодна і дыхаюць.

### *„Я выплёўваю лёгкія“*

— Мяне завуць Валеры, я зваршчык. І ў чым, растлумачце, розьніца. Міліцыянт ідзе на пэнсію ў 45 па шкоднасьці. А я па шкоднасьці — тое, што я выплёўваю лёгкія — павінен ісьці ў 60. Мне на дадзены момант амаль 50 гадоў. Я ўжо павінен у савецкі час ісьці на пэнсію. Па гарачай сетцы. У мяне трое дзяцей, я на дзьвюх працах змагаюся. Шукаю нейкія падпрацоўкі. Тысячы рублёў у нас няма. Я магу пры вас адкрыць інтэрнэт і вось: праца зваршчыка патрабуецца — 300 рублёў, 200 рублёў, 500 рублёў. Нармальна? Дзе наша абяцаная тысяча? Я не магу так, як мае бацькі ў савецкі час, пабудавацца бясплатна. Я беларус, не ўкраінец,

не расіянін, я беларус, я родам адсюль, я вясковы хлопец. І я хачу, каб было так, як пры маіх продках. А тое, што ігнаруюць, то бок ламаюць наша грамадзтва, я гэтага не разумею. Прэзыдэнт тое, што кажа народ, ігнаруе. Таму патрэбны новы прэзыдэнт. Гэты ўжо ня здатны. Ён ужо накраўся.

### *„Ня ведаем суседзяў на лесьвічнай клетцы“*

— Трэба аб'ядноўвацца. Ёсьць праблема, на мой погляд, што мы часта ня ведаем суседзяў на лесьвічнай клетцы. Такі час цяпер. Гадоў 15-20 усё было па-іншаму. Павінна быць нешта агульнае, што б усіх аб'ядноўвала, каб людзі не баяліся нават выходзіць подпісы сабраць. Я не баюся. Ну пасадзяць на суткі, адміністратыўку, ну пасяджу.

### *„Прадпрымальнікі праселі“*

— У сувязі з пандэміяй, як вядома, закрытыя межы расейскія. Увезьці тавар немагчыма. Адпаведна ўсе прадпрымальнікі праселі, многія там да істэрыкі. Адабралі ралет, адабралі магазін. Арэнду ніхто ні на капейку ня зьнізіў. Ніхто нічым не дапамагае абсалютна. Вось проста кінулі, выжывайце, як хочаце. Мы хадзілі ў аблвыканкам, мы хадзілі ў гарвыканкам. Нам кажуць: няма каманды зьверху. Што рабіць прадпрымальнікам, калі мяжа закрытая, не ўяўляю.

### *„Гэта ж не кітайскую вучыць“*

— Мяне завуць Сьвятлана. Я тут, бо мне вельмі крыўдна, што мы не размаўляем на сваёй мове. Ведаеце, гэта ж не кітайскую вучыць ці нямецкую,

калі хтосьці не вучыў. Гэта ж наша родная мова, мы ўсе яе разумеем. Нават калі мы не гаворым на ёй. Яна ў нас у крыві… Каб людзі пачалі размаўляць на мове, гэта павінна зрабіць дзяржава. Само сабой нічога ня будзе.

*29 траўня жыхары Горадні выйшлі на пікет у падтрымку Сьвятланы Ціханоўскай.*

### *„Чаму я павінна зьяжджаць?“*

— Ад імя моладзі хачу сказаць: чаму я павінна хацець уцячы са сваёй краіны па лепшые жыцьцё? Я хачу тут атрымліваць добрую адукацыю, мэдычную дапамогу, добрую працу мець, а не атрымліваць 200 даляраў, калі пашанцуе. Мяне нядаўна скарацілі, бо працадаўца спачатку вырашыў, што трэба шмат людзей, а аказалася, што мала трэба для працы. І ўсё, я цяпер бяз працы. Я за тры месяцы працы па 12 гадзін два праз два дні атрымала 400 рублёў. На што мне жыць тры месяцы за 400 рублёў? Мне 18 гадоў. Я працавала ў краме касмэтыкі тут недалёка. Нас перавялі ў ГЦ „Triniti“, які цяпер адкрыўся. Праз пандэмію туды ніхто ня ходзіць. І ўсё, ідзіце гуляйце. Нас не хвалюе, чым вы будзеце займацца. Кожны дзень я праглядаю вакансіі. Патрэбныя кіроўцы таксі, дальнабойшчыкі, прадаўцы — там патрэбны вопыт, а дзе я вазьму вопыт? У прынцыпе працы ніякай няма. Прадаўцом кудысьці за 400 рублёў… 400 рублёў! Мне проста сьмешна. 500 даляраў… Дзе мае 500 даляраў? Лукашэнка, скажы, калі ласка. Усе мае знаёмыя, яны незадаволеныя. Многія

ўжо зьехалі ў Польшчу вучыцца і жыць. Цяпер зьяжджае мой сябра працаваць у Нямеччыну на некалькі месяцаў, можа на паўгода. Людзі хочуць жыць, а не выжываць. Я б таксама вельмі хацела зьехаць, але чаму я павінна зьяжджаць, гэта мая краіна, я не хачу зьяжджаць.

### *„Рабы Эўразьвязу“*

— Тут палова людзей ня ведаюць, што такое свабода, быць свабодным. Тыя ж палякі, літоўцы, яны рэальна свабодныя. Некаторыя тут кажуць: ой, літоўцы, яны рабы Эўразьвязу. Ды ніякія яны не рабы Эўразьвязу, яны жывуць рэальна круцей за нас. Нават гэтая маленькая краіна, як Гарадзенская вобласьць, яна жыве лепш за нас. А чым мы горшыя за іх? Мы такія ж людзі, мы хочам гэтаксама жыць.

### *„Ня радасна“*

— Неяк так ня радасна. У нас ужо даўно мы ня радуемся нічому, ні адзін аднаму. 26 гадоў... быццам палова жыцьця кудысьці сышла ў нікуды. Хочацца, каб у будучыні гэта ўсё было лепей, весялей. Каб мы зноў радаваліся.

## „Усім запраўляюць людзі ў цывільным“

*Дзяніс Урбановіч, лідэр „Маладога фронту“:*

— 16 чэрвеня я выйшаў пасьля 15 сутак арышту на Акрэсьціна. Там у ЦІПе цяпер трымаюць актывістаў выбарчай кампаніі. Усім запраўляюць не міліцыянты, а невядомыя людзі ў цывільным.

Яны паводзяць сябе, як гаспадары, і кожны іх загад міліцыянты кідаюцца выконваць, як падначаленыя. Мяркую, яны з КДБ ці зь якой іншай сілавой структуры, бо паводзяць сябе нахабна, іх усе баяцца. Яны зьдзекуюцца зь вязьняў, хамяць, пагражаюць. Ад іх былі такія выразы, якіх раней я ніколі ня чуў: „Ператворым цябе ў агурок“, „Ты сюды трапіў, каб пакутаваць“, „Павесім ці сам павесісься, і ніхто правяраць ня будзе“...

Гэта на іх загад у камэрах, дзе ёсьць палітычныя, падлогу заліваюць вадой з хлёркай. Я сам сядзеў у такой камэры, дзе вады было па шчыкалатку, а матрацы адабралі, каб вязьні не маглі адпачыць. Калі я папрасіў анучу, каб выцерці з падлогі ваду, ахоўнікі сказалі: „Здымай штаны і выцірай“.

Вада з хлёркай — гэта ня сродак дэзынфэкцыі, а зьдзек зь вязьняў. Усім іншым арыштантам у камэры кажуць, што гэта „праз палітычных“.

8 чэрвеня ў ЦІП быў зьмешчаны Павал Севярынец, а таксама іншыя актывісты, якіх затрымалі ў сувязі з выбарчай кампаніяй. Зь імі абыходзяцца асабліва жорстка. Ад аднаго сукамэрніка я пачуў, што Севярынца білі па нагах, адабралі Біблію і зьмясьцілі яго ў халодны карцэр. Калі яму давядзец-

ца сядзець 75 сутак, не ўяўляю, як ён вытрымае. Я недзе праз 10 дзён у звычайнай камэры страціў арыентацыю — колькі сяджу, калі выходзіць. А там увогуле жахлівыя ўмовы. Ахоўнікі і людзі ў цывільным зьбівалі таксама актывіста „Эўрапейскай Беларусі“ Максіма Вінярскага, які абвясьціў галадоўку.

У дворыку я чуў голас Вольгі Мікалайчык. Зь ёй таксама вельмі жорстка абыходзяцца, не зважаюць, што жанчына.

Я быў сьведкам таго, як у ЦІПе прымалі жанчын у цішотках з надпісам „Краіна для жыцьця“. Там было шмат амонаўцаў з аўтаматамі. Шмат людзей у цывільным. Як прывезьлі тых жанчын, іх пачалі аглядаць. Асабістыя рэчы проста выкідалі на зямлю. Жанчыны абураліся, патрабавалі, каб іх аглядалі супрацоўніцы-жанчыны. Але на іх раўлі, як на быдла: „Стаяць! Да сьцяны! Морду павярні!“. Там быў проста жах.

Мяне асабіста некалькі разоў моцна зьбівалі, у тым ліку перад судом білі па галаве. Шмат начэй запар у маю камэру па некалькі разоў урываліся ахоўнікі. Мне наўмысна не давалі выспацца, каб вывесьці з нармальнага псыхалягічнага стану, справакаваць на агрэсіўныя дзеяньні.

Я ледзь трымаўся. Нават простая просьба вывесьці мяне на прагулку магла закончыцца зьбіцьцём у калідоры.

Цяпер адносна вязьняў ЦІП уведзеныя розныя абмежаваньні: ім забаронена чытаць, іх не выводзяць на прагулкі, некаторым не даюць перадач. Першую маю перадачу проста высыпалі на падлогу і зьнішчылі.

Гарачай вады няма, кажуць, нібыта нейкі рамонт. Шмат у якіх камэрах вошы — мне таксама давялося іх душыць на адзеньні.

Буду скардзіцца ў пракуратуру на зьбіцьцё, зьдзекі і невыносныя ўмовы ўтрыманьня. Нават мне, які ўжо бываў на сутках, цяперашні кашмар цяжка было перажыць. Косткі дагэтуль баляць.

# РЭВАЛЮЦЫЯ НААДВАРОТ

*5 чэрвеня ў Менску каля Дана-молу зьбіралі подпісы за Лукашэнку.*

## *„Хоць нейкая глеба пад нагамі“*

— Скажам так, што б ні адбылося, усё адно хай будзе хоць нейкая глеба пад нагамі ў маіх дзяцей. Я ня веру, што заўтра нешта памяняецца рэзка.

## *„Вы ня наша СМІ“*

— Я зьяўляюся членам БРСМ. І калі сёньня сабраўся такі пікет, я актыўна вырашыла ў ім паўдзельнічаць, бо падтрымліваю палітыку нашага дзейнага прэзыдэнта, у тым ліку тое, як ён ставіцца да моладзі. Ня будзем асабліва камэнтаваць, бо лічым, што вы ня наша СМІ.

## *„Даказаў вельмі многае“*

— Мне проста падабаецца парадак у краіне. Іншых кандыдатаў я ня вельмі разглядаю. Пра Ціханоўскага нешта чула. Мне здаецца, не зусім сумленна падымаць людзей. Мне мэтады яго не падабаюцца. Паводзіны яго не падабаюцца. Што падабаецца ў Лукашэнку? Гэты чалавек ужо даказаў вельмі многае.

## *„Ня буду па пунктах пералічваць“*

— Вядома, так, пасьля працоўнага дня спэцыяльна прыехала, каб падпісацца. Гэта маё

рашэньне, мая грамадзянская пазыцыя. Ня буду па пунктах пералічваць.

## *„Прывычка“*

— Ішоў вось, бачу, што ўсе, і я таксама падышоў. За нашага бацьку прагаласаваць. Чым падабаецца, я нават не магу канкрэтна адказаць. Проста я ўжо прывык да яго. Прывычка.

## *„На пераправе“*

— Я еду на дачу. Па дарозе вырашыла спыніцца. Чаму за яго? Таму што мы да яго прывыклі. Гэта стабільнасьць. Увогуле палова жыцьця майго прайшла пры гэтым кандыдаце. Чаго мяняць на пераправе перад пэнсіяй?

## *„Вы ўсе бандыты“*

— Радыё Свабода? А не... У вас ніякай свабоды няма. Вы ўсё падманваеце. Ай, ідзіце вы. Я за Лукашэнку галасую. Я не хачу за вас галасаваць, вы бандыты ўсе. А ён правільны, наш прэзыдэнт, за яго будзем галасаваць.

## *„Колькі вам заплацілі?“*

— Скажыце, колькі вам заплацілі за эфір? Вам ня сорамна прадаваць краіну? Мы ж ведаем, што вы фінансуецеся ня нашай краінай. А хто вам плаціць? Мы за нашага прэзыдэнта Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку. Бо мы любім нашу краіну, любім свайго прэзыдэнта, мы за мірнае неба над галавой. І сто працэнтаў не за тых вунь кандыдатаў, якія зьбіраюць вось гэтыя вось мітынгі

ў час пандэміі і так далей. Гэта першы пікет за Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку. І паверце, ня ён яго ініцыяваў. Я даведаўся, што ён ёсьць і прыехаў сюды толькі таму, што я за гэтую краіну і падтрымліваю сёньняшняга прэзыдэнта, і падтрымліваю мір, які ў нас ёсьць, які мы можам так лёгка страціць, дзякуючы людзям, якія ня цэняць міру, яны проста хочуць захапіць гэтую ўладу і гэтую краіну... Каб дэстабілізаваць краіну, проста разбурыць яе. Нам што тут дрэнна ўсім жывецца? Ня ведаю, мне добра.

### *„На нашы грошы“*

— Я чуў вашу размову з бээрэсэмаўцамі. Гэта ня важна, на якія грошы вы працуеце, на амэрыканскія, расейскія. А вось на чые грошы гэта ўсё звозіцца? На нашы. Гэтыя ўсе паказухі, парады?.. Лукашэнка набраў, зь ягоных жа словаў, 200 тысяч подпісаў. Навошта вось гэта тут ладзіць?

### *„Гэты пікет — фэйк“*

— Я сёньня маску купіў. Думаў, тут дадуць задарма, не далі. Ня буду подпіс ставіць, паеду. Гэты пікет — фэйк. Бачна, што яны прыехалі не па сваёй волі. Аўтобусы тут пад’яжджаюць.

### *„Шмат мутных хлопцаў“*

— Глядзіце, яны выходзяць, становяцца ў чаргу, пад’яжджае аўтобус, яны зьяжджаюць. Вунь ужо тры аўтобусы ад’ехалі. Стаць у чаргу, сумовіцца зь людзьмі, вядома, хацелася б, але тут шмат мутных хлапцоў з камэрамі.

### *„Быкі 94-га“*

— Я з 94-га году галасую за нашага кандыдата. Галасую і галасую. Радуе краіна, у якой я жыву, бо ведаю, якія яшчэ бываюць варыянты. Вы ня помніце быкоў 94-га году і пачатку 90-х. А мы іх помнім. Я помню, хто камандаваў жыцьцём у пачатку 90-х. І з таго часу не прыходзілі, не патрабавалі. Так што ўсё нармальна. Мы з вамі розныя. Вы як іншаплянэтнікі.

## „Патрабавалі здаць панчохі“

*Натальля Гарачка, праваабаронца:*

— Мяне затрымалі 5 чэрвеня каля Камароўскага рынку, дзе я праз тэлефон вяла стрым у інтэрнэт. Затрымалі людзі ў цывільным. Яны назваліся расейскім ФСБ, але адвезьлі мяне ў Цэнтральнае РУУС.

11 дзён я адседзела ў ізалятары часовага ўтрыманьня, а не як раней, — у цэнтры ізаляцыі праваparушальнікаў. Згодна з пастановай суду аб зьдзейсьненым правапарушэньні — удзел у несанкцыянаванай масавай акцыі — мяне павінны былі ўтрымліваць у ЦІП.

Фармальна мы лічыліся за ЦІП, але разьмясьцілі мяне ў будынку ІЧУ, казалі, што ЦІП перапоўнены. І гэтак ня толькі мяне. Па маіх зьвестках, Паўла Севярынца, Вольгу Мікалайчык ды некаторых іншых таксама ўтрымліваюць у будынку ІЧУ.

Вольга Мікалайчык да першых 15 сутак атрымала яшчэ сама меней два такія ж тэрміны. Але я не ўяўляю, як там столькі можна вытрымаць, бо ў параўнаньні з былымі часамі там цяпер канцлягер. Да мяне падсадзілі жанчыну з вошамі, і ў выніку, каб засьцерагчыся, я мусіла спаць на голай лаве.

Усе 11 дзён арышту я трымала галадоўку. І я не адна абрала такую форму пратэсту. На паверсе, дзе ўтрымлівалі тых, каго прывезьлі ў ізалятар пасьля 8 чэрвеня, галадоўку абвясьцілі больш за 10 чалавек. Пераважна гэта мужчыны.

9 чэрвеня нас усіх перавялі на першы паверх і адабралі пасьцельныя рэчы. А праз два дні адабралі яшчэ і матрацы. Ноччу было ня проста

холадна, а жудасна холадна. Там не адчыняюць вокны, і таму нават калі надвор’е цяплейшае, у камэрах холад і вільгаць. З 11 начэй я не магла спаць 6, мяне ўсю трэсла. У адну ноч суседка паднялася і нейкай прасьцінай мяне накрыла, бо я замярзала ў адной кофтачцы. У мяне падняўся ціск, але два дні мне не давалі лекаў і не выклікалі да мяне лекараў.

Аднойчы, калі я патрабавала, каб мне выклікалі хуткую дапамогу, я пачула такую размову ахоўнікаў: адзін кажа другому, давай выклікаем хуткую, раптам што. А другі адказвае, што не, ня трэба, бо калі выклікаць, дык мяне забяруць у лякарню, а ёсьць загад, каб мы заставаліся тут.

У будынку ІЧУ я бачыла некалькі чалавек у цывільным. Аднойчы я сутыкнулася з такім, калі вырашалася спрэчка пра мае асабістыя рэчы. У мяне склалася ўражаньне, што да думкі гэтага чалавека ўсе прыслухоўваліся.

Ад мяне патрабавалі здаць панчохі, маўляў, я магу на іх павесіцца. Я настойвала, каб пакінулі, бо мне холадна. Казала, што не зьбіраюся вешацца, што ў мяне іншая мэта — ратаваць радзіму. Нават з начальнікам ізалятара Ігарам Васілевічам пра гэта гаварыла, і ў выніку ён узгадняў з тым чалавекам у цывільным тое, што мне ўсё ж можна пакінуць панчохі.

Я абавязкова буду скардзіцца на ўмовы ўтрыманьня ў ізалятары на Акрэсьціна. Гэта сапраўды на мяжы выжываньня.

## „Шмат людзей сядзіць цяпер «за палітыку»“

*Аляксандар Вянгура, фэрмэр, Мазыр:*

— Пра мяне паказваў сюжэт Сяргей Ціханоўскі. І вось да мяне ў вёску Прудок прыехалі рабіць ператрус. Каля 12 ночы прыехалі людзі ў цывільным, ніхто не прадстаўляўся. Іх было 18 чалавек.

Былі і на берасьцейскіх, і на менскіх нумарах. Аказалася, яны шукалі Дзіму Папова — ён працаваў апэратарам у Сяргея Ціханоўскага. Дзіма, праўда, быў у нас, але ён зьбег. Затрымалі мяне, Аляксандра Цуканава — ён адміністратар каналу „Мозырь для Жизни“, і Дзяніса Коласа. Выпытвалі, дзе Дзіма Папоў. Перавярнулі ўвесь дом мой, забралі тэхніку, кампутар, потым уварваліся да маёй маці. Маці выкруцілі палец. У пляменьніцы забралі тэлефон.

5 чэрвеня пасьля ператрусу я пайшоў у Мазырскі РАУС, каб забраць свой ноўтбук. І ня выйшаў з будынку міліцыі. Жонка два дні не магла мяне знайсьці — і ў міліцыі, і ў ІЧУ адказвалі, што нічога ня ведаюць. Пазьней стала вядома, што я арыштаваны на 15 сутак за нібыта дробнае хуліганства і непадпарадкаваньне міліцыі. Разам са мной асудзілі Дзяніса Коласа і Аляксандра Цуканава. Нас трох чамусьці завезьлі адбываць пакараньне ў Менск.

Што там рабілася — я такога ніколі ня бачыў. Шмат людзей сядзіць цяпер „за палітыку“. На чатыры месцы ў камэры нас сядзела шасьцёра. На дзень забіралі матрацы, можна было толькі стаяць. Але і ноччу ўрываліся ў камэры, рабілі нейкія

праверкі, пыталіся ў нас: „Ну як справы?“. Гэта каб не даваць спаць. Закідалі да нас у камэру бяздомных, вошы пладзіліся... Бррр, страх. Адваката да мяне не дапусьцілі — нібыта праз каранавірус. Пры гэтым мыцца нармальна не давалі. Зьдзек проста быў і беззаконьне.

У мяне ў вёсцы Прудок пад Мазыром вялікая гаспадарка. Маці, пакуль я сядзеў, не магла дапамагаць нявестцы — бо пераламаныя пальцы. Ірына, жонка, сама мусіла даваць рады і палеткам, і жывёлам.

Цяпер ня маю пэўнасьці, ці не затрымаюць зноў. Ведаеце, у чым мяне абвінавацілі? Нібыта я, калі быў у міліцыі, недзе ня там памачыўся і нібыта аказаў супраціў міліцыі! Гэта калі прыйшоў забраць ноўтбук. Проста ня ведаю, што робіцца цяпер у Беларусі.

## „Я была 13-й арыштаванай“

*Алена, 41 год, Салігорск:*

— Я індывідуальная прадпрымальніца. Мой бізнэс — кватэры ў арэнду. Палітычнай дзейнасьцю ніколі не займалася, у акцыях пратэсту ня ўдзельнічала. Салігорск наагул не пратэставы горад. У нас горад шахтароў, усе добра зарабляюць.

У канцы чэрвеня я далучылася да тэлеграм-каналу „Армія з народам“, які якраз тады толькі зьявіўся. Хто стваральнік каналу — ня ведаю, ні з кім з адміністратараў у рэальным жыцьці не сустракалася.

Спасылкі-запрашэньні ў гэты канал былі рассыпаныя па ўсіх чатах і каналах. Я зацікавілася і спачатку была проста падпісчыцай. Але праз некалькі дзён мяне прызначылі адмінам. Каб вы разумелі: адмінаў там выбіралі абсалютна выпадкова. Натуральна, хто кажа нейкія радыкальныя рэчы, — яго не абяруць адмінам. А хто піша здаровыя рэчы — тых маглі прызначыць.

Колькасьць падпісчыкаў у канале хутка расла, і ў канцы чэрвеня пачаліся затрыманьні адміністратараў і ўдзельнікаў каналу. Калі я даведалася пра гэта, я абвесьціла ў канале „эвакуацыю“ — заклікала людзей адпісвацца. На наступны дзень, 9 ліпеня, да мяне прыйшлі супрацоўнікі ГУБАЗіК. Я была 13-й арыштаванай у межах перасьледу ТГ-каналу „Армія з народам“.

Я жыву ў прыватным сэктары. Раніцай мне патэлефанаваў мужчына, які нібыта хацеў наняць у мяне кватэру. Калі я выйшла з хаты перадаць ключы, то ўбачыла, што да мяне бягуць восем апэратыўнікаў ГУБАЗіК у цывільным. У пастанове наператрус фігуравалі чатыры артыкулы Крымінальнага кодэксу, у тым ліку арт. 342 (дзеяньні, якія груба парушаюць грамадзкі парадак).

Маральна я была гатовая. Калі з чату пачалі зьнікаць людзі, я зразумела, што наступнай буду я. Калі апэратыўнікі трапілі ў двор, з дому выйшла мая трохгадовая дачка. Дзіця выбегла ў майточках і майцы, басанож. Ну, вы разумееце: ранішняя прахалода, а яна без адзеньня. Я аўтаматычна кідаюся да яе, каб завесьці ў дом, а губазікаўцы кідаюцца да мяне, крычаць, каб кайданкі на мяне надзелі.

Мяне адвезьлі ў Менск, у будынак ГУБАЗіК. Перад мною на стол кінулі тэчку з раздрукоўкамі, махалі ёю перад маім носам. Крычалі, каб аддала пароль ад ноўтбуку і ад тэлефону, каб расказала пра іншых адмінаў.

Паколькі я не згаджалася, мяне адвезьлі ў РУУС Цэнтральнага раёну, дзе склалі адміністрацыйны пратакол за „дробнае хуліганства“ (арт. 17.1 КаАП). Згодна з пратаколам, у будынку ГУБАЗіК я нібыта „паводзіла сябе неадэкватна“: лаялася, крычала, размахвала рукамі.

Калі міліцыянт афармляў пратакол, яму падсунулі маленькую запіску. Ён паглядзеў на мяне і закрычаў: „О, палітота! Тварам у сьцяну, рукі за сьпіну“. На мяне надзелі кайданкі і вывелі ва ўнутраны дворык чакаць аўтазак.

Ноч я правяла на Акрэсьціна. У камэры адмыслова былі створаныя невыносныя ўмовы: было холадна, падушкі, матрац і коўдру мне ня выдалі. Я сядзела на голых нарах, абхапіўшы пальцы ног, бо пальцы замерзьлі настолькі, што былі быццам шкляныя, і ўткнуўшыся галавой у калені, каб саграваццца ўласным дыханьнем. Ежу і ваду не давалі. У мяне была з сабою маленькая бутэлька вады 0,5 літра, і я расьцягнула яе на ўвесь дзень.

На наступны дзень суд Цэнтральнага раёну пакараў мяне штрафам 15 базавых велічыняў (405 рублёў). Аднак на выхадзе з суду мяне зноў затрымалі і адвезьлі ў ГУБАЗіК. Там мяне дапытвалі, пагражалі і абражалі, патрабуючы пайсьці на супрацу і расказаць пра іншых адміністратараў каналу.

Там быў маленькі пакой, можа 3 на 6 мэтраў, а іх было чалавек 10. Яны згрупаваліся вакол мяне,

раўлі на мяне, мацюкаліся. Для мяне гэта было шокам! Пагражалі забраць дзіця, абяцалі, што дачка трапіць у дзіцячы дом і ня будзе ведаць, хто маці. Былі і такія абразьлівыя выказваньні: маўляў, мужыка б табе, каб ты з-пад яго выпаўзала, тады ў цябе не было б часу лезьці ў палітыку…

Губазікаўцы ў тым ліку выкарыстоўвалі сілавыя прыёмы. Апэратыўнік Валеры Высоцкі націснуў мне на шыйныя хрыбеткі і некалькі разоў біў далоньню па сьпіне, патрабуючы паролі ад акаўнтаў. Але я зноў адмовілася.

У выніку я напісала тлумачальную пра тое, што нікога ня ведаю, ні ў чым ня ўдзельнічала і ні да чога не заклікала. Мяне адпусьцілі ўвечары 10 ліпеня. На разьвітаньне яны мне сказалі: ня дай бог твой твар усплыве дзесьці на „Вясьне“ або на „Белсаце“ — тады наступны раз да цябе прыедзем ня мы, а амон. І яны ўжо адразу будуць біць.

У той жа вечар я вярнулася ў Салігорск. Нечакана для сябе даведалася, што суседзі па вуліцы вельмі за мяне турбаваліся і нават зладзілі дзяжурства каля майго дому, каб туды нічога не падкінулі.

Я двое сутак ня спала, двое сутак бязь ежы і вады, ледзь ня траціла прытомнасьць. Падыходжу да дому і бачу, што там стаяць людзі. Яны падышлі да мяне, пачалі абдымаць: „Лена, мы за цябе, мы на тваім баку“. Зьбегліся людзі з усёй вуліцы, выказвалі словы падтрымкі. Я была вельмі ўражаная. Я купіла гэты дом толькі два гады таму і нават ня ўсіх суседзяў ведала. Я ўсім падзякавала, зайшла ў дом, адразу ўпала і заснула. Не хапіла нават сіл у душ схадзіць.

Аднак на гэтым перасьлед ня скончыўся. 21 ліпеня мяне выклікалі ў Салігорскі РАУС. Патлумачылі, што мне нібыта хочуць вярнуць канфіскаваныя ноўтбукі. Але ў будынку РАУС мяне зноў затрымалі супрацоўнікі ГУБАЗіК і павезьлі ў Менск, у Сьледчы камітэт.

Цяпер затрымалі ў межах „справы Ціханоўскага“. Нібыта я „паводле папярэдняй змовы“ зь Сяргеем Ціханоўскім, Мікалаем Статкевічам і іншымі палітвязьнямі 29 траўня падчас пікету для збору подпісаў зладзіла „дзеяньні, якія груба парушаюць грамадзкі парадак“.

Насамрэч я з гэтымі людзьмі была не знаёмая, я нават не перапісвалася зь імі ў інтэрнэце. Я ведала, што ёсьць такі палітык Статкевіч, ёсьць блогер Ціханоўскі… Чула імёны астатніх, бо іх тады ўжо прызналі палітвязьнямі. Але я нават ня ведаю, як большасьць зь іх выглядае.

Больш за тое, мяне 29 траўня не было ў Горадні. У той пэрыяд я была на самаізаляцыі і з сакавіка нікуды не хадзіла. А суполка „Армія з народам“ была створана толькі 26 чэрвеня.

21 ліпеня мяне зьмясьцілі ў цэнтар ізаляцыі праваправарушальнікаў на Акрэсьціна. На наступны дзень, 22 ліпеня, у ЦІП мяне ў прысутнасьці дзяжурнага адваката дапытала сьледчая СК. Яна вяла допыт карэктна, мае паказаньні запісвала дакладна. Аднак ужо пасьля допыту да мяне ў ЦІП зноў прыйшоў супрацоўнік ГУБАЗіК. Цяпер ужо размова ішла без адваката.

Ён зноў прынёс гэтую тэчку з раздрукоўкамі асабістых паведамленьняў, дзе маркерамі вылучаныя асобныя фразы. Напрыклад, ён зачапіўся за паведамленьне, якое я напісала знаёмаму. Я была

ў напружаньні і напісала паўжартам, маўляў, вілы ў мяне заточаныя. Вось да гэтага прычапіліся. Але я кажу: даруйце, я жыву ў прыватным сэктары і вілы — гэта проста мой аграрны інструмэнт. Ён зноў сядзеў і паўтары гадзіны мне пагражаў, што мяне пасадзяць, што ў мяне адбяруць дачку.

У канцы ён кажа: ну што, можа нам заўтра прыехаць, ты больш лагодная будзеш? А я кажу: не марнуйце мае падаткі.

24 ліпеня я выйшла на свабоду. Шчыра, калі мяне выклікалі, я была ўпэўненая, што мяне пераведуць у СІЗА. Але мяне адпусьцілі. Я застаюся падазраванай, я абавязана зьяўляцца на допыты па першым выкліку. Хаця падпіскі аб нявыезьдзе ў мяне ня бралі.

# РЭВАЛЮЦЫЯ ВУЛІЦ

*15 ліпеня беларусы падавалі скаргі на нерэгістрацыю кандадатамі ў прэзыдэнты Віктара Бабарыкі і Валерыя Цапкалы. Чарга ў ЦВК расьцягнулася больш чым на кілямэтар.*

## *„Па два рублі ніхто не пашкадуе“*

— Штаб Віктара Бабарыкі вельмі добра расьпісаў гэтую скаргу. Там ёсьць выдатныя пункты пра тое, каб камэры відэаназіраньня былі пастаўленыя, напрыклад, за кошт выбаршчыкаў. Я думаю, што па два рублі ніхто не пашкадуе скінуцца.

## *„Мы — сьведкі“*

— Я стаю ўжо дзьве гадзіны і хлопцы, якія ўжо выйшлі адтуль, сказалі, што на дадзены момант прымае толькі адна жанчына. Адпаведна такая прапускная здольнасьць. Ці будзе з гэтага карысьць? Я думаю, што ўсё мае сэнс. Мы — сьведкі. А кожны чалавек, з гэтага ці з таго боку, калі ён робіць дрэнны ўчынак і калі за ім сочаць 10-20 чалавек, ён можа адмовіцца ад гэтага, адчуць сумненьні. І гэта мае вельмі вялікі сэнс. Калі скаргі ня будуць задаволеныя, а я ўпэўнены, што яны ня будуць задаволеныя, тым ня менш, мы атрымаем яшчэ адзін вялікі доказ адносінаў улады да нас.

## *„Мы вас ня бачым, мы вас ня чуем“*

— Вось глядзіце, людзі хочуць быць назіральнікамі на ўчастках. Яны сумленна зьбіраюць подпісы ў сваіх суседзяў і знаёмых. Іх не рэгіструюць, ім адмаўляюць. Мы ставім свае подпісы за кандыдата, нам кажуць, што тры чвэрці подпісаў несапраўдныя. Мы прыходзім, кажам вось, гэта я, мой подпіс. Нам кажуць, не, няма. Мы вас ня бачым, мы вас ня чуем, у нас свае людзі падпісалі, усё, нам дастаткова.

## *„Гэта ня траты, гэта інвэстыцыі“*

— Раздаю людзям ваду, бо сонейка, а чарга доўгая. Набыў ваду і прынес ужо другі раз. Мы павінны дапамагаць адзін аднаму. Скаргу буду падаваць таксама. Трэба рабіць сумленныя выбары. Колькі я патраціў? Ай, лухту. Тыя людзі, якія цяпер сядзяць на Валадарцы і на Акрэсьціна, яны патрацілі значна больш. Так што гэта ня траты, гэта інвэстыцыі.

## *„Дачку назвалі Монікай“*

— Прыйшлі сям'ёй, каб падыхаць сьвежым паветрам. Я спадзяюся, што ў гэтым ёсьць сэнс. У першую чаргу, гэта як бы размова кожнага з самім сабой, таму вырашылі задэкляраваць сваім удзелам свае адносіны. Ну вось яшчэ і маленькая расьце. Моніка. Называлі так, каб было прасьцей на Захадзе — лацініцай, а ўвогуле хочам, каб і тут было добра. Зразумела, што ўсім усё зразумела, што гэта бессэнсоўна, але калі мы гэта зробім, калі яны адмовяць, то яны адпаведна падпішуцца пад

тым, што яны АЗГ, то бок, злачынным спосабам утрымліваюць уладу.

### *„На працу ня выйшаў“*

— Учорашнія падзеі дрэнныя. Бо так зь людзьмі абыходзіцца нельга. На маёй працы аднаго забралі. Ён выходзіў з кавярні. Да жонкі ішоў. Ён удзелу не прымаў. Тых, хто браў удзел, цяжка было выцапіць, яны былі сашчэпленыя. А чаплялі тых, хто проста ішоў, каб паказаць, што так, мы працуем, мы нягоднікаў ловім. А ён быццам бы і не нягоднік, ён проста ішоў да жонкі. Што зь ім, я ня ведаю, але ён сёньня на працу ня выйшаў. Магчыма яшчэ там.

### *„Калісьці сама галасавала за яго“*

— Я ўжо пераджыла ўсе выбары, на якіх быў Лукашэнка. Калісьці сама галасавала за яго, таму што лічыла, што гэта той чалавек, які павядзе нашу краіну наперад. Але цяпер я настолькі расчараваная, што ў мяне няма словаў. Калі я бачу тыя кадры, якія паказвалі ўчора, калі я бачу, як абражаюць нашых людзей, маладых, старых, ня важна, дзяўчынак, хлопцаў, мне вельмі балюча, мне горка, што наша краіна падышла з прэзыдэнтам да такіх жахаў.

### *„Проста выносілі людзей“*

— Учора было дрэнна, шумна, з крывёю, так ня робяць. Мы былі на Нямізе, глядзелі, што адбываецца. І як людзі спрабавалі адбіваць і як разварочваліся аўтазакі... Было, што нехта на

кагосьці налятаў, але гэта было толькі ў абарону. Яны заляталі проста ў кавярні і проста выносілі адтуль людзей. Проста выносілі. Тыя, хто не хацеў ува ўсё гэта трапляць і зайшлі проста пасядзець, застацца ў баку, па іх проста прыйшлі і выцягнулі. Ну, страшна, вельмі страшна.

### *„Сумна вельмі“*

— Тое, што зараз заклікаюць разысьціся і падагналі аўтазакі — гэта сумна вельмі. Мы стаім, быццам у канцлягеры, а вакол надзіраcелі. Мы ня хочам такой будучыні нашай краіне.

### *„Калі перад табой бабулі руку ламаюць“*

— Усе тыя людзі, якія сядзяць у турмах, палітзьняволеныя, гэта ўсё за нас. Наконт учорашняга, вядома, нельга нападаць. Але калі перад табой жанчыну б'юць дубінкай, калі перад табой бабулі руку ламаюць. І чалавек бачыць гэта, і ён ня можа стрымацца, гэта натуральна, гэта ў прыродзе. А ў нас злачынцы тыя, хто дапамагае людзям, а не вось гэтыя, якія гестапа.

### *„Там хапаюць людзей ужо“*

— Скажыце, калі ласка, а што вы сталі разыходзіцца? А дзікасьць якая! А там хапаюць людзей ужо, за што? За тое, што мы разыходзімся. Паважаныя, што гэта робіцца? Як гэта балюча ўсё глядзець. Я прыйшла, стаяла ў вочарадзі, цяпер ідзём, я сына за руку трымаю, а яны людзей хапаюць. Проста ідуць людзі дамоў.

— Яны хапаюць толькі мужчын.

— Госпадзі, спасі і сахрані (жагнаецца). Нячыстая сіла.

— Яны бяруць самых здаровых, я заўважыў.

— Адзін вялізны амонавец штурхануў жанчыну і сказаў, што яна карова. „Адыдзі, жырная карова“.

## *„Пагналі нас праз двары“*

— Яны там перакрылі уваход на праспэкт і пагналі нас праз двары. Тут таксама сказалі абходзіць, і мы праз дамы сюды вярталіся, рабілі кола. Цяпер аўтазакі і ўвесь амон пайшлі туды наверх. Там вельмі шмат людзей засталося, яны ўсе там сядзяць на плошчы. Спрабавалі пайсьці на глаўпаштамт і здаць свае заявы, але не атрымалася, усё перакрылі. Мы дварамі прасачыліся.

## *„Баюся 10 жніўня“*

— Больш за ўсё я баюся 10 жніўня. Я амаль ведаю адказ, што будзе 10 жніўня. Але гэта лепш, чым нічога не рабіць. Прынамсі, такія моманты даюць зразумець, што ты не адзінокі. Так 26 гадоў бяз руху, дык здаецца, што ў гэтай дзяржаве ты адзінокі, а гэтае яднаньне — гэта вельмі важна. Ты адчуваеш нацыю.

*31 ліпеня на ўскрайку Ліды праходзіў мітынг прыхільнікаў Сьвятланы Ціханоўскай.*

## *„Ёсьць толькі паўчаркі“*

— Я пэнсіянэр, чарнобылец, аддаў здароўе на Чарнобылі. Але як я пайшоў на пэнсію, наша спра-

вядлівая дзяржава мне толькі 14 рублёў дабавіла да пэнсіі, а я 43 гады адпрацаваў. Дык вось таму я тут, з добрымі сябрамі, якія таксама хочуць лепей жыць. Трэба, як наш вялікі прэзыдэнт кажа, каб была і чарка і скварка на стале. А яе ж няма. Калі ёсьць, дык толькі паўчаркі (паказвае пальцамі памер).

### *„Дабрацца сюды праблематычна“*

— Гэта Паўднёвы гарадок, ён знаходзіцца наводшыбе, ехаць сюды нязручна. У каго няма машыны, дабрацца сюды праблематычна. Яшчэ і пасьля працы, ведаеце, пятніца, ня ўсе такія сьвядомыя, каб адолець гэты шлях. Такую пляцоўку выбралі спэцыяльна, каб адсеяць такіх людзей, хто палянуецца. Мне 25 гадоў, і я такое першы раз бачу, каб палітык зьбіраў столькі людзей.

### *„Баюся правакацыяў“*

— Адзіны страх — я баюся правакатараў. Якія будуць спэцыяльна, мэтанакіравана нападаць перш за ўсё на нашу міліцыю. Хай агрэсіўную, але нашу міліцыю. Вось як іх абараніць, як абараніць непадрыхтаваных людзей дзейнічаць супраць такіх правакатараў? Я знаёмы зь некаторымі зь іх, якія працавалі ва Ўкраіне. Я там вучыўся. І гэта вельмі добра падрыхтаваныя людзі. Яны ведаюць, у якую частку шчыта біць нагой, каб нанесьці траўму калена. Яны ведаюць, як дзейнічаць лаўкай, як разабраць яе на штакетнік. І напэўна іх наймуць сюды, у Беларусь, каб дзейнічаць супраць нас, супраць міліцыі.

### *„Такой масавасьці ў Лідзе не было ніколі“*

— Я мясцовы журналіст Юрась Дзяшук. Для Ліды гэта гістарычная падзея. І вельмі крыўдна, што тут няма мясцовага тэлебачаньня Ліда ТВ. Ліда ТВ — гэта дзяржаўнае тэлебачаньне, якое фінансуецца мясцовай уладай. І гэта замоўчваньне таго, што людзі ў Лідзе прачынаюцца, што адбываецца не рэвалюцыя, а эвалюцыя людзей. Такой масавасьці ў Лідзе не было ніколі. Вельмі шмат лідзян зьяжджаюць працаваць у Польшчу, і гэта таксама падштурхоўвае людзей, бо яны хочуць жыць тут. Калі чалавек там атрымлівае тысячу эўра, а тут дзьвесьце эўра, а трэба ж неяк жыць, карміць сваю сям’ю.

### *„Плітку перад мітынгам мянялі“*

— У нас у Лідзе толькі Лідбір зьбіраў такую вялікую колькасьць людзей па факту. А палітычнага такога яшчэ не было. Чалавек натуральна баіцца. Бо я ня ўпэўнены, што я адсюль выйду і там за агароджай усё будзе нармальна, што мяне не арыштуюць і што пасьля вашага інтэрвію ня будзе праблем. Гэта рэальна страшна. А гэтага ня хочацца. Хочацца жыць спакойна. Плітку тут перад мітынгам мянялі. Я тут побач жыву. Хоць чым яна была дрэнная? Для правакацыі. Хто тут жыве, усе ўсё разумеюць.

### *„За стрым пасадзілі на сем сутак“*

— Я фэльчар з „хуткай дапамогі“. Цяпер займаюся валянтэрствам. Паехаў у штаб Сьвятланы Ціханоўскай. Пабыў у Менску, такая атмасфэра

была, гэта штосьці! Там столькі людзей, столькі падтрымкі. Пакуль бяз працы. Чакаем жніўня. Думаю, вярнуся на хуткую. Я ніякі не палітык, я звычайны грамадзянін Рэспублікі Беларусь. Я проста выказваю сваё меркаваньне. За стрым зь Ціханоўскім пасадзілі на сем сутак. Цяпер палова маіх калег з „хуткай дапамогі" тут знаходзяцца. І дактары, і фэльчары, і вадзіцелі. Ня ўсе, некаторыя баяцца трошкі, але большасьць, нас большасьць.

## *„Юра, ты ў мяне харошы!"*

— Хачу, каб людзі нікога не баяліся. А то едзеш у аўтобусе, людзі: ціха-ціха-ціха, бо арыштуюць. Буду галасаваць за новага прэзыдэнта. Вы гэта не ўключайце, бо на мяне сын надта крычыць. Кажа: куды ты ўсё лезеш. (*Але гэта прамая трансьляцыя, можаце перадаць сыну прывітаньне*) Юра! Прывітаньне табе. Ты ў мяне харошы. Ты мяне любіш, а я цябе. Каб ты не хваляваўся, усё будзе добра. Тут вельмі шмат людзей сабралася і я ў тым ліку.

## *„Краіна стала жорсткай"*

— Краіна стала жорсткай, беспардоннай, людзей забіраюць з вуліц ні за што, у любы час. Да чаго мы прыйшлі за 26 гадоў? Да бабуляў, якія атрымліваюць пэнсію па 100 эўра і выбіраюць з супавых набораў самыя танныя, да моладзі, якая ня можа сябе рэалізаваць і зьяжджае ў Эўропу, каб неяк больш-менш камфортна існаваць. Я прыйшоў таксама падтрымаць Ціханоўскую зь яе штабам. Але мне трошкі незразумелая пазыцыя, чаму аб'яднаны штаб цяпер усіх кліча на выбары 9 жніўня. Няўжо мы забылі, да чаго заклікаў

Сяргей Ціханоўскі, Севярынец, Статкевіч? Яны ўсе казалі, што выбары магчымыя толькі ў адным выпадку — без Лукашэнкі. Змагацца з дыктатурай з дапамогай выбараў, мне здаецца, гэта бескарысна. 26 гадоў галасавалі, няўжо не нагаласаваліся? Таму толькі байкот выбараў і мірныя забастоўкі па ўсёй краіне.

## „Так затрымліваюць тэрарыстаў“

*Алег:*

— Мы — гэта я (займаюся навукова-папулярным праектам „Разумны Менск“, дзе вучым і разьвіваем вашых дзяцей) і Павал (доктар адной з гарадзкіх лякарняў са стажам каля 10 гадоў; дарэчы, нядаўна ён атрымаў Ганаровую грамату за барацьбу зь вірусам COVID-19).

8 жніўня ўвечары мы з Паўлам накіроўваліся ў офіс, каб раздрукаваць дакумэнты для будучага навуковага дзіцячага лягера. Каля плошчы Перамогі я памахаў рукой, каб павітаць людзей, якія стаялі ўздоўж праспэкту Незалежнасьці і выказвалі сваю грамадзянскую пазыцыю.

Праз хвіліну на велізарнай хуткасьці з сырэнай нас апярэдзіў экіпаж ДАІ і прыціснуў да ўзбочыны. Не прадставіўшыся, супрацоўнік ДАІ адразу ж пачаў раўсьці на нас, каб мы выйшлі з машыны. Пры тым, што я не парушаў правілаў дарожнага руху і не сыгналіў.

Супрацоўнік ДАІ па рацыі з кімсьці зьвязаўся, і праз хвіліну пад'ехаў чалавек у цывільным і пачаў матам абражаць нас і пагражаць. Маўляў, няма чаго тут разьяжджаць па праспэктах, я вас усіх засаджу ў турму на 5 гадоў, будзеце гнісьці у балоце, здохнеце там…

Нам загадалі пакласьці рукі на машыну і стаць тварам уніз. Так затрымліваюць тэрарыстаў.

Далей прыехаў амон і нас завезьлі ў Маскоўскі РУУС. Туды ж загналі і мой аўтамабіль.

У пастарунку нас сустрэлі як сапраўдных злачынцаў, мы перасоўваліся з кабінэта ў кабінэт

з рукамі за сьпінай і апушчанай галавой. У нас забралі асабістыя рэчы. На мяне склалі пратакол па частцы ДАІ, што я падаў гудок без патрэбы, і абвясьцілі маю машыну як скрадзеную (нібыта VIN нумар майго аўта выклікаў падазрэньні ў іх), а Паўлу — пратаколы за хуліганства і непадпарадкаваньне міліцыі, нібыта ён ішоў па вуліцы, размахваў рукамі, прамаўляў нецэнзурную лаянку, крычаў, дэманстраваў непрыстойныя жэсты, тым самым парушаючы грамадзкі парадак.

Як аказалася, на мяне склалі такія самыя пратаколы, праўда, без майго ўдзелу, падрабіўшы мой подпіс. Усе нашы просьбы зьвязацца з адвакатам або сваякамі ігнаравалі. Мы да апошняга спадзяваліся, што нас проста выпусьцяць. Але гэты абсурд толькі пачынаўся.

Нас і яшчэ некалькі такіх жа „тэрарыстаў“ сабралі ў актавай залі. Асабліва запомніўся момант, калі мы ўбачылі на сьцяне плякат з прысягі міліцыі на вернасьць Радзіме: „... Урачыста клянуся быць адданым свайму народу, сьвята выконваць Канстытуцыю Беларусі, абараняць законныя правы і інтарэсы грамадзян...“. Ага, мы зачытвалі ўголас гэтыя словы і глядзелі ў вочы міліцыянтам, а там — пустата.

На ноч павезьлі на Акрэсьціна, дзе нас сустрэлі словамі: „Так, жывёлы! Галаву ўніз, рукі за спіну!“ І ўсё гэта суправаджалася адборнымі мацюкамі. Нас паставілі тварам да сьцяны, з паднятымі на сьцяну рукамі. Папярэдзілі, што нельга шаптацца і наогул варушыцца, інакш яны ўжывуць фізічную сілу.

Раніцай нас загрузілі ў аўтазакі і адправілі ў Жодзінскую турму. Мы ехалі некалькі гадзін, было

вельмі горача і душна. Потым аўтазак спыніўся, і яшчэ 4 гадзіны мы проста стаялі, не разумеючы, дзе мы і што будзе адбывацца. Аўтазак заглушылі, нам перастаў паступаць кісларод, бо ён трапляў з дапамогай вэнтылятараў, якія працуюць толькі пры заведзеным рухавіку. Праз гадзіну стала настолькі душна, што пачынала кружыцца галава і цямнела ў вачах. Ніколі ня думаў, што мне калісьці будзе страшна памерці ад нястачы паветра.

Пасьля ўсіх гэтых катаваньняў нас нарэшце пачалі выводзіць па адным з аўтазака, пры гэтым нам пастаянна крычалі, каб мы галаву трымалі яшчэ ніжэй і нікуды не азіраліся. Але там, папраўдзе, і не было куды глядзець. Нас вялі праз вельмі доўгі тунэль у падвале, які, здавалася, ня скончыцца ніколі. Потым мяне разьдзелі дагала і прымусілі прысядаць. Толькі пасьля такога агляду нам дазволілі апрануцца, запісалі зьвесткі і адправілі ў камэру №26. Я першы ўваходзіў і адразу тварам уляпаўся ў вялізнае павуціньне, мабыць, там даўно нікога не было.

А яшчэ вельмі ўразіла, што прасьціны і ручнікі былі выраблены ў ліпені 2020-га, быццам яны рыхтаваліся загадзя.

Перш за ўсё мы агледзелі камэру і знайшлі там цікавыя атрыбуты турэмнага жыцьця — два лязы, заточку і нейкія доўгія трубачкі, зробленыя з газэт. Як потым нам расказалі, іх выкарыстоўвалі для перасылкі „малявак“ — паведамленьняў паміж зьняволенымі. З карыснага — мы знайшлі даміно, што хоць неяк дапамагала бавіць час.

Калі ахоўнік даў нам аловак, мы нарысавалі на стале шахматную дошку, а з хлеба зьляпілі шашкі і шахматы. Нагуляўся на ўсё жыцьцё.

У камэры спачатку было 6 чалавек. Хтосьці зь іх быў назіральнікам на выбарчым участку і падаваў скаргу на фальсыфікацыю выбараў, а на іх проста выклікалі амон і затрымлівалі; хтосьці проста выйшаў з крамы з „батонам і кефірам“ або вяртаўся дадому ў той момант, калі амон затрымліваў усіх запар. Але найбольш уразіла гісторыя хлопцаў, якія смажылі шашлыкі ў Лошыцкім парку, і іх таксама затрымалі. Я асабіста бачыў мангал і краткі для шашлыка, якія ляжалі ў кучы рэчаў затрыманых... Усе гэтыя людзі адукаваныя, інтэлігентныя, у якіх ёсьць сям'я, дзеці, прэстыжная праца.

І нас у гэтыя дні аб'ядноўвала адно — усіх незаконна затрымалі і потым гэтак жа незаконна асудзілі — каго на 5 сутак, каго на 10, а камусьці выпісвалі штраф 40 базавых.

Мяне судзіла судзьдзя Лагойскага раёну. Гэты твар я запомню назаўжды. Суд быў больш падобны на тэатральную пастаноўку, якая доўжылася 5 хвілін, і зыход быў вядомы загадзя. Я ветліва прасіў даць адваката, сьведак, але ўсё гэта было проста праігнаравана. Тут жа я і даведаўся, што на мяне былі складзеныя цэлыя два адміністрацыйныя пратаколы. За якія мне ў суме далі 10 сутак. Мне хацелася крычаць ад несправядлівасьці. Было адчуваньне, што з нас проста зьдзекуюцца... Вы б толькі бачылі, зь якім спакоем і цынізмам судзьдзя агучвала прысуд за тое, чаго я не рабіў. Пасьля суду мяне вярнулі ў камэру адбываць „заслужаны“ тэрмін.

Увечары нам у камэру падсялілі яшчэ 10 чалавек, яны былі настолькі зьбітыя, у бруднай вопратцы, з крывёю, што мы адразу падумалі, што гэта

крымінальнікі, якія пабіліся паміж сабой. Шчыра, было крыху страшна. Але ўявіце, як мы зьдзівіліся, калі даведаліся, што гэта былі хлопцы, такія ж палітвязьні, якіх затрымалі ўвечары 10 жніўня. Большасьць зь іх такія ж выпадковыя „пасажыры“, як мы, толькі пару зь іх зьбіраліся правесьці пікет супраць фальсыфікацыяў выбараў, але не дайшлі. Міліцыя і амон трымалі іх амаль суткі на дворыку пастарунку, зьбівалі дубінкамі да паўсьмерці, прымушалі сьпяваць песьні, што наш прэзыдэнт самы лепшы, пагражалі іх застрэліць і згвалціць і казалі, што ім, амону, за гэта нічога ня будзе…

Яшчэ з намі быў Арцём, на выгляд гадоў 20, інвалід 2-й групы, ён ведаў толькі, як завуць яго, яго маму і адрас пражываньня. У астатнім разьвіцьцё — як 6-гадовага дзіцяці. Мы яго вучылі і кантралявалі штодзённую гігіену, пакідалі лішнюю ежу, бо ён любіў паесьці. Яго, недзеяздольнага чалавека, таксама біў амон, і таксама асудзілі на 10 сутак. Мы доўга шукалі лёгіку ўсяго, што адбываецца, але так і не змаглі знайсьці.

Усяго ў камэры нас было 16 чалавек. Мы спалі па чарзе: хтосьці на падлозе, хтосьці пад сталом, на стале, а хтосьці на ложку. Потым мы мяняліся. І за ўвесь час у нас не было ніводнага канфлікту, мы былі, як адна каманда, дзе кожны падтрымліваў адзін аднаго.

14 жніўня раніцай мне нарэшце дайшла перадачка, якую, як потым высьветлілася, адправілі яшчэ 4 дні таму. Мы разьмеркавалі ежу на некалькі дзён. Асабліва запомніліся бутэрброды з жытняга хлеба і каўбасы, і ў той момант здавалася, што гэта быў самы смачны бутэрброд у маім жыцьці.

Увечары, на шосты дзень зьняволеньня, нас па адным пачалі выводзіць з камэры. Я думаў, што пераводзяць у іншы блёк альбо ў іншую турму, але потым я ўбачыў майго сябра Паўла. Аказалася, нас пачалі адпускаць. Паводле нейкай дзіўнай амністыі.

Трэба было знайсьці свае рэчы. У невялікім пакоі на падлозе проста ўсё валялася ў кучах па калена. Іншыя хлопцы распавядалі, што яны так і не змаглі знайсьці свае мабільнікі, грошы, дакумэнты. У Паўла, напрыклад, зьніклі акуляры і банкаўская картка.

Далей мяне вялі хвілін 10 па доўгіх калідорах. У думках мільгала, што нават калі б і захацеў зьбегчы адсюль, то заблукаў бы ў гэтых бясконцых турэмных лябірынтах.

Выйшаўшы на вуліцу, я па-ранейшаму ішоў рукі за сьпіну і галава ўніз, пакуль не пачуў чыйсьці голас, што ўжо можна падняць галаву, што я на волі. Я падняў галаву, і было так сьветла і сонечна, а вакол вельмі шмат людзей. У той жа момант я ўбачыў сваіх блізкіх і сяброў, якія некалькі дзён і начэй запар чакалі мяне каля турмы.

На гэтым усё ня скончылася, бо мой аўтамабіль заставаўся на тэрыторыі Маскоўскага РУУС. Паводле „закону“ маю машыну маглі ўтрымліваць да 30 дзён, пакуль ня пройдзе экспэртыза. Але нават там ёсьць людзі і нармальнае чалавечае стаўленьне. Супрацоўнік пастарунку Мікалай заняўся вяртаньнем нашых аўтамабіляў. Ён ініцыяваў правесьці экспэртызу як мага хутчэй. Але, як я зразумеў, ён за сваю ініцыятыўнасьць атрымаў па шапцы ад начальніка: „Навошта сьпяшацца, хіба камусьці гэтыя аўто перашкаджаюць? У ця-

бе ёсьць нейкі асабісты інтарэс?“ Усё ж такі праз два з паловаю тыдні з моманту затрыманьня мне і такім самым пацярпелым вярнулі аўто. Але без тэхпашпарту, яго таксама будуць правяраць на сапраўднасьць. Таму да гэтага часу чакаю вяртаньня дакумэнтаў ...

Дарэчы, я склаў скаргу на тую судзьдзю Лагойскага раёну, і днямі ў Менскім абласным судзе разглядалася мая заява. Мой адвакат пракамэнтаваў гэтае дзеяньне так: „Гэта пісец“. Усе парушэньні і нестыкоўкі ў пратаколах проста не былі ўлічаныя, а тры сьведкі, якія бачылі маё затрыманьне і нават зьнялі на відэа, не былі выкліканыя ў суд. Рашэнне суду пакінулі ранейшым, што я вінаваты. Але ёсьць і добрыя навіны: 6 сутак, якія я правёў у турме, залічылі, як дастатковае мне пакараньне. Гэта значыць, 4 сутак у мяне аднялі. А Павал яшчэ не падаваў скаргу, таму яго могуць у кожны момант затрымаць і папрасіць дасядзець гэтыя 4 сутак.

## „Мяне таемна вынесьлі зь лякарні“

*Алег Іваноў, 54 гады, сябра АГП, Ворша:*

— На выбарах я быў назіральнікам на ўчастку ў мясцовым водаканале. Там таксама стаіць вайсковая частка. Гэта раён вуліцы Магілёўскай. Незалежных назіральнікаў на ўчастак не пускалі. З акна майго дому была відаць службовая стаянка гэтых арганізацыяў. Падчас папярэдняга галасаваньня я бачыў, як на ёй паркаваліся машыны, зь

якіх выходзілі дужыя хлопцы зь вялізнымі заплечнікамі і ішлі ў вайсковую частку.

9 жніўня папаўдні людзі пайшлі масава галасаваць. На руках яны мелі белыя бранзалеты. Я і цяпер такі нашу. Пад вечар зьнік інтэрнэт. А 20-й гадзіне каля ўчастку сабралася багата людзей, каб дазнацца вынікі галасаваньня. Прыехаў міліцэйскі начальнік і заклікаў разыходзіцца, бо чаканых зьвестак ня будзе. Грамада засталася каля варотаў вайсковай часткі. Праз шчыліны ў іх было відаць вайсковыя „КамАЗы“, у якія сядалі экіпіяваныя, як касманаўты, амонаўцы без апазнавальных знакаў.

Тыя машыны выехалі ў бок цэнтру гораду. Туды ж рушылі і людзі. У мяне быў бел-чырвона-белы сьцяг. Людзей было шмат. Многія мелі нацыянальную сымболіку. Скандавалі дарогай „Жыве Беларусь!“

У цэнтры мы сталі ланцугом насупраць міліцэйскага ачапленьня. Турнікетамі ўжо былі агароджаныя адміністрацыйныя будынкі.

Амонаўцы затаіліся ў дварах, а потым выскачылі на нас. Спачатку, каб спалохаць, стралялі, а потым узяліся біць. Мяне звалілі з ног. Адзін амонавец нагой у берцах „раскочваў“ маю галаву, а астатнія білі дручкамі і нагамі па сьпіне, галаве, у пахвіну. Затым зьвязалі рукі клейкай стужкай ды закінулі ў аўтазак на падлогу. Наверх кінулі хлопца, а потым яшчэ аднаго, і роварам „накрылі“.

Даставілі ў аддзел міліцыі на вуліцу Энгельса. Там мясцовыя міліцыянты пашыхтаваліся калідорам і білі на праходзе прывезеных людзей. Паставілі да сьцяны. Я быў увесь у крыві. Склалі пратакол і кінулі ў перапоўненую камэру. Пабітыя

здымалі майкі і перавязвалі сабе раны. Мне стала кепска. Людзі пачалі грукатаць у дзьверы камэры. Міліцыянты вынесьлі мяне на руках у суседнюю камэру, дзе былі мэдыкі з «хуткай дапамогі». Яны абураліся тым, што робіцца ў міліцыі. Казалі, што ня хочуць жыць у такой краіне.

Пад канвоем прывезьлі ў гарадзкую лякарню імя Сямашкі. Дзяжурны лекар сустрэў словамі: „Што вам, нягоднікі, не падабаецца наш прэзыдэнт Лукашэнка?“ і намазаў лоб зялёнкай. Галава крывавіла. Мне зьвязалі рукі ды ногі і паклалі ў рэанімацыйнае аддзяленьне. Паставілі два катэтары: адзін на правую руку, а другі на чэлес. Камандзір амону, крыклівы, нахабны падпалкоўнік, а таксама супрацоўнік са Сьледчага камітэту патрабавалі, каб мяне выпісалі. Мэдыкі пераконвалі, што гэтага рабіць нельга, бо я ў цяжкім стане. У мяне была чэрапна-мазгавая траўма, уся сьпіна сіняя. На целе жывога месца не было.

Пазьней мяне адвязалі ад ложка і таемна вынесьлі зь лякарні. Неяк удалося адцягнуць увагу ахоўнікаў. Колькі дзён я жыў на канспірацыйнай кватэры. Стан мой пагаршаўся. Тэмпэратура была высокай. Ужо ня мог есьці і хадзіць. Мае аднапартыйцы знайшлі варыянт лячэньня за мяжой. Спачатку я адмаўляўся, бо не хацеў пакідаць радзіму, а потым зразумеў, што сканаю. Параілі ехаць у Латвію. Праваабаронцы дапамаглі зрабіць дакумэнты на выезд.

У Латвіі, на самай мяжы, мяне чакала „хуткая дапамога“. Мне зрабілі некалькі ўколаў, начапілі кіслародную маску і адвезьлі ў цэнтральную лякарню Рыгі. Паклалі ў рэанімацыю. У ёй я правёў 15 дзён. Зрабілі апэрацыю. Выдалялі нагнаеньні

ля страўніка і праводзілі дрэнаж правага яечка пасьля катэтараў, пастаўленых у аршанскай лякарні. Я ляжаў адзін у палаце. За сваё жыцьцё такога догляду ня меў. З рэанімацыі перавялі ў траўматалёгію.

Потым мяне адвезьлі ў рэабілітацыйны цэнтар у Юрмале. Дапамаглі з адзежай, бо на мне было толькі трыко ды кеды, і іншымі неабходнымі для жыцьця рэчамі. У цэнтры прабыў 21 дзень. У ім мне дапамагала паправіцца латышка Дыяна. Зь ёю шпацыравалі па ўзмор'і. Закахаліся. Цяпер разам і налета зьбіраемся пажаніцца. Жыву ў цэнтры для ўцекачоў у Муцэніеках. Мая каханая прыяжджае да мяне, а я наведваю яе.

9 жніўня сілавікі чынілі зьверства. Сямнаццаць гадоў я ў апазыцыйнай партыі. Супраць рэжыму Лукашэнкі выступаю, як толькі ён дарваўся да ўлады. Удзельнічаў у пратэставых акцыях, але з такой жорсткасьцю, як у дзень сёлетніх выбараў, не сутыкаўся. Яны забівалі людзей. Мая вэрсія — што гэта ўсё рабілі не беларусы, а расейскія наймiты.

## „Чую, як за вокнамі крычыць мая мама“

*Наста, 18 гадоў:*

— Мая гісторыя пачалася ў Менску 9 жніўня. Мы з маім хлопцам надзелі белыя майкі і прымацавалі чырвоную стужку, каб майка была як сьцяг. Схадзілі ў „Галерэю“ і шпацыравалі ў бок стэлы, спыніліся каля гатэлю „Менск — горад-герой“.

Там размаўлялі зь нейкім мужчынам, і за долю сэкунды гэтага мужчыны ня стала, а мяне ўжо вялі людзі ў чорнай форме. Майго хлопца таксама вялі. Нас пасадзілі ў сіні бус без нумароў і з чорнымі шторамі. Паставілі на калені, а каля нас селі трое амонаўцаў, сярод іх была адна жанчына.

Пасьля гэтага нас завезьлі за музэй Вялікай Айчыннай вайны, які знаходзіцца за стэлай, і паставілі тварам да аўтазакаў. Мы прайшлі праз калёну амону. Хлопцаў білі дубінкамі. Пасьля нас завялі ў аўтазак, які быў цалкам забіты людзьмі. І там ужо стаялі каля 30 хлопцаў. Яны ўсе былі зьбітыя, з акрываўленымі галовамі.

Нас прывезьлі, вывелі з гэтага аўтазака і проста, як быдла, сталі штурхаць, білі, нехта крычаў, лямантаваў. Нас паставілі да сьцяны. Мы стаялі ўтрох, я і яшчэ дзьве дзяўчыны. Нас павялі на подпіс чагосьці, пыталіся: што, дзе, адкуль, хто мы такія. Прымусілі цалкам разьдзецца, прымусілі прысядаць, адціскацца. Зьнялі ўсе каштоўныя рэчы, якія на нас былі. Пасьля гэтага нас завялі ў камэру, штурхаючы ў сьпіну. Кінулі, проста як нейкіх сабачак, у гэтую камэру і зачынілі жалезныя дзьверы.

Я яшчэ не разумела, што са мной адбываецца. У мяне быў проста гістэрычны сьмех. Спачатку мы знаходзіліся ўтрох. Там была выкладчыца вышэйшай матэматыкі з акадэміі сувязі ў Менску, была дзяўчына-дызайнэр. Пасьля прывялі яшчэ людзей. Мы сядзелі, размаўлялі, кожны расказваў свае гісторыі. Пасьля да нас засялілі дзьвюх п’яных дзяўчат, якія пачалі бушаваць, біць нагамі ў дзьверы, крычаць. Пасьля падсялілі дзяўчыну, якая сядзела за распаўсюд наркотыкаў. Яна так-

сама была п’яная, патрабавала цыгарэтаў. Нас рабілася ўсё болей, і стала ўжо 21 чалавек у камэры. А камэра была на васьмярых.

Там былі людзі, назіральнікі на выбарчых участках. У многіх жанчын ад нэрваў пачаліся месячныя, яны падкладвалі сабе паперу, шкарпэткі, газэты. Заснуць было немагчыма, бо кожныя дзьве гадзіны да нас заводзілі голых хлопцаў у адных трусах і білі іх па сьпінах. Прыводзілі жынчын, якіх проста за валасы выцягвалі з уласных машын і вялі ў аўтазак.

Другія суткі пачаліся з таго, што я была яшчэ ў гэтай майцы бела-чырвона-белай. Нас вывелі з камэры, паставілі ўздоўж сьцяны, і мы падыходзілі да сьледчага. Гэта быў кшталту сьледчы, папраўдзе гэта быў нейкі азьвярэлы мянцяра, які проста крычаў на нас. Мне пагражалі 30 суткамі арышту. Зь мяне садралі майку і кінулі яе на падлогу. Я засталася ў адным топе. Мяне завялі ў камэру, і я ўжо пачала плакаць.

Чую, як за вокнамі крычыць мая мама: „Наста, Наста, Наста!“ І я пачынаю ёй крычаць, але разумею, што за гэта нас могуць проста забіць у гэтай турме. Крычалі ўсе. Крычалі з суседняй камэры: „Выклічце доктара“, бо там у хлопца была зламаная нага. Крычалі, каб выклікалі „хуткую“. Але „хуткія“ разварочвалі каля брамы і нават не пускалі ў гэтую турму. Мы сядзелі другія суткі, але нам не давалі ежы. Прыводзілі новых дзяўчат, і нас стала ўжо 36. Мы спалі на падлозе, нехта на стале, нехта на зэдліку, нехта стоячы.

Там была дзяўчына, зь якой мы пасябравалі, яе таксама завуць Настай, яе забралі проста ад варот Акрэсьціна, калі яна шукала сваіх сяброў,

забралі з машыны, а пятай гадзіне раніцы, і завялі да нас у камэру.

Нам сказалі, што будуць пратаколы („Вы падпісваеце, што вы згодныя, і мы вас выпускаем“). Натуральна, мы падпісалі. Нам нават не давалі чытаць гэтых пратаколаў, закрывалі рукамі, крычалі, падганялі, я нават ня бачыла, што там напісана. Як высьветлілася, людзей, якія пасьпелі хоць нешта прачытаць, якія не пагадзіліся і спрабавалі нешта там адстойваць, іх проста білі. Хто даведаўся, што напісана ў пратаколе, казалі, што ва ўсіх напісана адно і тое, што ўсіх затрымалі ў 10.40 вечара на праспэкце Пераможцаў, што мы ўдзельнічалі ў мітынгах і крычалі нейкія лёзунгі. Хоць многіх затрымалі ўвогуле ў іншых раёнах.

Пасьля нас перасялілі, бо пачалі завозіць шмат людзей і камэр проста не хапала. Нас перавялі ў камэру на чатырох, дзе нас было 50. У многіх дзяўчат былі месячныя, і яны не разумелі, што рабіць. Мы не маглі дыхаць і абліваліся вадой, каб хоць неяк ахаладзіцца ў той задусе, якая там стаяла. З намі была жанчына 68 гадоў, сядзелі журналісткі „Белсату“, айцішніцы, дызайнэркі. Пасьля гэтага ад нас вывелі 11 дзяўчат у карцар. Іх аблілі вадой і паклалі на падлогу. 11 чалавек у карцары, разьлічаным на аднаго!

У камэры паўсюль кішаць прусакі, сьмярдзіць туалет.

Судзьдзя, да якога я заходзіла, зачытаў мне пратакол незразумелай мовай і настолькі хутка, што я ўвогуле не разумела, што ён чытае. І пасьля ён пытаецца, ці згодная я. Я кажу, што ня згодная. Ён піша, што дае мне сем сутак і да пабачэньня.

Я раўла пасьля гэтага суду, як ніколі раней. Нас завялі назад у камэру.

На чацьвёртыя суткі нам сказалі сабрацца і выйсьці з рэчамі. Нас вывелі на вуліцу. Я была ў адным топіку і рваных джынсах. Было холадна. Бабуля зьняла зь сябе джут і надзела на мяне, бо я калацілася. Нас, 27 дзяўчат, пагрузілі ў аўтазак і сказалі, што павязуць у іншае месца. З намі сядзелі чатыры міліцыянты з закрытымі тварамі. Яны з жахам слухалі нашы гісторыі. Яны казалі, што папраўдзе гэта яны добрыя і мірныя, а мы дрэнныя і проста забіваем іх. Казалі, што ў іх кідалі кактэйлі Молатава, што ў кагосьці знайшлі 50 эўра. Пасьля яны дасталі са сваіх заплечнікаў вафлі і мы на чацьвёртыя суткі зьелі па кавалачку вафлі.

Гісторыя закончылася тым, што нас на чацьвёра сутак перавезьлі ў Жодзіна, дзе мы трапілі проста ў рай. Там ня ведалі, што з намі рабіць, бо сказалі, што ім нават не далі пастановы суду. Пасьля выхаду на волю мы паехалі забіраць рэчы. Але мой тэлефон, які забралі ў аўтазаку, быў згублены.

## „Я памятаю твары ўсіх катаў на Акрэсьціна“

*Марыя:*

— Я была назіральніцай на ўчастку ў школе на Каменнай Горцы. У дзень выбараў а 18-й гадзіне прыйшло паведамленьне ад каардынатараў, што па нас, магчыма, зараз прыедзе амон — ім трэба зачысьціць сьведак. Праз 15-20 хвілін прыехаў белы бусік на чырвоных нумарах. Зь яго ніхто ня

выйшаў. Але мы зразумелі, што гэта ўжо небясьпечна. Не было магчымасьці зьвязацца з суседнімі ўчасткамі: вы ведаеце, што было з інтэрнэтам. Таму мы пайшлі са школы. Выпадкова каля крамы за 100 мэтраў пабачылі грузавы бус, а побач зь ім 4-5 байцоў у чорным адзеньні і берцах. Так мы зразумелі, што пратаколу выбараў чакаць ня будзем.

А 20-й я пайшла на свой участак на Пушкінскай, дзе галасавала. Нас сабралася чалавек 60-70. Каля нас стаяў таварыш маёр і бясконца камусьці тэлефанаваў. Чакаў, мабыць, аўтазака, але яны ж усе былі занятыя. Мы ўсё ж не дачакаліся пратаколу праз паўтары гадзіны. Наша старшыня камісіі спужалася такой колькасьці людзей. Уцякалі яны праз чорны ход. Але мы там іх усё роўна сустрэлі і падзякавалі за „плённую працу“ воплескамі.

Кажу ўсё гэта таму, што, нягледзячы на ўсе катаваньні і гвалт падчас маіх сутак, я не пашкадавала ні хвіліны, што была часткай гэтай дзеі. Такіх прыгожых, сьмелых беларусаў я ня бачыла ніколі. Я некалькі разоў плакала там ад сілы эмоцый.

У замес мы трапілі значна пазьней. Хацелі ўжо ісьці дадому. Але каля парку Міцкевіча трапілі пад гранаты і газ. Пабеглі на Камсамольскую, там схаваліся ў дворыку. Нас знайшлі байцы не амону, а з уруцкай брыгады. Не чапалі, проста крыкнулі, каб выходзілі. Нас было пяць чалавек (у тым ліку яшчэ адна дзяўчына). Ня білі, не прыніжалі. Але, вядома ж, не прадставіліся і не сказалі, за што затрымліваюць. Павялі ў „апорку“ на Рэвалюцыйнай. Я пасьпела адправіць паведамленьні дваім сябрам і бацьку. Але толькі тое, што мяне павязалі. У „апорцы“ прымусілі вырубіць тэлефон. Там

нам зьвязалі рукі, запісалі зьвесткі. Праз 15 хвілін перадалі амонаўцам у аўтазак.

Амонавец, які мяне вёў, надзеў сумку мне на шыю: „Што я, буду тваё гаўно цягаць?“ І за пару хвілін, што вёў да аўтазака, пасьпеў сказаць: „Сама ідзі, я цябе весьці ня буду. Заманаўся ўжо сёньня за вамі бегаць. Не сядзелася ж вам, поскудзі, дома? Вас трэба ўсіх пасадзіць на кол і адправіць у космас, каб вы пра сваю пэдэрастыю там вяшчалі“.

У аўтазаку пасадзілі на калені тварам у сядзеньне. Тыцнулі дручком у твар, калі я павярнула галаву ў бок. На падлозе сядзелі хлопцы, потныя, бітыя. На іх увесь час раўлі матам, каб трымалі галаву ніжэй. Адзін хлопец паскардзіўся, што вельмі туга зацягнуты хамут — нуль рэакцыі. У мяне таксама было туга, але я маўчала. Другую дзяўчынку пасадзілі на лаўку, хамут зьнялі. Так мы ехалі па горадзе доўгі час. Да нас яшчэ дагружалі хлопцаў. У нейкі момант зацяклі ногі. Я папрасіла сесьці. Дазволілі. Разам зь дзяўчынай ехаў у аўтазаку яе муж. Амонавец спытаўся, ці яна прыйшла на плошчу за ідэалёгію ці так, з натоўпам. Яна адказала, што з мужам. Ён спытаў, дзе муж. Яна паказала. Мужа ўдарылі два ці тры разы па твары.

Праз хвілін 20 нас перасадзілі разам зь дзяўчынай у сапраўдны аўтазак зь ячэйкамі. Прыехалі адразу на Акрэсьціна. Далей пачынаюцца два з паловай дні чысьцюткага пекла.

На момант, калі нас прывезьлі (каля трох гадзін ночы), там ужо было шмат людзей. Мяне амаль не аглядалі. Жанчына проста спытала, ці ёсьць нешта ў кішэнях, і адпусьціла. Астатнія, каго затрымлівалі раней, здымалі ўсё адзеньне і прысядалі. У мяне забралі рэчы. У заплечніку

былі дакумэнты, тэлефон, усе карткі, правы ад машыны. Вопісу ніякага не зрабілі. Увесь час на нас крычалі матам, казалі, што мы „мрази“ і што мы прадажныя, і што наступным разам будзем ведаць, за каго галасаваць.

Мяне адвялі ў камэру разам з той другой дзяўчынай. Калі за намі зачыніліся дзверы, нам сказалі: „Добро пожаловать в страну толерантности, животные“. Нас было 12. У камэры на шэсьць чалавек. Амаль усе там былі назіральніцамі на выбарах, якіх затрымалі ў 18-20 гадзін. Ніхто зь іх ня быў на мітынгу. Усе інтэлігентныя і разумныя. Мікрабіёляг, настаўніцы, музыкі. У загадчыцы катэдры БДУІР узялі сына, мужа і бацьку (72 гады). Яна сама ўлезла за імі ў аўтазак. Адну ўзялі на ўчастку падчас галасаваньня, яна нават не была назіральніцай. Астатнія — на ўчастках. На іх проста выклікалі амон старшыні камісій.

У камэры не было туалетнай паперы. Вада з крана, і ўсё. У суседняй камэры была дзяўчына з Расеі. Мы чулі, як яна патрабавала пасла, казала, што яе затрымалі незаконна. Ёй адказалі: „Нах... тваю Расею і твайго пасла“. Нікога не паклікалі. Яе імя Стогава Алеся Віктараўна, 1986 году нараджэньня. Гуляла з хлопцам каля гатэлю „Вікторыя“. Яе білі па твары кожны раз, калі яна прасіла пасла (гэта мы дазналіся потым, калі нас пасадзілі разам). Усю ноч мы чулі, як прыяжджалі аўтазакі. Адзін за адным. Як крычалі на хлопцаў. Чулі, як іх білі дубінкамі.

Потым, мабыць, стала няма дзе разьмяшчаць людзей. Па нас прыйшлі і павялі на чацвёрты паверх. Адчынілі дзверы, і я зразумела, што, напэўна, тут і будзе канец. Камэра на чатыры чалавекі. Там

ужо сядзелі 23 жанчыны! А нас было 13. Разам стала 36. Паветра не было. Паперы не было. Ежы не было. Да нас пасадзілі дзвюх жанчын-алькагалічак. Ад іх страшна сьмярдзела. Жанчыны прасілі адчыніць дзверы, у нейкі момант дзьверы адчыніліся і канвойны выліў на падлогу вядро вады і зачыніў дзверы. У вільготным памяшканьні дыхаць увогуле не было чым. У Юлі з нашай папярэдняй камэры пачалася панічная атака. Яе пачало ванітаваць. Мы папрасілі доктара. Нуль рэакцыі. Праз некаторы час мы пачалі крычаць. Адчыніліся дзьверы, і на нас зноў вылілі вядро халоднай вады. Але потым гэтыя каты зразумелі, што дзяўчына можа памерці, яны яе вывелі на пару хвілін падыхаць. І запусьцілі зноў. Яна маліла іх, прасіла, адказ: „Не прымушайце нас ужываць сілу“.

Нашым адзіным выратаваньнем было адчыненае вакно і кармушка (у якую даюць ежу), яны стваралі мікраскразьняк, але гэта ня вельмі дапамагала. У пэўны момант кармушку зачынілі. Мы пачалі крычаць, але праз хвіліну ўсё зразумелі. Мы пачулі, як з камэры насупраць вывелі хлопца і пачалі малаціць дубінай. Было страшна слухаць. Пасьля трох-чатырох удараў фраза: „А цяпер бяры і выцірай сваё гаўно. Як табе вось такаяануча?“ Я ня ведаю, што там дакладна адбылося. Але чуць гэта было невыносна. У паловы дзяўчат у суседніх камэрах сядзелі іхныя хлопцы, мужчыны і нават бацькі.

Ноччу ў адной з алькагалічак пачаўся панос. 37 чалавек у камэры на чатырох. Адкрыты туалет. Паперы няма. Аб адным мы не пашкадавалі:

ішлі другія суткі безь яды. Бо нас званітавала б там усіх.

На наступны дзень пачаліся суды. Маразм быў у тым, што спачатку дзяўчат выклікалі да судзьдзяў Маскоўскага раёну (яны прыехалі да нас), а потым тых жа дзяўчат — да судзьдзяў Фрунзэнскага раёну. У некаторых атрымалася па два рашэньні з рознымі зьвесткамі. Мой судзьдзя даў мне 10 сутак, хоць за пяць хвілін да мяне судзьдзя ў адным зь ім кабінэце дала хлопцу, які быў разам са мной, 10 базавых. Я спыталася — чаму? Ён сьцепануў плячыма: „Ня я выносіў рашэньне аб вашым хлопцу“. Я цудам пасьпела пагутарыць з хлопцам у калідоры. Толькі так мае бацькі нарэшце дазналіся, дзе я і што са мной.

Яшчэ ноч у душагубцы. Нас стала 33. Каля 22 гадзін да нас завялі яшчэ чатырох. Сярод іх жанчына гадоў 50. Яна проста ў свой адзіны выходны выйшла ў краму, каб купіць ежы бацьку-інваліду, і ішла міма школы. Ёй далі 12 сутак. На нашы крыкі быў адказ: „Вы яшчэ пабачыце, што такое шмат людзей“. Потым мы дазналіся, што ў іншай камэры на чацьвярых былі 53 жанчыны.

Наступнай раніцай нам прынесьлі хлеб. Першы раз з ночы затрыманьня мы паелі. Нас пашыхтавалі на вуліцы. Некаторыя засталіся ў камэры (тыя, каго не пасьпелі асудзіць). Дзяўчаты проста тварам да сьцяны стаялі ў двары. Хлопцы — на каленях тварам у зямлю. Некаторыя толькі ў майтках. Мы бачылі, якія ў іх гематомы на нагах. Некаторыя дзяўчаты плакалі. Некаторым стала блага, адна страціла прытомнасьць. На яе палілі ваду, далі пасядзець, доктара не выклікалі.

Пачалі заводзіць у аўтазак. Па дарозе амонавец расказваў, што адбываецца, што ён ня верыць ні таму боку, ні другому. І што мы ніколі не дамо рады ў поглядах адзін аднаму.

Пра Жодзіна я не магу сказаць нічога, акрамя таго, што гэта былі самыя добрыя, сумленныя і клапатлівыя людзі за ўвесь час „прыгод“. Кармілі, прыносілі паперу, пракладкі нават купілі.

У пятніцу вечарам нас усіх выклікалі, далі падпісаць паперу, што мы абяцаем больш ня ўдзельнічаць у такіх мерапрыемствах. Я не хацела падпісваць. Але праблема ў тым, што паперу падпісаць у кожным выпадку прыйшлося б, нават калі б адсядзела ўсе суткі. А я вельмі перажывала за бацькоў. Таму пагадзілася.

Я ня ведаю ніводнага прозьвішча, але я памятаю ўсе твары. Усе да аднаго. Асабіста кожнага з катаў на Акрэсьціна.

Калі выйшла, хацелася плакаць. Не ад таго, што перажыла, а ад цудоўных валянтэраў. Я ганаруся быць зь імі часткай аднаго народу. Мы вялікі народ, мы выстаім. Усё гэта было недарэмна.

# ПРЫ ЗАТРЫМАНЬНІ

**„Адзін у балаклаве зірнуў такімі шклянымі вачыма, што я скамянела“**
**„Гранаты кідалі проста ў натоўп“**
**„Засталася толькі пятка“**
**„Далі ў калена берцам — нага сагнулася ў адваротны бок“**
**„Мне да галавы прыставілі пісталет“**
**„Самы запамінальны ўдар — нагой у вока“**
**„Душылі сьцягам і называлі яго пракладкай“**
**„Ня ведаю, як іх назваць, гэта не міліцыя ўжо“**

## *„Лятуць чорныя лебедзі“*

— 9 жніўня мы да васьмі гадзін пайшлі на выбарчы ўчастак. За гадзіну сабралася, напэўна, больш за сотню людзей. Усё мірна, спакойна. І хтосьці сказаў, што зь іншых участкаў старшыні ўцякаюць праз запасныя выхады. Сапраўды, ужо машына стаіць заведзеная. Тут выходзіць старшыня з тэчкамі і ў досыць агрэсіўнай манеры пачынае адмаўляцца: яму паступіла ўказаньне з раённай камісіі нічога нікуды не вывешваць, а ехаць адразу туды. Разьвярнуўся і пайшоў назад у школу. Выйшла тры ці чатыры міліцыянты, кажуць нам: „Разыходзьцеся“. На што мы адказалі: „На вашых вачах парушэньне закону адбываецца, калі ласка, рэагуйце“. Старшыня зноў выйшаў, сеў у машыну. Людзі, натуральна, не даюць машыне праехаць. Пад’ехалі два экіпажы ДАІ: „Вызваліце праезную частку“. Прабачце, якая праезная част-

ка? Гэта дваровая тэрыторыя. І літаральна хвілін праз пяць — „Ляжаць! Мордай у зямлю!“ Паварочваюся — ужо лятуць… чорныя лебедзі.

## *„Папрасіў, каб выйшаў іхны камандзір“*

— У нейкі момант я выйшаў да гэтых шчытоў абсалютна адзін, падняўшы рукі ўгору, паказваючы, што ня маю ніякай агрэсіі. І кажу: „Вы проста паглядзіце, што адбываецца перад вамі. Вашы дзеці, бацькі, сёстры, браты… Вы нявечыце мірны народ, такі, як і вы“. І папрасіў, каб выйшаў іхны камандзір. Пасьля гэтага недзе праз хвіліну шчыты расступіліся і група захопу з чатырох чалавек мяне схапіла і зацягнула да сябе туды ў тыл. Пасьля пяць ці восем амонаўцаў павалілі мяне на дол і пачалі біць. Недзе на працягу пяці хвілін зьбівалі дубінкамі, ботамі па галаве, па целе. Далей закінулі ў аўтазак, дзе два амонаўцы дубінкамі сваю справу давяршылі.

## *„Гэта была найвялікшая дурасьць“*

— Мы ехалі ў машыне разам з мэдыкамі-добраахвотнікамі, якія пагадзіліся падвезьці нас дадому. Бліжэй да ўнівэрсаму „Рыга“ ўбачылі вялікую колькасьць міліцыі і людзей, якія ляжаць на зямлі. Кіроўца нашай машыны прыпыніўся, і мы — гэта была найвялікшая дурасьць — запыталіся ў супрацоўнікаў амону, ці не патрэбна мэдычная дапамога? Амонавец нешта рэкнуў у наш бок. У гэты момант іншы амонавец падбег да аўтамабіля, кінуў у бок машыны сьвятлашумавую гранату, наставіў на нас вінтоўку, загадаў выйсьці з машыны і легчы на дол. Я пачуў выбух пад коламі, потым убачыў

рулю вінтоўкі перад сваім тварам, і ў наступную сэкунду ўжо даваў нырца рукамі наперад у асфальт: гэта не такая простая задача — выскачыць зь мінівэна і хутка легчы на зямлю.

## *„Як у фільмах пра рыцараў“*

— Людзі сталі хаатычна разьбягацца. Я зразумеў, што зараз пачнуць хапаць усіх запар. Тут воляй-няволяй пабяжыш. Спыніўся на пагорку. Павярнуўся назад і ўбачыў, што на зямлі ляжыць жанчына гадоў пяцідзесяці і два чалавекі ў чорным б'юць яе рукамі і нагамі. І мне сарвала „стоп-кран“. Я закрычаў: „Людзі, на помач!“ І пабег туды. Я разумеў, які можа быць вынік, але ў той момант рашэньне было адно — дапамагчы жанчыне. Убачыў бакавым зрокам, як усьлед за мной кінуліся яшчэ пару хлопцаў. Пакуль мы беглі, я вельмі моцна крычаў, проста як у фільмах пра рыцараў. Гэтая псыхічная атака падзейнічала. Сілавікі пачалі ўцякаць.

## *„Адчыніла пад'езд, дзе мы хаваліся, і паклікала іх“*

— Пасьля нашага затрыманьня я часьцей успамінаю не сілавікоў, РУУС, наглядчыкаў і камэру. Успамінаю чамусьці тую пажылую жыхарку дому №62 на вуліцы Арлоўскай, якая здала нас, прыкладна 25 чалавек, людзям у чорным. Спусьцілася, адчыніла пад'езд, дзе мы хаваліся, і паклікала іх. І, мяркуючы па тым, як яна нас называла, зь якой нянавісьцю казала нам вымятацца, спала яна потым ня тое што спакойна, але і з пачуцьцём глыбокага задавальненьня ад свайго „подзьвігу“.

### *„Далі адпор“*

— Калёна спынілася. У нейкі момант кардон „супрацоўнікаў“ пачаў грукаць у шчыты, рушыў у бок людзей і нас паспрабавалі выцесьніць. Мы ўзяліся ў счэпку і далі адпор. Байцы разгубіліся і сталі адступаць. Па меры адступленьня яны распылялі сьлезацечны газ: кожны раз, калі мы набліжаліся да іх, мы апыналіся ў газавым воблаку. Я адчуў непрыемны смак у роце і смыленьне ў вачах. Людзі пачалі разьбягацца, я пабачыў, як уцякае мой сын, і пабег за ім.

### *„І прыцэльна стрэліў у мяне“*

— 10 жніўня на Кальварыйскай зьявіліся дзясяткі байцоў, як мяркуецца, з атраду „Алмаз“. Адзін зь іх спыніўся прыкладна за 10 мэтраў ад групы журналістаў у сініх камізэльках з надпісам „Прэса“ і прыцэльна стрэліў у мяне. Цяпер я другі месяц у шпіталі.

### *„Прапанаваў згуляць у шахматы“*

— Калі я ехаў на чарговы пратэст, у тралейбус уварваўся амон. Мяне выцягнулі з салёну і завалаклі ў мікрааўтобус. Рукі заламалі сьпераду і скулі іх плястмасавай сьцяжкай. Трое міліцыянтаў білі мяне нагамі і рукамі па рэбрах, нырках, галаве. Аднаго зь іх раззлавала, што гляджу яму ў вочы. Ён зароў: „Давай выйдзем сам-насам“. На гэта я яму прапанаваў згуляць у шахматы. Вочы ў міліцыянта наліліся чырваньню, але больш мяне ня білі.

## *„Мы проста ідзём па вуліцы“*

— Калі сілавікі пачалі затрыманьне, мы нават не ўцякалі. Я зыходзіў з таго, што мы ж проста ідзём па вуліцы. У выніку атрымалася так — уцяклі тыя, хто ўдзельнічаў у пратэсьце, а затрымалі тых, хто ў краму ішоў. Вядома, я супраць таго, каб затрымлівалі і білі мірных удзельнікаў акцый, але калі такое адбываецца, калі ты проста ідзеш зь дзяўчынай каля крамы...

## *„І распылілі газ“*

— Я спакойна стаяла сярод іншых людзей, як раптам на нас нечакана наляцелі амонаўцы. У нейкі момант яны падышлі да нашай групы амаль ушчыльную і распылілі газ. Я якраз у гэты момант удыхнула, каб крыкнуць: „Што вы робіце?“ І газ трапіў мне ў вочы, нос і рот... Раніцай я выклікала „хуткую“. У выніку правяла тыдзень у лякарні з апёкам рагавіцы і дыхальных шляхоў.

## *„Зьняў іх на відэа. І паехаў далей“*

— Пасьля дзесяці вечара я рухаўся на сваім аўтамабілі па вуліцы Прытыцкага. Праяжджаючы чарговую калёну амонаўцаў, якія стаялі на прыпынку, я зьняў іх на відэа. І паехаў далей. Уся вуліца рухалася з хуткасьцю 30 км у гадзіну. Праз нейкі час яны мяне абагналі, падрэзалі, выскачылі дзесяць чалавек з дубінамі ў чорных строях. Разьбілі шыбу мне ў машыне, выцягнулі, пачалі біць. Праз пяць хвілін я страціў прытомнасьць.

### *„Схапіў мяне за руку і шпурнуў на зямлю“*

— Амон пачаў затрымліваць людзей. Да іх жанчыны падышлі, крычалі ім, каб адпусьцілі. Я таксама падышла. Амонавец схапіў мяне за руку і шпурнуў на зямлю. Па адчуваньнях, ён так схапіў, што адразу ж і зламаў. Рука імгненна абвісла. Шпурнуў мяне, як кацяня. Я паднялася; думала спачатку, што вывіх. Але прыехала „хуткая“, мяне забралі ў лякарню. Зрабілі здымак, дыягназ: пералом са зьмяшчэньнем і аскепкамі. Доктар сказаў: гэта крымінальная справа, да вас прыйдзе міліцыя. Калі пакараюць — ну што ж зробіш. Я нарадзілася ў вайну, таму магу нават пагаладаць, калі прыйдзецца выплачваць нейкія штрафы. Пасяджу на хлебе і вадзе, хай толькі жыве Беларусь.

### *„Адцягнулі ззаду штаны і залілі з балёнчыка“*

— Мяне затрымалі ў парку імя Янкі Купалы. Не спадабалася сілавіку, як я на яго гляджу. Мне залілі пярцовікам з балёнчыка спачатку ў твар, пастаялі, паглядзелі, што я не супраціўляюся, адцягнулі ззаду штаны і залілі з балёнчыка яшчэ ў раёне хвастца. Таму ў бусіку я ехаў з „разагрэтым“ адчуваньнем, пярцовік сьцякаў па нагах, потым ногі гарэлі яшчэ двое сутак.

### *„Дзіма адважыўся па-беларуску адказаць“*

— У турме я пазнаёміўся з пратэстоўцам Дзьмітрыем, якому пасьля затрыманьня амонаўцы зламалі два рабры. Яго зь сябрам схапілі каля маршу, калі яны выходзілі з крамы, на ім быў наш сьцяг. А тут амон. Нешта запыталі, а Дзіма

адважыўся па-беларуску адказаць. За мову іх гэтак у бусе аддубасілі, што зламалі яму два рабры. Нават праз колькі дзён ён гаварыў ціха-ціха, доўга набіраючы паветра, бо дыхаць нармальна было балюча.

## *„Несьлі ў руках букеты кветак“*

— У Маскоўскім РУУСе апынулася каля дзясятка жанчын. Іх затрымалі, бо яны несьлі ў руках букеты кветак. Гэта ў Беларусі-2020 стала правапарушэньнем. Адна з жанчын толькі-толькі пасьпела купіць букет у бабкі на Камароўцы, а яшчэ піражкі, каб завезьці старой маці. Яшчэ адна несла кляновае лісьце. У іншай затрыманай у руках не было нічога. Але куртка — чырвоная. Колер з катэгорыі падазрона-забароненых.

## *„Мы пасунемся“*

— Малады амонавец, які затрымаў мяне, відавочна хацеў мяне адпусьціць. Ён вёў мяне ад буса да буса, а яны былі поўныя, і ён сказаў: „Калі і апошні будзе заняты, вы ціха сыходзьце“. Але ў апошнім бусе былі галянтныя амонаўцы і яны сказалі: „Мы пасунемся“.

## *„Амонавец убачыў у мяне на руцэ белую стужку“*

— Я спыніўся на скрыжаваньні на сьвятлафоры. І адзін амонавец убачыў у мяне на руцэ белую стужку. Я заўважыў, як па ланцужку гэтая інфармацыя праз два-тры чалавекі дайшла да ДАІшніка, які стаяў у цэнтры скрыжаваньня. Ён страпянуўся,

адразу паказаў на маю машыну, каб я зьяжджаў на ўзбочыну. І я ўбачыў, што з боку амону да мяне ідуць шэсьць чалавек.

### *„Біў мяне дзьвярыма маёй жа машыны“*

— Разам гэта ўжо восем чалавек білі мяне каля аўтамабіля. Зь іх двое былі ў форме ДАІ, але ў бронекамізэльках. Нос мне паламалі проста ў машыне. Адзін сілавік стаяў каля дзьвярэй кіроўцы і біў мяне дзьвярыма маёй жа машыны. Яны разьбілі ўсе шыбы, усе фары, пракалолі ўсе колы. І ў мяне ў капоце яшчэ застаўся сьлед ад нажа, якім яны прабівалі шыны.

### *„На чыстай расейскай мове“*

— У амонаўцаў паміж сабой была нейкая дзіўная мова. Памятаю, мяне вельмі зьдзівіла, што яны размаўлялі на чыстай расейскай мове. Не было ніякага акцэнту беларускага ні ў кога.

### *„Падлеткі «на пабягушках»“*

— Мяне прывезьлі ў РУУС першай, а потым туды сталі падвозіць затрыманых у „ланцугах салідарнасьці“. Я даведалася, што ў міліцыянтаў ёсьць падлеткі „на пабягушках“ — хлопцы, якія бегаюць і дакладаюць, дзе што адбываецца.

### *„Ах, ты мэдык!“*

— Недалёка ад таго месца, дзе пачынаўся мітынг і адбываліся вельмі жорсткія затрыманьні, я проста на дарозе ўбачыў чалавека ў сутаргавым стане. Я падыходжу бліжэй, а да мяне падыходзя-

ць два чалавекі ў цывільным. У кепках і ў масках. Я кажу, што я мэдык, магу аказаць дапамогу пацыенту. „Ах, ты мэдык!“ — і адразу ўдар у твар. І нас з тым чалавекам адразу пагрузілі ў машыну.

### *„Тыповае хуліганства“*

— А ў той вечар я ў кампаніі суседзяў стаяў пад пад’ездам, за намі вісеў бел-чырвона-белы сьцяг. Раптам да нас падышлі два чалавекі ў цывільным (яшчэ чацьвёра стаялі непадалёку). Пачалі прэтэнзіі нам кідаць: „Задзяўблі, што вы гэтыя сьцягі вешаеце!“ Мы спыталі: „А вы хто?“ — „Міліцыя“. — „Пасьведчаньне пакажыце“, — кажу ім. У адказ я атрымаў некалькі разоў па галаве, левую руку сталі заломваць. Пасьля адцягнулі да рэчкі, там яшчэ дабавілі. Даставілі ў Маскоўскае РУУС. Больш ня білі. Суд вырашыў, што, знаходзячыся каля дому, я павесіў бел-чырвона-белы сьцяг — тыповае хуліганства.

## „Ішоў у аўтазак заняць чыёсьці месца“

*Аляксандар, 50 гадоў, інжынэр:*

— Калі я пачуў пра жорсткія затрыманьні раварыстаў у Менску, як хлопцам і дзяўчатам заломвалі рукі, доўга думаў, што ж я магу зрабіць.

Сабраў у заплечнік цыгарэты, бінты, марлю, ёд, надзеў абутак без матузкоў і скіраваўся ў аўтазак. Маё рашэньне было — заняць чыёсьці месца, замест такой дзяўчынкі, як мая дачка. Бо гэта фактычна рэвалюцыя маладых, якія ня ведалі іншага прэзыдэнта, а яны заслугоўваюць жыць па-іншаму.

І я пайшоў: на адной руцэ меў белую стужку (галасаваў за Ціханоўскую), у другой — сьцяг. Ён у мяне з гісторыяй: калісьці, у 1993 годзе вісеў у горадзе Ветцы на выканкаме. Калі прыйшоў да ўлады „лорд Валдэморт“, сьцяг зьнялі і аддалі на анучы ў музычную школу, а дырэктарка папрала і падарыла мне. З тых часоў сьцяг заўжды са мной. Езьдзіў на ўсе рок-фэстывалі і аб’ядноўваў беларусаў. Мне было шкада, калі б яго аднялі, але калі б сьцяг застаўся ў хаце, то яго гісторыя скончылася б.

Я са сьцягам у раёне кандытарскай фабрыкі „Камунарка“ далучыўся да калёны, якая ішла зь Серабранкі Партызанскім праспэктам. Ехалі машыны, усе сыгналілі, махалі стужкамі. І раптам я пачуў, як людзі на ўзгорку крычаць: „Бяжы да нас!“.

З-пад мосту вынырнуў сіні бусік без нумароў, і адтуль куляй вылецелі людзі ў чорным. Я не зьбіраўся ні ўцякаць, ні супраціўляцца, бо ішоў з канкрэтнай мэтай.

Мяне пагрузілі ў мікрааўтобус. Чалавек у чорнай масцы, на выгляд яму было гадоў 20-25, накрыў маю галаву сьцягам, крычаў шмат брыдкіх словаў, пытаўся: „Ну і дзе твая Ціханоўская? Колькі табе заплацілі?! Ты дзе жывеш, у Рэспубліцы Беларусь?“ Я адказаў: „А ты дзе жывеш?“ Ён пачаў біць мяне па галаве: „Ты ў мяне зараз зьясі гэты сьцяг!“ І пачаў пхаць сьцяг мне ў рот. Я сьціснуў зубы і маўчаў. Бачыў шалёныя вочы і разумеў, што размаўляць няма сэнсу.

Пада мной ляжалі іншыя людзі, а я на іх зьверху. Хлопец, які быў пада мной, цішком пацісьнуў мне руку. Увесь час, пакуль мы ехалі да аўтазака, чалавек у чорным спрабаваў скарміць мне сьцяг, біў кулакамі па галаве — у мяне быў разьбіты нос, сінякі пад вачыма.

Калі нас выгрузілі з бусіка, ён сказаў: „Гэты быў у іх галоўным“. Вырваў сьцяг і паспрабаваў ім мяне задушыць каля аўтазака. Я пасьпеў падставіць кулак да горла, каб не пераціснулі коўцік. Ён злаваўся, спрабаваў прыняць маю руку, працягваў душыць. Мяне выратавала тое, што па рацыі іхную групу зноў выклікалі на затрыманьне. Яны тады працавалі ў рэжыме нон-стоп. Ён надарваў сьцяг і адчапіўся ад мяне.

Затрыманых, чалавек 25, закінулі ў аўтазак. Разарваны сьцяг я паклаў у кішэню. Нас у адным „пакойчыку“ было шэсьць чалавек, але гэта яшчэ казка. Калі нас потым павезьлі ў Жодзіна, то ў катушок, дзе было цяжка ўпяцёх, запіхвалі па 10 чалавек. Мы спрабавалі неяк зьмясьціцца: я сеў на падлогу, мне на калені — яшчэ чалавек, і да яго на калені — яшчэ адзін.

Прыехалі ў дастаткова новы будынак, было чуваць, як хадзілі трамваі, і я зразумеў, што гэта Цэнтральнае РУУС. Каля аўтазака быў „калідор сьмерці“: адзін сілавік выкідваў нас з катушкоў, а астатнія стаялі па 5-6 чалавек з кожнага боку і білі нас, пакуль мы беглі. Галоўнае было ня ўпасьці, бо будуць біць нагамі. А ўдары дубінкамі пасьля таго, як мяне перасталі душыць, былі ўжо ня страшныя. Проста, калі прылятае ўдар, трэба расслабляцца, і тады ён расьцякаецца па ўсім целе. А трываць боль я прывык.

Каля ўсіх сьценаў пастарунка ўжо былі людзі. Нас увесь час ссоўвалі, каб зьмясьціць усіх. Потым расклалі тварам роўна ў асфальт, рукі ў счэпцы на патыліцы, гэта жахліва нязручна, але за кожны паварот галавы білі. За тое, што мы дрыжэлі ад холаду, таксама білі. І ўвесь час правакавалі. Побач са мной ляжаў хлопец. У яго былі разьбітыя акуляры. Да яго падыходзілі і пыталіся „са спачуваньнем“: „Што, акуляры мянты разьбілі?“ — „Так“. — „Ах, мянты?! Ну атрымай тады“.

Людзі ў чорным крычалі мацюкамі. Але нада мной стаяў адзін ахоўнік, які сам хоць і выглядаў, як „касманаўт“, казаў: „Господа, держите голову прямо, чтобы не получить“.

Ён нікога ня біў, і калі сыходзілі гэтыя зьвяры ў чорным, дазволіў нам трохі расслабіцца, апусьціць рукі, якія моцна дранцьвелі. У туалет нам хадзіць не давалі, казалі мачыцца пад сябе. Многія і хадзілі пад сябе. Так я ляжаў з 9 вечара да 11 раніцы. Мяне пачало трэсьці. Ахоўнік спытаў: „Чаго трасесься?“ — „У мяне остэахандроз. Сьпіна не вытрымлівае“. — „У туалет хочаш?“ — „Хачу“. — „Ну ідзі, толькі павольна“.

Ён павёў мяне па калідоры, і я ўбачыў хлопца. Левая нага ў яго была сіняя, а правая ненатуральна выкручаная, паламаная. Ён таксама хацеў у туалет. Я папрасіў ахоўніка: „Дазволь мне занесьці яго ў туалет“. Я падняў хлопца і пацягнуў яго, ахоўнік нас цярпліва чакаў.

Калі я цягнуў хлопца, у калідоры стаяла жанчына гадоў 60 у халаце, са швабрай і пагардліва глядзела на нас, як на нелюдзяў: „Пасьля гэтых дэманстрантаў я прыбіраць ня буду!“ Было вельмі крыўдна.

Гэты хлопец ня мог ні стаяць, ні ляжаць, толькі сядзець. Яму было кепска, але ён прабыў з намі да 11 раніцы, мы занесьлі яго ў аўтазак, „хуткую“ яму так і ня выклікалі.

Ужо сьцямнела, а людзей усё завозілі і завозілі. Выйшаў мужчына, відаць, нейкі начальнік, сказаў, што ў цемры дрэнна відаць, і знайшоў рашэньне: „Буду біць вас, а вы называйце свае імёны“.

Падлятаў і біў у жывот. Трэба было пры гэтым хутка выкрыкнуць сваё прозьвішча.

Потым мяне завялі ў пастарунак, склалі вопіс рэчаў, сфатаграфавалі. На сталах у вялікай залі ляжала гара разьбітых тэлефонаў. Мне пашанцавала, што я свой адключыў і пасьпеў пакласьці ў заплечнік.

Усе сілавікі пастаянна задавалі адно пытаньне: „Колькі вам заплацілі?“ Ім жа ўсім сказалі, што нам нехта за нешта плаціць. Я думаў: „Няўжо вы такія прамытыя, што верыце ў гэта?“

Побач са мной стаяў інжынэр, гадоў 28. Ён увесь час пытаўся спакойным голасам: „А чаму вы мяне б’яце? Растлумачце, за што?“ Яны аба-

звалі яго „зоркай сэзону“, і па ім прайшліся ўсе, падляталі і білі.

Чалавек сто ляжалі ў двары. Месца не хапала. Нас часам ставілі да сьценкі тварам, ногі на шырыні плеч. Я засынаў ад стомы і напругі, але ногі пачыналі падгінацца — рэзка прачынаўся. Супрацоўнікі пастарунка жартавалі: „Вучыцеся ў яго спаць стоячы“.

Раніцай мы пачулі МАЗаўскі рухавік. Прыехаў аўтазак. Ахоўнікі зьдзівіліся: „А што, у нас толькі адзін аўтазак?“ І самы заўзяты адказаў: „Ды я іх зараз загружу ўсіх у адзін аўтазак“.

І нас пачалі засоўваць, як шпроты ў бляшанку — напхалі 36-38 чалавек, плюс у калідоры — хлопец са зламанай нагой — у машыну, разьлічаную на 15 чалавек.

У турме ў Жодзіне, калі мяне абшуквалі, сяржант знайшоў у кішэні сьцяг. Спытаўся, куды дзяваць гэтую анучку. „Гэта не анучка, а сьцяг, пакладзіце ў асабістыя рэчы, я яго дома сшыю“. Сяржант засьмяяўся: „І зноў да нас прыедзеш“. А лейтэнант, які стаяў побач, сказаў яму: „Закрый рот. Гэта ягонае права“.

У камэры сядзелі 9 чалавек, вельмі інтэлігентныя хлопцы, айцішнікі, да іх яшчэ 10 увапхнулі, праз гадзіну яшчэ 10. У выніку на 10 ложкаў было 29 чалавек. Спалі на падлозе, на стале, лаўках, чаргаваліся, саступалі адзін аднаму. Была ўзаемавыручка, вельмі добрая атмасфэра. Мы прыдумлялі гульні, расказвалі анэкдоты. Але настала бясчасьсе. Не хапала інфармацыі, што там звонку робіцца. Поўная невядомасьць.

Ахоўнікі ў турме да нас ставіліся нармальна. Калі мы штосьці прасілі, адказвалі „так-так“, але

нічога не прыносілі. Акрамя аднаго выпадку, калі была пагроза жыцьцю. Аднаму хлопцу са штучнай ныркай трэба было кожны дзень прымаць лекі. Мы ў камэры самі ўвесь час мералі яму пульс. Хлопец быў увесь сіні, яго ўсяго спаласавалі. Але ён трымаўся, не хацеў нікому сінякі паказваць, каб лішняга жаху ня выклікаць.

Тры дні мы грукаліся ахоўнікам, каб з заплечніка прынесьлі лекі. Напісалі заяву на імя начальніка турмы, і тады ўсё ж прынесьлі заплечнік. Потым, нарэшце, прыйшоў доктар і, здаецца, адправіў хлопца адразу ў лякарню.

Мяне выклікалі ў суд, паставілі ў віну ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу. Судзьдзя спытаў: „Што вы там рабілі?“ — „Ішоў у аўтазак“.— „Навошта?“ — „Разумееце, я маю дачку. Калісьці маё пакаленьне не змагло, і цяпер мы ў адказе за гэта. Я ішоў заняць чыёсьці месца“. — „І навошта вам гэта трэба?“ — „Ну, калі вы не разумееце, я не змагу патлумачыць“. — „Калі вы ішлі ў аўтазак, значыць, бралі ўдзел у мітынгу. Вам сем сутак“.

Я адседзеў пяць. Увечары мяне раптоўна вышмаргнулі з камэры. Далі падпісаць паперу, што, калі яшчэ раз пападуся, будзе ўжо крымінальны артыкул.

Нас выпускалі групамі па шэсьць чалавек. Два хлопцы ішлі ў адных шкарпэтках, абутак яшчэ пры затрыманьні згубілі.

Выйшаў, пабачыў столькі людзей: валянтэры, псыхолягі, мэдыкі, кіроўцы, сябры, сваякі. Нам рабілі перавязкі, апрацоўвалі раны, паілі гарачай гарбатай, кармілі бутэрбродамі. Мы не маглі нават дапусьціць, што лёд настолькі крануўся!

Я ўключыў тэлефон, каб пазваніць, і раптам пасыпаліся паведамленьні — больш за 200: „Вы герой, мы ганарымся вамі“. Высьветлілася, дачка напісала пра мяне пост у сацсетках.

Я проста зрабіў тое, што павінен быў зрабіць раней. А цяпер нашы дзеці адказваюць за тое, што мы калісьці прапусьцілі, калісьці не змаглі. За наша маўчаньне расплачваецца гэтая моладзь, нашы дзеці.

Самым страшным для мяне быў момант, калі 16-гадовага хлопца ў пастарунку білі нагамі ў жывот, а ён крычаў, курчыўся. Я ляжаў на асфальце, і мяне душыла злосьць, бясьсільная лютасьць. Я ж ішоў з тым разьлікам, каб такія вось хлопцы не траплялі ў такія месцы, каб сваёй паўтушкай на 66 кг заняць чыёсьці месца, а тут бачу, што побач малога месяць нагамі.

А потым мне хтосьці гаворыць, што гэта фэйк, што дзяўчаты расфарбоўвалі сабе сіняй фарбай ягадзіцы... Я ж усё гэта бачыў, і хачу, каб усе гэта ведалі. Наколькі гэта было па-зьверску.

Страшна нам заўсёды. Страшна было перад тым, як узялі. А потым я зразумеў, што магу змагацца са страхам. Многія пазналі сваіх суседзяў, усьвядомілі сябе як нацыю — і гэта ўжо перамога.

## „Усе ўцякаюць, а ў мяне нейкі ступар у галаве“

*Арцём:*

— Гэта было 9 жніўня на Нямізе. Я як ведаў, што ўсё дрэнна скончыцца, — узяў з сабой чамусьці два пачкі цыгарэт замест аднаго.

Мы ішлі ўтрох ад Першамайскай да стэлы, вуліцы былі падазрона пустымі, і я левым вокам пачаў вылоўліваць нейкіх мужыкоў у арках дамоў. Гэта потым іх „ціхарамі“ назавуць, а тады гэта былі проста нейкія хлопцы з аднолькава напружанымі тварамі.

Калі ўбачыў шэраг вайскоўцаў, усё стала на свае месцы. Дамовіліся зь сябрамі, што, калі яны рушаць, бяжым уроссып. Ідзе каманда: „Наперад!“ — шэраг праходзіць мэтраў 50 і спыняецца. Усе ўцякаюць, а ў мяне нейкі ступар у галаве. Я проста запальваю цыгарэту і стаю. Паняцьця ня маю, што на мяне найшло.

Нейкі хлопец сьвядомы, гадоў дваццаці, схапіў мяне за локаць і паспрабаваў пацягнуць, але я застаўся. Зноў каманда „Наперад!“ — яшчэ 50 мэтраў. Калі ад мяне да шэрагу засталося мэтраў сем, я зразумеў, што ўцякаць ужо позна ў прынцыпе. Хтосьці, напэўна камандзір, крыкнуў мне: „Валі нах... адсюль!“

Былі б мы ў кіно, я, мабыць, павінен быў прамовіць у адказ якую-небудзь патасную фразу і памерці як герой. Я пагледзеў, што ні ў кога з вайскоўцаў няма ні пагонаў, ні нейкіх апазнавальных знакаў у прынцыпе, і чамусьці спытаў: „Камандзір, а вы ў якім званьні? Я таксама служыў і таксама даваў прысягу“. — „Так, гэты, па ходу, у аўтазак хоча!“

Двое мяне заламалі, і яшчэ сем чалавек скінуліся па ўдары. Калі білі, было не балюча: відаць, ад адрэналіну. Прасіў, каб ня скручвалі рукі: маўляў, усё нармальна, я і так пайду. Скруцілі і ўвалілі яшчэ мацней. Па нагах, па азадку, пад дых.

Закінулі ў нейкі аўтобус. Наколькі я зразумеў, гэта быў іх службовы транспарт з амуніцыяй. Убачыў там нейкую штуку, падобную да гранатамёта. Як потым патлумачылі, гэтай фігнёй стралялі ў натоўп — гэта былі несьмяротныя гранаты з гумавым шротам унутры.

Нейкі хлопец закрычаў: „Што ж вы з намі, як з быдлам нейкім?“ Яму адразу ж прыляцела дубінкай у твар. З нашага аўтобуса яго білі больш за ўсіх.

Потым нас закінулі ў аўтазак, дзе людзей ужо было шмат, даводзілася літаральна сядзець адно на адным. Я ўпаў на нейкага хлопца. Кажу яму: „Прабач, братка, па-іншаму ніяк...“ — „Ды нармальна — усе ў адной лодцы. Затое па табе дубінкай больш пападаць будуць“. Нармальны, з гумарам такі чувак трапіўся.

Сядзелі мы так доўга, і пэрыядычна нас трохі білі, каб не расслабляліся. Выслухоўвалі ўсе гэтыя: „Што ж вам, сукі, не жылося нармальна! Пераменаў яны захацелі — вось вам перамены!“ Пераконвалі, што ў нас ёсьць нейкія каардынатары, якія самі сядзяць зь півам дома, а нас праплацілі і пад кулі пусьцілі. Адзін зь мянтоў — самы, дарэчы, адэкватны — сказаў наступнае: „Хлопцы, мы яшчэ з вамі адсоткаў на 10 працуем ад таго, што мы можам зрабіць. Мы яшчэ вас абараняем, так што можаце «дзякуй» сказаць. Амон бы з вамі не цырымоніўся“.

І сапраўды, як я потым зразумеў, мне пашанцавала, што гэта былі ўнутраныя войскі — яны не такія азьвярэлыя. Калі нас пачалі пераганяць у іншы, амонаўскі, аўтазак, мы адчулі гэтую розьніцу. Тыя ўжо білі ўсіх: і дзяўчат, і ляжачых. І

атрымлівалі, здаецца, ад гэтага задавальненьне. Як быццам іх вельмі моцна раззлавалі і надоўга зафіксавалі гэты стан.

У новай машыне нас зачынілі, і мы проста сядзелі ўсярэдзіне. Нам трапіўся вельмі добры кіроўца. Ён прынёс нам папіць і ня выдаў, калі ў аднаго з затрыманых зазваніў тэлефон і на званку зайграла „Перамен“. Мы аж у падлогу ўціснуліся — думалі, ну ўсё, зараз нас заб'юць. Не, ніхто не прыбег. Хтосьці дастаў пляшку, дзе было 200 грамаў каньяку. Забілі на каранавірус і раскацілі на чацьвярых, каб ня так страшна было.

У пастарунак нас не павезьлі — адразу на Акрэсьціна. Там у камэру на чатырох набілі 24 чалавекі. Накармілі толькі ў канцы другога дня. Біць білі, але рэдка і, хутчэй, для галачкі. Мацней за ўсё даставалася хлопцам, якіх злавілі ў ноч з 10 на 11. Я тады ня спаў наогул — стогны затрыманых было чуваць да раніцы. Так чалавек крычаць можа толькі ў агоніі. Словамі гэта не перадаць.

У наша акно можна было ўбачыць кавалак унутранага двара і месца, дзе заяжджаюць аўтазакі. У гэтую ноч мы налічылі іх штук 20, а потым ужо перасталі лічыць. На вуліцы выбухі, крык, у калідоры размовы амонаўцаў у стылі: „Так, у гэтага галава прабітая, а ў гэтага — адкрыты пералом нагі. Што рабіць будзем?“

Вішанькай на торце, якая дадала адчуваньне нейкага наркатычнага трызьненьня ад таго, што адбываецца, сталі дзьве жанчыны, работніцы ЦІП, якія выйшлі за вароты, каб пакурыць цыгарэтку, пасьмяяцца і абмеркаваць свае надзённыя пытаньні. За 10 мэтраў ад іх за мурам забіваюць людзей, а яны абмяркоўваюць адпачынак у Турэччыне.

З намі ў камэры сядзеў бывалы мужычок, увесь такі ў наколках. Ён увесь час паўтараў, маўляў, усё нармальна, пацаны, пасьля заканчэньня 72 гадзін яны павінны нас адпусьціць. І, калі трэція суткі ўжо падыходзілі да канца, мы рэальна падняліся ўсёй камэрай, пачалі грукаць у дзьверы і патрабаваць, каб нас выпусьцілі. Адкрылася кармушка, і „смотрящий“ сказаў нам геніяльную рэч: „Вас жа незаконна ўсіх затрымалі, так?“ — „Ну, так...“ — „Значыць, і седзіце вы тут незаконна, зразумела?“

Кармушка зачынілiся. Наступны раз, калі мы пачалі шумець, у гэтае акенца проста пырснулі пярцовым балёнчыкам. Прычым трымалі дзесьці сэкунду-паўтары.

Дыхаць было немагчыма. Я здагадаўся намачыць футболку ў ракавіне і наматаць на твар — стала крышку лягчэй. Гаварыць я ня мог, але паказаў хлопцам жэстамі, і яны зрабілі тое самае. Горш за ўсё прыйшлося нашаму „сядзеламу“ мужычку — ладная частка зьмесьціва балёнчыка трапіла яму проста ў твар. Ён скурчыўся, пачырванеў, пачаў задыхацца. У камэры і так было, як у лазьні, а цяпер дыхаць стала яшчэ і фізычна балюча. Я думаў, што мы капыты адкінем усёй камэрай.

На судзе сядзелі дзяўчаты гадоў па 20, толькі пасьля юрфаку, хутчэй за ўсё. Ім быццам і шкада нас, але пішуць, што сказалі. Каму 15 сутак, каму 10. Мы ўжо былі гатовыя да таго, што раней за тэрмін ня выйдзем. Тое, што нас раптам пачалі вызваляць, было поўнай нечаканасьцю.

Больш за тое, я ўвогуле не чакаў, што народ выйшаў на мірныя пратэсты і ў горадзе нейкі пазытыўны варушняк адбываецца. Мы бачылі толькі выбухі і аўтазакі ў шчылінку ў вакне, таму

былі ўжо ўпэўненыя, што ўсіх пабілі, запалохалі і пратэст згарнуўся.

Калі я выйшаў за вароты і ўбачыў столькі людзей, пачаў усьміхацца ва ўсю пашчу. Да гэтага часу з гэтых фота ўсе рагочуць: вакол усе бітыя, спалоханыя, а я як з курорту вярнуўся. Папраўдзе ў мяне заўсёды такая рэакцыя, калі сяброў бачу, а тут я пагатоў быў нерэальна шчасьлівы.

Зьяжджаць пакуль нікуды не пляную. У нядзелю быў на маршы, нягледзячы на забарону, — гэта было проста сьвята нейкае. Рады ўжо хаця б таму, што больш нічога не выбухае і нікога не затрымліваюць. Спадзяюся, што далей будзе толькі лепш.

## „Выклікі «хуткай» у тым раёне перахоплівала міліцыя“

*Дзіма, 37 гадоў, Менск:*

— 9 жніўня мы стаялі даволі далёка ад стэлы — на горцы праз дарогу. Потым людзі пачалі ўцякаць — амон пайшоў на іх. Спачатку мы ўцякалі ў адзін бок, потым у другі. Калі я бег, вельмі моцна падвярнуў нагу. Сланец парваўся, я зьняў і выкінуў абутак.

Потым пачалася страляніна, паляцелі сьвятлашумавыя гранаты, пусьцілі газ. Вакол дым, выбухі, крыкі, амон хапаў усіх запар, ужо нічога нельга было разабраць. Усе кінуліся ўроссып. У той момант я згубіў з вачэй жонку. Зваліўся ў нейкія кусты, прыціснуўся да зямлі. Побач ляжалі яшчэ людзі. Зусім блізка стаялі амонаўцы, але яны нас

не заўважылі — было ўжо цёмна, мы паводзілі сябе вельмі ціха.

Калі ўсё больш-менш сьціхла, я выйшаў і зразумеў, што жонку ўжо не знайду. У яе застаўся мой тэлефон. У мяне ў кішэні былі толькі цыгарэты і трохі грошай. Я пайшоў у суседнюю краму. Ледзь дашкандыбаў — нага жудасна балела, моцна распухла. Там папрасіў ахоўніка выклікаць мне „хуткую" і стаў чакаць.

Праз 15 хвілін ахоўнік назваў мае імя і прозьвішча, сказаў, што прыехалі да мяне. Я выходжу, стаіць аўтазак, амонавец кажа: „Заходзь". Я яму: „Я «хуткую» чакаю, нагу перабіў моцна". Ён: „Мы ў курсе, заходзь". Я разумею, што ўжо нікуды не падзенуся. Уцячы я не магу — я ледзьве хаджу. Кажу: „Ну вы хоць папярэдзьце «хуткую», каб ня ехалі па мяне". Ён спакойна адказаў: „Усе ўжо ў курсе". Ня ведаю, як так выйшла. Потым мне расказвалі, што выклікі „хуткай" у тым раёне перахоплівала міліцыя.

Мяне пасадзілі, амонавец сеў насупраць, стаў распранацца. Я кажу: „Будзеш мяне біць?" Ён сказаў, што пальцам не кране. І праўда, проста ехалі. Потым мяне перасадзілі ў іншы аўтазак са словамі: „Акуратна зь ім, у яго нага баліць". Потым з другога мяне перасадзілі ў трэці аўтазак. Там таксама было нармальна, толькі вельмі цесна: ён разьлічаны на 10 чалавек, а нас там было чалавек 40. Я заходзіў апошнім.

Нас прывезьлі на месца. Кожнага хапалі, галаву ўніз, рукі за плечы, бягом да сьцяны. Усе гэтыя людзі былі ў масках, у іх ува ўсіх былі перавернутыя пагоны. Я кажу, нага баліць — яны б'юць па

гэтай назе дубінкамі. Білі і іншых, абыходзіліся, як з жывёламі. Сэрца калацілася шалёна.

У двары чакалі чатыры гадзіны. Увесь гэты час стаялі на каленях, галава ў зямлю, рукі ззаду. Варушыцца, глядзець у бок, гаварыць нельга — адразу б'юць. Білі і без нагоды.

У мяне была белая стужка на руцэ. Як толькі яе ўбачыў адзін зь іх, стаў біць. Потым мне ўдалося яе сарваць і выкінуць, інакш ня ведаю, у якім стане я быў бы цяпер.

Адзін зь іх, як толькі ўбачыў, што ў мяне апухлая нага, адразу даў па ёй берцам. Боль пякельны. Але крычаць нельга, інакш будуць біць мацней. Хаця ўсё роўна білі па назе: дубінкамі, берцамі, нагамі, ім бяз розьніцы. Мне было вельмі балюча стаяць так доўга на каленях, я паспрабаваў нагу паставіць крыху па-іншаму. Адзін зь іх гэта заўважыў, схапіў мяне, паставіў на расьцяжку. Гэта калі ногі максымальна шырока, рукі ўгору. Так стала нашмат больш балюча. Ня ведаю, як, але я стаяў. Там ператрываеш усё, абы ня білі.

Потым нас сталі выклікаць у памяшканьне. Зноў галава долу, рукі за сьпіну, бегма. Я кажу: „Я не магу бегчы". Яны: „Хутчэй, жывёлы, кончаныя, паскудзь" — і лупцуюць. Я кажу, не магу. Яны мяне ўдвох хапаюць, я падаю, яны мяне б'юць, падымаюць, запіхваюць у памяшканьне, з нагі б'юць.

Першыя суткі ў камэры амаль усе маўчалі. Я спрабаваў зразумець, што наогул здарылася. Вось я быў у рэстаране, гуляў з жонкай і сябрамі, а потым нейкія выбухі, мяне схапілі, кудысьці прывезьлі, б'юць, нага баліць пякельна, распухла. Што такое? Хіба вайна пачалася? Дзе я? Я тут буду сядзець гады? Дзе мая жонка? Што зь ёй?

Дзень памаўчалі, потым паволі сталі размаўляць. У камэры былі нармальныя хлопцы, розныя. Хто ў бары працуе, хто айцішнік, хто вагоны рамантуе. Усіх па-рознаму забралі, шмат каго наогул выпадкова: з машыны выцягнулі, з крамы, з матацыкла зьнялі. Адзін хлопец прыехаў у ЛПП забраць сваяка, а яго асталі з машыны і забралі. Быў з намі зусім хлопчык, 2000 году нараджэньня. Мне 37 гадоў, я жыцьцё ўжо бачыў, і то складана было, а гэты хлопчык — яму як?

Стан мяняўся. Рэжым „выжыць“ зьмяніў страх, каб ня білі. Наша камэра была на першым паверсе, міма яе ўсіх вялі. Стагналі і крычалі мужчыны, у асноўным па начах. І гэтыя ўсе — мацюкамі. Усё праз мацюкі, адны маты. Адкуль у іх столькі нянавісьці, не разумею. Дзе яны яе ўзялі? Калі чуеш жаночыя крыкі, наогул немагчыма. І яны на жанчын: „Ты, шлюха, алкашка, кончаная, поскудзь“.

Нам пашанцавала, нас ня білі больш. Хаця мы і падстаў не давалі. Там ёсьць званок. Сказалі званіць, толькі калі пажар альбо хтосьці памёр. Ня стукаць, не чапаць нікога. Інакш — усё. Мы не чапалі. Потым мне расказвалі: хтосьці прасіў ежы, пабілі ўсіх. Хтосьці прасіў „хуткую“, яго таксама зьбілі на горкі яблык.

Мая апухлая нага балела страшна, але я трываў. Калі станавілася наогул невыносна, ішоў да ўмывальніка, яе пад халодную ваду падстаўляў, станавілася лягчэй. Быў у камэры „сябар па няшчасьці“, яму яшчэ менш пашанцавала — у яго абедзьве нагі былі пашкоджаныя, апухлі, балелі. У нейкі момант ён стаў крычаць, што траціць прытомнасьць. Мы пачалі грукаць, прасіць лекара. Нам адказалі: „Пастукаеш яшчэ раз, вылечым тут

усіх“. Больш ня грукалі: узялі ягоную байку, мачылі халоднай вадой, ставілі такія кампрэсы. Мы зь ім падтрымлівалі адзін аднаго да канца. Спадзяюся, ён запомніў, як мяне завуць, і знойдзе мяне. Таму што я ня памятаю ніводнага імя, ня кажучы ўжо аб прозьвішчах.

Нас не кармілі ўвогуле тры дні. Я не асабліва хацеў есьці, піў ваду, хоць яна была страшна сьмярдзючая. Былі хлопцы, якія казалі, што галодныя. На другі дзень мы спыталіся пра ежу. Яны сталі зьдзекавацца: „Заказвайце. Вам піцу ці гамбургеры? Зараз пазваню Ціханоўскай, прывязе“. На трэці дзень нам далі шэсьць боханаў хлеба, кашы і халоднай гарбаты. Гэты хлеб — цаглінамі, бяз смаку — здаўся мне найлепшай ежай у сьвеце. Чатыры боханы мы зьелі, а два пакінулі на „чорны дзень“.

І нездарма пакінулі. На наступны дзень да нас прывялі яшчэ 10 чалавек. Яны расказалі, што двое сутак правялі ў „загоне“ пад адкрытым небам, іх там было 90. Абсалютна голыя. Наша камэра, дзе ёсьць вада і туалет, для іх здалася раем. У іх гэтага не было, а калі прасілі вады, іх проста аблівалі халоднай вадой. Па начах ім было холадна, яны абдымалі адзін аднаго, каб ня зьмерзнуць. Потым пайшоў дождж, іх разьмеркавалі па камэрах. Мы далі ім той хлеб, які адклалі.

Але для мяне самым цяжкім было чаканьне. Увесь час глядзіш на шчыліну пад дзьвярыма: як толькі бачыш там цень, думаеш, што гэта ідуць цябе выпускаць. Але не. Мы не разумелі, чаму нас трымаюць.

На чацьверты дзень быў суд. Зноў бягом, рукі за сьпіну, галава долу. Прыходзіш, там сядзіць судзь-

дзя. Падыходзіш да стала, за табой стаяць двое. Нельга нікуды глядзець, у зямлю глядзі. Справа ўжо на кожнага ёсьць. Птушачкамі пазначана, дзе расьпісацца. Былі людзі, якія прасілі азнаёміцца з тым, што там напісана, — іх білі. Тых, хто прасіў адваката, таксама білі. Судзьдзя мне: „Вы згодныя?“. Кажу: „Куды я падзенуся, вядома, згодны“.

Я паняцьця ня меў, з чым я згодны. Пасьпеў прачытаць, дзе і ў колькі мяне затрымалі. Наогул не супадала з праўдай. Былі там два сьведкі, якія нібыта прысутнічалі пры маім затрыманьні — яны былі сьведкамі ва ўсіх, каго судзілі разам са мной. Далі ручку, расьпісаўся хутка ў некалькіх месцах, куды мне паказалі. Усё, зноў бяжыш да сьцяны.

Судзьдзя паглядзела на маю нагу і дала мне 15 сутак. Можа, з разьлікам, што праз 15 сутак нага пройдзе.

Зноў у камэру, зноў сядзім. 15 сутак. Усё. Тут ужо ўсё. За што? З чаго яна бярэ гэтыя суткі? Як можна вытрываць тут 15 сутак? Настрой тады быў ніякі.

Пяць сутак я правёў на Акрэсьціна. На шосты дзень нас усіх вывелі з камэры. Зноў бягом у аўтазак. Мы з маім таварышам па няшчасьці — зь пераламанымі нагамі — удвух апошнія ішлі: я кульгаў, ён кульгаў. У мяне пару разоў спыталі, чаму басанож, што з нагой. Я казаў, што вывернуў нагу, абутак згубіў. Маўляў, сам вінаваты. Абавязкова толькі так. Пра тое, што па назе білі, нельга было гаварыць. Наогул нельга было казаць, што цябе тут білі. Ніхто нічога тут не рабіў. Інакш будуць яшчэ мацней біць.

Потым нас загрузілі ў аўтазак, надзелі кайданкі. Я змог у акенца ўбачыць, што адбываецца каля

Акрэсьціна. Гэтыя пяць дзён мы чулі крыкі „Дзякуй“; чулі, як выкрыквалі час. Гэта падтрымлівала. Але я думаў, што там чалавек 10-15. А калі ўбачыў сотні людзей, дрыжыкі па целе пайшлі. Гэта была такая магутная падтрымка. Я ўпершыню адчуў радасьць. Я ж думаў, што ўсё ўжо заціхла. Або што ўсіх пасадзілі, наогул усіх. А тут — столькі людзей.

Сярод крыкаў каля Акрэсьціна я пачуў: „Дзіма!“ Мне здалося, што гэта голас маёй жонкі. Радасьць такая была, што яна тут. Але нас там ехалі тры Дзімы, майму цёзку таксама здалося, што гэта ягоная жонка крычыць. Потым мне мая Аня сказала, што яна была там, яна крычала.

У аўтазаку з намі абыходзіліся добра. Мы спыталі: „Што з намі будуць рабіць? Нас зноў будуць біць?“. Сказалі, што ніхто нас не кране. Спыталі, хто кім працуе, хто дзе служыў. Калі выходзілі, гэтыя хлопцы, што нас везьлі, сказалі: „Трымайцеся, хлопцы. Прабачце“.

У Слуцкім ЛПП нас завялі ў вялікае памяшканьне, там стаяла 250 ложкаў. У кожнага быў свой ложак! Сказалі, што спаць можна пасьля 22:00, але, калі хто хоча, кладзіцеся. Наогул там было афігенна. Мы памыліся, была гарачая вада. На наступны дзень нам далі пасьцельную бялізну, кармілі тры разы, ня білі! Так было радасна.

Потым прывезьлі нейкую вопратку. Я ўзяў сабе кашулю — так цяплей. Увесь гэты час я праходзіў у лёгкай майцы і спартовых шортах. Адзін з маіх сукамэрнікаў увесь гэты час быў проста ў трусах, яшчэ адзін — з голым торсам. У апошні дзень мне прынесьлі шлёпкі. Сшылі іх проста там, адмыслова для мяне.

Потым нас ізноў усіх пашыхавалі, сталі зачытваць прозьвішчы, доўга-доўга гэта доўжылася. Зноў сказалі нешта падпісаць са словамі: „Падпісвайце, мне трэба вас выпусьціць“. Я ня ведаю, што я падпісаў. Мы кажам: „Растлумачце, што гэта за артыкул“. Ён кажа: „Я ня памятаю. У інтэрнэце пачытаеце. Тут інтэрнэт дрэнна ловіць“.

А потым адчынілі вялікія вароты — і выпусьцілі. Я зноў убачыў шмат-шмат людзей, якія чакалі нас каля выхаду. Прапаноўвалі гарбату, ваду, бутэрброды, цыгарэты, падвезьці. Зноў адчуў такі неймаверны ўздым, падтрымку людзей. Мая Аня была там, адразу мяне знайшла, падбегла да мяне, мы абняліся. І паехалі дадому.

На наступны дзень я пайшоў у паліклініку. Мне зрабілі рэнтген — нага зламаная, наклалі гіпс. Кажуць: „Як вы ходзіце?“ Я адказаў, што я ня толькі хадзіў, але і бегаў. Потым валянтэры дапамаглі скласьці скаргу на тых людзей, хто мяне біў. Пабоі не здымаў — іх не відаць. Калі нешта і было, то за тыдзень, які я правёў там, усё ўжо сышло. З працай усё нармальна. Я гандлюю на рынку, мяне замянялі калегі. Таму ўсё нармальна, на назе — гіпс, я дома.

Але адчуваў, што нешта ня тое. Я баяўся. Баяўся выходзіць на вуліцу. Толькі выйду, азіраюся, торгаюся. Я не разумею, за што я расьпісаўся. Там магло быць што заўгодна напісана. Можа, якая крымінальная справа. Можа, за мной яшчэ прыйдуць. Я ня ведаю, чаго чакаць. Я зразумеў: псыхалягічна мяне забілі адразу, а потым на Акрэсьціна дабілі.

Спаць ня мог. Хадзіў, хадзіў, каб неяк расслабіцца. Каб заснуць, піў крыху сьпіртнога. На трэцюю

ноч ішоў дождж. Мне здавалася, што тысячы людзей стаяць пад акном і крычаць нешта. Што гэта не маланкі за акном, а хтосьці кідае сьвятлашумавыя гранаты; што гэта ня гром, а выбухі. Я рэальна чуў крыкі людзей, я бачыў гэтыя выбухі. Хоць галавой разумеў, што гэта проста навальніца.

Празь дзень я прыйшоў у паліклініку і даведаўся, што маю картку згубілі. Я напружыўся. Пару дзён таму я быў тут, а цяпер раптам згубілі картку. У паліклініку больш не пайшоў.

Праз пару гадзін мне патэлефанавалі валянтэры, запісалі да доктара ў „Ладэ“, накіравалі да псыхоляга. Усё зрабілі, сказалі, куды і ў колькі прыходзіць. У „Ладэ“ гіпс перарабілі, сказалі, што ў паліклініцы мне яго дрэнна наклалі. Яшчэ шэсьць тыдняў буду хадзіць, потым рэабілітацыя.

Добра, што нас ня кінулі людзі. Я хвалююся, што далей будзе, але падтрымка дапамагае.

## „Проста ў грудзі прыляцела граната“

*Аліна, жонка 30-гадовага Рамана:*

— 9 жніўня ён пайшоў на мітынг са сваімі сябрамі, а раніцай апынуўся ў рэанімацыі. Проста ў грудзі прыляцела сьвятлашумавая граната, а яе аскепак праціў скуру і моцна зачапіў лёгкае. На шчасьце, цяпер Раман ужо ачуўся і настроены на папраўку.

Усе папярэднія дні я была побач з мужам у Менску. Цяпер прыйшлося на некалькі дзён зьехаць дадому, у Горкі. Тое, што Раман прыйшоў у прытомнасьць, лекары называюць цудам.

Са словаў мэдыкаў, яго стан здавальняючы. Рома ўжо можа есьці, крыху гаворыць і сядзіць. Нам давалі мінімальны шанец на ацаленьне.

Мы жывем у Горках, але ў сталіцы Рома зарэгістраваны як ІП, тут ён працуе. Таму цалкам лягічна, што ён мог апынуцца на вячэрнім мітынгу ў Менску. Разам зь сябрамі ён вырашыў выйсьці на мірны пратэст і паглядзець, што адбываецца на вуліцах.

Ён быў далёка ў натоўпе — дакладна не наперадзе ўсіх. Калі да людзей пачалі падвозіць вадамёты, ён зразумеў, што пара сыходзіць. Рушыў наперад, каб забраць сваіх таварышаў. У гэты момант яму ў грудзі прыляцела сьвятлашумавая граната.

Рому экстрана шпіталізавалі, зрабілі апэрацыю і паклалі на ШВЛ. Да таго ж аказалася, што яму разарвала фалангі двух пальцаў на руцэ, а сам ён атрымаў чэрапна-мазгавую траўму другой ступені.

Ірваныя раны яму ўжо зашылі, апёкі загояцца — ёсьць магчымасьць усё гэта выправіць хірургічна. Самае балючае пытаньне датычыць лёгкага: яго вельмі моцна закранула. Цяпер на грудзях у Ромы дзіркі, яны не зарастуць, яму давядзецца рабіць перасадку скуры.

Пра тое, што ён паранены і знаходзіцца ў вайсковым шпіталі, я даведалася ад сястры з Чэхіі. Інтэрнэт у Беларусі не працаваў, і мне расказалі па тэлефоне. Сястра ўбачыла фатаздымак Ромы ў сацсетках. Яна да канца не была ўпэўненая, што гэта ён, — спадзявалася, што на здымку нехта іншы. Спытала ў мяне, дзе Рома. Я сказала, што ён плянаваў быць дома. Яна ж дадала, што ў

камэнтарах ужо пачалі пісаць: на фота — Раман Зайцаў. Пад фота былі згаданыя кантакты лякарні. Я набрала нумар — і мне пацьвердзілі: муж знаходзіцца на апэрацыі.

Пакуль Раман быў у рэанімацыі, нікога са саякоў да яго не пускалі. У мяне быў абсалютны шок і нявера ў тое, што адбылося.

Разумееце, у нас двое дзяцей: сыну пяць, а дачцэ няма і годзіка, і ў мяне нават не было сіл імі займацца. Я ня бачыла ўсе гэтыя фатаздымкі і не магла паверыць, што гэта адбылося з намі. Незнаёмыя людзі адразу сталі прапаноўваць нам збор грошай, а я проста хацела, каб нас не чапалі, пакуль ня высьветліцца сытуацыя. Мне здавалася, што сьвет паваліўся і сэнсу існаваць ужо няма. Так, нават нягледзячы на тое, што ў мяне двое дзяцей.

Калі Раману стала лепш і ён змог расплюшчыць вочы, яго перавялі ў хірургію. На наступны дзень ён папрасіў тэлефон і сам патэлефанаваў мне. Ён вельмі ціха і слаба казаў. Сказаў: „Здароў, гэта я“. Вельмі перажывае за нас, паўтарае, што вельмі нас любіць. Ну ён жа не вінаваты, што ўсё так атрымалася... Рома пайшоў, як і іншыя людзі, на мірны мітынг — пасьвяціць ліхтарыкам і выказаць сваю пазыцыю. Ніхто ня ведаў, што гэтая акалічнасьць пераверне ўсё наша жыцьцё.

Сёньня я стэлефанавалася з доктарам, які яго лечыць, але мне нічога выразнага не паведамілі. Людзі працягваюць зьбіраць нам грошы на рэабілітацыю. Зразумела, што пад гэтым словам маюцца на ўвазе ня простыя фізпрацэдуры. У нас будзе вельмі доўгі шлях аднаўленьня — хлопец малады, яму трэба жыць і ўтрымліваць сям’ю.

Разумееце, я сем гадоў проста жыла „за мужам“ — нават самыя элемэнтарныя пытаньні вырашаў ён.

Дагэтуль не разумею, чаму супраць натоўпу было вырашана ўжыць сьвятлашумавыя гранаты. Так робяць толькі ў вайну: „Ну падумаеш, пару чалавек пацярпелі“. А як далей будзе жыць гэты чалавек і яго сям'я, нікога не хвалюе. Але ж так быць не павінна! Калі я вяртаюся дадому з палаты Рамана, мяне вельмі моцна накрывае. Я плачу, зьбіраю волю ў кулак і іду далей. А што яшчэ мне застаецца рабіць?

## „Я стопрацэнтна сьцьвярджаю, што ўся гэтая жорсткасьць плянавалася“

*Аляксей, праграміст, Менск:*

— 9 жніўня ў раёне 6-7 вечара я выехаў з Уручча, дзе жыву, на адрас, дзе я зарэгістраваны, у раёне Інстытуту культуры, каб прагаласаваць. Я прыехаў на ўчастак №54 на вуліцы Артылерыстаў, гэта інтэрнат пэдагагічнага ўнівэрсытэту. Прагаласаваў і чакаў выніковага пратаколу. Недзе каля 9 вечара яго вывесілі і я сфатаграфаваў. Там была перамога дзейнага прэзыдэнта зь вялікай перевагай. Хоць на маім участку я бачыў, што ўся шкляная тумба была проста засыпаная бюлетэнямі, складзенымі гармонікам. Мяне гэта моцна ўразіла: як так можа быць?

У пачатку 10-й я рушыў дадому. Выйшаў на плошчу Мясьнікова, там дзе Дом фота. На вуліцы Савецкай стаяла вайсковая тэхніка, грузавікі, у якіх сядзелі салдаты. Калі я выйшаў на Гарадзкі

Вал, Раманаўскую Слабаду, я там убачыў нешта накшталт ваенных дзеяньняў. Уяўлялася, што ідзе нейкі захоп, спэцапэрацыя дзеля захопу, я ня ведаю, бандфармаваньняў ці нечага такога.

А на самым скрыжаваньні стаяў амон са шчытамі. І, калі шчыты рассоўваліся пасярэдзіне, адтуль выбягалі іншыя амонаўцы, ужо ня так моцна экіпаваныя, і за тры мэтры ад сваёй шчытавой загароды раскладвалі свае ці то гранаты, ці то фаервэркі. Тыя шумелі, круціліся, сьвяціліся і потым выбухалі. І была такая дымавуха. Дыму рабілася ўсё больш і больш. Людзі скандавалі, і я ня бачыў, каб нехта там кідаўся камянямі, выкочваў сьметніцы. То бок ніякіх барыкад з боку мітынгоўцаў не было.

Праз нейкі час амон стаў ужо не выкладваць гэтыя гранаты, а кідаць у натоўп. Яны сталі ўзрывацца проста пасярод мітынгоўцаў. Было вельмі шмат дыму, таму мой кругагляд складаў 20-40 мэтраў. І я ўбачыў людзей, якія ляжаць на траве. Адзін мужчына гадоў 45-50 ляжаў на траве, і ў яго была цалкам разарваная майка ці кашуля, і рваныя раны былі на грудзях, яны крывавілі. І людзі зьбегліся, рвалі зь сябе майкі, каб накрыць гэтыя раны.

А за тры мэтры ляжала яшчэ дзяўчына, яна не падавала ніякіх прыкметаў жыцьця. Можа быць, яна страціла прытомнасьць ад гэтага шуму. У яе былі разарваныя джынсы, штаніна, і відаць былі рваныя раны, кроў. Твары ў людзей былі разьбітыя, мабыць, траплялі аскепкі ад гэтага ўсяго. І я толькі сёньня, праз нейкі час, стаў усьведамляць, што мне, відаць, вельмі пашанцавала, бо мяне нішто не закранула.

Далей вайскоўцы станавіліся на адно калена, бралі вінтоўкі, прыкладвалі іх да пляча і пачалі страляць у людзей. Людзі пабеглі ў сквэр Адама Міцкевіча хавацца. І было відаць, што вось трапляе куля ў чалавека, яна яго зьбівае з ног. Чалавек падае і спрабуе далей адпаўзаць.

Пазьней я даведаўся, што ўжываць гумовыя кулі дазволена толькі па нагах, руках. Але яны мэтанакіравана... Ужо на Акрэсьціна я бачыў кулі ў сьпінах, у жыватах, і я разумеў, што гэта рабілася сьвядома.

Ад сполаху я зразумеў, што ісьці назад на плошчу Мясьнікова я не магу, бо спыніліся гэтыя бусы, мікрааўтобусы. І атрымліваецца, што за мной таксама — гэты сквэр Адама Міцкевіча. І я забег, а там сьцены, вельмі высокія, Валадарка. Я бачыў, як людзі ад моцнага страху спрабавалі залезьці на сьцяну, бо ня ведалі, як схавацца.

А чаму я стаў хавацца — бо запусьцілі пярцовы газ і я адчуў, што пачынаю задыхацца і траціць прытомнасьць. Я проста ўпаў у траву, адпоўз у бэзавы куст, скруціўся абаранкам. Я разумеў, што тут два варыянты: знойдуць ці ня знойдуць.

Празь нейкі час тыя вайскоўцы ўзялі ліхтарыкі. Гэта нагадвала нешта зь фільмаў пра Другую сусьветную вайну, як працавала гестапа, СС і падобныя. Яны пайшлі ўсярэдзіну сквэру. Гэта была жудасная карціна, бо яны зь ліхтарыкамі выгледжвалі і вылоўлівалі людзей, якія там схаваліся.

Я ляжаў у траве і чуў, як білі чалавека, вельмі моцна білі. І пасьля, я так разумею, ён ужо ня мог ісьці і яны яго валаклі. Берцы, я ляжу ў траве, і берцы за паўтара мэтра ідуць міма мяне, і ногі

чалавека проста цягнуцца. Яны крычалі: „Мы вас пераб’ём, усіх змагароў!“

Мінуў нейкі час, і наступіла цішыня. І я стаў бачыць, што нейкія цені мільгаюць. Значыць, апроч мяне, былі яшчэ людзі, якія змаглі неяк схавацца. Бо гэта жудасная карціна была. Недзе ламіліся ў дзьверы кавярні, недзе званілі ў дамафон — усё, каб неяк схавацца.

Я вырашыў, што буду заставацца да самай раніцы. Але людзі сказалі, што тыя вернуцца і будуць рабіць зачысткі. Таму трэба сыходзіць. Я набраўся сьмеласьці, устаў, абтрос вопратку.

Крыкі мітынгоўцаў былі чуваць з боку Нямігі. Таму я не адважыўся туды ісьці і вырашыў ісьці вуліцаю Валадарскага наверх, да праспэкту. Якое было маё зьдзіўленьне, калі я выйшаў да галоўпаштамту, а там яшчэ разоў у дзесяць болей амону. Я ад страху палез у заплечнік, дастаў нейкія дакумэнты, паперы свае і зрабіў выгляд, што я іх разглядаю. Зьняў зь сябе байку, каб не даваць ніякага сыгналу, што ў мяне прыкрыты твар ці нешта яшчэ. Я, наадварот, пастараўся цалкам разьняволіцца. Я нават наўмысна падышоў да міліцэйскага патруля і спытаўся, як мне быць у гэтай сытуацыі, ці магу я неяк выехаць у бок Уручча. Ён мне сказаў: рухайцеся ўздоўж праспэкту і там зможаце недзе ўзяць таксі.

І я спакойна рухаўся ад галоўпаштамта да самага цырка. Я іду ўздоўж праспэкту, вельмі шмат аўтазакаў туды-сюды езьдзіць. Увесь праспэкт быў разрэзаны на такія кавалкі — праз кожныя 200 мэтраў стаяў амон, ад аднаго боку пераразаў праспэкт да другога. І я праходзіў праз іх. Яны расступаліся, і я ішоў далей. І вось ужо калі

я спусьціўся да скрыжаваньня Янкі Купалы і Незалежнасьці, там стаяў жоўты грамадзкі аўтобус і таксама была амонаўская загарода, я падышоў да міліцыянта і сказаў, што мне трэба ехаць у бок Уручча, не магу злавіць таксі, інтэрнэту няма. На што ён мне сказаў, што табе далей ужо нікуды ехаць ня трэба. І ўсё. Мяне пасадзілі ў жоўты аўтобус.

Там былі яшчэ іншыя людзі, у іх былі зьвязаныя рукі. Мне рук ня зьвязвалі. Яны пыталіся, ці ёсьць іншаземцы? І я асабіста чуў, што быў грамадзянін Турэччыны, грамадзянін Швайцарыі і яшчэ адзін Расейскай Фэдэрацыі.

Быў я там усяго пяць хвілін, бо да жоўтага аўтобуса пад'ехаў аўтазак. І яны сказалі: перабягайце ў аўтазак, прычым хутка. Бо кожная замінка — і адразу пачыналася дубіна. Я зразумеў, што ўжо ніхто ня будзе тлумачыць, пры якіх абставінах затрымалі. Размаўляць ня варта ўвогуле. Я зразумеў, што трэба выконваць тое, што табе кажуць. Таму я хутка забег у аўтазак. Яны спрабавалі мяне закінуць, але я пастараўся самастойна забегчы. Аўтазак уяўляў зь сябе, як многія ведаюць, вось гэтыя „стаканы“. Мяне кінулі ў адзін са „стаканаў“, нас было чатыры чалавекі, два нашы хлопцы і грамадзянін Турцыі. Сесьці там усім немагчыма, таму адзін сядзеў, а трое стаялі.

Аўтазак пачаў рухацца праз пяць-дзесяць хвілін. У праходзе ляжала дзяўчына, бо я чуў жаночыя галасы. Яны яе білі нагамі і казалі такія рэчы, што „мы цябе пусьцім па кругу“. Пасьля яны сказалі, што мы цяпер будзем забаўляцца, гэта было чуваць. Яны самі надзелі адгазьнікі, я так разумею, і пусьцілі газ.

Аўтазак паехаў, мы пачалі задыхацца. А са мной у гэтым „стакане“ ехаў хлопец, у яго былі зламаныя рукі. Таму ён ня мог ні стаяць, ні неяк трымацца. Таму мы яго бралі за плечы, каб неяк зафіксаваць, бо аўтазак машына вялікая і, калі там на дарозе „ляжачы паліцэйскі“, яна моцна трасецца.

Мы пачалі шукаць нейкія шчылінкі, дзірачкі, бо машына едзе і вецер, мы яго хапалі, каб хоць неяк дыхаць.

На Акрэсьціна адчыніўся аўтазак і пражэктары такія яркія-яркія былі. І яны зрабілі „калідор“ з амонаўцаў і сабак ад аўтазака да сьцяны. Сабакі брахалі вельмі моцна і станавіліся на заднія лапы. Нам трэба было нахіліцца, рукі за сьпінай, і бегчы да гэтай сьцяны.

Прыблізна гэта 20-30 мэтраў. І вось калі ты бяжыш, бачыш гэтае лясканьне зубоў, і праз аднаго ляцяць дубінкі, цябе б’юць у гэты момант. Да сьцяны трэба было вельмі хутка ўстаць на калені. Зь мяне зьдзерлі байку. Байку кінулі ў такі вазок, як у крамах, туды згружалі ўсе рэчы.

Мы сталі на калені, рукі трэба было падняць угору. Яны адразу спыталі, ці ёсьць іншаземцы? І вось гэтага турка, ён стаяў справа ад мяне, яны яго за каршэнь і адцягнулі.

Кожныя 10-15 хвілін прыяжджалі машыны, выгружалі людзей. Таму нам трэба было рухацца ўздоўж сьцяны вельмі хутка. У мужчыны зьлева ад мяне пачалася гістэрыка, ён плакаў, ня мог супакоіцца, і за гэта яго білі. Многія гублялі сланцы, і відаць было, што людзі там хто без абутку, хто бяз майкі, хто ў адных трусах стаялі. І калі мы рухаліся ўздоўж гэтай сьцяны, на сьцяне відаць

былі плямы крыві. У людзей былі расьсечаныя галовы, насы.

Я стопрацэнтна сьцьвярджаю, што ўся гэтая жорсткасьць, якая была, яна плянавалася. Бо калі мы стаялі каля сьцяны, нам крычалі, што Ціханоўская зьехала, Цапкала зьехала. „Наглядзеліся сваіх тэлеграмаў? Мала свабоды? Мы вам гэтую свабоду пакажам". А я шчыра кажу, што тэлеграм-канал „Нехта" я ня ведаў. Даведаўся, толькі ўжо выйшаўшы з Жодзіна.

Я сам заканчваў юрыдычны факультэт БДУ, магістратуру і сам пісаў дысэртацыю на юрфаку і прадбачыў сваю добрую будучыню. Дысэртацыю пісаў пры навукова-дасьледчым цэнтры пракуратуры і хацеў далей ісьці ў пракуратуру, працаваць. Але заўсёды задаваўся пытаньнем, чаму на першым курсе ў першы сэмэстар паставілі канстытуцыйнае права. Мы яшчэ такія, ну разумееце — 11 кляса і першы курс адразу, яшчэ і не студэнты, так скажам. Ужо ў магістратуры я зразумеў, што самыя такія пытаньні, як абʼяўленьне імпічмэнту, перавыбраньне, перагляд, як уладкаваная судовая сыстэма, заканадаўчая, выканаўчая — гэта трэба „праехаць" вельмі хутка, каб не запаміналася, не высьпявала і гэтак далей. І з 2005 году ў мяне пазыцыя: я ня веру дзейнай уладзе, праваахоўныя органы так дзейнічаюць і дзейнічалі заўсёды.

З майго курсу, з майго патоку я ня ведаю ніводнага, хто працуе ў праваахоўных органах. Сваякі ёсьць. Але лёс аднаго сваяка закончыўся тым, што спачатку яму павесілі мэдаль у Палацы Незалежнасьці, а пасьля пасадзілі на два гады хатняга арышту. Ён у сьледчых працаваў.

Праведзена вялікая праца начальствам праваахоўных органаў. Бо ад амону было толькі адно пытаньне: „Колькі вам заплацілі, на каго вы працуеце?“ Адзін сказаў: „Нам яшчэ трэба вылавіць тры тысячы ўкраінцаў, якія бегаюць недзе там „па лясах, па балотах“. Гэта значыць, праваахоўныя органы і дзейная ўлада былі гатовыя, што выбары ідуць не паводле іх сцэнару. Улада разумела, што яна прайграе на гэтых выбарах, і таму рыхтаваліся ад самага пачатку да жорсткага задушэньня гэтых мітынгаў. Гэта цяпер у інфармацыйных крыніцах мы чытаем, што некаторыя супрацоўнікі праваахоўных органаў расказваюць, што яшчэ ў чэрвені іх рыхтавалі, расказвалі, што „прыйдуць новыя — і вас усіх павесяць на дрэвах“. Вывозілі ў палі, падпальвалі пакрышкі, дзялілі на сваіх і на „мітынгоўцаў“ і адпрацоўвалі гэта ўсё. Адпаведна, да 9–11 жніўня яны былі гатовыя.

Ці гатовы я дараваць? Павінны ўва мне быць нейкія трыгеры, каб я мог дараваць. Але я не знаходжу гэтага ў сабе. І калі я скажу, што гатовы дараваць, то я падману самога сябе. Я за тое, каб быў справядлівы суд; каб гэта не было масава, каб гэта было вельмі дыфэрэнцавана і тонка. Чаму? Бо калі нас перавозілі зь ЦІП на Акрэсьціна ў Жодзіна, адзін з амонаўцаў заступіўся за мяне. Таму што калі іншы амонавец даведаўся, што я праграміст (я, шчыра кажучы, не разумею, чаму яны ад гэтага зьвярэюць), ён мяне схапіў за шыю, пачаў біць у жывот, па вушах, па галаве. І другі амонавец яго адцягнуў.

## „Дабівацца параненага — апошняя стадыя нізасьці“

*Юры, доктар-рэаніматоляг шпіталя хуткай дапамогі:*

— Я дзяжурыў 9 жніўня, быў адказным доктарам па шпіталі. Брыгады хуткай дапамогі пачалі прывозіць увечары траўмаваных сьвятлашумавымі гранатамі. Мы чакалі большай колькасьці пацыентаў, але асноўны ўдар прыняў на сябе вайсковы шпіталь. І гэта правільна, бо мінна-выбуховая траўма, агнястрэлы — гэта іхны профіль. Адзінае, мы разумелі: калі будзе вельмі вялікая колькасьць пацярпелых, вайсковы шпіталь ня зможа ўсіх прыняць. Наш шпіталь усе гэтыя дні адпрацаваў з запасам, з рэзэрвам.

Усю інфармацыю атрымлівалі праз „вуснае радыё“, бо афіцыйнай інфармацыі не было — інтэрнэт вырубаўся, БТ верыць нельга. Асноўная інфармацыя, якая да нас прыходзіла, — менавіта ад брыгадаў хуткай дапамогі. Прыяжджалі „хуткія“, казалі: цяпер узрываюцца сьвятлашумавыя гранаты, нам трэба рыхтавацца да таго і таго; пусьцілі сьлезацечны газ — да іншага. Я хачу падзякаваць усім сваім калегам. 9-га ўсё аддзяленьне выйшла на працу, у наступныя дні таксама людзі тут начавалі, выходзілі не ў свае зьмены.

Здаецца, 11 жніўня „хуткім“ забаранілі прыяжджаць туды. Брыгады маглі выехаць на месца, у асяродкі супраціву, толькі на выклік міліцыі — 102. Іх туды не пускалі! Гэта нас вельмі моцна засмуціла, бо гэта баявая траўма: чым раней ты

акажаш дапамогу, тым больш шанцаў пацярпеламу выжыць.

Але адчаю не было. Я ведаю прыклады, як мае калегі-валянтэры проста надзявалі будаўнічыя каскі, матацыклетныя шлемы, бралі выявы чырвоных крыжоў і ішлі „на перадавую“. Пакавалі аптэчкі, бралі ўсё з сабой і ішлі дапамагаць проста на поле бою.

Але наступны этап — калі іх таксама ўзялі. Мой знаёмы казаў: „Прабач, але ў мяне людзей не засталося, нашых таксама забралі і адправілі на Акрэсьціна“. Дактароў-рэаніматолягаў, мэдсёстраў. У выніку аказалася, што людзі, якія знаходзяцца ў асяродках паражэньня, засталіся без мэдычнай дапамогі.

Паводле сусьветнай практыкі, у такой сытуацыі на дапамогу прыходзіць чырвоны крыж. Людзі падымаюць чырвоны крыж, і іх ніхто не чапае. Яны дапамагаюць абодвум процілеглым бакам. Так, могуць быць канфлікты, але людзей з чырвоным крыжам ніхто ня мае права кранаць. Параненых ніхто ня мае права дабіваць. Афіцыйны Чырвоны Крыж у нас — гэта крыху іншая гісторыя. Але валянтэры стараліся. Яны мне скідвалі здымкі, як проста пакідалі на месцах пеpакіс вадароду, перавязачны матэрыял, каб людзі маглі дапамагчы сабе ці перавязаць параненага.

Валянтэры яшчэ расказвалі, што іх білі амонаўцы. Валянтэраў з чырвоным крыжам! „«Я аказваю дапамогу» — удар дручком мне ў сьпіну і ўдар па тым чалавеку, якому я дапамагаю“, — казаў валянтэр. Дабіваць параненага — гэта ўжо апошняя стадыя нізасьці. Гэта сапраўды сьведчаньні зь першых вуснаў.

Нават вайскоўцы нашы рэдка з гэтым сутыкаюцца. Гэта няшчасныя выпадкі падчас вучэньняў. Ці пэтарды. Мы, шчыра кажучы, ведаем пра гэта тэарэтычна, але амаль не сутыкаліся на практыцы. Бо, як у гімне пяецца, „Мы, беларусы, мірныя людзі“. Калі Расея заўсёды з кімсьці ваюе — то Каўказ, то Крым, то Сырыя — то для нас гэта адзінкавыя выпадкі.

Калі спыніліся сутычкі на вуліцах, тысячы людзей кінулі за краты. І пачалі везьці людзей з Акрэсьціна, з пастарункаў. На іх было страшна глядзець — людзей тупа „адпрацоўвалі“. Калі прывозілі людзей са спалучанымі траўмамі — жывога месца на іх не было, падымаеш майку — а там месіва, усё сіняе, фарш. Спрабуеш хлопца пераклясьці з насілак на каталку, а ён раве ад болю.

Мала таго, іх яшчэ пазначалі незмывальнай фарбай — лоб і руку. Навошта, я ня ведаю. Прычым гэта ніякія не бандыты, не наркаманы, не крымінальнікі. Гэта нармальныя маладыя хлопцы. Не было п’яных, забулдыг, алькаголікаў, асацыяльных людзей.

Вось гэта і прымусіла нас падняцца. Гэта ўжо па-за межамі.

У Беларусі акцыі заўсёды былі мірнымі. Скажыце, што перашкаджала дазволіць правесьці 6 жніўня акцыю ў парку Дружбы народаў? Я быў на папярэдняй акцыі на Бангалоры 31 ліпеня, там не было ніводнага хулігана, бандыта. Там былі нармальныя людзі, Я, палітычна нэўтральны чалавек, прыйшоў зь сям’ёй. Там былі прыгожыя людзі. Гэта быў драйв, сіла. Гэта быў момант, калі нараджаецца нацыя. Нам забаранілі зьбірацца мірна, і калі людзі выйшлі на пратэст, улада пачала выкары-

стоўваць баявую зброю. Гвалт нараджае гвалт — па-іншаму быць ня можа.

Я не хадзіў на барыкады не таму, што я баюся. Я проста ўсьведамляў, што ў клініцы буду больш карысным.

А на пратэсты мы таксама выходзім. 12 жніўня выходзілі да мэдычнага ўнівэрсытэту на мірную акцыю. Гэта было так узьнёсла! Апошняй кропляй стала затрыманьне нашага калегі, доктара-рэаніматоляга Багдана Шыльнікоўскага, і народ зразумеў, што далей ужо трываць нельга. Бо калі затрымліваюць суседа, знаёмага — гэта адно. Калі сваяка ці калегу — іншае. Як сказаў мне іншы калега, аднакурсьнік і сябра Багдана, „за што затрымліваць гэтага «пяльменя», ён жа найдабрэйшы чалавек!“

Мы зьвярнуліся да галоўнага доктара: трэба тэрмінова яго вызваляць. Галоўны доктар нас зьбіраў, зьвязваўся з намесьнікам міністра і езьдзіў на Акрэсьціна яго шукаць. Але інфармацыя пра тое, што лекар зьбіты, пайшла ўжо па ўсёй сыстэме, і брыгада хуткай дапамогі яго вывезла з Акрэсьціна. У яго ёсьць праблемы са здароўем, не зьвязаныя з траўмай (цукровы дыябэт), і ўдалося яго вывезьці нават раней, чым на Акрэсьціна прыехаў галоўны доктар. Цяпер Багдан знаходзіцца ў нас у стацыянары. Ён ужо бадзёры, нават жартуе.

Але я супраць таго, каб змагацца паводле прафэсійнай, этнічнай ці яшчэ якой прыкметы. Трэба змагацца за ўсіх. Там яшчэ застаюцца людзі, і многія ў цяжкім стане. Мы павінны патрабаваць вызваліць усіх. Мы не павінны пагаджацца на саступкі: вось вашага калегу выпусьцім, а іншага пакінем. Гэта антыгуманна.

Наступствы застануцца. Любая стрэсавая сытуацыя так проста не праходзіць. Байцоў амону, СОБРу, міліцыянтаў адмыслова трэнуюць, яны прывычныя, гэта іх прафэсія, а мы звычайныя людзі. Бясьследна гэта ня пройдзе. Тут, у шпіталі, мусяць працаваць прафэсійныя псыхолягі. А да нас прыходзяць толькі псыхолягі-валянтэры.

Мы не павінны нічога ўтойваць, нічога не павінна замоўчвацца — гэта нашы грамадзяне. Павінны быць сьпісы ўсіх затрыманых і месцы, дзе яны знаходзяцца. А ня так, што валянтэры шукаюць людзей па ўсіх пастарунках і шпіталях. Павінен быць даведачны цэнтар для сваякоў, каб яны маглі апэратыўна атрымаць інфармацыю.

Тыя хлопцы, якія да нас трапілі, першыя суткі-двое проста спалі. Зойдзеш у палату, павітаесься, а яны сьпяць. Пад вечар апрытомнеюць, прачнуцца: „Вітаю, доктар!“ А я ўжо разоў 10 туды заходзіў.

Аднаго хлопца прывезьлі з Акрэсьціна на „хуткай“. Там яго трое сутак тупа білі. І ён, калі перагружалі ў машыну хуткай дапамогі, пытаўся: „А мяне ня будуць больш біць?“ А хлопцу 20 гадоў! За што?

## „Проста спатыкнуўся і ўпаў“

*Аляксандар, 27 гадоў, рабочы, Барысаў:*

— Увечары 9 жніўня я ішоў каля цэнтральнай плошчы Барысава — там сабралася шмат людзей, якія пасьля галасаваньня чакалі абвяшчэньня вынікаў выбараў. Мы думалі, што з райвыканка-

му выйдуць члены выбарчай камісіі. Але так і не дачакаліся — бюлетэні вывезьлі тайна.

Людзям жа сказалі, што гэта несанкцыянаваны мітынг, і супрацоўнікі ў чорнай форме выціснулі іх з плошчы. Потым падключылася і мясцовая міліцыя. Людзі сталі разьбягацца, але іх даганялі, білі дубінкамі, калі падалі — нагамі па галаве. Затрымлівалі вельмі жорстка. Там былі і пэнсіянэры, і цяжарныя жанчыны, і дзеці гадоў па 10-12, якія плакалі, калі на іх вачах бацькам заломвалі рукі. Гэта было вельмі страшна!

Мы з суседкай пакінулі плошчу і пайшлі дадому, за намі пабеглі двое супрацоўнікаў, выхапілі мяне, паклалі на асфальт і сталі біць дубінкамі: па галаве, сьпіне, руках, нагах. Потым утрох схапілі за рукі-ногі і пацягнулі ў аўтазак.

Мяне запхнулі ў вузкую адзіночную камэру, потым „падсялілі“ другога чалавека. Мы крычалі, што няма чым дыхаць, прасілі адчыніць люк. Ніхто не рэагаваў. Каля 20 хвілін мы сядзелі, задыхаючыся, пакуль сілавікі лавілі іншых людзей, і потым паехалі ў Барысаўскі РУУС.

Там нас — чалавек 40 — паставілі да сьценкі на заднім дворыку, дзе знаходзяцца гаражы для спэцтранспарту. Каля дзьвюх гадзін мы стаялі на расьцяжцы. Калі супрацоўнікам нешта не падабалася, білі па нагах.

Вядома ж, ніхто не прадстаўляўся, пасьведчаньня не паказваў, правы нам не тлумачыў. Супрацоўнікі мясцовай міліцыі былі бяз масак, але пераварочвалі свае пагоны, каб мы не вызначалі званьні.

Потым сталі складаць пратаколы. Я запомніў час затрыманьня — каля 23-й гадзіны. У пратаколе

ж стаяла 00:10, і месца таксама не супадала. Усе пратаколы былі, як пад капірку: знаходзіўся там і там, выкрыкваў лёзунгі. Я напісаў на пратаколе: „Ня згодны“.

Усе былі ў глыбокім псыхалягічным стрэсе, у кагосьці была зламаная рука, але на просьбы пра дапамогу не рэагавалі. Прасілі вады — піць не давалі. Афармілі дакумэнты і перавялі людзей у ІЧУ — у будынку пастарунку.

Хлопца са зламанай рукой павезьлі ў лякарню, а нас адправілі на дактыляскапію. Потым пачаўся суд, я зьвярнуў увагу на нестыкоўкі зь месцам і часам. Судзьдзя сказала, што няма падставы не давяраць супрацоўнікам, якія складалі пратакол, і вынесла прысуд — 15 сутак.

Бліжэй да ночы павезьлі ў Жодзіна, толькі цяпер ужо нас у камэры было трое — усяго ў аўтазаку знаходзілася каля 50-60 чалавек. Паветра не хапала. Трэба было вызваліць месца ў пастарунку, таму што былі новыя затрыманьні. Калі мы выяжджалі, на асфальце ляжала шмат людзей. Супрацоўнікі РУУС сказалі: „Вы галасавалі не за таго, каго трэба. Той, хто трэба, будзе да канца“.

У камэры мы проста ляжалі, немагчыма было рухацца ад недахопу кіслароду. Сярод нас былі незалежныя назіральнікі, выбарнікі, назіральнікі ад ініцыятывы „Честные люди“, праграмісты, рабочыя з „Кераміну“, з МТЗ, з жодзінскага кавальскага заводу. Былі іншаземцы: літовец, украінцы, расейцы — іх потым забралі з камэры.

З Акрэсьціна прывозілі людзей, у якіх не было на руках ні дакумэнтаў, ні пратаколу. І праз трое сутак іх выпускалі безь нічога.

Людзі з Акрэсьціна паступалі моцна пабітыя: велізарныя сінякі, гематомы — у туалет хадзілі крывёю, не маглі ні сядзець, ні ляжаць. Такое адчуваньне, быццам па іх рота прайшлася. Прасілі паклікаць лекара, аказаць дапамогу... Было страшна.

Праз шэсьць сутак мяне вывелі з камэры, сказалі — амністыя. Быццам бы жодзінскі пракурор адмяніў прысуд. За знаходжаньне ў СІЗА спагналі 54 рублі.

Я прыехаў дадому, ачуўся і зьвярнуўся ў суд для азнаямленьня са справай. Убачыў тыя ж 15 сутак, а пра амністыю — нічога. Дагэтуль не магу зразумець, за што я адбываў пакараньне. І чаму так усё адбываецца.

Да затрыманьня я працаваў апэратарам па дамове падраду ў Жодзіне, потым адпрацаваў яшчэ тыдзень, і мне сказалі, што нібыта ходзяць чуткі, што занадта шмат гавару супраць дзейнай улады, што магу быць завадатарам якога-небудзь мітынгу на прадпрыемстве. Паведамілі, што я не прайшоў выпрабавальны тэрмін і са мной скасоўваюць дамову. Я кажу: „Ок, давайце распішуся, дзе трэба“. Мне адказалі: „Нічога ня трэба, проста здай вопратку“.

Пасьля таго, як я вярнуўся з Жодзіна, зьвярнуўся ў мэдычны цэнтар, прайшоў абсьледаваньне, зафіксаваў пабоі. Вярнуўся дадому — каля пад'езда мяне ўжо чакалі супрацоўнікі міліцыі. З цэнтру ім паведамілі, што зьвяртаўся такі і такі грамадзянін, які паведаміў, што падчас мірнага мітынгу супрацоўнікі міліцыі ўжылі фізычную сілу. І ім трэба было, каб я даў тлумачэньне.

Мне сказалі, што я альбо „тлумачу“ так, як мне скажуць, альбо паедзем у пастарунак для

далейшага разбору. Я падумаў, што калі раптам зьнікну, то ніхто пра гэта нават не даведаецца, і даў тлумачэньне: калі бег падчас мітынгу, проста спатыкнуўся і ўпаў.

Удары, гематомы сышлі, застаўся боль у сьпіне, ды пасьля таго, як білі па галаве, пагоршыўся зрок. Але зьявілася трывога, страхі па начах, неспакой, што зноў могуць прыйсьці, лішні раз баісься нешта па тэлефоне сказаць. Ад усяго гэтага вельмі цяжка адысьці. Часам як нахлыне, гэтыя карцінкі ўсплываюць у галаве, хочацца нават плакаць. Я хачу перамагчы свае страхі.

Калі выходзіў з Жодзіна, у калідоры праводзілі прафіляктычную размову: не даваць ніякіх інтэрвію, нічога не расказваць журналістам, праваабаронцам. Сказалі, што ў іх усюды ёсьць свае людзі, усё гэта выплыве і нам мала ня здасца: зробяць так, што мы ня шэсьць сутак адбывалі, а аж да крымінальнай адказнасьці. І я ведаю, многія сыходзілі і цяпер маўчаць. А людзі ў форме адчуваюць сваю беспакаранасьць.

Мне ж губляць няма чаго, у мяне няма ні мамы (я страціў яе тры гады таму), ні таты, ні сям'і. Трэба нешта мяняць. Я разумею, што адзін нічога не зраблю. Але пасьля таго, як выйшаў з турмы ў Жодзіне і мяне сустрэлі незнаёмыя людзі — накармілі, абагрэлі, аказалі мэдычную дапамогу — зразумеў, што я не адзін, народ згуртаваўся. Нельга пакідаць усё, як ёсьць, інакш усё сыдзе з рук, сыдзе на нішто. Такое не павінна працягвацца. Мы самі маем права выбіраць свой лёс.

## „Валаклі з такой сілай, што ў сабакі сарвалі шворку“

*Леанід, 53 гады:*

— Увечары, у дзень выбараў, я пайшоў гуляць з сабакам. Гадзін у дзесяць мы падышлі да школы, дзе павінны былі вывесіць пратакол пра вынікі галасаваньня. Там стаяла шмат людзей. Чакалі-чакалі, але вынікаў так і не аб’явілі. Прыехаў амон і вывез са школы выбарчую камісію. Людзі пачалі абурацца і вырашылі пайсьці ў цэнтар гораду.

Мы з Ф’ю стаялі каля дарогі на вуліцы Кальварыйскай. Пад’ехаў аўтазак. Людзі сталі скандаваць: „Міліцыя з народам!“ З машыны выскачылі тры чалавекі ў чорным, схапілі мяне і пацягнулі, мацюкаючыся, б’ючы дубінкамі, кулакамі. Валаклі за рукі, за ногі, з такой сілай, што сарвалі шворку з галавы Ф’ю. Закінулі ў аўтазак. На мяне селі двое сілавікоў і працягвалі біць: па нагах, руках, грудзях, галаве. Я ўбачыў іх нечалавечыя вочы і спытаў: „За што?“ І раптам усё згасла...

Потым сьведка з аўтазака расказаў, што мяне білі каля 15-20 хвілін, а калі ўдарылі дубінкай па твары, я адключыўся. У хлопца, які ляжаў побач, пайшла пена з рота, але лекары вынесьлі на насілках мяне — бо ўжо не намацваўся пульс.

Ачуўся ў „хуткай“. Побач ляжаў малады хлопец з прастрэленым жыватом, зь якога вываліліся кішкі.

Я ўскочыў і закрычаў: „У мяне ж там сабака застаўся! Я павінен яго знайсьці!“ І басанож выскачыў на вуліцу.

Наш Філ — звычайны дварняк, але нам вельмі дарагі. Жонка неяк заўважыла, што на прыпынку круціцца сабака, падбягае да аўтобусаў, чакае кагосьці. Праз некалькі дзён сабака зьлёг, і мы вырашылі яго забраць. Вэтэрынар сказаў, што вельмі своечасова: яшчэ б дзень, і ўжо ня выратавалі б.

У сабакі быў піраплязмоз, быў увесь згрызены кляшчамі. Потым яшчэ апэрацыю перанёс: раздробнены таз (цяпер стаяць жалезныя імплянты), 8 пераломаў на адной назе, 4 — на другой. Выхадзілі. Ф'ю вельмі добры, таварыскі, любіць гуляць зь дзецьмі. Але калі мяне цягнулі ў аўтазак, брахаў з усіх сіл, ледзь ня кідаўся на крыўднікаў.

Калі мяне цягнулі, зьляцелі чаравікі, прапалі ключы ад кватэры, тэлефон. Пасьля таго, як я выбег з „хуткай“, адна дзяўчына прынесла мне чаравік, а другая — Ф'ю, без аброжка і шворкі.

Жонка была на лецішчы, і мы з Ф'ю начавалі ў прыяцеля ў суседнім доме. Назаўтра ўсё балела, мне стала кепска. „Хуткая“ забрала ў лякарню. Там спыталі, ці перанёс я нядаўна інфаркт. Высьветлілася, што ў мяне была блякада сэрца, пералом чатырох рабрын і мезенца на руцэ, удары сківіцы, рук, ног, рана на галаве, страсеньне мозгу, ЧМТ. Цяпер я на бальнічным, але картку ў паліклініцы згубілі.

Ключы мы потым знайшлі на Акрэсьціна, а тэлефон назад так і не вярнуўся, хоць нехта заходзіў зь яго ў „ВКонтакте“.

Было крыўдна, што пабілі з такой жорсткасьцю ні за што. Але страшней, калі такое ў нашай краіне стане нормай...

## „Ты разумееш, што там ня ты?“

*Вольга, мэдык, 32 гады:*

— Я загадзя рыхтавалася да таго, каб падчас пратэстаў быць гатовай аказаць першую дапамогу пацярпелым. Увечары 9 жніўня даведалася, што ў раёне стэлы гучаць выбухі, і паехала туды. Каля 23:00 дайшла да царквы на праспэкце Пераможцаў, спусьцілася з узгорку і апынулася ў буфэрнай зоне паміж сілавікамі і мірнымі дэманстрантамі. Амон страляў гумавымі кулямі і закідваў людзей сьвятлашумавымі гранатамі, пратэстоўцы разьбягаліся. Пасьля такой „артпадрыхтоўкі“ сілавікі перайшлі ў наступ: амон пабег на пратэстоўцаў і пачаліся затрыманьні.

Я на той момант ужо атрымала раненьне: аскепкі гранаты пашкодзілі нагу. Калі пачалася атака, адзін з амонаўцаў штурхануў мяне так, што я ўпала і расьсекла руку, а яшчэ некалькі сілавікоў пацягнулі мяне ў аўтазак. Там кінулі ў „стакан“. Пры гэтым сумку, дзе былі мэдыкамэнты, у мяне адабралі.

У выніку раненьня ад выбуху гранаты ў мяне пачаўся крывацёк. Я прасіла аказаць мне першую мэдычную дапамогу або проста перадаць з торбы перакіс вадароду. Але ніхто на гэтыя просьбы не рэагаваў.

Праз некаторы час затрыманым сказалі выходзіць на вуліцу, прагналі нас праз „калідор“ сілавікоў і зацягнулі ў бусік. На просьбы патлумачыць прычыны затрыманьня была адна рэакцыя: „Заткні рот, шалава!“

Нас прывезьлі на Акрэсьціна і паставілі ўздоўж калідора на першым паверсе. На адным баку знаходзіліся жанчыны, на другім — мужчыны. Найбольш агрэсіўна паводзілі сябе міліцыянт з густымі чорнымі бровамі і доўгавалосая бляндынка. Яны былі галоўнымі агрэсарамі, якія кіравалі зьбіваньнем людзей. Бляндынка біла мужчын у асноўным паміж ног — ёй гэта вельмі падабалася... Я спрабавала сказаць, што яны парушаюць мае канстытуцыйныя правы, у адказ на што чарнабровы падышоў і некалькі разоў ударыў мяне галавой аб сьцяну. „Што ты, б..., самая разумная, выдатніца? Няма ў цябе ніякіх канстытуцыйных правоў, сука!“ — закрычаў ён. І яшчэ раз ударыў мяне галавой аб сьцяну.

Увесь гэты час білі мужчын. Зьбівалі да хрыпаты. Прымушалі крычаць: „Я люблю амон“. Аднаму мужчыну адбілі ныркі, і ён ужо мачыўся крывёю. Тады амонаўцы пачалі крычаць на яго: „Прыбяры за сабой!“ Чалавек казаў: „Хлопцы, я ж голы, у мяне нічога няма“. І яму сказалі, каб ён выціраў сваім целам.

Жанчын парасьпіхвалі па камэрах. Наша была прадугледжаная на чатырох чалавек, але туды ўцiснулі 19 затрыманых. Пасьля гэтага адкрылася „кармушка“ і адна з супрацоўніц пачала перапісваць асабістыя зьвесткі затрыманых, а таксама пытала пра месца і час затрыманьня. У мяне гэтыя пытаньні выклікалі падазрэньне: я вырашыла, што сілавікі будуць фабрыкаваць пратаколы, якраз зыходзячы з маіх словаў. Таму акрамя прозьвішча і імя я адмовілася нешта называць, пакуль міліцыянты самі не прадставяцца і не патлумачаць прычыну затрыманьня.

За адмову адказваць на пытаньні мяне вывелі ў калідор, дзе знаходзіліся некалькі сілавікоў. Жанчына-бляндынка пачала біць мяне аб сьцяну галавой, выкручваць рукі, спрабавалі ламаць пальцы. Мяне паставілі на калені, прыціснулі нагой галаву да зямлі і крычалі: „Кажы, сука, свае дадзеныя!“ Пагражалі, што на мяне распачнуць крымінальную справу за непадпарадкаваньне міліцыі. Я сказала гэтай бляндынцы, што я мэдык і магу афіцыйна паставіць ёй дыягназ: яна сацыяльна адаптаваная псыхапатка. Пасьля гэтага яна адскочыла і мяне пакінулі ў такой позе на паўгадзіны, каб я падумала. Я стаяла на каленях і чытала ўголас верш Ёвана Змая пра гонар. Іх надоўга не хапіла: яны адчынілі дзьверы ў камэру са словамі „Запаўзай, пачвара“.

У камэры было вельмі-вельмі горача. Вакно было адчынена літаральна на два пальцы. Нас было шмат, і мы крычалі, каб адчынілі хаця б „кармушку“, каб было чым дыхаць. У адказ на нас вылілі вядро вады. І потым яшчэ прывялі затрыманых. У выніку нас стала 36 чалавек.

Потым надышла ноч і пачалося самае жахлівае: дыхаць стала зусім няма чым. Я разумела, што мы трацім прытомнасьць ад браку кіслароду. Людзі ўжо нават баяліся прасіць аб дапамозе. Але я разумела, што горш ужо ня можа быць, і пачала біць у дзьверы. Прыйшоў дзяжурны, які толькі заступіў на зьмену. Я сказала, каб ён перадаў начальству, што я дам усе дадзеныя і ўсё падпішу. Я яму пачала тлумачыць, што гэта сапраўдная газавая камэра, што мы задыхаемся, што раніцай проста ня ўсе здолеюць прачнуцца, а адказнасьць будзе на ім.

Праз 15 хвілін дзяжурны сапраўды адчыніў камэру і загадаў выйсьці ў калідор да сьцяны. Ад рэзкага паступленьня кіслароду дзяўчына, якая мела інваліднасьць, страціла прытомнасьць і ўпала.

Гэта вельмі напалохала дзяжурнага. Ён пагадзіўся праветрыць камэру, пакінуў адчыненую „кармушку“ і мы дамовіліся, што праз гадзіну ён нас выведзе падыхаць яшчэ. Так і адбылося. Перад сканчэньнем сваёй зьмены ён папрасіў прабачэньня і сказаў, што больш ня можа нам нічым дапамагчы.

На наступны дзень на Акрэсьціна пачаліся суды. Жанчын выводзілі з камэры па адной. Некаторыя дзяўчаты потым вярталіся ў сьлязах: амонаўцы, прымушаючы падпісваць пратаколы, абяцалі, што іх толькі аштрафуюць, але гэта быў падман — суды каралі затрыманых адміністрацыйным арыштам.

Маю справу разглядала судзьдзя Маскоўскага раённага суду Тацяна Матыль. У пакоі — яна, сакратарка і ўключаны дыктафон. У судзьдзі на стале ляжаў штодзёньнік, куды яна ўпісвала зьвесткі. Яна папрасіла мяне прадставіцца і назваць дату нараджэньня. І калі я назвала дату, яна скаланулася.

Справа ў тым, што ў дакумэнтах, паводле якіх зьбіраліся судзіць мяне, былі зьвесткі іншага чалавека. Але пра гэта я даведалася ўжо потым.

Атрымалася, што паколькі ў міліцыі не было поўных маіх зьвестак (толькі імя і прозьвішча), то яны знайшлі ў базе МУС маю поўную цёзку, але зь іншым годам нараджэньня і іншай прапіскай. Там і фота было іншае — мы нават не падобныя.

І тут судзьдзя зразумела, што ў яе дэталізацыя на аднаго чалавека, а перад ёй стаіць зусім іншы.

З дакумэнтаў, паводле якіх мяне зьбіраліся судзіць, вынікала, што мяне затрымалі на праспэкце Незалежнасьці ў 21:00. Але гэта была няпраўда: у гэты час я была ў іншым месцы гораду і мела сьведак. Судзьдзя адмовілася выклікаць сьведак, аднак і рашэньня выносіць ня стала, а загадала вярнуць мяне ў камэру.

Больш да судзьдзі не выклікалі. Пазьней у камэру зайшоў супрацоўнік РУУС са сьпісам пакараньняў для затрыманых: ён паведаміў, што я атрымала 15 сутак арышту.

Ночы на Акрэсьціна праходзілі пад крыкі затрыманых мужчынаў, якіх моцна білі сілавікі. Я чула, як мужчын вывелі ў двор, пабілі, потым аблілі вадой пад напорам, потым зноў пабілі. Бандыты пры гэтым сьмяяліся, ім было весела. Яны прыдумалі такую гульню для пабітых мужчынаў: мы, маўляў, зараз адчынім браму і ў вас будзе паўхвіліны на тое, каб вы ўцяклі. А праз паўхвіліны мы выедзем за вамі на машынах. І хто не пасьпее — тых будзем раздушваць. Ім вельмі сьмешным здаваўся гэты плян.

Удзень затрыманых жанчын вывелі ва ўнутраны дворык ЦІП, дзе стаяла шмат амонаўцаў з аўтаматамі. Яны абражалі жанчын, казалі, што яны праплачаныя і што яны прадалі Радзіму за адзін даляр. Я спытала: „А цяпер падумай: як лічыш, за 2 рублі тут нехта б стаяў?“ Чамусьці гэтыя словы паўплывалі на міліцыянта: ён дазволіў нам папіць і прысесьці на зямлю тым, хто ўжо ня мог стаяць. Пасьля гэтага нас пагрузілі ў аўтазак і павезьлі ў Жодзіна.

Менавіта ад супрацоўніцы жодзінскай турмы, якая праводзіла агляд затрыманых і перапісвала зьвесткі, я даведалася, што справа была складзеная не на мяне, а на зусім на іншага чалавека.

Яна мяне паклікала да стала і паказала маю справу. Кажа: „Ты разумееш, што там ня ты?“ І ў гэты момант я нарэшце зразумела, чаму так псыхавала Матыль. Таму што там сапраўды была дэталізацыя на іншага чалавека. Нават пратаколу не было: было проста два лісткі, на адным зь якіх хтосьці асадкай напісаў: „15 сутак“.

Я спрабавала патлумачыць гэта іншаму супрацоўніку ізалятара, і той зьвярнуўся да свайго начальніка. Але безвынікова. „Пох..., пасадзі да ўсіх астатніх“, — сказаў начальнік.

Наступныя два дні я скардзілася дзяжурным на тое, што мяне фактычна выкралі. Нагадвала, што яны робяць крымінальнае злачынства і кожны зь іх цяпер будзе фігурантам гэтай справы. Спачатку мае скаргі ігнаравалі, але 14 жніўня я ўсё ж дагрукалася да чарговага дзяжурнага. Ён схадзіў па справу, пераканаўся, што я сапраўды тут знаходжуся незаконна і, відаць, спалохаўся. Мяне павялі да начальніка, які нарэшце загадаў адпусьціць мяне, а справу парваць.

Маіх рэчаў не знайшлі — сказалі, што, напэўна, засталіся на Акрэсьціна. Без даведак, безь якіх-небудзь дакумэнтаў мяне проста вывелі з ізалятару і сказалі — усё, давай, ідзі.

Да Менску мяне давёз адзін з тых валянтэраў, што дзяжурылі пад сьценамі ізалятара. Тыдзень пасьля гэтага я правяла за горадам — спрабавала апамятацца пасьля ўсяго, што адбылося.

Такім чынам, я правяла 5 дзён за кратамі нават без фармальных юрыдычных падставаў. У ЦІП на Акрэсьціна далі даведку, што мяне выпусьцілі 12 жніўня „ў сувязі з завяршэньнем адміністрацыйнага затрыманьня“. У жодзінскім ізалятары выдалі даведку, што я там знаходзілася з 12 па 14 жніўня, бо адбывала адміністрацыйнае пакараньне. Аднак не існуе ніводнага дакумэнту, дзе б тлумачылася, чаму я трапіла за краты.

З суду Маскоўскага раёну прыйшоў адказ, што супраць мяне ніякага адміністрацыйнага працэсу не вялося. Аднак пакараньне я адбывала! За ўвесь гэты час я ніводнага разу не пачула прычыну затрыманьня, нават ад судзьдзі! Фактычна мяне проста выкралі нейкія бандыты, пратрымалі 5 сутак, а потым сказалі: усё, ідзі.

# У АЎТАЗАКУ

**„Маліўся, каб жонку не чапалі. І тут у бусік закідваюць Аліну“**
**„Сказалі, павязуць у лес, дарога ў адзін канец“**
**„Будзеш рыпацца — заб'ю, бо сёньня можна“**
**„Міліцыянты дзейнічалі так, нібыта выбівалі зь неразумнага дзіцяці дур“**
**„Узялі бутэльку зь белай фарбай і вылілі мне на галаву“**
**„Лене з Магілёва яны стаялі каленам на горле, пакуль яна не захрыпела“**

## *„Раптам убачыла свайго ўчастковага“*

— Заштурхалі ў мікрааўтобус, у якім я раптам убачыла свайго ўчастковага. Ён быў у шлеме, але бяз маскі. Я ўзрадавалася. Мы зь ім даўно знаёмыя, ён мяне добра ведае. Вось, думаю, ён мяне зараз адпусьціць. Я ж нічога такога не рабіла. Але не адпусьціў. Наогул, мне здалося, што гэта ўжо нейкі іншы чалавек. Кажа, паедзеце з усімі, адказвайце за свае справы.

## *„Памерам з прыбіральню ў самалёце“*

— У аўтазаку я трапіў у „стакан“: маленькая камэра памерам з прыбіральню ў самалёце, куды запхнулі 6 чалавек, у тым ліку старога. Дзядулю мы пасадзілі, а самі, стоячы, абняліся і заснулі (я раней ніколі стоячы ня спаў). Я расплюшчыў вочы гадзіны празь дзьве. Паспрабаваў удыхнуць, але

ня змог. Я зразумеў, што ў нас фактычна няма кіслароду. Дзед быў жывы, але яму было кепска. Мы крычалі, каб нам пусьцілі кіслярод. Хвілін праз 30 сапраўды ўключылі нейкі вэнтылятар. Ня ведаю, як мы выжылі без паветра... І толькі яшчэ праз гадзіну нарэшце завялася машына. Той бок увесь гэты час мы нікуды ня ехалі: нас проста пасадзілі ў аўтазак на 4 гадзіны і сышлі.

## *„Ісьці па чалавеку“*

— У бусе, куды мяне завёў амон, на падлозе тварам уніз ляжаў мужчына. Мне сказалі праходзіць у хвост бусіка, і атрымлівалася, што я магла зрабіць гэта, толькі калі ісьці па чалавеку. Я адмовілася, сказала: „Не пайду, пакуль вы мужчыну не падымеце“. На што ў адказ пачула: „Не табе тут дыктаваць умовы. Зараз усім астатнім будзе горш ад таго, што ты тут паўстаеш“. Мяне пачалі ўсаджваць сілай. Я пачала чытаць ім нешта накшталт лекцыі, казала, каб яны прачыталі хоць адну кніжку па гісторыі, нагадала, што адзіная каштоўнасьць дзяржавы — гэта чалавек. Амонавец ударыў мяне кулаком па галаве, але я ўсё адно не магла спыніцца. Тады мне заламалі рукі, зацягнулі іх хамутом. Яшчэ зьверху на мяне наваліўся амонавец — у такім стане мы чакалі, пакуль прывядуць яшчэ людзей.

## *„Прывяла ў шаленства амонаўца-кіроўцу“*

— Так нас „спакавалі“ — чатырох лекараў. Доктарка-ўчастковы тэрапэўт пачала ім казаць, што парушаюцца нашы правы пры затрыманьні, чым прывяла ў шаленства амонаўца-кіроўцу. Ён стаў

гарлаць нам, дарослым людзям з вышэйшай адукацыяй, што мы авечкі, якімі кіруюць з інтэрнэту, і нам плацяць. Мы спыталі, ці не баіцца ён захварэць, а мы будзем яго лячыць, што ён расцаніў як пагрозу. Тут яго і прарвала — ён крычаў: „Мяне лечаць у паліклініцы МУС, а калі да вас, пачвары, прыйду, то будзеце лячыць як міленькія! Вы, сукі, у «Эўраопт» ня ходзіце, вы амон не паважаеце!“ Тут я ня вытрымала і спытала: „А ёсьць за што?!“ Тут ён закрычаў: „Заткніцеся, а то фарбай пазначу!“

### *„Зачынілі дзьверы і пусьцілі газ“*

— Пасьля нас пагналі ў „стакан“, нас запіхнулі туды ўдзевяцёх, мужчын паставілі на калені, рукі за галаву, ілбом у падлогу, зачынілі дзьверы… і пусьцілі газ! Я зайшла апошняю, мне дасталося першай. Я заплюшчыла вочы, закрылася маскай, старалася меней дыхаць. Дзяўчатам, якія стаялі побач, стала зусім дрэнна, адна спачатку кашляла, а потым стала падаць. Дзьверы адчынілі, мяне папрасілі адысьці крыху ўбок, а Ірыну (яна мэдык), падвялі да кратаў, каб яна магла дыхаць. Ёй стала лягчэй, але тут дзьверы зачынілі зноў і зноў пусьцілі газ. Усім стала дрэнна, я таксама пачала хіліцца ўбок.

### *„Касьмічны сіняк“*

— Супрацоўнікі, якія мяне затрымлівалі, былі ў звычайным адзеньні: футболцы, штанах, красоўках. Білі выключна рукамі і па твары. Я ляжаў у мікрааўтобусе, мяне лупцавалі, я абараняўся неяк, скруціўшыся клубочкам. Таксама нагой мяне ўдарылі па біцэпсе. Пакуль я быў затрыманы,

я хадзіў у майцы, астатнія затрыманыя пыталіся, дзе я займеў такі сіняк, бо ён быў фіялетавы, нават „касьмічны сіняк“. Памятаю, адзін з супрацоўнікаў наступіў мне красоўкай на вуха і проста склаў яго напалову. Праз гэта ў мяне зьявілася траўма вуха. Само вуха апухла, супрацоўнікі сьмяяліся і казалі: „О, вуха барцухі“.

### *„І запхаў дубінку мне ў задні праход“*

— Там быў нейкі ідэоляг, загадалі падпаўзьці да яго. Ён задаваў пытаньні: „Хто вам плаціць? Як вы каардынуеце акцыі? Дрэнна жывецца?“ Я казаў, што нармальна жывецца. Была ня тая сытуацыя, каб „качаць правы“. Потым прыйшоў нейкі галоўны, сеў побач. Спытаў, у каго ёсьць прэзэрватыў. Надзеў яго на дубінку. Разрэзаў мне споднае і запхаў дубінку мне ў задні праход. Было вельмі балюча. Ён патрабаваў, каб я разблякаваў тэлефон, — але я ня памятаў паролю. Мяне зноў пабілі, пакінулі ў аўтазаку. У мяне ў машонцы ўтварылася гематома, я патрабаваў доктара, але мне адмаўлялі. Толькі сьмяяліся.

### *„Як мяне прыводзілі ў прытомнасьць“*

— Ад удараў я страціў прытомнасьць. Пасьля іншыя расказалі, як мяне прыводзілі ў прытомнасьць: давалі панюхаць нашатыр, ставілі ногі на грудную клетку ды білі па твары і геніталіях, пагражалі зрабіць клізму і выкінуць за Курапатамі. Зьбіваньне не прывяло мяне ў прытомнасьць, і яны пераключыліся на іншых затрыманых. Калі ўжо ў Цэнтральным РУУС выцягвалі з буса, мне ў твар вылілі вядро халоднай вады, пасьля чаго

я ачуўся. Але яны былі ўпэўненыя, што я прыкідваўся, таму зноў пачалі біць. Байцы амону называлі нас „злачынцамі, якія ішлі нападаць на іхных жонак“.

### *„Жары валасы“*

— Карацей, мяне закінулі ў аўтазак. Там 8–10 чалавек сядзіць цалкам экіпаваных амонаўцаў, мяне называюць „підарам“ і ставяць на калені. Адразаюць мне валасы ці то брытвай, ці то нажом, я ня ведаю, але гэта было па адчуваньнях: нацягнулі валасы і нечым іх адрэзалі. Сказалі: „Мордай у падлогу“. Я лёг, мяне пачынаюць біць ужо па азадку, па нагах. Кажуць: „Жары валасы“. Я маўчу, яны кажуць: „Жары валасы“, я маўчу. Яны кажуць: „Складай валасы ў кішэню“. Я склаў. Яны працягваюць мяне біць, проста б’юць і б’юць па тых самых месцах.

### *„Бліскуча сварылася з амонаўцамі“*

— Дзяўчаты сталі пісаць эсэмэскі з нашымі прозьвішчамі праваабаронцам, а мяне папрасілі пасварыцца з амонаўцамі, каб яны не перашкаджалі, што я і зрабіла бліскуча. Мяне хлебам не кармі, а дай падаконваць амонаўца. Адзін быў адэкватны, а другі нейкі не зусім нармальны. Ён стаў мацюкацца, замахвацца на мяне дручком і мяне, пэнсіянэрку, абзываць курыцай (!!!), а потым як абвараны кіпенем выскачыў з аўтазака. Дзяўчаты пад шумок напісалі смс і далі мне адбой. Я змоўкла з пачуцьцём выкананага абавязку і вельмі задаволеная сабой.

## *„Катавальны аўтазак“*

— Уздоўж дарогі стаяў аўтазак, крыху перад ім — іншы аўтазак, а ўздоўж іх — гэта значыць паміж мордай аднаго аўтазака і задам другога — яшчэ аўтазак, ён дзьвярыма стаіць. Я так зразумеў, што гэта быў катавальны аўтазак. Тут у мяне ўжо нічога не пыталіся, ні дзе мой каардынатар, ні колькі заплацілі. Яны менавіта проста зьбівалі. Ну проста паклалі мяне, і пачалі некалькі чалавек мяне біць па тых самых месцах, па якіх мяне білі яшчэ ў першым аўтазаку. Боль невыносны, я пачаў крычаць, пачаў выгінацца. Гэта значыць, было чыстае катаваньне, ня ведаю, зь якой мэтай. Але гэта мэтанакіравана стаяў катавальны аўтазак, па яго разьмяшчэньні, па тым, што там рабілася, можна было зразумець, што ён менавіта для гэтых мэтаў.

## *„Пацыфіст“*

— Калі ўсіх вывелі з аўтазака, то зайшлі яшчэ тры амонаўцы. Адзін зь іх быў відавочна камандзір: старэйшы за ўсіх, з маршчынамі, гадоў пад 40. Ён на мяне глядзіць і кажа: чаго, маўляў, людзей душыш. Кажу: „Хлопцы, па-першае, пашкадуйце мяне, у мяне трое дзяцей, па-другое, я яго абʼяжджаў, я яго нават не зачапіў, і вы гэта выдатна ведаеце. І наогул, хлопцы, я па жыцьці пацыфіст. Я ні разу ў жыцьці ня біўся“. І вось калі я сказаў гэтае слова „пацыфіст“, яны як быццам усе завісьлі. У гэты момант атмасфэра ў аўтазаку рэзка зьмянілася. Я ня ведаю, што адбылося, але гэты камандзір на мяне паглядзеў і кажа: „Ты нават сабе не ўяўляеш, як табе пашанцавала сёньня. Выходзь“.

## „Ну, я ж сам вас ня біў“

*Віталь, 35 гадоў, інжынэр:*

— Я адзін з тых, хто падаў заяву ў Сьледчы камітэт на міліцыянтаў, якія мяне зьбівалі. І з чым я сутыкнуўся зноў? Мы прыйшлі падаваць заяву ў Фрунзэнскі аддзел Сьледчага камітэту, а сьледчы да нас нават ня выйшаў, заявы прымалі міліцыянты гэтага РУУС. У адным зь міліцыянтаў я пазнаў чалавека, які быў у той спартзалі, дзе нас да крыві зьбівалі. Усьміхаецца, кажа: „Ну, я ж сам вас ня біў, я ж вам нават вадзічку даваў папіць“. Кажу яму: „Так, ты ня біў, але ж стаяў побач, глядзеў на гэтае дзікунства і нікому не дапамог, не пярэчыў“. Адказвае: „А што б зьмянілася? Я б загаду начальства не адмяніў. А на мне крэдыт вісіць, хто за мяне будзе выплочваць?“

За час арышту я шмат разоў чуў пра гэты матыў і ад амонаўцаў. Што на іх вісяць нясплочаныя крэдыты, выплачаныя наперад заробкі, ад чаго яны ня могуць адмовіцца выконваць загады. Але як можна аддаваць такія загады, я для сябе адказу дагэтуль ня маю.

Мяне спынілі амонаўцы непадалёк ад Камсамольскага возера. Гэта было 10 жніўня пад вечар. Я сапраўды зьбіраўся пайсьці да стэлы і паглядзець, што там будзе. Абурыўся вынікам выбараў, ведаў, што дзень таму там шмат затрымалі і пабілі людзей. Але мы зь сябрам ішлі мірна, нікога не чапалі і не крычалі. І вось на нас кідаюцца амонаўцы, кладуць на зямлю. Праглядаюць тэлефоны, нічога не знаходзяць, але ўсё роўна крычаць: „Адстрэлю табе яйцы, і мне нічога ня будзе!“ Дарэчы, і потым

гэта гучала не адзін раз ад розных міліцыянтаў: нешта такое зраблю, заб'ю, і мне нічога ня будзе. Гэтыя людзі нібыта былі кімсьці насычаныя нянавісьцю і перакананьнем, што закон не для іх.

Нас зь сябрам зьбілі і спачатку кінулі ў аўтобус, які стаяў непадалёк. Памятаю, як туды аднаго за адным прыводзілі новых і новых ужо зьбітых людзей. Нават рыбака, які ехаў побач на ровары з вудай. Мужчына сталых гадоў, ён проста сумеўся ад таго, што зь ім робяць, але ўсё роўна яго кінулі да нас.

Потым быў аўтазак, якім мяне і ўжо некалькі дзясяткаў затрыманых даставілі ў Фрунзэнскае РУУС. Спачатку ў двор, потым у спартовую залю, дзе спачатку білі, потым маральна зьнішчалі, а ў канцы бралі паказаньні і прымушалі прызнаць віну. Там было самае пекла.

На ўваходзе ў залю стаяў высокі дужы амонавец, такі здаравяка, задача якога была біць усіх, каго ўводзілі. Як бы ён рабіў нам такі „ўрачысты“ прыём — каб было зразумела, куды трапілі. Сваё заданьне ён выконваў з садысцкім задавальненьнем: біў куды заўгодна рукамі, нагамі. Адусюль чуваць было страшэнныя мацюкі. Потым валілі на падлогу і плястыкавымі хамутамі зьвязвалі на сьпіне рукі. Хто варушыцца, падымае галаву, спрабуе паглядзець — адразу падскоквае амонавец і б'е палкай па галаве ці сьпіне. Мне гэтак зламалі дзьве рабрыны.

Шалёны псыхалягічны ціск — у тым ліку прымушалі хорам крычаць „Аляксандар Рыгоравіч Лукашэнка — самы лепшы прэзыдэнт“. Хто спрабаваў адмаўчацца, зноў атрымліваў дручком па сьпіне. Усіх, у каго бачылі белыя стужкі на руках,

прымушалі іх зьесьці. Ад сваёй стужкі мне ўдалося пазбавіцца яшчэ ў аўтазаку.

Адборныя і самыя пахабныя мацюкі ліліся на затрыманых проста лявінай. Я яшчэ ніколі ў жыцьці ня чуў столькі брыдкіх словаў ад жанчын-міліцыянтак. Там была сьледчая Карына, яна праводзіла апытаньне. Ніколі б не падумаў, што дзяўчына можа ўжываць такі набор лаянкі! Да таго ж у яе яўна былі садысцкія схільнасьці. Іншыя міліцыянткі, якія праводзілі апытаньне затрыманых, таксама не вызначаліся літасьцю.

Сядзіць вабная дзяўчына гадоў 20, можа, курсантка акадэміі ці толькі скончыла. Вакол крычаць, стогнуць, а яна ўсьміхаецца, жартуе з амонаўцамі. Каву сабе разьліваюць. Да яе падводзяць чарговага затрыманага. А там ня толькі маладыя былі, але і сярэдніх гадоў, нават пажылага веку людзі трапляліся. Карацей, кожны другі ёй мог быць старэйшым братам ці бацькам. Ня ўсе адразу пагаджаліся падпісваць іхныя паперы. На гэта яна звонкім голасам падзывала амонаўца: „О, у нас тут герой. Адмаўляецца падпісваць“. І чалавека пры ёй адводзілі ўбок, зноў бязьлітасна білі і прыводзілі да яе ўжо паслухмянага. „Ну, цяпер будзем падпісваць? Ясна, будзем“, — і задаволена ўсьміхаецца.

Амаль дзень мяне трымалі ў Фрунзэнскім РУУС, адкуль без усякага суду адправілі ў жодзінскі ізалятар.

Яшчэ раз пераадолеў сябе, калі пайшоў падаваць заяву пра зьбіцьцё ў сьледчы аддзел Фрунзэнскага раёну, а той знаходзіцца ў тым жа будынку Фрунзэнскага РУУС, дзе мяне дзень зьбівалі. Сапраўды было страшна туды ісьці. Не пайшоў бы,

калі б не „наіўная вера“, што яшчэ можна неяк зьмяніць становішча.

## „Мама, мне сорамна прызнацца, але я плакаў“

*Іна, маці 14-гадовага Давіда, Берасьце:*

— 10 жніўня мы з Давідам, ягоным айчымам і сябрамі вярталіся дадому праз мост з цэнтру гораду ў мікрараён Паўднёвы. Проста на мосце амон узяў нас у ачапленьне.

Нас паставілі на калені. Па баках уздоўж бардзюра стаялі на каленях мужчыны. Іх білі. Яны там раўлі. Я паказала свае рэчы, нічога не знайшлі, сказалі ісьці, але сына не аддавалі. Ім было ўсё роўна — паўналетні ён ці не. Мяне літаральна вытаўклі ў карак.

Я патэлефанавала на 102, але ніякіх зьвестак, акрамя крыкаў ад дыспэтчаркі, не пачула. Маўляў, няма чаго лазіць зь дзіцем. Сказала — ідзіце дадому, заўтра вырашыце ўсё — і кінула слухаўку.

А 4-й раніцы 11 жніўня мне патэлефанавалі зь незнаёмага нумара і сказалі прыяжджаць забіраць сына, але не сказалі, куды, і зноў кінулі слухаўку. Пасьля высьветлілася, што яны бралі выпадковы тэлефон некага з затрыманах з кучы мабільнікаў, званілі да бацькоў, а пасьля тэлефон зноў кідалі ў кучу.

Я ўсё ж даведалася, дзе ўтрымлівалі Давіда — у казармах вайсковай часткі. Пад будынкам там былі дзясяткі разгубленых бацькоў, якія чакалі выхаду дзяцей. Мне загадалі падпісаць прата-

кол, дзе было адзначана, што Давід браў удзел у пратэстах.

Яны напісалі, што яго затрымалі на плошчы на мітынгу. Я адмовілася падпісваць і напісала, як было. А дзіця яны так проста не аддавалі. Вывелі ў цёмны тамбур, маўляў, паглядзіце, ці ўсё ў парадку. Там нічога не відаць. Зачыняюць дзверы, даюць лісток, трэба напісаць, што ня маеш прэтэнзіяў. Пасьля ўжо мы пабачылі сьляды ад дубінак, гематомы, гузы.

Давід расказаў, што ў затрыманых нават не пыталіся, хто яны і адкуль, проста білі і зьдзекаваліся. Ува ўсіх забіралі тэлефоны, а калі выпускалі, тэлефон немагчыма было знайсьці, бо мабільных была гара. Без вады і прыбіральні ўсе затрыманыя ляжалі на падлозе. Падымаць галаву не дазвалялі. Калі хтосьці глядзеў убок, яго пачыналі біць.

Сын мне сказаў: „Мама, мне сорамна прызнацца, але я плакаў“. Усе плакалі, не шкадавалі нікога. І дарослыя мужыкі раўлі. У сына здранцьвелі рукі і ногі, але баяўся паварушыцца.

Да нядзелі 16 жніўня я ня ведала, дзе знаходзіцца Давідаў айчым Дзяніс. Яго не было ні ў адным са сьпісаў.

Я тэлефанавала і шукала Дзяніса. У аддзяленьні здымалі слухаўку і маўчалі або адкладалі яе, і было чуваць хіхіканьне. У мяне сямёра дзяцей, малодшы — інвалід. Я ўсё жыцьцё хаджу па інстанцыях, і паўсюль хамства, зьнявага і несправядлівасьць.

Дзяніса выпусьцілі ўначы 17 жніўня. Яму прысудзілі 10 сутак. Нягледзячы на стан здароўя, бо ён таксама ўвесь пабіты і шакаваны.

*Дзяніс:*

— Я шмат што бачыў, але каб зьбівалі жанчын і дзяцей, у гэта я паверыць ня мог. Мы чулі, як адна жанчына крычала, што цяжарная, а яны білі яшчэ мацней. Пасьля выхаду мяне агледзеў доктар, сказаў, што адбілі нырку або паламалі рэбры. Трэба ехаць у шпіталь.

На шчасьце, вярнулі ўсе дакумэнты, акрамя мабільнага і грошай. Тэлефон, сказалі, перададуць у Менск, дзе будуць „вывучаць". Прымушалі сказаць, што ўзяў удзел у несанкцыянаванай акцыі, але сказаў усё, як было.

*Іна:*

— У Сьледчым камітэце 17 жніўня мы прабылі амаль шэсьць гадзінаў, а скаргу можна падаць толькі цягам пяці дзён пасьля вызваленьня. Са скаргамі ў Сьледчы камітэт стаяць натоўпы.

## „А потым мяне падстрэлілі"

*Кіра, 31 год, журналістка:*

— Гэта было першае галасаваньне ў маім жыцьці: раней я не цікавілася палітыкай. Толькі мяне ў сьпісах для галасаваньня не знайшлося. Старшыня камісіі мітусьліва пераконвала, што ў гэтым няма ніякай праблемы, запісала мае зьвесткі на сурвэтку, сунула яе ў кішэню і выдала чысты бюлетэнь.

На гэтым этапе я канчаткова пераканалася, што галасаваньне — толькі фармальнасьць.

Помню, дадому я вярталася з апушчанай галавой і напявала зь м’юзыклу „Чыкага“, дзе сантэхнік называў сябе цэляфанавай празрыстай істотай, якая нічога не вырашае, і ад якой усе адмахваюцца, як ад сьмецьця. Думаю, падобную „цэляфанавасьць“ на выбарах адчулі многія, бо пад вечар 9 жніўня Менск абурана гудзеў. Магчыма, калі б у краіне не адключылі інтэрнэт, я б засталася дома і сачыла за падзеямі ў YouTube. Але сядзець у чатырох сьценах было немагчыма, і я выправілася ў цэнтар гораду.

Праяжджаць міма школ было вусьцішна: восем вечара, зьмярканьне, сотні людзей стаяць каля дзьвярэй будынка і за тэрыторыяй, моўчкі чакаючы вынікаў выбараў на ўчастку. У цэнтры аказалася ня лепей: рэкордныя заторы на дарогах, сыгналы кляксонаў, голас Цоя з кожнай другой машыны, тысячы пешаходаў у белых футболках на тратуарах. З натоўпу стала далятаць інфармацыя, што сілавікі перакрылі цэнтар па пэрымэтры і заблякавалі людзей у тэрытарыяльных квадратах такім чынам, каб усе ахвотныя не маглі сабрацца каля стэлы. З боку стэлы бліскалі ўспышкі.

Я апынулася ў групе заблякаваных у раёне Нямігі. Ніякага мітынгу там не было. Тысячы людзей разгублена блукалі па вуліцах без магчымасьці даехаць дадому, аўтамабілісты падтрымлівалі пешаходаў, нейкі пэнсіянэр на ровары гістэрыў, што нас усіх зараз заб’юць, а астатнія напружана чакалі.

І мы дачакаліся. На дарозе зьявілася калёна аўтазакаў, вайсковай і міліцэйскай тэхнікі, зь іх-

нага боку ўзрываліся пэтарды і ішоў дым. У той вечар я ўпершыню ўбачыла столькі ўзброеных людзей: калёна амону грукала шчытамі перад тварамі грамадзян на аўтобусным прыпынку, за імі стаяла ўзброенае падмацаваньне ў шаломах, зь пярцовымі балёнчыкамі, дубінкамі і зброяй. Супраць каго? Супраць людзей у шортах, якія нават на мірны пратэст ішлі выключна на зялёны сыгнал сьвятлафораў?

Неўзабаве калёна сілавікоў пачала выцясьняць людзей у бок праспэкту Незалежнасьці. Я падумала, што зараз нас сьціснуць у кольца і расстраляюць, але ў той раз абышлося. Апынуўшыся на праспэкце, людзі спрабавалі размаўляць зь сілавікамі, але дыялёгу ня выйшла: тыя адмоўчваліся або пагражалі. Жыхары дамоў размахвалі бел-чырвона-белымі сьцягамі з вокнаў і падказвалі мінакам, у якім баку „пакуюць“ у аўтазак. Кожныя пяць хвілін гучалі сырэны „хуткай дапамогі“ і крыкі затрыманых.

Дадому трапіць было немагчыма, а заставацца на вуліцы небясьпечна, таму рэшту ночы пасьля выбараў давялося правесьці на вакзале ў пачакальні. Дарэчы, раніцай дарогу дадому мне перакрылі два супрацоўнікі амону ў балаклавах. Адзін зь іх схапіў за руку са словамі: „Што гэта ў нас за белы бранзалет такі… Мітынгуем?“ — „Гэта гумка для валасоў, яна сьветла-ружовая“.

Гэта быў самы небясьпечны момант за ўсю ноч, але пазьней я зьдзіўлялася, што мяне адпусьцілі.

10 жніўня. Інтэрнэту дагэтуль няма. Увечары нават да майго спальнага раёну дайшлі сыгналы машын, а пад вокнамі суседзі абураліся, што га-

ласавалі ўсім домам, а ў журнале рэгістрацыі на ўчастку ад нас усяго 4 чалавекі...

Ня маючы ніякай інфармацыі, проста на покліч сэрца я рушыла ў цэнтар гораду. Але на вуліцы Прытыцкага рух транспарту спыніўся, кіроўца стаў выпускаць пасажыраў з тралейбуса, а крыклівая бабка абуралася ў натоўп: „Ну і як мне цяпер дайсьці дадому?! Ідыёты, ходзяць яны тут, рожкі паказваюць! Дрэнна вам жывецца? Вунь палова моладзі на машынах езьдзіць... Сталіна на вас няма, у склепах не жылі, ня ведаеце, як гэта: дзень на заводзе адпахаць, а потым паўтары гадзіны ў чарзе па тую сінюю курыцу стаяць. А вам усё перамен! Цьфу!“

На скрыжаваньні вуліцы Прытыцкага і праспэкту Пушкіна, проста на праезнай частцы стаялі мінакі са сьцягамі, крычалі „Уходи!“, кіроўцы іх падтрымлівалі. Я зьбіралася ў цэнтар і падумала, што Пушкінская — невялікая выспачка пратэсту гэтым вечарам, прамежкавы пункт.

Я пайшла далей, у бок гіпэрмаркета „Карона“ па Кальварыйскай. Потым убачыла вялікую групу людзей насустрач — стала вяртацца. Амаль адразу закрычалі: „Мянты едуць!“ Усе разьбегліся ў двары побач са скрыжаваньнем. Я забегла ў пад'езд, але нічога не было відаць, таму вырашыла вярнуцца.

Я выйшла якраз побач са скрыжаваньнем. Праз дарогу, з боку гатэлю „Арбіта“ і кінатэатру „Аўрора“, выстраілася калёна амонаўцаў са шчытамі. Людзі хаваліся за дамамі і назіралі. Так атрымалася, што я выйшла бліжэй, у адзін зь першых шэрагаў. Напярэдадні такая калёна стаяла за мэтар-паўтара ад мяне. І яны нічога не

рабілі. У прынцыпе, у іх не было падставаў. Таму я не баялася.

Сёньня інтэрнэт поўны жахлівых хронік таго вечара, але ў эпіцэнтры падзеяў яны ўспрымаліся інакш. Напрыклад, я ня бачыла забітых ці параненых. Я была ўпэўненая, што ўсё, што адбываецца — спэцэфэкты, нас проста палохаюць, каб разагнаць. Як журналіст я проста назірала. А потым мяне падстрэлілі.

Я адчула моцны ўдар у плячо, як быццам здаровы мужык урэзаў мне кулаком. Але нікога побач не было, і стала ясна, што прыляцеў нейкі прадмет. Ад шоку боль быў не такі ўжо моцны, я нават ня ўпала і не ўпусьціла тэлефон. Мой розум уключыў рэжым кампутара: вось праблема, цяпер думай, як вырашыць яе, выжывай. Я нават бегла… Я цяпер у гіпсе не магу і трошкі прабегчы. Нават у лякарні яшчэ не разумела, што адбываецца, пыталася: „Мне можна будзе тут паспаць, ці вы мяне дадому адправіце?“

Мне вельмі пашанцавала: „хуткая дапамога“ дзяжурыла ў суседнім двары. У карэце я ўбачыла яшчэ аднаго параненага: у хлопца з галавы цякла кроў, у пахвіне была рваная рана, і ён стагнаў, што адарвала два пальцы. Жудасна, што ў параўнаньні зь ім мне пашанцавала. Паранены тэлефанаваў жонцы і плакаў. На трэці званок я ня вытрымала: „Саша, заткніся! Пра жонку падумай: яна там пасівее да раніцы ад тваіх расказаў. Я вунь дзяўчына, і то бацькам не тэлефаную, каб яны гэтую ноч паспалі. Горш ужо ня будзе, зараз нас давязуць у лякарню і зашыюць, супакойся!“. Быццам бы супакоіўся…

Да таго часу сілавікі адчулі смак і сталі труціць цывільных газам. Доктара ў машыне пачало ванітаваць на падлогу, людзі з вуліцы ламіліся да нас у машыну ў надзеі атрымаць дапамогу, я піла ваду і старалася дыхаць роўна і носам. Нават вось у такой атмасфэры стала ў тэлефоне чысьціць фатаздымкі за суткі. Мы не маглі выехаць мо паўгадзіны, бо ўсё было перакрыта.

І зноў пра шанцунак. Я трапіла адразу ў лякарню, дзе дактары спэцыялізуюцца на ваенна-палявой хірургіі. Але і кантынгент там суровы. Зь першых хвілін суседка па палаце і санітаркі накінуліся з папрокамі: „Ага, глядзі, Лена, пачалося... Прыперліся, рэвалюцыянэры хрэнавы. Ну і навошта ты туды пайшла? Сама вінаватая. Цяпер такіх кантужаных другую ноч вязуць. А ў нас заўтра УГД, плянавыя апэрацыі, працэдуры. А вы ўсё псуяце, наркаманы“. Параненых падвозілі кожныя 20 хвілін. У калідорах дактары шапталіся, што ніколі ня бачылі столькі крыві.

Як высьветлілася, куля пацэліла мне ў плячо, разьбіўшы ключыцу на аскепкі. Уласьцівасьць гумавых куль — пранікаюць неглыбока, але ствараюць магутную ўдарную хвалю. Таму страляць гумавымі кулямі ў корпус і ў галаву ні ў якім разе нельга.

У мяне атрымалася кантузія на палову тулава (варта было крыху напружыць цягліцы — і адразу боль да самага чэрапа), гематома на сьпіне, якая і праз месяц да канца не сышла, і адкрыты пералом з ранай больш за 10 см у даўжыню і некалькі сантымэтраў у шырыню. Мне ў плячо кожны дзень закладвалі па два тампоны, каб хоць неяк спыняць кроў.

І зноў: некалькі дзён ляжаць у лужыне ўласнай крыві — гэта цяпер шанцунак. Калі на першай апэрацыі мяне ўводзілі ў наркоз, дактары абмяркоўвалі, ці варта захоўваць нагу 16-гадоваму хлопцу ў штучнай коме, ці ён мае больш шанцаў выжыць з ампутацыяй. У часе другой апэрацыі, ужо пад мясцовай анэстэзіяй, я тры гадзіны слухала, як дактары пілуюць маю ключыцу. Як у іх не атрымліваецца і робяць наноў. Як пальцамі перабіраюць цягліцы і ўстаўляюць жалезныя сьпіцы ў абломкі косткі. Як крэсла пада мной развальваецца ад старасьці, а лямпа падае на галаву. У другім канцы апэрацыйнай хірург гучна абураўся: „Вось прыдуркі, яйцы ім паадрываць. Яны па мітынгах ходзяць, а я ім чацьверты дзень кулі з азадкаў дастаю!“

„Хто там такі злы ў вас?“ — спытала я праз шум дрыля. „Доктар ня злы, доктар ня спаў трое сутак“, — зьмякчыла мэдсястра.

Дактары не казалі, што ў мяне пералом, да наступнага дня. Яшчэ празь дзень сказалі, што будуць мне зьбіраць ключыцу. Як мне сказалі, паводле ваенна-палявой хірургіі маё раненьне ацэньваецца як ня вельмі складанае. Нягледзячы на тое, што было тры апэрацыі на плячы і ўскладненьне на лёгкае.

Другі месяц я на бальнічным. Днямі мне выцягваюць сьпіцы… Два аскепкі косткі зрасьліся даволі роўна, адзін крыху выпірае — я ўжо цяпер магу адчуць невялікую выпукліну. Вядома, усё гэта баліць і цягне кожны дзень, але не кругласутачна і па-рознаму.

Часам, калі пераварочваюся, чую, як шчоўкае нешта. Гэта трохі жудасна. Але да гэтага прывы-

каеш. Левая рука нашмат танчэйшая за правую — цягліцы атрафаваліся. І ёсьць цягучы боль уздоўж цягліц. Я думаю, гэта ўсё вернецца, калі здымуць павязку і я буду распрацоўваць руку. Дактары кажуць, колькі была зьнерухомленая рука, прыкладна столькі ж функцыі будуць аднаўляцца. Зрэшты, я цяпер адной рукой толькі коўдру ў чахол не запраўлю, а так усё магу. І працую адной рукой — не хачу падстаўляць калег.

У пэрспэктыве будзе прыгожы шнар на ўсё плячо. Я ня буду лазэрам зводзіць яго. Я гэта не хачу забываць.

Я бясконца ўдзячная дактарам за тое, што яны выратавалі мне жыцьцё. Але чаму мяне хавалі ад праваахоўнікаў? Я не ляжала з пацярпелымі ў адной палаце. Чула, што прыходзяць зь міліцыі іх дапытваць нават у чатыры раніцы. Са мной нічога падобнага не было, хоць я ведаю, паводле закону дактары павінны былі паведаміць пра агнястрэльнае раненьне. Калі мы з адвакатам расшыфравалі код дыягназу ў бальнічным, высьветлілася, што ён адрозьніваецца ад коду ў выпісцы. У бальнічным мне напісалі „бытавая траўма“.

Дарэчы, Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва паставіў цікавую ўмову: бальнічны могуць аплаціць, але калі ў будучыні на мяне завядуць крымінальную ці адміністрацыйную справу, усе грошы давядзецца вярнуць у фонд зь пеняй і штрафам.

P.S. Праз паўтара месяцы пасьля таго, як мне выцягнулі сьпіцы, высьветлілася, што тры першыя апэрацыі былі няўдалымі. Цяпер я ўпэўнена, што параненых везьлі менавіта ў вайсковы шпіталь не таму, што там найлепшыя лекары, а каб схаваць

іх і схаваць ад грамадзкасьці злачынствы МУС. Напрыклад, рэканструкцыяй кісьці прафэсійна займаюцца толькі ў траўматалёгіі шостай лякарні. Але мяне не перадалі ў профільную лякарню, а зрабілі тры няўдалыя апэрацыі ў сябе. У выніку — ускладненьне на лёгкае і косьць, якая разышлася праз 1,5 месяца. Улічваючы тое, што агнястрэльныя пераломы складаныя самі па сабе, я лічу, што лекары вайсковага шпіталя ня мелі права рабіць апэрацыі абы-як і марнаваць час.

## „Сартавалі паводле прынцыпу мэдыцыны катастроф“

*Аляксей, хірург лякарні хуткай дапамогі, Берасьце:*

— Дзяжурства 10 жніўня я запомню на ўсё жыцьцё. А 10-й вечара пачалі прывозіць пацярпелых, аднаго за адным.

У тую ноч лякарня нагадвала ваенна-палявы шпіталь. Хворых сартавалі паводле прынцыпу мэдыцыны катастроф — дзялілі на тых, каго неадкладна трэба было апэраваць, менш цяжкіх і тых, хто мог чакаць. За суткі ў лякарню па дапамогу зьвярнуліся каля 100 чалавек, 29 зь іх шпіталізавалі. Людзі былі з celebrating рознымі траўмамі: параненыя з агнястрэлу, пабітыя, у траўматычным шоку.

Уявіце, прывозяць сіняга чалавека практычна без прытомнасьці. Да нас прывезьлі такога хлопца — кулявых раненьняў у яго не было, але ён быў зьбіты з галавы да ног — проста ўвесь сіні.

З параненых вымалі два віды куль — плястмасавыя і гумавыя; характар пашкоджаньняў і проста вырваныя кавалкі плоці памерам з кулак сьведчаць пра тое, што стралялі ва ўпор.

Я спрактыкаваны хірург, бачыў за 17 гадоў шмат што, праводзіў багата гадзін запар, стоячы на нагах за апэрацыйным сталом, але ў той момант цяжка было не ад нагрузкі. Цяжка было ад усьведамленьня таго, што гэтыя раненьні маладыя хлопцы атрымалі ў мірны час у сваёй роднай краіне і родным горадзе.

Ува ўсіх шпіталізаваных узялі аналіз крыві на наяўнасьць алькаголю, але сярод тых, каму дапамагаў я, п'яных не было. Узрост пацярпелых — ад 17 да 52 гадоў.

Лекары — апалітычны народ. Калі табе прывязуць амонаўца, ты будзеш яго лячыць. Але калі тэлефануюць калегі зь Менску і расказваюць, як там лупцуюць лекараў, пакет на галаву надзяваюць — ці можна заставацца спакойным? Нават немцы такога не рабілі. Я бачыў шмат страшных рэчаў за гэтыя 17 гадоў, але такога яшчэ ня бачыў.

## „Мяне проста прыпячатала да аўтобуса“

*Павал, 48 гадоў, кіроўца аўтобуса № 163, Менск:*

— 10 жніўня быў звычайны маршрут, ніхто ня думаў, што такое можа здарыцца і я апынуся ў вайсковым шпіталі.

Калі мяне сюды прывезьлі, крычаў ноч і дзень, болі былі пякельныя. Спачатку ляжаў у рэанімацыі,

а з 16 жніўня перавялі ў агульную палату. Было ўжо некалькі апэрацыяў, перасадзілі скуру на сьпіну — са сьцягна. Не адчуваю трох пальцаў на левай руцэ, таксама нешта пацэліла — кулі або яшчэ што.

Я выехаў з Сухарава, праца ўжо падыходзіла да канца, заставалася паўтара круга. Але хутка пасьля адпраўленьня пачаліся заторы. Паміж прыпынкамі каля мэтро „Спартыўная“ і „Пушкінская“ ёсьць вуліца Данілы Сердзіча — там, напэўна, гадзіну стаяў. З узвышэньня мы бачылі, што ўнізе выбухі, дымавая заслона, страляніна.

Я выходзіў на вуліцу пагаварыць з калегам-тралейбусьнікам. А потым вяртаўся ў свой аўтобус.

Стаў уваходзіць у дзьверы, заставалася толькі нагу падняць на прыступку — і мяне проста прыпячатала гранатай да аўтобуса. А потым яшчэ зьверху кулямі... Гарэла кашуля, скура на сьпіне выбухнула. Мяне як быццам паралізавала. Людзі гасілі, выклікалі „хуткую“. Крычалі, каб не было гармідару — баяліся, што сілавікі пачнуць страляць.

Пасьля раненьня ў палату прыходзіў сьледчы, распытваў, як і што адбылося.

Я не разумею, на якой падставе пачалі страляць. Людзі выказвалі сваю незадаволенасьць, але яны проста хадзілі, сьмяяліся, ехалі матацыклісты — сьвісьцелі. Абсалютна ніякай сілы супраць іх ня трэба было ўжываць. Пастаялі б, пасыгналілі і разьехаліся. Навошта ужываць гвалт?

У мяне трое дзяцей. Сям'я з Маладэчна, сам я падчас працы жыў у адным са сталічных інтэрнатаў. Валянтэры ўжо дапамаглі знайсьці кватэру ў Менску, каб на час аднаўленьня блізкія былі побач.

## „Зараз мы табе зробім паўторнае абразаньне“

*Аляксандар Фурман, грамадзянін Ізраілю:*

— Мы ўжо павінны былі спусьціцца ўніз, перайсьці дарогу — і да сябе дадому. Бо мы ўжо ведалі, што прыблізна зь сямі гадзін вечара пачынаюцца пратэсты. Мы не хацелі ў іх удзельнічаць.

Гэта было 10 жніўня. Пасьля таго, як я прамінуў гэты жоўты аўтобус, адтуль выскачылі шэсьць салдат амону ў чорнай форме і масках, з крыкамі, з мацюкамі, з пагрозамі пачалі цягнуць мяне да гэтага аўтобуса. Я адразу ж падняў рукі і сказаў: „Не-не-не, я не супраціўляюся. Я замежны грамадзянін. Я ізраільцянін“. На гэта я пачуў усялякія кпіны і „жарцікі“. Адзін быў такі: „Зараз мы табе зробім паўторнае абразаньне“.

Я яшчэ быў такі самаўпэўнены і сказаў: „А што, вы антысэміт?“ І тут мне ясна далі зразумець, што я нават ня пешка ў гэтай гульні, што я ўвогуле кузурка і мне трэба заткнуцца.

Я ўсё чакаў, што мяне ўрэшце альбо адпусьцяць, ці яны зразумеюць, што я грамадзянін Ізраілю, навошта ім гэта трэба. І ўвогуле я быў упэўнены, калі нават ехаў, што, калі што, пашпарт — гэта будзе мая страхоўка ад нейкіх дзеяньняў. Бо я ўжо быў начуты, што лепш не сустракацца зь беларускім амонам, асабліва ў гэтыя дні.

Далей падвезьлі аўтазак белага колеру і нас сталі выгружаць. Пагрузка, яна, вядома, была ве-е-ельмі страшнай, таму што білі справа-зьлева дубінкамі. У прынцыпе, гэта, можа быць, ня вельмі прыгожа з майго боку, але я зразумеў, што калі ты

будзеш выходзіць апошнім, то рука амонаўца ўжо трошкі стоміцца і ўдар будзе слабейшы. Таму... плюс яшчэ ад двух удараў я змог ухіліцца, але парачка ўдараў мяне здагнала па дарозе ў аўтазак. Рукі былі за сьпінаю, галава вельмі нізка. Таму я нават ня бачыў, што робіцца. Сыпаліся ўдары.

Выгрузка такая самая, як і пагрузка. Брутальна дубінкамі малоцяць. Ізноў жа я выходжу апошнім. Ізноў жа атрымліваю ўдары.

Там быў хлопец, у якога была нейкая рваная рана, адтуль проста хвастала кроў. Такое я бачыў толькі ў сэктары Газа, такія карціны. Ніяк ня думаў, што пабачу такое ў мірным, любімым, родным Менску.

Нас было 62 чалавекі. Сярод нас была жанчына, ёй 51 год. Яна проста заступілася за свайго мужа, які проста меў сьмеласьць пажартаваць перад амонаўцамі і сказаць: „Чаму туды нельга, што там, каранавірус?“ За гэта яго адразу ж затрымалі. Яна заступілася за яго, і таксама была затрыманая. Прычым яна сказала, што і галасавала за Лукашэнку. Яна сказала: „Учора ў 11.30 я прагаласавала за нашага прэзыдэнта, а сёньня я за яго стаю тут“. Я ўяўляю, як ёй было ўдвая крыўдна.

Так мы стаялі да чатырох, напэўна, раніцы. Прычым я быў апрануты, як цяпер: кароткая майка і вось гэтыя шорты. А для мяне, ізраільцяніна, 10 градусаў ноччу — гэта ўвогуле неймаверна.

Сярод нас быў хлопец-інвалід, як аказалася, інвалід другой групы. У яго разьвіцьцё шасьцігадовага дзіцяці. Ён пасьля быў са мной у камэры. Ён нават ня ведае, колькі яму гадоў. Як аказалася потым, яму 21 год. Ён проста не разумеў, дзе ён знаходзіцца. Яму казалі: падымі рукі. Ён падымаў,

пасьля апускаў: „Ай, усё, карацей, я стаміўся, ай, не хачу“. І яны зьвярэлі, яны білі яго за гэта, зноў яго ставілі. У нейкі момант, калі ён сядзеў-варочаўся (а мы ўсе сядзелі, як мышкі, бо надакучылі ўсе гэтыя зьдзекі), то працягваў зь цікавасьцю разглядаць, што робіцца вакол. Тады яму сказалі: давай, станавіся зноў, ён ізноў жа адмовіўся, абсалютна як дзіця. Маё сямігадовае дзіця абсалютна гэтаксама сябе паводзіць, калі ты хочаш яго пакараць. І яны сказалі: тады будзе калектыўнае пакараньне. І ўсіх 62 чалавекі зноў паставілі да плоту.

Але, я так зразумеў, да ўсіх пачало даходзіць, што з хлопцам нешта ня так.

Раніцай нам дазволілі сесьці і абаперціся, там былі турнікеты. Мы пачалі перашэптвацца. Прыехалі аўтазакі. Спачатку загрузілі нейкіх сурганаўскіх. Прычым іх грузілі вельмі брутальна. Я ня бачыў, але я чуў гэтыя крыкі, гэтыя ўдары. І ім абяцалі, што гэта апошні раз яны кудысьці едуць.

Пасьля пачалі грузіць нас. Мы гучна казалі імя, прозьвішча і год нараджэньня. Я зноў заявіў, што я грамадзянін Ізраілю. Там было, вось як у школах расказваюць пра цягнікі ў Асьвенцім, ідэнтычная сытуацыя, я проста быў уражаны. Нас кідалі аднаго на аднаго, прымушалі сядзець у такой паставе, што ў цябе каленкі вельмі моцна баляць. Усё гэта з пагрозамі, з матамі-пераматамі, з абвінавачваньнем, што мы нейкія здраднікі краіны, што нам 150 даляраў плацяць, што мы нейкія агенты, што ваша Ціханоўская зьехала ў Літву, што вы цяпер разумееце, якія вы дурні.

Ты нічога ня можаш сказаць. Ты проста ў жорсткім шоку. Я ляжаў на хлопцу, які проста страціў прытомнасьць. Яго пасьля аплявухамі прывялі ў

прытомнасьць. Зь левага боку хлопец проста нарабіў у штаны, і пах у аўтазаку стаяў адпаведны. Усю дарогу нас везьлі і мы павінны былі гуляць у караоке. Мы павінны былі сьпяваць песьню „Перамен“, песьню Стаса Міхайлава, яшчэ нешта… У гэты час яны нас хаця б ня білі. Калі ж нехта прасіў разьвязаць рукі, бо яны сьсінелі, тыя білі дубінкай і, каб дабрацца да канца аўтазака, яны станавіліся мне на сьпіну, прычым так смачна, па-садысцку наступалі і білі гэтых хлопцаў. Мая сьпіна была для іх як пастамэнт.

Усю дарогу нас запалохвалі, што зараз нас пасадзяць да уркаганаў, зараз нас усіх згвалтуюць гомасэксуальным кантактам, зараз нам будзе Жодзіна, а гэта ўсё, Жодзіна — гэта сьмерць. І мы кожны атрымаем пяць гадоў турмы, бо ўчора прынялі новы закон.

Далей цябе выкідваюць з аўтазака. І тут раптам я першы раз адчуваю, што ніхто ня хоча цябе біць. Так, ты знаходзісься на тэрыторыі СІЗА, так, да цябе зьвяртаюцца павышаным тонам, ты рухаесься па камандзе ўнутры там гэтых лябірынтаў, падвалаў, уверх-уніз…

Нас загналі ў такі двор, дзе зьверху толькі сетка. Вызірнуў мужчына ў вайсковай форме і ў масцы і проста чалавечым голасам спытаў, якія ў нас просьбы. Мы папрасілі вядро, каб спаражніцца. Нам прынесьлі вядро. І пасьля ён сказаў: „Мужыкі, патрывайце, зараз мы вас па камэрах расфасуем“.

Мы заходзім у камэру. Там чацьвёра сядзяць на лаўках, двое ляжаць на двух’ярусных ложках. Месцаў усяго шэсьць, нас заходзіць 10. Яны на нас глядзяць разгублена, бо мы ўсе пабітыя. Яны не разумеюць. Мы на іх глядзім: мы не разуме-

ем, ці гэта крымінальнікі. Я адразу спытаў, ці яны палітычныя. Яны сказалі: вядома, так. Аказваецца, гэта былі людзі, якіх узялі 8-9 жніўня. Там былі і назіральнікі з выбарчых участкаў і яшчэ нейкія хлопцы, якія проста выйшлі на праспэкт.

Мяне затрымалі 10-га, і толькі 12-га раніцай я першы раз атрымаў ежу, турэмную баланду. Адначасова нас выцягвалі на суды, прычым, калі ты пойдзеш налева, ты атрымаеш 10 сутак, калі направа — 5 сутак. Толькі адзін з нас атрымаў штраф 20 базавых велічынь. Астатнія атрымалі тэрміны, апроч мяне і паляка, які там быў.

У нейкі момант я ў хлопца-кантралёра, які падыходзіў да вакенца, спытаўся: дык што са мной, у мяне яшчэ 2 гадзіны — і будзе 72 гадзіны затрыманьня. Вы павінны мяне паводле закону адпускаць. Хоць які тут закон… Ён кажа: „Слухай, з табой такая гісторыя, твае дакумэнты згубілі“. І тут я зразумеў, што няма дакумэнтаў — няма чалавека. Проста выкінуць з турмы, і ўсё.

Тое самае адбылося з палякам. Нас проста выкінулі з турмы. Прычым, калі мы выходзілі, мы павінны былі прайсьці шэсьць пакояў і знайсьці свае рэчы. Пакоі выглядалі, як музэй капітал-шоў „Поле цудаў“. Гара тэлефонаў, гара папруг, гара ўсяго. Я прысьвяціў дзьве гадзіны, але я знайшоў усё. Нават кніжкі коміксаў для майго сына. Так у 10 вечара мяне выпусьцілі. Праз 78 гадзін.

## „У мяне, як у сусьліка, пачалі страляць проста так“

*Аляксандар, 68 гадоў, палкоўнік юстыцыі ў адстаўцы:*

— Увечары 10 жніўня я пачуў ад людзей шмат супярэчлівай інфармацыі. Маўляў, у раёне ўнівэрсама „Рыга“ пратэстоўцы ідуць у атаку на амон, будуюць барыкады, а сілавікі ў іх страляюць. Гэта мяне ўразіла, бо я ведаю, да чаго прыводзілі сутыкненьні ў гарачых пунктах накшталт Тбілісі і Сумгаіту ў канцы 1980-х.

Таму я неадкладна паехаў да ўнівэрсама „Рыга“, каб убачыць усё на свае вочы і паспрабаваць прадухіліць нэгатыўныя масавыя дзеяньні людзей, калі яны там будуць.

Я прыйшоў да „Рыгі“ каля поўначы. Убачыў там чалавек 80. Парушэньняў грамадзкага парадку не было, усе былі ў нармальным, прыўзьнятым стане. Якіх-небудзь бачных прыкмет, якія сьведчаць пра наяўнасьць масавых беспарадкаў, відаць не было. Разам з тым асобныя хлопцы спрабавалі „дабудаваць“ са сьмецьця спаруды, якія перашкаджаюць праезду транспарту. Натуральна, я падбадзёрыўся, што пагалоска пра масавыя беспарадкі не адпавядае рэчаіснасьці. Разам з тым, усьведамляючы магчымую рэакцыю органаў правапарадку, я выказаўся пра недапушчальнасьць, а таксама абсурднасьць процідзеяньня ім. Я прапанаваў прыбраць сьмецьце з дарогі і не перашкаджаць руху транспарту. Было прыемна, што некаторыя прапановы былі прынятыя. Я яшчэ раз пераканаўся, што там сабраліся адэкватныя людзі.

Прабыўшы там усяго 10-15 хвілін, пайшоў дахаты пешаходнай дарожкай каля ўнівэрсама „Рыга“.

Нечакана ззаду, з боку скрыжаваньня вуліц Куйбышава і Сурганава, прагучаў моцны гукавы сыгнал. Павярнуўшыся, я ўбачыў, як спэцбронеаўтамабіль камуфляжнай расфарбоўкі на хуткасьці 30-40 кілямэтраў у гадзіну паварочвае з вуліцы Куйбышава на вуліцу Сурганава. Людзі разьбегліся, я застаўся на тратуары адзін. Для таго, каб работнікі праваахоўных органаў не прынялі мяне за асобу, якая можа патэнцыйна пагражаць іх бясьпецы альбо бясьпецы грамадзян, я падняў рукі і стаў апускацца на калені. Далоні я трымаў раскрытымі, каб было відаць, што ў мяне ў руках нічога няма. Тратуар, дзе я знаходзіўся, добра асьвятляўся, я знаходзіўся тварам да спэцбронеаўтамабіля.

У гэты ж момант зь люка на даху машыны паказаўся чалавек у спэцформе і два разы прыцэльна стрэліў у мяне, трапіўшы гумовымі кулямі ў жывот і нагу. Вынік (ён жа дыягназ) — агнястрэльнае кулявое сьляпое пранікальнае раненьне жывата з пашкоджаньнем парожняй кішкі і вялікага сальніка, плюс раненьне левай нагі. Я ўдзячны хлопцу, які аказаў мне першую дапамогу, а таксама лекарам вайсковага шпіталя.

Адлегласьць паміж мной і стралком была каля 20 мэтраў. Таму я лічу, што стаў ахвярай недапушчальнага куражу з боку таго, хто страляў, і поўнай незаконнасьці яго дзеяньняў. Я папрасіў Сьледчы камітэт устанавіць асобу стралка і даць ягоным дзеяньням прававую ацэнку. Я таксама напісаў і заяву ў пракуратуру.

Ужываньне зброі было цалкам незаконным, бо я стаяў адзін і навідавоку. А ў мяне, як у суслiка, пачалі страляць проста так. Я 25 гадоў ахоўваў дзяржаву і народ — і для мяне гэта проста па-за межамі. Больш за тое, ён бы ня трапіў у мяне, калі б я ня быў чалавекам, выхаваным у павазе да закону, і ня думаў бы, што міліцыя — гэта орган, які абараняе мяне. Тады я б проста сышоў ад стрэлу. Так, вядома, можна сказаць, што мне трэба было сядзець са сваёй грамадзянскай пазыцыяй дома. А з другога боку, можа, мая грамадзянская пазыцыя выратавала кагосьці ад кулі.

Цяпер, пасьля сямі дзён у вайсковым шпіталі, я праходжу рэабілітацыю. Але хвалюе мяне ня столькі тое, што адбылося асабіста са мной, колькі ўвогуле тое, што адбываецца ў краіне. Я не зьяўляюся прыхільнікам каго б там ні было, а зьяўляюся прыхільнікам беларускай дзяржаўнасьці, якая не павінна быць завязанай на канкрэтную асобу.

Інтарэсы дзяржавы — гэта інтарэсы народу. Навошта нам ламаць ногі, скажам, работніку Менскага трактарнага заводу, калі ён тады заўтра ня выйдзе на працу? Навошта, каб у краіне скончыліся нармальныя адносіны? Мы што, дажылі да таго, што ў XXI стагодзьдзі трэба ўсё вырашаць з дапамогай цэглы і дубінкі? Ня трэба было наогул ужываць ніякіх спэцсродкаў супраць грамадзян. Толькі дыялёг!

Самае страшнае, калі нянавісьць да аднаго супрацоўніка міліцыі ці да пэўнай катэгорыі супрацоўнікаў міліцыі перарастае ў страту даверу да ўсіх органаў улады. Але пакуль, на жаль, замест дыялёгу ўлада працягвае рабіць памылкі.

## „З чыстым сумленьнем пайшоў з жыцьця“

*Алена, жонка Аляксандра Тарайкоўскага,*
*які загінуў 10 жніўня:*

— Пра тое, што ён загінуў, я даведалася ад журналістаў увечары 12 жніўня. У тое, што ў яго ў руках узарвалася выбухоўка, я ня веру. Нічога такога пры ім не было, нічога гэтага ён ня ўмее.

10 жніўня каля 20:00 яны вярнуліся з дачкой з прагулкі. Ён быў вельмі абураны тым, што людзей затрымліваюць, страляюць. Даведаўся, што там зьбіраюцца людзі, і сказаў, што пойдзе ў кватэру бацькі, дзе яны рабілі рамонт, у тым раёне. Пры ім нічога не было: шорты, белая майка, тэлефон. Пашпарт ягоны ў мяне.

Каля 22:30 Саша пазваніў і сказаў, што ідзе дахаты. З гэтага моманту мы ня мелі ніякіх зьвестак, шукалі яго ў шпіталях і базах затрыманых.

Мы афіцыйна не расьпісаныя, маем трохгадовую дачку. Але ў яго ёсьць бацька, сястра. Чаму ім не паведамілі? У яго тэлефон быў, можна ж было ў тэлефоне паглядзець нумары, камусьці пазваніць.

Калі 13 жніўня мы пасьля званка журналістаў зьвярнуліся ў Сьледчы камітэт, нам сказалі, што Аляксандар лічыцца неапазнаным. Але ўжо праз некалькі гадзін пасьля ягонай сьмерці МУС і СК распаўсюдзілі інфармацыю пра ягоную судзімасьць, а значыць, яго апазналі.

Ён быў асуджаны на 7 гадоў за нанясеньне цяжкіх цялесных пашкоджаньняў, якія пацягнулі за сабой сьмерць. Адседзеў увесь тэрмін і неўзабаве судзімасьць мусілі зь яго зьняць. Ён заступіўся за

маці. Яе зьбіў сужыцель, а ён заступіўся, і вось так. Мы асабліва не гаварылі ніколі пра гэта.

Пры апазнаньні цела я не пабачыла ранаў, якія нагадвалі б выбух прылады. Паводле афіцыйнага заключэньня, ён памёр ад страты крыві. Я так разумею, што калі б яму ў час аказалі дапамогу, ён бы мог выжыць. А яны ж яму ніякай дапамогі не аказвалі.

Я паглядзела відэа яшчэ да апазнаньня, яшчэ быў спадзеў, што гэта ня ён. Я ня ведаю, чаму ён выйшаў наперад, адзін. Напэўна, ня думаў, што будуць страляць. Факт, што яго забілі. Хто будзе пакараны? Цяпер будуць казаць, што ён сам вінаваты? Ён выйшаў бяз зброі, чаму вы не стралялі па нагах, па руках?! У мяне пытаньне: ці будзе заведзеная крымінальная справа, ці будзе хто за гэта пакараны?

*Сябра Аляксандра:*

— Мы са школы былі ўтрох. Аднаго я пахаваў, калі Саша быў на зоне за кавалера маці, які зьбіў яе да паўсьмерці, а Саша ў стане афэкту біў яго.

Ён заўжды стараўся працаваць не на дзяржаву. Рабіў аўтамабільныя фіранкі. Зрабіў сайт hober.by, адкрыў ІП і спрабаваў пракарміць сям'ю і малую дачку. Заўсёды быў упарты, але вельмі жыцьцярадасны чалавек. Рэальна стараўся жыць, спрабуючы забыць сваё мінулае. Зрабіў рамонт у кватэры. Выплаціў бацькавы даўгі за кватэру і з чыстым сумленьнем пайшоў з жыцьця, змагаючыся за шчасьлівую будучыню беларускага народа.

Вы раскажыце пра яго. Ён мусіў жыць. Ён мусіў падняць малую дачку.

На відэа, дзе зафіксаваны момант сьмерці чалавека, той вельмі падобны да Аляксандра. Але пра выбуховую прыладу — што за трызьненьне?! Ён працуе ў тым раёне. У яго бацька за 150 мэтраў адтуль жыве.

## „Listening to wind of change“

*Джэ Мэнг, 20 гадоў, кітаец:*

— У Менск я прыехаў у пачатку лета. Гэтыя месяцы я зь цікавасьцю назіраў за сытуацыяй у Беларусі. Я проста ня мог прапусьціць пратэст 9-га жніўня — гэта было самай цікавай і гарачай падзеяй для мяне за ўвесь час знаходжаньня ў гэтай краіне. Так што я быў на стэле 9-га жніўня. Але маштаб пратэсту і жорсткасьць міліцыі пераўзышлі ўсе мае чаканьні — такога ўявіць сабе ня мог. 9-га я вярнуўся дадому цэлы і здаровы.

10-га я зноў быў на акцыі пратэсту, быў у натоўпе і назіраў за тым, што адбываецца. Вяртаўся дадому ўначы на ровары. Было прыкладна 1:30. Праспэкт у раёне гандлёвага цэнтру „Галерэя“ быў перакрыты людзьмі ў форме: каля 300 чалавек стаяла недалёка ад гандлёвага цэнтру, яшчэ прыкладна 40 — на скрыжаваньні побач з БДУ. Я падумаў, што ў іх няма прычыны мяне затрымліваць.

Я не размаўляю па-расейску, падышоў бліжэй да іх і спытаў на ангельскай: „Ці можна мяне прапусьціць?“. У гэты момант да мяне падбеглі 6 міліцыянтаў і затрымалі мяне. Я не супраціўляўся, так што мяне ня білі, толькі скруцілі рукі. Але я не маўчаў — спрабаваў растлумачыць ім, што проста

ехаў дадому. Праўда, яны не далі мне гаварыць шмат. У нейкі момант яны зьбіраліся мяне адпусьціць, але ўрэшце сказалі прысесьці на кукішкі на дарозе і трымаць рукі за галавой. Я думаў, што хутка ім усё растлумачу і мяне ўсё ж адпусьцяць. Разьлічваў, што гэтае непаразуменьне скончыцца цягам гадзіны. Але выйшла ўсё ня так, як я думаў.

Нас пагрузілі ў аўтазакі, якія былі паўсюль. Закінулі туды і мой ровар. Калі мяне пасадзілі ў машыну, я быў крыху шакаваны тым, што міліцыя мяне не адпусьціла. Тады я зразумеў, што сытуацыя сур'ёзная. Але не скажу, што моцна засмуціўся: хутчэй гэта была сумесь смутку і радасьці. Я чалавек авантурны, мне было цікава паглядзець, што будзе адбывацца ў турме.

Мяне зьмясьцілі ў малюсенькую замкнутую прастору ўнутры грузавіка з двума беларусамі. Мы нічога ня бачылі і ня ведалі, куды нас вязуць. Праз хвілін 20 нас прывезьлі на Акрэсьціна (назву я даведаўся пасьля таго, як мяне адпусьцілі).

Гвалт там мяне шакаваў. Каля пяцідзесяці чалавек з аголенымі торсамі стаялі на каленях каля сьцяны, некалькі турэмнікаў білі іх дубінкамі. Я таксама быў каля гэтай сьцяны, на ёй насупраць ад мяне былі сьляды сьвежай крыві. Побач са мной быў італьянскі рэпартэр. Можна сказаць, што мы карысталіся „льготамі“ — нас ня білі.

Думаю, яны не зусім разумелі, што рабіць з затрыманымі іншаземцамі. Нядоўга нешта абмяркоўвалі, а потым нас адправілі ў адну з „клетак“ пад адкрытым небам — прагулачны бэтонны дворык. Нас там было 12 замежнікаў. У турме наўрад ці выканаюць хоць якую нашу просьбу, ня варта гэтага чакаць, там дзейнічаюць свае працэдуры.

Калі зьняволеныя пра нешта прасілі, міліцыя іх проста ігнаравала. Я спрабаваў нешта пытаць, вынік быў той самы. Ды і гаварыў я на ангельскай.

На падлозе нашай клеткі быў вадасьцёк, каб мы маглі памачыцца. Вады мы не прасілі — думалі, што нас выпусьцяць да сьвітаньня.

Арыштаваныя іншаземцы былі ў параўнальна стабільным настроі. Пад крыкі турэмнікаў і зьняволеных мы абмяркоўвалі на ангельскай сытуацыю той ночы, апавядалі адзін аднаму, як нас арыштавалі. Я падумаў пра песьню „Wind of change“, успомніліся словы: „An August summer night, soliders passing by, listening to wind of change“. Я быў больш злы, чым напалоханы. І быў абсалютна ўпэўнены, што мяне хутка выпусьцяць — я ж не зрабіў нічога дрэннага.

Удзень у нас канфіскавалі ўсе рэчы і перавялі ў маленькую камэру ў памяшканьні. Я пабываў і жыў у многіх месцах, але гэта найгоршае з таго, што я бачыў. Чатырохдзённы досьвед там — незабыўны кашмар. Плошча пакоя — каля дзесяці квадратных мэтраў, у ім 4 ложкі, там жа туалет і ракавіна. Спачатку нас там было каля 10 чалавек і гэта яшчэ можна было трываць, але потым колькасьць дасягнула 23 чалавек. Легчы не было дзе, сьвежага паветра не было. Заўсёды гарэла сьвятло, было цяжка спаць. Тры дні нас не кармілі, нам не давалі пітной вады — усе маглі піць ваду з-пад крана толькі побач з прыбіральняй. На чацьверты дзень раніцай далі хлеба і трохі кашы (калі не памыляюся, гэта быў рыс).

У нашай камэры мужчын-іншаземцаў была адна беларуска. Я так і не зразумеў, чаму яе сунулі да нас. Я спрабаваў пагутарыць зь ёй, але яна не

гаварыла па-ангельску, а я не разумею расейскай. Але наогул ва ўсіх зьняволеных у камэры былі вельмі гарманічныя адносіны — мы шмат размаўлялі, разам сьпявалі: часам на ангельскай, часам на расейскай. Мы добра пазнаёміліся — рабіць жа не было чаго; усё, што мы маглі, — гэта размаўляць. Мы ўсе вельмі хацелі хутчэй адтуль выйсьці. Але праз два-тры дні сытуацыя крыху зьмянілася: мы сталі больш трывожнымі, ды і ўвесь час размаўляць бязь ежы не было сіл — часьцей за ўсё хацелася проста знайсьці больш камфортнае месца для сну.

Калі нас судзілі, трохдзённы тэрмін адміністрацыйнага затрыманьня ўжо мінуў, так што гэта быў незаконны працэс. На судзе ў мяне не было адваката, а перакладчык быў кепскі (скажу больш: ён быў дурны). Судзьдзя запытаў нейкую лухту, я не памятаю ўжо, што. Я падпісаў нейкі дакумэнт, які не да канца зразумеў. Я так разумею, усіх нас абвінавачвалі ва ўдзеле ў недазволенай акцыі пратэсту. Я спадзяваўся, што судзьдзя рассудзіць справядліва — я ж нічога не разумею ў беларускіх законах. Мне здалося, што ўсе павінны былі падпісаць гэты пратакол. І я падпісаў, каб выйсьці — я проста ня мог больш там знаходзіцца. Большасьць іншаземцаў вызвалілі пасьля абеду 14 жніўня — дапамаглі амбасады. Мяне таксама выпусьцілі ў той дзень. Усяго я правёў у турме чатыры з паловай дні.

Нягледзячы на тое, што я лічу сябе вельмі моцным, гэты досьвед на Акрэсьціна — адно з самых шокавых перажываньняў, якія калі-небудзь у мяне былі. Мне дапамагала думка, што ўсяму прыходзіць канец і, незалежна ад таго, як доўга

гэта будзе працягвацца, калі-небудзь гэта стане толькі ўспамінам.

Адразу пасьля майго выхаду валянтэры далі мне шмат ежы, якая мне была так патрэбна. Я хачу падзякаваць ім за гэта. А потым я забраў свой ровар, сеў на яго і паехаў у гостэл. Праз некалькі дзён да мяне прыйшлі два чалавекі зь міграцыйнай службы, забралі мой пашпарт. А потым мяне дэпартавалі. Калі я вярнуўся па пашпарт праз некалькі дзён, мне проста сказалі, што я павінен цягам пяці дзён пакінуць краіну. Вяртацца сюды наступныя 3-5 гадоў мне нельга.

Але мае асабістыя пляны гэта ня моцна зьмяніла. Я і так плянаваў зьехаць у сярэдзіне жніўня. Мне 20 гадоў, апошнія гады я большую частку часу вучыўся і жыў у Канадзе, а ў Беларусь прыехаў падарожнічаць. Эпідэмія каранавірусу засьпела мяне ў Вялікай Брытаніі, потым адкрылася ня так шмат эўрапейскіх краін, Беларусь — адна зь іх. Я пражыў тут амаль тры месяцы. Мне тут падабалася. Беларусь вельмі чыстая, малалюдная краіна зь нізкімі цэнамі. Людзі тут сумленныя, прыстойныя, высокаадукаваныя, але амаль ніхто не размаўляе па-ангельску. У мяне ня так шмат сяброў у Беларусі, але з тымі, каго я ведаў, мы часта сустракаліся, добра бавілі час разам.

Пасьля затрыманьня і дэпартацыі спачатку я паехаў ва Ўкраіну, потым — у Турэччыну, затым пляную вярнуцца ў Канаду, а налета — у Кітай. Першыя дні нэрваваўся, цяпер магу спакойна глядзець на тое, што адбылося, але не хачу часта ўспамінаць пра гэты досьвед.

# „Я бачыла, што ён страляе праз прыцэл“

*Вольга, Берасьце:*

— Увечары 10 жніўня я была дома з сынам. Калі пад вокнамі мы пачулі крыкі, мы адчынілі балькон вызірнуць, што там. Мы жывем на набярэжнай, было каля 23:30. Пад вокнамі нашага дому стаялі машыны, і людзі ў шлемах са шчыткамі і ў чорнай форме зьбівалі хлопца, „пакавалі“ ў машыну. Крыху далей я ўбачыла дзьвюх дзяўчат. Адна зь іх атрымала моцны ўдар. Я не змагла вытрымаць і стала крычаць: „Што ж вы робіце! Спыніцеся!“. Былі чуваць і іншыя галасы нашых суседзяў. Чалавек у чорным нешта крыкнуў зь нецэнзурнымі словамі, маўляў, ану ўсе схаваліся! А далей быў стрэл. Ён біў проста ў мяне. Я бачыла, што ён страляе праз прыцэл.

Калі я ўбачыла, што на мяне ўскінулі зброю, я інстынктыўна павярнулася і, магчыма, таму наступствы не такія жахлівыя, як маглі б быць. Куля прайшла наўскос, выхапіўшы зь мяне кавалак мяса. Я зрабіла пару крокаў у пакой і апусьцілася на калені, боль быў жахлівы. Спачатку падумала: „Нічога сабе гематома! Як жа балюча!“ Я лічыла, што ад гумавай кулі застаюцца сінякі. Але потым пабачыла, што кроў бяжыць паміж пальцаў. Адсунула шорты, а там ірваная рана і булькоча кроў. Я пачала страчваць прытомнасьць, але зразумела, што мне трэба трымацца з усіх сіл, бо калі буду сьцякаць крывёю, сын мяне ня выратуе, а „хуткая“ можа ехаць доўга. Сын крычаў на ўсю кватэру: ён

вырашыў, што мяне застрэлілі. Ён патэлефанаваў у „хуткую“ і пабег па нашатыр да бабулі.

„Хуткая“ прыехала прыблізна праз гадзіну, але ў тым няма віны мэдыкаў — вуліцы былі перакрытыя, а выклікаў, відаць, было шмат. Лекары адразу праверылі, ці не закранутыя ўнутраныя органы, перабінтавалі рану, паставілі кропельніцу і адвезьлі мяне ў лякарню. Аднак і там мне давялося чакаць апэрацыі: я была не адна, хто пацярпеў ад куль.

Цяпер наперадзе доўгае лекаваньне і рэабілітацыя, якая можа зацягнуцца на паўгода.

Лекары кажуць, што вайна даўно закончылася, і яны ведаюць, як лекаваць такія раны ў тэорыі, дый то пасьля звычайнай кулі. А ў мяне рана рваная, якую проста так не зашыць. Кажуць, калі пачне зажываць (месяцы праз два), можна будзе рабіць плястыку, каб яе закрыць.

Мне і страшна, і балюча, але маўчаць нельга. Я напісала заяву ў Сьледчы камітэт і раю гэта зрабіць усім, хто пацярпеў ад гэтых бясчынстваў. Ня можа здарыцца ні ў якой краіне сьвету ў 2020 годзе такі гвалт над народам.

Я насамрэч ні разу не рэвалюцыянэр і вельмі мірны чалавек, мне вельмі складана ўсё гэта перажыць. Але ўсе гэтыя ахвяры павінны ня быць дарэмнымі, а паслужыць чамусьці сьветламу і добраму. Гвалт трэба спыніць! Нельга дапусьціць, каб з табой так абыходзіліся. Мы ж людзі! Я проста плачу паўсутак ад болю і паўсутак ад гонару за тое, што ў нас такі адважны народ, і што я — беларуска.

## „Стралялі ня ў тых, хто нападаў, а ў тых, хто спрабаваў уцячы“

*Алена, судмэдэкспэрт:*

— Сыгналы пра чаканы пасьлявыбарны гвалт паступалі задоўга да асноўнага дня галасаваньня. Мэдыкі рыхтавалі свае кансультацыйныя мэдычныя блёкі, каб ратаваць людзей, бо ведалі, што будзе беспакараная бойня з боку ўладаў. Мы выдатна ведалі і былі папярэджаныя, што быў дадзены загад страляць на паражэньне, загад біць, хапаць.

Мы з калегамі аказвалі валянтэрскую дапамогу пацярпелым у палявых умовах, каб яны ня мусілі зьвяртацца па дапамогу афіцыйна і не траплялі такім чынам у поле зроку сілавікоў.

Многія лекары выйшлі інкогніта, ня кажучы ўжо пра гэтых чулых мэдсястрычак і фэльчараў. Яны зачыняліся ў сваіх машынах хуткай дапамогі ды рабілі цуды. Фактычна хірургію на месцы. Каб выратаваць рукі, ногі, апечаныя вочы.

Асноўны ўдар прыняла на сябе лякарня хуткай дапамогі. Прычым самыя цяжкія пацыенты былі ня зь мірных акцыяў пратэстаў, дзе пацярпелі ад гумавых куляў ды сьвятлашумавых гранатаў, — а людзі, якіх білі і катавалі ў міліцэйскіх пастарунках ды ізалятарах часовага ўтрыманьня.

*Кацярына, рэаніматоляг:*

— Вельмі шмат пацярпелых баяліся зьвяртацца ў дзяржаўныя клінікі. Бо калі чалавек зьвернецца

з гумавай куляй у нейкім месцы, дык ясна, што ён не на арматуру напароўся, а гэта крымінальная траўма. А пра ўсе крымінальныя траўмы мы вымушаныя паведамляць у адпаведныя органы. Многія пра гэта ведаюць: адна справа схапіць кулю, а зусім іншая — атрымаць яшчэ болей.

Характар траўмаў менавіта крымінальны. Большая частка куляў была ў вобласьці сьпіны, задняй паверхні ног і ягадзіц. Ня трэба быць Шэрлакам Холмсам, каб зразумець, што стралялі ня ў тых, хто нападаў, а ў тых, хто спрабаваў уцячы.

Многія, з кім я размаўляла, казалі, што калі б зь імі зараз здарылася такое, яны нізавошта ў жыцьці б не зьвярнуліся па дапамогу, бо ўжо сутыкнуліся з такімі несумленнымі дзеяньнямі ўладаў. Усе мы памятаем, як на машынах „хуткай“ езьдзіў амон. Давер быў вельмі моцна падарваны. Быў выпадак, калі я езьдзіла да чалавека з нагоды ягонай траўмы, і, калі я выходзіла з машыны, чалавек сустрэў мяне з дубінкай у руцэ, бо баяўся, што прыедуць не да яго, а па яго.

Усе цудоўна разумелі, чым скончыцца 9 жніўня, ні для каго гэта ня стала сюрпрызам, і рэакцыя, якая за гэтым ішла, таксама нікога не зьдзівіла. Усім было зразумела, што будуць пацярпелыя, што будуць траўмы, але ня думалі, што настолькі. Нават у шмат якія клінікі афіцыйна далі распараджэньні аб узмацненьні гатоўнасьці ў ноч з 9 на 10 жніўня, былі выкліканыя на дзяжурства галоўныя дактары, загадчыкі, апэрацыйныя былі ў поўнай гатоўнасьці. Але да таго, што давялося пабачыць, да гэтага, я думаю, многія ўсё ж не былі гатовыя. Да таго, што будуць біць з асаблівай жорсткасьцю, што пачнуць ужываць газ… Асабліва

калі ўлічыць, што Беларусь — гэта такая краіна, дзе праз генэтычныя парушэньні ў выніку наступстваў Чарнобылю вельмі шмат людзей пакутуе ад алергіі, бранхіяльнай астмы. Пры ўжываньні газу гэта можа вельмі лёгка прывесьці да сьмерці.

## „Адзін супрацоўнік пазнаў мяне зь фільму“

*Павал Харланчук, актор:*

— Я апынуўся на Акрэсьціна... ну вось проста. Калі б я выходзіў на мірную акцыю, але гэтым разам я ішоў дадому. А ўсё вакол сталі ачэпліваць. Мне трэба на Дзяржынскага туды ўніз — мэтро не працуе, інтэрнэту няма. Я іду на Дзяржынскага — перакрыта, я іду ў бок Нямігі — перакрыта. Там пачынаецца нейкае дзеяньне, каля ГЦ „Галерэя“. Я іду ў бок Макдональдса — перакрыта. Спускаюся, іду праз вакзал, Бабруйская, там зноў перакрыта. Іду ў бок Кальварыйскай. Там таксама перакрываюць. Я іду міма, у бок Пушкінскай. Тэлефаную жонцы, кажу: „Ганна, калі я знайду таксі, я прыеду; калі не знайду, ты мяне тады сустрэнеш“. — „Добра“.

Потым я бачу, як прарываецца машына БМВ на Пушкінскай, яе абстрэльваюць, спыняюць пасярод скрыжаваньня. Дым нейкі. Я гэта сфатаграфаваў. Людзі стаяць. Вэвэшнікі (гэта салдаты ўнутраных войскаў) нешта робяць. І недзе там далёка нешта пачало страляць.

Я спускаюся да гатэля „Арбіта“, мне вайскоўцы кажуць: „Куды вы ідзяце? Ідзіце туды“. Я кажу: „Куды?“ — „Вунь там каля Макдональдса пера-

ходзьце“. Я пераходжу на другі бок, спускаюся ў пераход. І тут — сьвятло ў вочы, руля ў твар: „Стаяць! Хто такі?“ — „Іду дадому“. Ну і пачынаецца, нібы я сапраўды нейкі бандыт: „Што ў цябе там? Давай дакумэнты!“ Я сунуў руку ў сваю сумку. „Не, выварочвай!“ Я выварочваю. „Вось пашпарт“. — „Дзе жывеш?!“ — „Багатырова“. — „Дзе гэта?“ Я паказваю: „Там“. Ён гартае пашпарт, кажа: „Што ты хлусіш? Ты жывеш не ў Багатырове, ты жывеш у Юхнаўцы“. Я кажу: „Пачакайце, якая Юхнаўка?“ А ў мяне на пячатцы пра шлюб прозьвішча маёй жонкі — Южакова. А вось, кажу, мая прапіска — Багатырова. „Што ты тут робіш?“ — „Я іду з працы. Я працую ў цэнтры“.

„Тэлефон паказвай!“ Я паказваю. „А, усё ясна!“ А ў мяне фотка гэтага дыму. Ну ўсё. Двое пад пахі. Насустрач выбягаюць ужо такія напружаныя. Гэты, што мяне вядзе, кажа: „Спакойна, ён спакойны“. І я апынаюся ў аўтазаку. Сумку кідаюць у адзін бок, з тэлефонам, пашпартам, партманэтам, ключамі. А я ў клетцы, сем чалавек, у тым ліку і кіроўца гэтага БМВ няшчаснага. Мы пад’ехалі, адчыняюць дзьверы і адтуль адразу: „БМВ, у каго БМВ?“ Туды ўжо паведамілі, што вязём кіроўцу БМВ, і яго там жорстка прынялі.

Мы пайшлі з аўтазакаў. Рукі за сьпіну, галаву ніжэй, ніжэй, ніжэй. Ты прабягаеш „калідор“, кудысьці б’юць, мне канкрэтна — па сьпіне, локці, назе. Самае балючае — па локці папалі, там нейкая нэрва. Потым на каленях стаіш, рукі ўгору. І хто задае пытаньне, адразу атрымліваюць удары. „Скажыце, можна спытаць?“ — ту-дух. „Дык я толькі спы…“ — ту-дух. „Рот закрой, животное“.

Перасоўваемся на каленях. Потым было апытаньне, недзе каля гадзіны на каленях — хто, адкуль.

Потым зноў „калідор“ ужо ў будынку, таксама на каленях. Здымаць усё зь сябе — гадзіньнік, акуляры, папругу, матузкі. І ўсё, павялі… Гэта ня камэра, а дворык для прагулак, мэтраў 50 квадратных, і там шчыльна стаялі сто чалавек. І мы так стаялі з трох раніцы да васьмі вечара.

Былі там сьмешныя хлопцы з Гомлю, дарэчы, зь Сяльмашу. Адзін з вухам разьбітым, другі з такім во фінгалам. Яны стаяць такія: „Ды ну яго на фіг, гэты БРСМ!“ Я кажу: „У якім сэнсе БРСМ?“ — „Ды нас запрасіла БРСМ на экскурсію ў «Атлант». Мы схадзілі, і потым дзяўчына нас запрасіла прагуляцца да Камсамольскага возера. Ну мы ішлі… А аўтазакі стаялі паўсюль. Міма іх немагчыма было прайсьці, там паўсюль было ачэплена. Мы ішлі, чалавек восем амонаўцаў прамінулі, ідзём далей. І тут нам насустрач з карабінам: «Сукі, на пол!» Мы пераглянуліся, думалі, сьмяецца. А ён: «На пол!». Ну мы леглі, і яны давай прасаваць. Потым яшчэ і гэтыя восем далучыліся“. Я яшчэ кажу: „Дзяўчына хоць прыгожая была?“ Ён кажа: „Ды максымальна страшная“. А адзін такі здаровы стаіць, кажа: „Я б адзін на адзін з гэтым амонаўцам выйшаў. А так я ляжу, а яны кажуць: «Глядзі, які здаровы». І гэта як бы галоўная прычына мясіць“.

Потым нас вядуць у камэру, я быў 60-м у камэры. Калі заходзіў, мне сказалі: „О, шасьцідзясяты!“ У мяне там гісторыя была, што адзін супрацоўнік у масцы пазнаў мяне зь фільму „Участак лейтэнанта Качуры“. І ён хацеў неяк аблегчыць маю долю. І дапамог. Калі нас раніцай выводзілі, зноў жа галавою ўніз, чалавек 15 з розных камэр, ён мне

сказаў на двары ўжо: „Пасядзі“ ці „Пастой“, я ўжо ня памятаю. А іншым загадалі ісьці „на размову“. Размова гэтая была, як мне пасьля сказаў адзін сукамэрнік, што іх паклалі тварам у падлогу і мясілі. Білі так, што шорты парвалі. І так ён мяне вызваліў ад гэтай размовы.

Потым ён адчыніў дзьверы: „Дойдзеш?“ — „Дайду“. Без матузкоў, без дакумэнтаў, без пратаколу, без абвінавачаньня я кудысьці пайшоў… Я толькі потым зразумеў, што я быў на Акрэсьціна. У сьпіну ён сказаў мне: „Не трымай зла“.

А па вуліцы ўжо ідзеш, глядзіш: гэты без матузкоў, гэты без папругі. На прыпынку дзяўчына стаіць: „А вы з Акрэсьціна“. Я кажу: „Так“. Яна кажа, што выклікала таксі. Я пытаюся: „А вас за што?“ — „Я пайшла паглядзець вынікі выбараў. З амонам забралі“.

# У ПАСТАРУНКУ

**„Я пабачыў сьляпы бесчалавечны тэрор“**
**„У актавай залі белая плітка, але ўся ў крыві“**
**„Кіраўнік РАУС паставіў нагу мне на твар“**
**„У міліцыі з майго сядалішча зрабілі карпáча“**
**„Вы замбаваныя, мы б вас усіх пазабівалі“**
**„Маёр на сваіх падначаленых крычаў: Жывёлы!“**

## *„Кніжныя пагрозы“*

— Усяляк пагражалі... Абсалютна кніжныя пагрозы: што будуць гвалтаваць дубінкай, пілаваць зубы напільнікам, напырскаюць у пакет зь пярцовага балёнчыка і надзенуць на галаву, прастрэляць мне калені і скажуць, што спрабаваў уцячы, адаб’юць усе мазгі, і я забуду, што я праграміст. Не давалі піць і ў туалет. Казалі, што потым на допыце, цытую, „і абасцуся, і абасруся“.

## *„Як катавалі ў 30-я“*

— Будуць біць, — зразумеў я. Але я шмат чытаў і пісаў пра тое, як катавалі ў 30-я, таму разумеў, што будзе адбывацца, і моцнага страху не адчуваў. Самае галоўнае — усё адмаўляць, нягледзячы на катаваньні. Хто тады ўсё адмаўляў, выжыў. Хто пагаджаўся сябе абылгаць, шанцаў ня меў.

## *„Звычайныя справы“*

— У актавай залі Маскоўскага РУУС паміж сабой мянты абмяркоўвалі звычайныя справы.

Адзін скардзіўся, што цешча зламала шыйку сьцягна і яны не захацелі ставіць беларускі пратэз, паставілі нямецкі. Патрыёт хрэнаў. Але паставілі так, што цешча пачала кульгаць. Другі скардзіўся, што яго сын пачаў хадзіць на пратэсты і можа папасьціся. Абмяркоўвалі сваю страхоўку і выплаты ў выпадку траўмаў. „Хлопцы, калі на мяне нападуць пяць чалавек, не сьпяшайцеся выцягваць, у мяне яшчэ страхоўка ня скончылася“. Каладзінскі, Дрозд, Барада — прагучала некалькі прозьвішчаў. Відаць, начальства і калегі. Адзін расказваў, як спрабаваў здаць валюту, аднятую ў пратэстоўцаў у сваім раёне — на Рафіева.

### *„Калі на вуліцы пратэстоўцы ішлі міма...“*

— Калі на вуліцы пратэстоўцы ішлі міма Цэнтральнага РУУС, сілавікі выключылі ў будынку сьвятло, паклалі нас усіх на падлогу. Мне да скроні прыставілі зброю.

### *„А можно по-русски?“*

— Быў такі момант: перапісвала зьвесткі жанчына. І калі я сказаў, што я вядучы навуковы супрацоўнік, міліцыянтка папрасіла: „А можно по-русски“? Я зьдзівіўся, кажу, мы ж у Беларусі. Па-расейску паўтараць ня стаў, ёй там хтосьці растлумачыў, што такое „вядучы навуковы супрацоўнік“.

### *„Заганялі пад пазногаць шпільку“*

— Асабліва балюча было, калі білі па кайданках. Жалезьзе ўразалася ў рукі, кроў цякла, боль

быў нясьцерпны. Круцілі пальцы. Адзін заганяў мне пад пазногаць шпільку, якой плякаты мацуюць. Але іншы сказаў, каб не займаўся глупствам. Крычалі, што расстраляюць.

### *„Як на бойні“*

— У пэўны момант мной авалодала такое магутнае пачуцьцё адчаю і безвыходнасьці, што я быў гатовы да любой разьвязкі. Там такое беззаконьне панавала, што валасы дуба станавіліся. Горш як на бойні, дзе б’юць сьвіней і кароў. У мяне ўсё жыцьцё перад вачыма пракруцілася.

### *„Цудоўныя парадкі“*

— Пад раніцу прыйшоў афіцэр, начальнік пінскай міліцыі, і сказаў, што 90% затрыманых — гэта нявінныя. Папрасіў прабачэньня і патлумачыў, што гэта была спэцыяльная апэрацыя. Сказаў: „Але мы ня можам вас вызваліць проста так. Такі закон, што прысудзім штрафы. Нам не хапае на амуніцыю. А вас узяць — гэта ж казённая сіла трацiцца, трэба хлопцаў пакарміць“. Я ня мог паверыць уласным вушам. За тое, што яны мяне пабілі, то я яшчэ мушу заплаціць? Цудоўныя парадкі!

### *„Жанчыны-супрацоўніцы зьбівалі нас нагамі“*

— Пасьля мяне завялі ў будынак насупраць Мазырскага РАУС. Супрацоўнікі называлі гэты будынак „Страной для жизни“. Там нас білі. Паклалі зноў жа тварам на падлогу, тварам адзін аднаму ў азадак. Зрабілі такі ланцужок з нас. Там быў я і

яшчэ трое хлопцаў. І проста білі дубінкамі. Жанчыны-супрацоўніцы зьбівалі нас нагамі.

### *„Прышпілілі да ўтаймавальнага крэсла“*

— У аўтазаку асабліва ня білі, а ўжо ў Маскоўскім РУУС пачалі зьбіваць. Прышпілілі да крэсла, такое нейкае ўтаймавальнае, якое ніяк ня рухаецца. І зноў там пачалі мяне біць. Рукамі ўжо, не спэцсродкамі. Я крычаў: „Што вы робіце?!“ Я ня мог там ні спаць, ні адпачываць, бо быў прышпілены. Гадзіны тры так пратрымалі, потым пачалі дадзеныя пытацца. З тых, хто біў, запомніў толькі аднаго (ён бяз маскі быў, дзяжурны), таму што ён мяне прышпіліў кайданкамі, да ўпору, і лаяўся усялякімі дрэннымі словамі на мой адрас.

### *„Міліцыянткі бегаюць па крыві вясёлыя“*

— Калі мяне прыцягнулі ў дворык аддзелу жлобінскай міліцыі, я страціў прытомнасьць, яны аблілі мяне вадой і пацягнулі ў падвал. Усе прыступкі туды былі залітыя крывёй. Шакавала ня тое, што нас там білі, а тое, што прыступкі залітыя крывёй, людзі ляжаць без прытомнасьці, а жанчыны-міліцыянткі бегаюць па крыві вясёлыя, хіхікаюць і размаўляюць матамі. Я недзе згубіў акуляры, шлёпанцы, быў там босы. Босы ішоў па прыступках, залітых крывёй.

### *„Больш нас да сьцяны не паварочвалі“*

— Калі прыехалі на месца, сказалі хутка выгружацца, загналі ў гараж. Загадалі: „Тварам да сьцяны, рукі на сьцяну!“ Я спытала: „Мы хіба не-

бясьпечныя злачынцы, каб так стаяць?! Я аддаю перавагу глядзець у вочы небясьпецы". І разьвярнулася проста перад чалавекам, які нам гэта загадаў, сустрэўшыся зь ім позіркам. Ён спытаў: „Паглядзелі, і што?" Я адказала: „Падобны на даволі інтэлігентнага чалавека. Мы таксама тут усе лекары з вышэйшай адукацыяй, не бандыты, не экстрэмісты, таму давайце будзем паважаць адно аднаго". Ён сышоў, усе павярнуліся і больш нас да сьцяны не паварочвалі.

### *„Найлепшыя скончыліся"*

— У актавай залі, дзе мы чакаем сваёй долі, заўважаю адсутнасьць фатаздымкаў у рамках на дошках гонару: „Лучшие по профессии", „Лучшие спортсмены". Задаю пытаньне аб прычыне такой пустэчы міліцыянту: „У вас што, хіба найлепшыя скончыліся?" — „Гэта ў мэтах бясьпекі. Дзе гарантыя, што вы потым ня знойдзеце гэтых людзей і ня будзеце ім помсьціць?"

### *„Падрапаныя твары"*

— Так ляжалі да раніцы. Ва ўсіх былі падрапаныя твары. Бо цяжка было ляжаць і глядзець у асфальт. Проста пачынаеш задыхацца, таму што нос заціснуты. Паварочваесься — атрымліваеш.

### *„Няхай хлопцы пазабаўляюцца"*

— У тамбуры пастарунку я паскардзіўся на млоснасьць, бо білі выключна па галаве. Я сказаў, што магу званітаваць, і папрасіў вывесьці на вуліцу. Яны зьлітаваліся і вывелі мяне на вуліцу. Я

сеў на броўку і глытаў сьвежае паветра, каб хоць неяк ачуцца. Пакуль я сядзеў на броўцы, да мяне падышоў супрацоўнік у балаклаве і сказаў сваім „калегам“: „Слухайце, а давайце яго адвядзем у аўтазак, хай хлопцы пазабаўляюцца“. Мяне запхнулі ў аўтазак, паклалі на жывот, загадалі трымаць рукі за сьпінай і сэкундаў 20 білі дубінкамі па ягадзіцах.

## *„Білі суседа, а ён торгаўся ў тахт“*

— Мужчын білі страшна. Перада мной ляжаў хлопец: ён настолькі прывык да біцьця, што ў яго рэфлекторна цела курчылася. Гэта значыць, калі білі ягонага суседа, ён торгаўся яму ў тахт.

## *„Карына кінула тэлефон аб сьцяну“*

— Пазьней у спартзалю прыйшла жанчына ў форме супрацоўніка амону, Карына. Яе твар я запомню надоўга. Яна пачала біць тэлефоны затрыманых. Мой смартфон трапіўся першым. Карына кінула тэлефон аб сьцяну, потым аб падлогу, а потым дабіла рукамі. Сказала, што „рэвалюцыянэрам“ пашанцавала, што гэта не яе зьмена.

## *„Сышліся на «тканіне бел-чырвона-белага колеру»“*

— Дзяўчына, якая рабіла вопіс рэчаў, адзначыла аўтамабільны ключ, банкаўскую картку, зьнятыя матузкі, заручальны пярсьцёнак. У мяне таксама з сабой быў сьцяг з выявай Пагоні. У вопісе яго не аказалася — супрацоўніца выкінула яго ў сьметнік. Падпісваць паперу я адмовілася, бо ў ім

не хапала адной маёй рэчы. Дзяўчына пачала крычаць, што я „бандэраўка“ і што „гэтую анучу“ яна забірае. Тады я запатрабавала аформіць акт канфіскацыі рэчы. Пасьля гэтага яна паклала сьцяг на падлогу і пачала яго таптаць, працягваючы мяне абражаць. Усё скончылася тым, што прыйшоў іншы супрацоўнік, як я зразумела, вышэйшы за яе пасадай, і сказаў, што калі я хачу „ўпісаць анучу“, то трэба ўпісваць. Такі варыянт я таксама падпісаць не пагадзілася, мы сышліся толькі на „тканіне бел-чырвона-белага колеру“.

## *„Паўсюль валяюцца выбітыя зубы“*

— Зацягнулі ў Цэнтральны РАУС, і там пачаўся проста кашмар. Яны паклалі мяне тварам у падлогу, як усіх затрыманых, і білі жорстка — па галаве, па вушах, па нагах — дубінкай. Падыходзілі па чарзе і білі нагамі ў пахвіну. Гэта былі нашы, гомельскія міліцыянты. Бо яны мяне ведалі і казалі: „О, Лукомскі!“ — і яшчэ ўдар нагой у пахвіну. Начаплялі на мяне нейкіх значкоў, кшталту апазыцыйных, здымалі гэта на камэру. Зноў білі. Я ляжаў на падлозе і бачыў, як паўсюль валяюцца выбітыя зубы, шмат зубоў.

## „Я бачыў усякае. Але такое...“

*Аляксей, 66 гадоў, грузчык:*

— 11 жніўня каля сёмай вечара я выйшаў у краму каля дому. А я жыву побач з РУУС Савецкага раёну. У мітынгах удзельнічаць не зьбіраўся: лічу, што ўзрост ужо не для рэвалюцый.

Недалёка ад дому я ўбачыў машыны ДАІ, якія перакрылі вуліцу каля аддзяленьня міліцыі. Пытаюся ў даішнікаў: „Хлопцы, а чаго гэта вуліцу закрылі?“ Адказваюць: „У мэтах бясьпекі“. Я не зразумеў: „Якой такой бясьпекі?“

Насупраць, каля цэнтральнага ўваходу ў пастарунак, стаялі людзі ў камуфляжнай форме. Чую, даішнікі кажуць: „Хлопцы, ён ваш!“ І ўсё — падбеглі, скруцілі „ластаўкай“. Дзьве хвіліны — і я ўжо ўсярэдзіне. У вельмі грубай форме затрымалі два хлопцы. Колькі тут мяне ёсьць, дзеда.

Без разбору завялі ва ўнутраны дворык разам зь іншымі затрыманымі. Там людзей трымалі амаль суткі. Ноччу проста на вуліцы паставілі пісьмовы стол і падводзілі людзей па адным.

У пастарунку пратакол складалі, на камэру нешта здымалі. Які артыкул, за што мяне ўзялі, я нават і не зразумеў. Ня змог прачытаць, без акуляраў быў. Нешта пра супраціў міліцыі, алькагольнае ап’яненьне, мітынгі. Сказалі расьпісвацца ў нейкіх дакумэнтах. „Дзед, расьпісвайся, я сказаў. Або зараз палкай атрымаеш. Выпішуць дзьве мінімалкі — заўтра адпусьцяць“. Вось такая размова.

Што было далей уночы, нават ня ведаю, як апісаць. Мне здаецца, нават немцы так у час вайны ня зьдзекаваліся. Мяне толькі адзін раз па галаве

стукнулі, ды яшчэ па нагах падчас затрыманьня. А так дзеда шкадавалі, калі можна так сказаць. Але як білі моладзь — гэта страх... Яны стаяць каля агароджы, галовы апушчаныя. Ззаду ідзе міліцыянт — берцамі па нагах, палкамі...

12 жніўня перавезьлі ў ЦІП на Акрэсьціна. Калі выпускалі з аўтазака, людзі траплялі ў „жывы калідор“ з амонаўцаў. Затрыманы праходзіў, а яго з двух бакоў білі дубінкамі. Хто падаў, той атрымліваў яшчэ мацней. Потым усіх пасадзілі ў камэру.

Я такога ня бачыў. Фашызм натуральны. Паразьдзяваліся ўсе потым — сінія. Уяўляеце, нас 75 чалавек у камэры было. 75 чалавек! Камэра — мэтры 4 на 4. Бэтонная падлога.

Да нас потым хлапчука 18-гадовага закінулі. У калідоры перад гэтым яго прымушалі крычаць: „Я люблю амон!“ Вось ён крычыць, а яго ззаду дубасяць палкамі. Да нас закінулі яго — ён ніякі ўжо. Мы папрасілі лекара турэмнага. Ён прыйшоў, аглядае. А побач якраз начальнік праходзіў турэмны. Кажа: „Няхай здыхае, няма чаго лезьці, куды ня трэба“.

Але затым усё ж такі выклікалі „хуткую“. І яшчэ іншым чатыром. Гэта тыя, якіх я на свае вочы бачыў, — яны зусім у адключцы былі. З нашай камэры больш нікога не чапалі. Але ў суседніх людзі крычалі страшна ўсю ноч.

13 жніўня праходзілі суды. Мяне выклікаць не пасьпелі. Замест гэтага далі позву на 4 верасьня. Прымусілі падпісаць паперу, у якой затрыманы абавязваецца ня ўдзельнічаць больш у несанкцыянаваных мітынгах. Пры паўторным затрыманьні гэта пагражае крымінальнай адказнасьцю.

Выпусьцілі а 5-й вечара. Я спытаўся ў іх, дзе мае ключы. Яны адказалі: „Дзед, ідзі! Будзеш пытаньні задаваць — застанесься“. Вось такое стаўленьне. Дарэчы, потым, ужо ў пятніцу 14 жніўня, хадзіў у ЦІП шукаць ключы ад кватэры. Так і не знайшоў іх. Сказалі прыходзіць праз пару дзён.

Валянтэры да мяне зьвярталіся, прапаноўвалі бясплатную мэдычную дапамогу. Я сказаў, што дапамога мне не патрэбна. Якая ўжо рэабілітацыя ў маім узросьце. Мне ў паліклініцы выпісалі нейкую мазь — мажу.

14 жніўня выйшаў на працу. Калектыў і кіраўніцтва паставіліся да сытуацыі з прагуламі добра, бо я адпрацаваў у МАПІД 41 год... Размовы пра звальненьне не было.

Дома таксама падтрымалі. Я дзякуючы дачцэ вырашыў з прэсай кантактаваць. „Тата, — кажа, — трэба!“ Я ж да яе прыехаў уначы 13 жніўня па ключы. Калашына разарваная, сам у сіняках. Напалохаў яе. Я разумею, што ў краіне павінен быць парадак. Але не да такой ступені. Так не павінна быць. У мяне два ўнукі — 10 і 13 гадоў. Як яны далей будуць тут жыць, я ня ведаю.

Я бачыў усякае. І ў Саюзе было ўсякае. Але такое...

## „Менш бітых мы мусілі пакідаць на дабіваньне“

*Мэдык „хуткай дапамогі“:*

— Людзі, якія былі на Акрэсьціна — гэта сапраўдныя героі. Я хачу папрасіць прабачэньня за

сябе і ўсіх нашых калег. Мы сапраўды стараліся, як маглі, але мы не маглі дапамагчы ўсім.

Я бачыў кроў, яе нават не пасаромеліся прыбраць адтуль. Як правіла, усе псыхалягічныя траўмы спалучаліся зь цяжкімі цялеснымі пашкоджаньнямі. Зьверху да нізу магу прайсьці. Гэта былі пабітыя вочы, якія заплылі так, што не відаць было зрэнак. Калі я апісваў аднаго з пацыентаў, я ня мог апісаць велічыню зрэнак, вока проста не было, яно заплыло. Спускаемся ніжэй. Быў чалавек, у якога была проста раздробленая хрыбетка. Там была проста нейкая шчыліна, і чалавек адчуваў дзікі боль. Былі людзі зь велізарнымі гематомамі на сьпіне. Было адчуваньне, што хацелі дубінкамі выбіць нейкія сымбалі. Былі проста траўмы жывата. Нібы там унутры проста куламеса. Сінякі былі не такія, як звычайна, калі ўдарыў руку, і ўсё. А проста чорныя аграмадныя плямы амаль на ўсё цела. У многіх выбілі зубы.

Людзей там дзялілі на чатыры групы. Іх мецілі проста па твары балёнікамі з фарбай, як графіці малююць: чырвоны, жоўты, чорны і бясколерны. Кожны колер, я так разумею, абазначаў, што чалавек учыніў „злачыннае“ — як моцна ён адстойваў свой голас, які ў яго скралі. І ад гэтага залежала, як ён будзе праходзіць так званы „калідор“. Я так разумею, людзі з жоўтымі меткамі маглі пакінуць Акрэсьціна, у іх былі меншыя траўмы, чым у людзей, у якіх былі чырвоныя меткі. А дзе чорныя меткі, адразу было відаць, іх брыгадам проста не аддавалі. Мэдыкі нешта зь імі рабілі, відаць, абязбольвалі ці нешта яшчэ, і яны заставаліся на Акрэсьціна.

Адзін з пацыентаў прасіў патэлефанаваць сваім блізкім і сказаць, што ён выйшаў, бо баяўся, што ў ягонай маці здарыцца нэрвовы зрыў ці інфаркт. Ты прыязджаеш на Акрэсьціна, ты ня можаш там спыніцца, сказаць, бо гэта нельга. Ты пакідаеш там паперку, бо людзі бягуць за „хуткай“ і пытаюцца, каго на гэты раз вывозіце? І ты або крычыш, або перадаеш паперку. Мы спрабавалі па-хуткаму напісаць, пакуль нам аглядалі машыну, каб мы яшчэ каго лішняга не забралі. У нас глядзелі, каб не было ні тэлефону, ні камэры. І за гэты час ты пасьпяваў нешта зрабіць.

У лякарні „хуткай дапамогі“ доктар, такі ўжо ва ўзросьце, ніколі ня бачыў такога жаху, які мы прывозілі. Ён кажа: Божа, адкуль гэта і колькі вы яшчэ прывезяце; вязіце ўсіх, каго можаце.

Траўмы былі шматлікія, спалучаныя. Не было ізаляваных траўмаў, напрыклад проста пералому рукі. Яны білі, білі па чым маглі, куды дацягнуцца дубінкі. Пацыенты расказвалі, што дубінкі былі ў іх розныя. Адны як электрашокеры, гарачыя, ад іх апёкі былі на нагах, на руках. Іншыя гумовыя, якія гнуцца, якія, нам казалі, лепш да цела, як бярозавая галінка. Маўляў вось вам бярозавай кашы, хоць вы заслугоўваеце большага пакараньня.

Дзяўчына, якую мы вывозілі, уся была запэцканая крывёю. Я спытаў, адкуль столькі крыві. Яна сказала, што нават не выпускалі ў туалет па жаночых справах. Сказалі падціраццa сваімі ўласнымі рэчамі, якія былі на іх.

Там ня ўсе былі такія. Самі турэмнікі былі даволі нармальнымі людзьмі. І калі мы прывозілі дзяўчатам пракладкі... Былі там брыгады, якія дазвалялі перадаць. Ці можна было наўпрост

гэтым турэмнікам перадаць, толькі каб побач не было амону альбо, як мы іх называем, ціхароў, кадэбэшнікаў. Гэта самыя страшныя людзі, якія там былі. Яны сачылі за тым, каб іншыя якасна выконвалі загад, каб амон біў жорстка, а турэмнікі не праяўлялі літасьці. А як толькі яны сыходзілі, і амон кудысьці прападаў, і пачыналася такая фаза невялікага, але зацішша.

Людзі глядзелі на нас і спрабавалі знайсьці ў нас чалавечнасьць, бо ня ўсе былі такія літасьцівыя. З расказаў пацыентаў, там была адна жанчына, фэльчар з Акрэсьціна, якая рабіла жахлівыя рэчы. Цяжкіх людзей яна проста выцягвала з машыны і казала, што яны нікуды не паедуць, яны павінны атрымаць па заслугах. Побач стаяла фэльчарка ўжо іншая, добрая. Калі побач не было амону ці кадэбэшнікаў... Мы разам зь ёй аглядалі і разумелі, можна ці не... Дык гэтая жанчына казала, наколькі цяжка і ці зможа яна іх там утрымліваць, працягнуць яны ў камэры суткі ці не.

Амон біў людзей, менавіта амон канкрэтна і чыніў усе гэтыя зьверствы. Я не разумею, што ўвогуле амон забыў на Акрэсьціна. Гэта ня людзі, гэта нейкія зьвяры. Расказвалі, што яны клалі шчыт на людзей і білі спачатку па шчыце, каб у вушах зьвінела, а пасьля білі па галовах, па рэбрах, па нагах. Яны не саромеліся нікога. А калі стаялі гэтыя кадэбэшнікі, яны, я так разумею, выслужыцца хацелі і білі яшчэ з большай лютасьцю.

У вачах турэмнікаў чытаўся жах. Яны, відаць, ня бачылі такой жорсткасьці за ўвесь час. Нашы брыгады прывозілі ежу і ваду. І было сказана амонам, што калі вы надта міласэрныя... А калі яны даведаліся, што мы практычна ўсіх, каго аглядалі,

вывозілі, яны проста нас выгналі. Маўляў, нам такая „хуткая“ не патрэбная.

Лекары ішлі супраць волі. Яны рабілі ўсё, каб можна было выратаваць хоць кагосьці. Забіраліся ўсе людзі ў крытычным стане. На жаль, менш бітых мы мусілі пакідаць на дабіваньне. Хто даў ім права штурхаць нас на злачынства? Усіх, хто туды прыяжджаў, штурхалі на злачынства — пакідаць людзей зь менш цяжкімі пашкоджаньнямі на дабіваньне. Людзі вачыма прасілі, каб іх забралі. У вачах чытаўся поўны жах.

## „Мама, я больш ніколі не пайду ў прыбіральню“

*Іна:*

— 11 жніўня мы з сынам вярталіся дамоў на Каменную Горку. Недалёка ад дому зайшлі ў краму і трапілі ў аблаву міліцыі.

Мне вельмі страшна цяпер. Я баюся, што мяне могуць у кожны момант арыштаваць. Я баюся ня толькі выходзіць, але дома быць — раптам нехта ўварвецца? Я жыву ўдваіх з сынам, якому 9 гадоў. Калі мяне арыштуюць, што будзе зь ім?

Каля 23-й гадзіны быў яшчэ ня вельмі позьні час. Мы былі ў мэдычным цэнтры, потым паехалі дамоў. Сувязь не працавала, я не магла выклікаць таксі. Навокал стралялі, бамбілі. У выніку мы пешшу дайшлі з цэнтру да Пушкінскай, а там знайшлі таксі. Паехалі ў краму, каб купіць прадукты. У той момант, калі пад’ехалі, там не было ніякай спэцтэхнікі, міліцыі. Былі людзі, так. Але што дзіўна-

га, што людзі цяпер зьбіраюцца. Тым больш тыя, хто пратэстуюць, яшчэ ніколі не былі пагрозай для мяне, у адрозьненьне, як высьветлілася, ад людзей, якія павінны нас абараняць.

Мы побач жывём, добра ведаем гэтую краму — яна не такая ўжо і вялікая, і я адпусьціла сына ў прыбіральню. І тут пачаліся выбухі, страляніна. У гандлёвым цэнтры абвясьцілі, што яны зачыняюцца і нікога ня будуць пускаць у краму. Людзі пайшлі да дзьвярэй глядзець, што там адбываецца. Я таксама падышла і стала здымаць. Там было шмат супрацоўнікаў міліцыі. Яны бегалі за людзьмі, стралялі, кідалі гранаты. Людзей, якія выходзілі з крамы — з пакетамі, з прадуктамі — адразу арыштоўвалі і заводзілі ў аўтобусы. Мы разумелі, што мы там заблякаваныя і што, калі мы захочам выйсьці і пайсьці дадому, то нас арыштуюць.

Амонаўцы сталі ламіцца ў дзьверы. Начальнік аховы крамы папрасіў, каб той, хто стаў ламаць дзьверы, паклікаў свайго начальніка, каб мы зразумелі, хто яны, раптам бандыты? Ён хацеў патлумачыць, што ў нас усё спакойна, няма ніякай акцыі, што тут звычайныя пакупнікі, жанчыны зь дзецьмі. Але яго ніхто ня слухаў. Яны натоўпам сталі ламаць дзьверы. Я тады зразумела, што яны зараз уварвуцца, а маё дзіця дагэтуль у прыбіральні, і мне стала вельмі страшна. Ды ва ўсіх пачалася паніка. Людзі сталі крычаць.

Я кінулася бегчы ў бок прыбіральні, і тут чую за сьпінай, што яны ўжо ўварваліся. Яны крычалі людзям матам, такімі адборнымі мацюкамі: „Мордай у падлогу! Да сьцяны!“. Я схавалася пад прылаўкам, каб бачыць, што адбываецца, і, калі будзе ісьці маё дзіця, яго адразу забраць. Я разумела,

што, калі б я не схавалася, мяне б затрымалі, і я б не змагла нічога нікому патлумачыць. Ніхто б ня стаў слухаць, што ў мяне тут дзіця. Калі я хавалася, я адчувала сябе так, нібыта нас захапілі тэрарысты.

Сын доўга не ішоў. Я ня вытрымала і пайшла яго шукаць. Я выйшла, гляджу: шмат хто ляжыць на падлозе, некаторыя стаяць каля сьцяны. Было шмат крыві на падлозе. На жанчын амонаўцы крычалі матам, называлі прастытуткамі. Я стала гучна клікаць свайго сына. І я пабачыла яго разам зь нейкай жанчынай на падлозе, яна закрывала яго сабой. Ён пачуў мяне, прыбег. І расказаў, што яго білі, прымушалі класьціся на падлогу, а ён не хацеў, супраціўляўся, хацеў ісьці шукаць мяне.

Калі я ўсё гэта расказваю, мне зноў робіцца вельмі дрэнна і страшна... Нас сталі выводзіць з крамы. Некага вялі ў аўтобусы, некага проста на вуліцу. Я моцна трымала сына і пайшла на вуліцу. Магчыма, мяне не забралі, бо я была зь дзіцём.

На вуліцы я не разумела, куды ісьці, каб гэта было бясьпечна. Бегалі людзі, а за імі амонаўцы, стралялі. Было шмат газу, цяклі сьлёзы, было цяжка дыхаць. Нас проста труцілі. Я павольна пайшла ў бок свайго дому. На нас ішла калёна супрацоўнікаў, і я стала ім крычаць: „Адвядзіце мяне з сынам дадому, мне страшна, я хачу дамоў! Мне страшна, што нас зараз заб'юць". Адзін зь іх падышоў да мяне і запытаўся, дзе мы жывём. Узяў мяне за руку і сказаў, што адвядзе дамоў.

Калі мы праходзілі аўтобус, мне стала страшна, што ён мяне зацягне туды. Я сказала: „Не, у аўтобус я не пайду". Але ён павёў нас да скрыжаваньня. Усю дарогу ён нас супакойваў, казаў: „Ніхто

вас не кране, ня бойцеся“, трымаў мяне за руку. Але сын быў у такім стрэсе страшэнным — усю дарогу крычаў: „Мама, я больш ніколі не пайду ў прыбіральню, прабач мяне!“ Ён цяпер так дрэнна сьпіць, стаў нэрвовым.

На скрыжаваньні мы спыніліся на чырвонае сьвятло. І раптам пад’ехалі сінія аўтобусы, зь іх выскачылі людзі ў чорнай форме са зброяй і пачалі страляць па машынах. Супрацоўнік, які нас суправаджаў, адштурхнуў ад дарогі, бо ў нас маглі трапіць кулі.

Там пачалося нешта страшнае. І той хлопец, што ішоў з намі, пабег. Мы засталіся адны. Я ўжо бачыла свой дом. На зялёнае сьвятло мы пайшлі праз дарогу, і калі мы былі ў цэнтры дарогі, на нас з сынам паехала машына ДАІ і два сінія аўтобусы. Яны нас ледзь ня зьбілі, яны ляцелі на чырвонае сьвятло.

Калі мы перайшлі дарогу, я пайшла да людзей у форме і стала прасіць, каб нас давялі да дому, бо я бачыла, што каля майго дому бегала шмат людзей, стралялі. Адзін з супрацоўнікаў падышоў да начальніка, расказаў пра нас. Ён падышоў, я стала яму казаць: „Растлумачце, дзе я цяпер знаходжуся? Я ў цэнтры Менску, у цэнтры Эўропы? Чаму я зь дзіцем баюся ісьці дамоў? За што яны так з намі?“ Ён сказаў, што я апынулася ня ў тым месцы, ня ў той час, маўляў, ідзіце дамоў. Я яму кажу, мне страшна. Ён адказвае: „Калі вам страшна, то мы зараз вас з сынам пасадзім у аўтобус і будзеце там сядзець“. Маўляў, жанчына, не правакуйце. Я замоўкла.

Той начальнік загадаў сваім людзям правесьці нас. Як падлічыў сын, агулам суправаджалі шэсь-

ць супрацоўнікаў. На лаўцы каля пад'езду я села, каб супакоіцца, і запыталася ў хлопцаў: „За што вы ваюеце цяпер?“ Яны з матам адказалі: „А х... яго знае“.

Ужо дома я пабачыла кроў на сваіх джынсах, а на назе — рану. Нават не заўважыла, дзе і калі яе атрымала, бо не адчувала болю.

Гэтыя некалькі хвілін страху, што я ў закладніках у тэрарыстаў — як палова майго жыцьця. А таго, што яны зьдзекаваліся з майго сына, я ніколі ім не прабачу. Адзін амонавец ударыў яго нагой па назе, у сына застаўся вялізны сіняк. А калі ён не хацеў класьціся на падлогу, той ударыў яго дубінкай па сьпіне. За што з намі так? Мы былі звычайнымі пакупнікамі ў той краме. Мы не мітынгавалі, ня ўдзельнічалі ў пратэстах. Але мы пацярпелі фізычна і маральна. Хто за гэта адкажа?

## „Мы дагэтуль ня можам пахаваць майго брата“

*Вольга Віхор, сястра Аляксандра Віхра, Гомель:*

— Я яшчэ да канца не разумею, што здарылася. Мы дагэтуль ня можам пахаваць майго брата. Ніхто не дае нам заключэньня — чаму наступіла сьмерць. Мы самі езьдзім па лякарнях, размаўляем зь лекарамі, спрабуем сабраць нейкую інфармацыю.

Яму 25 гадоў, малады здаровы хлопец, спартовец, з вышэйшай адукацыяй, эканаміст. Ён ехаў на сустрэчу зь дзяўчынай, трапіў у непатрэбнае месца ў непатрэбны час. Быў суд. У яго былі пра-

блемы з сэрцам, тахікардыя, высокі ціск. Ён пра гэта казаў, але там ніхто ня слухае. Пасьля суду яму стала дрэнна, гэта было ў шэсьць гадзін вечара. Ён задыхаўся, прасіў пра дапамогу. Іх трымалі ў аўтазаках. Ніхто дапамогі не аказаў. І яго прывезьлі, гэта з шасьці вечара, толькі ў дзьве гадзіны ночы ў лякарню. Прычым у псыхіятрычную. Бо ў чалавека ўжо быў перадынсультавы стан, ледзьве там ня кома наступала, ён губляўся ў прасторы. І супрацоўнікі міліцыі палічылі яго паводзіны неадэкватнымі і прывезьлі яго ў вар'ятню. На што псыхіятар сказаў, што вы ня бачыце? Чалавеку дрэнна, яму патрэбная мэдычная дапамога. Што вы выпрабляеце? У гэты час у Сашы стала спыняцца сэрца. Выклікалі хуткую, пакуль прыехала „хуткая“, сэрца спынілася. Яны спрабавалі яго рэанімаваць, сэрца завялі. Але ён ня дыхаў. Яны яго перавезьлі ў рэанімацыю. Ён паступіў туды, як нам сказалі рэаніматолягі, з ацёкам галаўнога мозгу і ў стане клінічнай сьмерці. Яшчэ гадзіну спрабавалі змагацца, але, на жаль, беспасьпяхова.

Нам сказалі, што заключэньне рабілі і, нібыта, адправілі яго ў Менск. Усе пробы, усе аналізы будуць гатовыя толькі праз месяц. Я ня ведаю, як хаваць брата, ня ведаючы прычыны, ня ведаючы наогул, што адбывалася і як адбывалася. Ёсьць факты пра тое, што іх зьбівалі. Факты, вядома, нашымі праваахоўнымі органамі не пацьвердзіліся. Мы самі шукаем сьведкаў, і я прашу, каб сьведкі адгукаліся.

Я хачу справядлівасьці. Я хачу ведаць, за што, як і чаму загінуў мой брат. Я заяўляю, што ён не памёр, ён загінуў. Я ня ведаю, як назваць гэта. Самаўпраўства, халатнасьць, перавышэньне служ-

бовых паўнамоцтваў. Ды проста гэта ня людзі. Даць паміраць маладому хлопцу, зьбіваць, калі чалавек просіць пра дапамогу. Чалавек знаходзіўся ў суправаджэньні праваахоўных органаў. Вы прывозілі яго на суд. Гэта адміністрацыйная працэдура. Няўжо вы не маглі элемэнтарна хуткую выклікаць. А вы давялі яго да гібелі.

Ягоная дзяўчына пра ўсё ведае, і ня толькі яна. Я цяпер была ў Сьледчым камітэце, і па прыезьдзе дадому мы арганізавалі вялікі пікет, Сашавы сябры, аднагрупнікі, аднаклясьнікі, знаёмыя, вельмі шмат людзей нясуць кветкі, ставяць сьвечкі каля вокнаў, павесілі партрэт. Мы гэтага не чакалі.

Мы напісалі заяву ў пракуратуру, патрабуем узбудзіць крымінальную справу, правесьці расьсьледаваньне, што былі зробленыя супрацьпраўныя дзеяньні, што не была аказаная мэдычная дапамога. Што будзе далей, я ня ведаю. Але пахаваць яго, на жаль, пакуль мы ня можам. Дакладней, можам, але тады ўсё застанецца беспакараным і невядомым для нас. І як пасьля з гэтым жыць, я ня ведаю.

*Маці Аляксандра:*

— У адным з аўтазакаў быў і Саша... Ён ня ўдзельнічаў у акцыях. Ехаў у нядзелю на спатканьне да дзяўчыны. Яго схапілі недзе ў цэнтры, калі ён перасаджваўся на іншы транспарт. Ён мне напісаў смс, што яго схапілі... І ўсё. Я яго шукала ўсе гэтыя дні. Мне не давалі пра яго інфармацыі. Сёньня мне нарэшце сказалі, што Саша — у моргу.

У Сашы былі праблемы з сэрцам. Калі ён доўга знаходзіўся ў закрытым аўтамабілі на чаргу ў СІЗА, яму зрабілася блага.

А ў моргу мне адмовіліся яго паказваць. Я думаю, што ён моцна зьбіты. Я прашу людзей, якія былі разам зь ім у аўтазаку, калі яны выйдуць з турмаў — хай раскажуць мне праўду! Што там здарылася з Сашам. Я проста хачу, каб людзі ведалі: гэтая мярзотная ўлада забіла майго сына.

## „Казалі, што я лялькавод зь Літвы"

*Марыя, 21 год:*

— Я грамадзянка Літвы, але нарадзілася і вырасла ў Менску — літоўскі пашпарт атрымала ў спадчыну ад мамы. У Беларусі ў мяне заўсёды быў пастаянны від на жыхарства, але летам 2020-га шмат што зьмянілася.

У ноч на 12 жніўня я разам з тады яшчэ сваім хлопцам і сябрам апынулася ў Фрунзэнскім РУУС. Мы выходзілі на пратэсты і 9, і 10 жніўня. 11-га вырашылі, што будзем, як партызаны, развозіць людзям ваду і мэдыкамэнты. Наклеілі на заднія вокны машыны чырвоныя крыжы, каб людзі разумелі, што мы свае, і адправіліся ў горад.

Прыкладна а 2-й гадзіне ночы, калі пратэст ужо заціхаў і мы вырашылі ехаць дадому, каля Палаца спорту нас спыніў супрацоўнік ДАІ. Ён да нас нават не падышоў, адразу выбег „Алмаз" (у іх на форме былі нашытыя бірузовыя перакуленыя трыкутнікі). Нас выцягнулі з аўтамабіля, пачалі корпацца ў машыне і асабістых рэчах. Усё гэта

суправаджалася абразамі, лаянкай і здыманьнем на камэру. Калі ўбачылі мой літоўскі пашпарт, перавялі ўвесь фокус увагі на мяне. Казалі, што я лялькавод зь Літвы, якая прыехала, каб разбурыць іх краіну, і пагражалі мне 12 гадамі турмы.

Сілавікі радаваліся, думаючы, што затрымалі мэдыкаў. Пазьней у пастарунку мы даведаліся, што амонаўцам давалі грашовыя бонусы за ўпаляваных журналістаў і лекараў — яны самі гаварылі пра гэта паміж сабой. Яшчэ я чула, як яны абмяркоўваюць, хто больш запакаваў: „У вашай брыгады ўжо 300? Блін, у нас усяго 250, трэба паднацісну ць“.

Калі нас пасадзілі ў бус, хлопцаў адразу ж пачалі біць дубінкамі. Мяне спачатку не чапалі, але потым амонавец сказаў: „Ты ж зь Літвы! Раз там фэмінізм, значыць, будзеш адграбаць, як усе“. І пачаў біць і мяне, але не дубінкай, а рукамі — па сьпіне, шыі, галаве. Нас білі ўсю дарогу да РУУС. Калі прыехалі, мы адразу ж трапілі ў спартовую залю. Як мне здалося, там ужо было чалавек 200 — відэа, якое трапіла ў сетку, відавочна, здымалі да нашага прыезду. Многія хлопцы ў кадры яшчэ цэлыя, я ж убачыла іх у той залі ўжо моцна пабітымі.

Уся спартзаля была ў крыві, у мачы і ў фэкаліях — некаторыя хлопцы ад страху… Адзін амонавец сказаў мне: „Бачыш таго хлопца? Ён абрабіўся — і цябе чакае тое самае“. Пачаўся вопіс рэчаў і складаньне ідэнтычных пратаколаў зь няправільным часам, месцам затрыманьня і гэтак далей.

Памятаеце першыя кадры відэа By_Pol, дзе хлопец ляжыць на шэрай падлозе? Іх зьнялі ў ціры РУУС, які абсталявалі пад „катоўню“.

Мяне падвялі да гэтага пакою, пыталіся, хто я такая і чаму не люблю радзіму, пару разоў ударылі і пакінулі сядзець там жа. Крыху пазьней сьледчы выклікаў мяне на допыт проста ў „катоўню“. Там 6-7 хлопцаў ляжалі штабэлямі — іх білі дубінкамі, хадзілі па іхных сьпінах, рабілі ім „ластаўкі“. Гэта таксама здымалася на відэа, сілавікі наогул многае запісвалі на камэры, нават рабілі сэлфі на фоне пабітых імі людзей.

Пасьля допыту мяне зноў пакінулі сядзець каля „катоўні“ — здавалася, пра мяне проста забыліся гадзіны на дзьве. Я бачыла, як у гэтае памяшканьне заводзяць хлопцаў, якія яшчэ могуць ісьці самі, а праз хвілін 15-30 іх ужо выводзяць пад рукі, ледзь жывымі. Увесь гэты час пад дзьвярыма стаяў дзікі мужчынскі лямант і плач — гэта было невыносна.

Калі пра мяне ўспомнілі, завялі назад у залю, а потым накіравалі на вопіс дакумэнтаў. За сталом сядзелі дзьве дзяўчыны — рыжая і белая. Пазьней я даведалася, што гэта супрацоўніцы Фрунзэнскага аддзелу міліцыі №3. Рыжая мяне пастаянна правакавала, пыталася, ці варта яно таго? У мяне з сабой быў тэлефон, але ня мой, а сябра. Яго таксама выклікалі, разблякавалі тэлефон і пачалі лазіць у тэлеграме. Сьветлавалосая супрацоўніца знайшла аўдыёпаведамленьне, дзе сябра апавядае, як 9 жніўня хадзіў да стэлы, і паклікала амонаўца. Той паставіў сябра на калені і пачалі біць дубінкай па вонкавым боку сьцёгнаў. Усё рабілася з мацюкамі.

Пазьней я даведалася, што было з маім хлопцам. Яго адвялі ў памяшканьне з туалетамі, каб запісаць відэа. Ён расказаў, што ўбачыў там душавую, цалкам залітую крывёю. А калі яго ўжо зьнялі, амонаўцу нешта не спадабалася, і ён некалькі разоў ударыў хлопца з калена ў грудзі. Ад гэтага ў яго быў моцны боль.

Зьбіваньне скончылася толькі пад раніцу, калі ў пастарунку сталі рыхтавацца да перазьменкі. Мы ціха сядзелі ў залі, нам нават пачалі даваць ваду, вадзіць у туалет. Сярод супрацоўнікаў, якія такім чынам дапамагалі, быў лейтэнант Андрэй. Ён зьняў зь мяне кайданкі, але пазьней амонавец зацягнуў мне рукі сьцяжкай так моцна, што яны пасінелі. Лейтэнант на просьбу майго хлопца зьняў зь мяне і сьцяжку. Гэты Андрэй рабіў паўторны вопіс маіх рэчаў, таму што першы, мабыць, згубілі. Мы зь ім разгаварыліся: „Я ж бачу, што ты нармальная дзяўчынка, чаго палезла сюды? Колькі табе гадоў?“ — „Проста хацела дапамагчы людзям. А табе колькі гадоў? Няўжо табе падабаецца твая праца?“ — „Мне 20 гадоў, і я проста зарабляю грошы. А хто там пры ўладзе, што ён там робіць — наогул пофіг“.

Пазьней я знайшла старонкі гэтага лейтэнанта ў сацсетках і адправіла яго імя ў „Адзіную кнігу рэгістрацыі злачынстваў“. Ён нікога ня біў, нават дапамагаў затрыманым, але ён стаў сьведкам таго пекла, якое дзеялася ў пастарунку, і нічога не зрабіў. Мне б хацелася, каб ён паспрыяў у расьсьледаваньні гэтых злачынстваў, а не казаў, што яму „ок“ ад выгляду пабітых, ледзьве жывых людзей. Хоць, напэўна, гэта сьведчаньне таго, што гэты лейтэнант, у адрозьненьне ад мяне і іншых,

бачыў падобнае і раней. У пастарунку я пераканалася, як моцна сілавікам прамываюць мазгі ідэолягі. Яны ўсе сьвята верылі, што мы ворагі народу, якія ня цэняць, як шмат робіць для гэтай краіны Лукашэнка.

Пры гэтым сярод іх сапраўды ёсьць людзі. Акрамя 20-гадовага лейтэнанта, быў яшчэ міліцыянт, які прыйшоў ужо пасьля перазьменкі. У яго з сабой была гронка бананаў і энэргетык — мабыць, на абед. Ён раздаў усе бананы і напой дзяўчатам. Яшчэ я запомніла амонаўца, які ўжо бліжэй да абеду адвёў мяне ў прыбіральню і зьняў кайданкі. Я памылася і захацела завязаць валасы, але з сабой у мяне быў толькі белы бранзалет, які цудам не намацалі ў кішэні. Калі я яго дастала, амонавец сказаў: „Ня варта. Яны цябе заб’юць, калі завяжаш бранзалетам“.

Пасьля перазьменкі сапраўды прыйшла крыху больш спакойная зьмена, але там была супрацоўніца амону Ксюша. Яна заляцела ў спартовую залю са словамі: „Якога х... вы тут палеглі?“ Было гадзін 7-8 раніцы, шмат у каго пачалі званіць тэлефоны, будзільнікі — Ксюшы гэта не падабалася. І яна максымальна вычварнымі спосабамі разьбівала гэтыя тэлефоны. Кідала аб сьцяну, біла дубінкай. Так яна разьбіла ўшчэнт тэлефонаў восем. Адна дзяўчына ня вытрымала і ціхенька сказала „сука“, а Ксюша пачула. Паставіла яе на калені, дала аплявуху і вывела з залі. Калі абедзьве вярнуліся, дзяўчына плакала.

Калі мяне прывезьлі на Акрэсьціна, я нават не разумела, што знаходжуся ў Менску. Хоць быў момант, калі людзі пад сьценамі ЦІПу пачалі пляскаць — закралася думка, што я ўсё ж у горадзе.

Мне хацелася верыць, што ўсё гэта вось-вось скончыцца, але яно не канчалася. На Акрэсьціна дзяўчат сабралі купкай на вуліцы, хлопцаў разьмеркавалі па пэрымэтры. У той дзень было вельмі холадна, а шмат хто быў лёгка адзеты. Мы прамерзьлі на вуліцы гадзіны дзьве, пакуль ішлі суды. У нейкі момант людзі ў камуфляжнай форме ўсё ж прынесьлі нам падсьцілкі, падобныя на тэнты паходных намётаў. Але толькі дзяўчатам.

Суды скончыліся на гадзіну раней, чым павінны былі. Асудзіць пасьпелі далёка ня ўсіх, але амаль усім, каму пасьпелі, далі суткі — са штрафамі адпусьцілі толькі некалькі чалавек. Нас пагналі на агляд, дзе прымусілі разьдзецца дагала і прысядаць. Потым усіх дзяўчат сабралі ў прагулачнай камэры — зноў на вуліцы, але ўжо бяз тэнтаў. Хтосьці зь міліцыянтаў прынёс абязбольвальныя і бутэльку вады для тых, у каго былі месячныя, са словамі: „Калі даведаюцца, што я гэта зрабіў, мяне прыб'юць".

Мы згрупаваліся, каб саграваць адна адну, і ў нейкі момант я заснула. Прачнулася ад таго, што ў ЦІП і на вуліцы стаяў гул — мужчын зноў пачалі біць. Ня толькі мяне ў тыя дні затрымалі разам з хлопцам, былі і іншыя дзяўчаты, чые маладыя людзі таксама знаходзіліся на Акрэсьціна — мы сядзелі, слухалі, як іх б'юць, і плакалі.

Празь нейкі час нас пачалі разьмяркоўваць па камэрах у будынку. Я трапіла ў чатырохмясцовую, куды разам са мной пасадзілі яшчэ прыкладна 50-60 дзяўчат. З намі была жанчына, якую затрымалі п'янай. Калі яна працьверазілася, пачалася белая гарачка. І яна ўмудрылася разьбіць у камэры галаву. Дзяўчаты прасілі выклікаць ёй „хуткую",

але канваіры проста кінулі ім бінты. А на астатнія просьбы адказвалі: „Калі вы не заткняцеся, мы вас пусьцім па коле“.

Калі ў камэры многія ўжо спрабавалі паспаць, мяне і яшчэ адну дзяўчыну папрасілі на выхад. Прымусілі падпісаць нейкія паперы (адзінае, што я пасьпела ў іх убачыць — параграф „У выпадку паўторнага затрыманьня будзе крымінальная адказнасьць“) і вывелі на вуліцу. Сказалі апусьціць галаву ўніз, каб мы ня бачылі, як хлопцы праходзяць праз „калідор“ з дубінак. І, калі мы ўжо выйшлі за вароты ЦІПу, да нас падбег хлопец у вайсковай форме, паказаў, дзе стаяць валянтэры, і параіў быць больш акуратнымі. У той момант хацелася яму адказаць: „Сур'ёзна?“

Было каля чатырох гадзін раніцы. Валянтэры адразу далі мне плед і тэлефон, але я ня ведала на памяць ніводнага беларускага нумару, а інтэрнэту тады не было.

Запаліла цыгарэту, але, не пасьпеўшы дакурыць, пачула крыкі: „Амон!“ Усе пачалі ўцякаць, але я бегчы не магла — кульгала. Я ўпала недзе ў кустах, накрылася пледам і малілася, каб мяне не знайшлі.

Калі вакол стала цішэй, вырашыла паспрабаваць дайсьці да праспэкту. Але, як толькі паднялася, за мэтраў 20-50 убачыла „касманаўта“ ў чорным шлеме. І схавалася ў біятуалет, які быў зусім побач. Думала, што прасяджу да сьвітаньня, але пачула, як хлопец, які ішоў міма, нешта гаварыў у тэлефон. І выскачыла з гэтай прыбіральні проста на яго. Ён зноў адвёў мяне да валянтэраў. Яны расказалі, што адзін мужчына, які жыве на

Акрэсьціна, аддаў свой дом пад валянтэрскі рух. Яго злавілі і моцна пабілі той ноччу.

Ключоў і дакумэнтаў у мяне не было — усё засталося ў машыне, якую зь месца нашага арышту зьвезьлі сілавікі, таму я папрасіла адвезьці мяне да сяброўкі. Так скончылася маё знаходжаньне ў пастарунку і ЦІП. Майго хлопца і сябра таксама адпусьцілі — хоць іх пасьля Акрэсьціна этапавалі ў Слуцак, дзе нават накармілі і пусьцілі ў душ. Але, у адрозьненьне ад мяне, хлопца пасьпелі асудзіць на 15 сутак, а сябра — на 11.

Мы адразу ж вырашылі, што хочам зьехаць — калі не з краіны, то хаця б зь Менску, таму паспрабавалі ануляваць ягоны прысуд. Хлопец заікаецца, і гэта быў шанец. А яшчэ ў нас быў моцны адвакат, таму ўсё атрымалася — суткі „адмянілі“. Да гэтай гісторыі нашы стасункі можна было апісаць фразай „сябры з бэнэфітамі“.

Але калі ён выйшаў пасьля судовага паседжаньня, адразу ж зрабіў мне прапанову замуж. Сказаў, што калі на Акрэсьціна стаяў на каленях тварам у падлогу, зразумеў, што я „тая самая“.

Мы прабылі ў Беларусі да 27 кастрычніка. Забралі рэчы і машыну — на зьдзіўленьне, нават цэлую. Праўда, з нашых гаманцоў, якія засталіся ў аўтамабілі, зьніклі 300 рублёў. Толькі ў маім партманэце хтосьці ўсё ж вырашыў пакінуць 25 рублёў пяцёрачкамі.

Самае цікавае, за ўвесь гэты час я не атрымала ніякіх позваў. Была ўпэўненая, што пра мяне проста забыліся, ажно не. У сьнежні дадому ў Менск прыйшоў ліст з фразай „Вырашаецца пытаньне аб ануляваньні ВНЖ“. Я патэлефанавала ў

міграцыйную службу, там сказалі, што я парушыла грамадзкі парадак паводле артыкулу 23:34.

У выніку ў мяне больш няма віду на жыхарства, але ёсьць забарона на ўезд у Беларусь на пяць гадоў.

Крыўдна і злосна ад таго, што ты хацеў зрабіць нешта добрае, але цябе за гэта пабілі і амаль зьнішчылі маральна. Пасьля таго, што здарылася, у мяне разьвілася моцная форма посттраўматычнага стрэсавага расстройства (ПТСР), якое дайшло да памежнага разладу псыхікі. Першы час, калі мы яшчэ былі ў Беларусі, я не магла нават хадзіць па горадзе адна. На жаночыя і нядзельныя маршы ў верасьні хадзіла зь сябрамі — жаданьне змагацца не прапала, я ўсё адно той яшчэ воін. Траўмаваны, але воін. Цяпер мой стан палепшыўся, у Літве стала нашмат спакайней, але я працягваю працаваць з псыхатэрапэўтам.

Самае іранічнае ў гэтай гісторыі тое, што за год да 11 жніўня 2020-га я паехала жыць у Лёндан. Калі ў Беларусі пачаліся пратэсты, вырашыла падтрымаць беларусаў у „загнілым Захадзе“ і кінула кліч у фэйсбуку, каб сабраць людзей на акцыю салідарнасьці каля амбасады. І разам зь іншымі беларусамі сабрала! У нас на акцыях былі Яўген Чычваркін, Мікалай Халезін, Аіша Янг з Amnesty International, Alan Flowers і шмат іншых выдатных людзей. У выніку ў Англіі ўтварылася паўнавартасная беларуская дыяспара з прыкладна тысячы чалавек.

Я хацела зьлятаць у Менск у верасьні, каб палячыць калена і адпачыць, але памяняла квіткі на лета. Была маральна гатовая да сутак, але не да зьдзекаў. І вельмі баялася, што на допыце

сьледчы высьветліць, што я маю дачыненьне да арганізацыі акцый пратэсту ў Лёндане — тады б я дакладна ня выйшла.

Я плянавала, што пасьля Менску вярнуся ў Лёндан, але ў выніку пабывала ў Фрунзэнскім РУУС, на Акрэсьціна, выйшла замуж і зьехала жыць у Вільню. Складана загадваць, што будзе далей, але адно я ведаю дакладна: мы вернемся ў Беларусь, калі там здарацца перамены. Я веру, што ўсе, хто зьдзейсьніў жудасныя злачынствы, будуць пакараныя. І моцна ганаруся беларусамі.

# РЭВАЛЮЦЫЯ ВУЛІЦ

*12 жніўня жанчыны з кветкамі сталі ў шэраг каля ГЦ „Спэктар“ ва Ўруччы ў Менску. Такія шэрагі па ўсёй краіне людзі назвалі „ланцугамі салідарнасьці“.*

## *„Людзей у чорным кветкі ня спыняць, на жаль“*

— Мы хочам, каб спыніўся гвалт. Каб былі сумленныя выбары. Каб былі перагледжаныя вынікі. Мы хочам свабоды людзям, якія затрыманыя. Белыя кветкі — гэта знак свабоды людзям, якія цяпер пакутуюць у турмах. Людзей у чорнай форме яны ня спыняць, на жаль, але думаю, што нас можа ня будуць тут біць сёньня.

## *„Кветкі — знак таго, што я мірны чалавек“*

— Цяпер я хачу быць салідарнай з тым, што адбываецца наогул у Беларусі. І ёсьць такая магчымасьць выйсьці мірна і паказаць, што мы супраць таго, што адбываецца, падтрымаць іншых беларусаў, якія цяпер сядзяць там, дзе яны не павінны знаходзіцца. Кветкі для мяне — знак таго, што я мірны чалавек і не хачу нікому рабіць ніякай крыўды.

*Больш за 200 мэдычных супрацоўнікаў выйшлі 12 жніўня на акцыю „Мэдыкі з народам“ у Менску.*

### *„Ня мусіць на «хуткіх» гойсаць амон“*

— Гэта не пратэст. Гэта акцыя за мір, за тое, каб мэдыкам далі магчымасьць дапамагаць параненым. Ня мусіць на „хуткіх“ гойсаць амон. Нам, вядома, страшна. Цяпер кожнаму з нас страшна. Але калі мы будзем усе баяцца, што мы тады зьменім?

### *„Ганебны максымальна крок“*

— Адчайны крок дзяржавы дастаўляць сваіх вайскоўцаў на месцы пратэстаў на „хуткай дапамозе“. Гэта проста агідны крок. Проста крывадушны нейкі і ганебны максымальна, таму што заўсёды да службы мэдычнай дапамогі была павага, і ўсе, нават жорсткія акупанты, прапускалі мэдыкаў на месцы. І калі пратэстоўцы прапускалі „хуткія дапамогі“, а ў іх аказваліся ўзброеныя хлопчыкі…

### *„Пакуль не памру“*

— Мне 75 гадоў. Я патолягаанатам. Я не магу глядзець на гэтае вар'яцтва, таму і прыйшоў. І буду прыходзіць, пакуль не памру.

### *„Рана ці позна забяруць“*

— Насамрэч мне вельмі страшна. Але… Сыходзіць? А навошта? Калі я зьбіраюся кожны дзень выходзіць, рана ці позна мяне ўсё адно забяруць.

### *„Пазьбегнуць крыві“*

— Мы выйшлі паказаць аднаму небезьвядомаму чалавеку, які сказаў, што пратэстуюць толькі

тыя, каму няма чым заняцца і каму хочацца крыві. Нам якраз такі хочацца пазьбегнуць крыві. І нам ёсьць чым заняцца, апроч таго, як адстойваць незалежнасьць сваёй краіны.

## „Не чапайце дзяцей“

*Аляксей, 33 гады, праграміст, Горадня:*

— 12 жніўня я выйшаў з фотаздымкам дзяўчынкі, якая пацярпела ў аварыі з вайсковай тэхнікай. Калі я прачытаў пра тую аварыю, зразумеў, што мушу нешта зрабіць. Я ўзяў фота дзяўчынкі і плякат з надпісам „Трэба кроў — бярыце маю. Не чапайце дзяцей“, выйшаў на плошчу Леніна і стаў на калені. Міліцыянт у цывільным папрасіў прайсьці ў гарвыканкам і вывеў праз чорны ўваход разам зь яшчэ адным затрыманым.

Туды пад’ехаў сіні бус. За стырном сядзеў мужчына ў чорнай масцы і чорнай майцы, побач мужчына з банданай на шыі і барадой. Адчыніліся бакавыя дзьверы. Там сядзелі трое ці чацьвёра ў чорным зь пісталетам на рамяні. Спачатку кінулі таго мужчыну і пачалі біць. Мяне таксама кінулі на падлогу, пачалі біць кулакамі па нырках, лаяліся, абражалі.

Дзьверы зачыніліся. Адзін зь іх узяў дручок і пачаў малаціць мяне па ягадзіцах і левым сьцягне. Безупынна мяне білі, пакуль мы не даехалі. Куды мы ехалі, я ня ведаў. Думаў, што едуць закопваць, бо так, як нас білі, я думаў, што наўрад ці адпусьцяць.

Той, які сядзеў, біў мяне рукой па галаве, па корпусе, па нырках. Той, які стаяў, біў дручком. Казалі: „Мы вас усіх, выраднкаў, перастраляем“. Запыталіся, кім працую. Сказаў, што праграміст. Гэта прывяло іх у яшчэ большае шаленства. Сказалі: „Што табе, х...ва тут жывецца? Вольнасьці захацеў“. Гэта ўсё суправаджалася ўдарамі. Потым

пачалі пытацца, колькі мне заплацілі. Я сказаў, што нічога. За гэта сталі біць яшчэ мацней. Той, хто біў дручком, сказаў, што ня спыніцца, пакуль я не назаву суму. Было жудасна балюча. Я сказаў, што мне заплацілі тысячу даляраў. Тады ён спыніўся.

Пасьля я ўбачыў будынак Ленінскага РАУС. Падумаў, што хіба забіваць ня будуць.

Потым мне размалявалі галаву, твар, рукі чорным маркерам, туга зацягнулі рукі плястыкавай сьцяжкай, завялі ў РАУС. Там мяне яшчэ раз ударылі, завялі ў пакой, пасадзілі на лаву. Вокны былі адчыненыя. Я ўбачыў, як зноў пад'ехаў гэты бус, я пазнаў, што там мае калегі. Я чуў, як іх заводзілі і білі. Чуў гукі моцных удараў і крыкі ад болю.

Мне дзіка пачаў балець бок, у мяне праблемы з ныркамі. Я папрасіў таблетку або выклікаць лекара. Потым прыйшоў супрацоўнік, сказаў мне ісьці ў спартовую залю. Я паспрабаваў устаць і ўпаў. Ён мяне хацеў падняць і пацягнуць, я зноў упаў. Тады яны вырашылі выклікаць „хуткую". Накідалі пратакол, далі расьпісацца. Лекары паклалі мяне на насілкі і завезьлі ў шпіталь.

Калі мне давядзецца ехаць у будынак Ленінскага РАУС, то я ня ведаю, як, бо мне страшна дагэтуль. Яшчэ большы страх таму, што гэта міліцыя.

*Уладзімер, 32 гады, праграміст, Горадня:*

— Мы яшчэ з трыма паплечнікамі 12 жніўня прыйшлі на плошчу Леніна з партрэтам дзяўчынкі, якая пацярпела ў аварыі з вайсковай тэхнікай. Перад намі на гэтым жа месцы затрымалі калегу Аляксея з падобным плякатам. Сталі на калені,

паднялі плякаты з фатаздымкам дзяўчынкі. Падышоў супрацоўнік ДАІ, сказаў, што ён вымушаны далажыць.

Прыехаў сіні бус Ford. Вылезьлі гопнікі ў масках, нас пагрузілі ў мікрааўтобус — і стала адбывацца самае страшнае, што са мной было за ўсё маё жыцьцё. Нам надзелі плястыкавыя кайданкі, паставілі на калені ў праход аднаго за адным. Білі па шыі, задавалі пытаньні „Колькі заплацілі?“, абражалі. Калі даведаліся, што мы праграмісты і колькі зарабляем (у сярэднім 1700 даляраў), зразумелі, што за тысячу даляраў рызыкаваць сваёй дупай вельмі сьмешна.

Калі нас прывезьлі і выгрузілі з буса, добра пабілі дручком. Пацэлілі ў калена, потым каленам кінулі аб бэтон. У Ленінскім РАУС нас выводзілі па адным. Я быў другім. Я пачуў дзікі крык свайго паплечніка, яго аддубасілі дручкамі, 5-7 разоў дакладна. Потым выгрузілі мяне, пабілі. Нас павялі ў спартовую залю. Сказалі: „Любіце на каленях стаяць — і тут будзеце стаяць, толькі мордай у падлогу“. Так мы ў кайданках на каленях і стаялі. Калі паварушысься, адразу б'юць. На той момант я разумеў, што страшна, але болю не адчувалася.

Мае калегі-праграмісты пыталіся культурна і ветліва, ці можна памяняць позу, бо зацяклі ногі. Ніхто не хаміў, не грубіяніў, нікога не абражаў. На што чулі: „Не“.

Пляснулі нам да сьпіны нашыя плякаты. Сказалі, калі спадуць — атрымаем дручкамі.

Праз гадзіну-паўтары павялі на допыт. Калі мяне паднялі, я зразумеў, што з нагой нешта зусім ня тое. Я яе выпрастаць нармальна ня мог, бо дзіка балела. Так я дачыкільгаў на трэці паверх, рука

заламаная, „мордай у падлогу“. Лава там была, але шпурнулі на падлогу да шафы. Пачалі складаць паперы, высьвятляць асобу. Тут мне пачало прылятаць за Tiguan, а машыну забралі за тое, што сыгналіў падчас акцыі салідарнасьці, за ўсе патрабаваньні. Зачытвалі кожнае і білі. Абяцалі, што запішуць відэа і выкладуць у сеціва, што я супрацоўнічаю са спэцслужбамі.

Прымушалі адказваць, за каго я галасаваў. Мне таіць няма чаго. Я галасаваў за Ціханоўскую. Што ні адказвай, гэта бескарысна. Асабліва ніхто ня слухае. Прыйшоў амонавец ува ўсім рыштунку з мылам і збаночкам. Пырснуў ёду на лоб і сказаў умывацца. Я зразумеў, да чаго ідзе, паглядзеў, што гэта ня мыла, сказаў: „Самі ўмывайцеся“.

Мне зрэзалі кайданкі і павялі падпісваць пратакол. Ударылі ў жывот, калі я папрасіў адваката. Я культурна сябе паводзіў. Я стаяў нахіліўшыся, падпісваў дакумэнты. Мне прылятае збоку. Я падумаў, што ўсё. Білі да таго моманту, пакуль я не дадумаўся сказаць: „Зразумеў, зразумеў“. Сем разоў ён мне прабіў у жывот. У вачах дваілася. Дыхаць было капітальна цяжка. Балеў увесь правы бок. Нагі я зусім не адчуваў.

У роўнай бойцы ты мог бы, прынамсі, адказаць. Тут што б ты ні зрабіў, будуць біць. Ты на гэта ня можаш зусім ніяк адказаць. Прычым перад табой чалавек, у якога вісіць табэльная зброя.

Мяне прывялі, паклалі асобна, бо, відаць, зразумелі, што перастараліся. Недзе гадзіну я так ляжаў, пакуль не прыйшоў хіба начальнік. Запытаўся, ці выклікаць „хуткую“. Прыехала „хуткая“, і мяне забралі з падазрэньнем на разрыў. Лекар казаў расслабіць жывот — а я ня мог, і нагу выпраста-

ць ня мог. На шчасьце, нічога не пацьвердзілася, толькі ўдары па рэбрах, па жываце, нага ў гіпсе. На азадку сядзець балюча.

## „Ня веру, што ён мог скончыць жыцьцё самагубствам“

*Алена, жонка Мікіты Крыўцова, Маладэчна:*

— 23 жніўня я падала ў Сьледчы камітэт заяву на завядзеньне крымінальнай справы па факце сьмерці мужа: ня веру, што ён мог скончыць жыцьцё самагубствам.

Ён быў вельмі жывы, любіў жыцьцё і па-чалавечы ня быў такім дужым, каб сябе забіць. Яшчэ ён меў вялікі пляны на далейшае жыцьцё, не зьбіраўся яго заканчваць. Гэта зусім на яго не падобна, што ён засіліўся.

Гады два ў нас ужо праблемы ў шлюбе, мы сапраўды абмяркоўвалі будучы развод, але гэта не было для яго стрэсам, мы спакойна пра гэта гаварылі. Мы думалі, што недзе пасьля верасьня падамо заяву, але пэўнай даты не прызначалі. Мікіта працаваў, працягваў захапляцца футболам — жыў паўнавартасным жыцьцём. Пра такі канец ён дакладна ня думаў і мне не казаў.

Да нядаўняга часу я ня ведала, ці ўдзельнічаў ён у акцыях пратэсту. А калі сёньня пабачыла відэа, дзе ён стаіць перад шэрагам амону зь бел-чырвона-белым сьцягам, думаю, што такое бывала і раней.

Ён актыўны, баявы, не баіцца паказаць свае погляды. Гэта так.

Ня ведаю, ці знайду сілы на апазнаньне. Будзе бацька ягоны, гэта дакладна. Нам сказалі, што яшчэ ідзе анатамаваньне, таму нельга пабачыць цела. У выніку пакуль яго ніхто ня бачыў. Ані я, ані бацькі — не паказалі. Мяне апыталі. Магчыма, паведамяць заўтра, дзе і калі будзе апазнаньне.

*Адвакат Віктар:*

— Апазнаньня ня будзе. 25 жніўня бацька Мікіты Крыўцова ў прысутнасьці незалежнага судова-мэдычнага эксպэрта і маёй агледзеў цела сына ў моргу. Паводле нашага экспэрта, трэба дачакацца вынікаў дасьледаваньняў, найперш гісталягічных. Цела за гэты час моцна зьмянілася. Бацьку вельмі цяжка было на гэта глядзець. Экспэрт сказаў, што адбыліся выразныя гніласныя зьмены мяккіх тканак цела, паказаліся косьці.

28-гадовы фанат футбольнай каманды „Маладэчна“ Мікіта Крыўцоў зьнік 12 жніўня. Паводле сваякоў, раніцай гэтага дня ён паехаў на працу ў пасёлак Каралёў Стан пад Менскам. Цела Мікіты Крыўцова было знойдзена 22 жніўня ў лесапаласе ў межах Менску. Паводле паведамленьня Сьледчага камітэту, Мікіта Крыўцоў задушыўся, сьлядоў крымінальнага характару на целе не было.

# У ТУРМЕ

**„Прымушаюць маліцца і малоцяць дубінкамі“**
**„Мужчыну-мэдыку машынкай выстрыглі на галаве крыж“**
**„Па зламанай назе білі дубінкамі, берцамі, нагамі...“**
**„Я травы з-пад ног напхаў сабе ў нос, каб хоць неяк спыніць кроў“**
**„Зэкі з нараў падскочылі ад жаху“**
**„Я асабіста бачыла ў яе на грудзях апёкі ад цыгарэт“**
**„Пасадзілі на 15 дзён, каб раны пасьпелі загаіцца“**
**„Да канца тэрміну на вірус перахварэла паўкамэры“**

## *„Такая дзяржава ня вартая мяне“*

— Пакуль мы там стаялі, я думаў: як так адбываецца, што людзі з адукацыяй і інтэлектам ніжэй сярэдняга б’юць і зьдзекуюцца зь мяне, чалавека з вышэйшай адукацыяй, з 11-гадовым досьведам працы юрыста і на кіроўных пасадах, які гаворыць на чатырох мовах? Такая дзяржава проста ня вартая мяне. Як так атрымалася? Да мяне прыйшла думка, і я выказаў яе хлопцам уголас, што цяпер для ўлады мы горшыя за бандытаў, забойцаў і самых заўзятых ліхадзеяў. Таму лепш не абурацца, а годна моўчкі прымаць свой лёс.

## *„І тут мне пашанцавала...“*

— У такім становішчы мы правялі каля пяці гадзін. Ногі пачалі ацякаць ужо праз паўгадзіны, а праз гадзіну сядзець было ўжо вельмі складана. Я стараўся перамяшчаць вагу з нагі на нагу. Калі заўважалі, што рухаесься, білі дубінкай, але прасьцей было адхапіць удар, чым зусім не варушыцца. Варта заўважыць, што і тут мне пашанцавала. За намі назіраў нехта з адпраўленых на Акрэсьціна супрацоўнікаў міліцыі, праз гадзіны дзьве з паловай ён пачаў дазваляць пачаргова выпростваць ногі, камусьці легчы на бок ці на жывот, папярэджваў, калі падыходзяць амонаўцы, каб селі назад на пяткі.

## *„Было адчуваньне, што б'юць па каністры“*

— Дзесьці ў глыбіні двара людзей білі бесчалавечна, іх білі так часта і так разьюшана, што я ніколі ня чуў ні такіх стогнаў і крыкаў, ні такіх гукаў ад удараў па целе. Было адчуваньне, што б'юць па нейкай напоўненай плястмасавай бочцы або каністры. Хлопцы, якіх малацілі, прасілі ня біць больш, зьвярталіся да амонаўцаў: „братцы“, „мужыкі“, „таварыш камандзір“. Але тыя не суніманіся, больш за тое — разьюшваліся і білі зь вялікім азьвярэньнем, укладваючы ва ўдары ўсю вагу свайго цела, наносілі ўдары з крыкамі і крэкчучы на выдыху. Адзін хлопец ад адчаю пачаў крычаць „Ганьба“, і тыя яго проста забівалі, як парася. Другі сказаў: „Лепш застрэльце мяне. Я больш не магу!“.

### *„Праекцыя пекла на зямлі“*

— Я задумаўся над тым, што гэта ўсё ж не турма, не канцлягер, — гэта праекцыя пекла на зямлі. Як быццам нетры зямлі адчыніліся і кавалачак пекла вылез вонкі. І мы ўсе тут павінны прайсьці 9 колаў пекла паводле тых „грахоў“, якія ўчынілі. У кагосьці быў нож, хтосьці быў у камуфляжных штанах, нехта ў берцах; у кагосьці пры сабе былі рацыі, адгазьнік; у кагосьці нібыта выявілі выбуховы пакет; хтосьці, ня дай Бог, аказваў супраціў; хтосьці стаяў у счэпцы; хтосьці быў мэдык; у кагосьці на руцэ была белая стужка, у кагосьці бел-чырвона-белы сьцяг; хтосьці быў апрануты ў белае. У мяне нічога не было, нейкім чынам, відаць, удалося пераканаць іх, што мы ня мэдыкі, таму мяне ня білі вельмі моцна.

### *„Білет на свабоду“*

— Недалёка ад мяне ляжаў чалавек, ён быў у лужыне крыві і пэрыядычна стагнаў. Чалавек, які быў бліжэй за ўсіх да яго, прасіў для яго дапамогі, казаў: „Выклічце яму «хуткую», ён жа памірае“. На што яму сказалі: „Гэта твой білет на свабоду — бяры яго, цягні за тэрыторыю, і вы абодва тады вольныя“. Ён узяў яго і пацягнуў за тэрыторыю, гэтае цела, што стагнала і было без прытомнасьці…

### *„Павернутая на садызьме“*

— Адной з тых, хто катаваў, была дзяўчына. Я бачыў яе толькі на сэкунду, у масцы і з „кармушкі“. Гэта бляндынка да 30 гадоў, невысокага росту. Яна вылучалася асаблівай жорсткасьцю і была павер-

нутая на садызьме сэксуальнага характару. Біла мужчын па яйцах, пастаянна пагражала, што ўсіх згвалціць. Многія там міжвольна спаражняліся пад сябе, хто ад страху, хто ад біцьця. І яна скардзілася, што ад усіх гэтых людзей дрэнна пахне, што „яны ўсё ў гаўне, ім варта было б паводзіць сябе, як мужчыны, а ня плакаць, як маленькія дзяўчаткі“.

## *„Тихарь“*

— Сьведкам на судзе выступаў супрацоўнік міліцыі, які дадаў пра сябе важнае і абсурднае: „В простонародье я известен как тихарь“.

## *„Пайшла па чырвонай палосцы“*

— Прыблізна а трэцяй гадзіне ночы нас загрузілі ў аўтобус і павезьлі ў турму ў Жодзіна. Нас сустрэў той самы злосны амонавец, які замахваўся на мяне ў аўтазаку. На приступках зноў быў сьцяг, ён загадаў ісьці па ім. Вольга збочыла, ён моцна ўдарыў яе ў грудзі. Я пайшла па чырвонай палосцы, каб не запэцкаць белыя.

## *„Дамовіліся маўчаць“*

— Паветра ў камэры не хапала. Мы дамовіліся маўчаць, каб усім хапала паветра. Калі адчынялі „кармушку“, станавілася крыху лягчэй.

## *„У камэры з намі была вар’ятка“*

— У камэры разам з намі была вар’ятка, жанчына зь белай гарачкай. Яна не давала спаць. Хадзіла кругамі ў гэтай вузкай прасторы, усіх

расьпіхваючы локцямі. Яна крычала, кідалася на нас і драпалася. Выглядала, што яна спрабуе выйсьці з кватэры пакурыць або ў краму, патрабавала, каб ёй адчынілі дзьверы, лічыла, што мы нейкія мужавы сваякі, якія яе трымаюць пад замком. Калі яна занадта парушала асабістую прастору, хтосьці зрываўся і адштурхоўваў яе ад сябе. Хтосьці спрабаваў зь ёй дамаўляцца. Да таго ж яна вельмі дрэнна пахла. Пасьля яна абгадзілася і стала яшчэ горш. Адна са старэйшых нявольніц дапамагла ёй памыцца. Прыйшла санітарка. Вывела гэтую жанчыну на калідор і спытала, дзе тая знаходзіцца. Жанчына адказала, што яна ў лесе, пасьля чаго яе са словамі „Ну і ідзі ў свой лес“ засунулі назад у камэру. На нашы просьбы яе ўціхамірыць адказвалі: „Я адзін, а вас трыццаць. Вось і ўтаймуйце. Мы ня будзем супраць, калі ў яе зьявіцца парачка фінгалаў“. Для мяне прысутнасьць гэтай жанчыны была адным з самых сур'ёзных выпрабаваньняў. У нейкі момант я прылегла. І яна паспрабавала сесьці мне на твар, бо ня бачыла мяне. Я была ў акулярах. Ускочыла, схапіла яе за рукі і трымала... Гэта складана.

### *„Гарачая вада зьнікла толькі ў нас“*

— Цягам трынаццаці дзён на Акрэсьціна мы спалі без матрацаў і пасьцельнай бялізны, якую ў нас забралі. У камэры зьнікла гарачая вада і перастаў змывацца туалет. Першая рэакцыя была такая: можа быць, мы чагосьці ня ведаем, нешта адбылося ці мы дзесьці завінаваціліся? Ці вада прапала толькі ў нас ці ўва ўсіх? Калі ў камэру прыносілі сьняданак, абед ці вячэру, то адчынялі

спэцыяльнае вакенца, якое часам не да канца зачынялася. Я ўзяла кніжку, напісала на вокладцы: „Ці ёсьць у вас гарачая вада?“, прасунула яе ў шчыліну і пастаралася зрабіць так, каб хлопцы насупраць убачылі і адказалі нам. Урэшце яны прачыталі і кіўнулі: „Так, у нас ёсьць“. Тады мы ўжо пачалі разумець, што ніякае гэта не зьнікненьне гарачай вады ці адключэньне ўва ўсім ЦІП, а нешта ня тое канкрэтна ў нашай камэры.

## *„Бяздомнікаў мянялі“*

— На Акрэсьціна нас трымалі ў адзіночным карцары памерам 1,5 на 3 м — чатыры асобы. Я трапіў туды прамоклы. Хтосьці быў у шортах і майцы. Гэтак давялося сядзець 10 дзён. У карцары ўвесь час гарэла яркае сьвятло. Вады ў кране і ўнітазе не было, змыць экскрэмэнты далі толькі праз дзень — прынесьлі вядро вады. Прышпілены да сьцяны ложак не апускалі цягам усяго побыту, ад чаго даводзілася спаць на голым бэтоне. Усе моцна празябіліся, хтосьці застудзіў ныркі, нават высмаркацца не было ўва што, бо не было нават туалетнай паперы. Бяздомнікаў мянялі: адзін абгадзіўся, яго выводзілі мыцца, прыводзілі новага. У камэру залівалі вядро хлёркі, паўдня было балота. Яны самі да нас баяліся заходзіць, бо смурод стаяў.

## *„Праверка са сталіцы“*

— Першы дзень у Баранавічах умовы былі прымальныя: дазволілі пайсьці памыцца, у камэры можна было курыць, перадачы — штодня. Давалі паперу, асадкі, крыжаванкі, выводзілі на прагулку.

Аднак на наступны дзень прыехала праверка са сталіцы. Нам толькі сказалі, што сур'ёзная праверка зь Менску, трэба прызначыць дзяжурнага па камэры. І ўсё, на наступны дзень усё памянялася. Забралі асадкі, забаранілі курыць, ляжаць і сядзець на матрацах. Перасталі сьвятло выключаць. Перадачы толькі па чацьвяргах.

### *„Каранавірусны п'е апошнім“*

— У Жодзіне адзін мужчына сказаў, што ён кантакт першага ўзроўню — хварэе яго мама, якая зь ім жыве. Нам выдалі маскі. Спыталі, ці патрэбна вада. Далі адну бутэльку на ўсіх. Меры засьцярогі былі такія — каранавірусны п'е апошнім.

### *„Там быў «Рамштайн»?“*

— Пакуль мы разьдзяваліся, нашы рэчы абшуквалі. Ззаду нас я бачыў два пакеты: адзін вялікі з тканіны, другі маленькі цэляфанавы. Я падумаў, няўжо нас тут заб'юць, а пакеты — для трупаў? У мяне ва ўнутранай кішэні джынсавай курткі знайшлі бранзалет з фэстывалю Lolapolooza ў Бэрліне. Адразу спыталі: „Гэта што?“ Адказаў. Далей рэпліка: „Крута. Там быў «Рамштайн»?“. Я сказаў, не было, а былі Imagine Dragons. „Клас!“ — чую ў адказ. Ад хоць якога чалавечага стаўленьня і размоваў там сэрца радуецца і напаўняецца надзеяй, што ня ўсё страчана, калі там могуць быць нармальныя хлопцы. Пасьля гэтай размовы я адагнаў думкі пра гібель.

### *„Пацук Джэры“*

— Праз шчыліну ў камэры атрымліваецца перагаворвацца з хлопцамі з суседняй. У нейкі момант яны агаломшваюць тым, што да іх заходзіў у госьці пацук. Назвалі Джэры. Што ж, мы так ужо сумуем па жывых істотах, што і самі былі б радыя Джэры.

### *„Расьпісаліся ў СІЗА“*

— Гэта была мая ідэя. Для гэтага спачатку бярэш дазвол у сьледчага. Калі ён дазваляе, то ідзеш у ЗАГС, паказваеш гэтую паперу. Там адзін блянк запаўняеш сама, другі вязеш у СІЗА. Плаціш мыта — і пасьля „выязная рэгістрацыя“ празь некалькі дзён. У дзень шлюбу я заехала ў ЗАГС па работніцу, прыехалі ў СІЗА. Там у невялікім пакоі ўсё і адбылося. Жанчына зачытала свае цырыманіяльныя словы, мы з Ромам паставілі подпісы — і ўсё. Сьведак не было. Прысутнічалі толькі мы, тая жанчына з ЗАГСу і двое канвойных. Нельга было зрабіць нават фота — тэлефон жа ў СІЗА не пранясеш. Таксама не дазволілі адзець Раману шлюбны пярсьцёнак, нават хаця б на пару сэкундаў. Мы абняліся — і Рому павялі. Спатканьня ніякага не далі. Цяпер будзем чакаць суду. Атрымліваецца, буду жонкай палітвязьня.

### *„Котка памрэ ад голаду“*

— Уначы я раптам успомніў пра нашу котку Клепу, яна засталася дома адна, бязь ежы. Калі мы з жонкай апынуліся тут, я разнэрваваўся, што нам дадуць па 15 сутак, а котка памрэ ад голаду. Спы-

таў у хлопцаў, колькі котка можа пражыць бязь ежы. Яны адказалі, што 10 дзён, яна будзе есьці шпалеры, кветкі… На сэрцы трохі адлягло. Я ляжаў на „пальме“ (на фені так завецца верхняе ляжачае месца на нарах) і глядзеў у вакно. Раптам праз краты я ўбачыў, што на вуліцы насупраць вакна сядзіць дзяўчына з русымі валасамі ў джынсавай куртцы і сьвеціць нейкімі ліхтарыкамі. Прыгледзеўшыся, я зразумеў, што яна трымае нейкага зьвярка пад курткай, падобна, котку. Каля гадзіны я глядзеў у вакно, але твару дзяўчыны разгледзець ня мог. Увогуле, мне ўдалося пераканаць сябе, што з 90% імавернасьцю гэта была Насьця з нашай любімай коткай. Атрымалася адагнаць благія думкі, і стала лягчэй. Забягаючы наперад, скажу, што памыліўся.

## *„Сінякі з контурамі Беларусі“*

— У камэры мы шмат размаўлялі, жартавалі. Са сьмешнага запомнілася дэманстрацыя адзін аднаму сінякоў і гематом ад дубінак на сьпіне, плячах і азадках. Мы глядзелі на форму сінякоў і адгадвалі ў іх абрысы розных рэчаў, контуры межаў Беларусі і іншых краін. Таксама падбадзёрвалі сябе тым, што Ленін сядзеў, Сталін сядзеў, Якуб Колас сядзеў, Пушкін быў у ссылцы — кожны нармальны мужык павінен адседзець хаця б раз.

## *„Ён дыхаў так, нібы ў грудзях была дзірка“*

— З суседняй камэры вывелі людзей. Я чуў, як адзін зьняволены сказаў, што ня можа ўстаць, бо яму зламалі хрыбетнік. Супрацоўнік амону крыкнуў яму: „Устаць!“. Людзі пабеглі некуды

ўправа, праз „кармушку“ ў дзьвярах камэры я бачыў, што бягуць „касманаўты“, потым праз некаторы час чуў, як зьняволеныя беглі з правага боку налева. Далей я пачуў, як кагосьці цягнуць па падлозе. Мабыць, цягнулі таго чалавека, які ня мог устаць. Потым цягнуць перасталі. Мабыць ён сеў, абапіраючыся на сьцяну паміж дзьвярыма дзьвюх суседніх камэр. Я чуў ягонае дыханьне. Ён дыхаў так, нібы ў грудзях была дзірка, як быццам праз трубку. Мароз па скуры быў ад гэтых гукаў.

### *„З нуля вывучала італьянскую мову“*

— Я люблю адукацыю, сама выкладаю курсы дызайну. У камэры ў нас былі ўрокі сьпеваў (дзяўчына, якая ў філярмоніі працуе, вучыла правільна сьпяваць „Пагоню“), ангельскай мовы, мы займаліся фэйсфітнэсам, спортам, чыталі шмат кніг, гулялі ў мафію. Самы круты досьвед — тое, што я сядзела з Натальляй Дулінай, найлепшай выкладчыцай італьянскай мовы ў краіне. Я з нуля вучыла мову. Зубрыла на нарах канспэкт, бо разумела: са мной дацэнт займаецца, я ж не магу несур’ёзна паставіцца да пытаньня.

### *„Няхай гэтыя грамадзяне матам размаўляюць“*

— Нас у чатырохмясцовую камэру за гадзіну ўтрамбавалі 25 чалавек. І потым ужо толькі дадаваліся. Пазнаёміліся. Вядома, усе на нэрвах, цераз слова мацюкі. Я прапанаваў: „Няхай вось гэтыя грамадзяне матам размаўляюць, а мы нармальныя людзі, усё ж у нас слоўнікавы запас большы будзе“. Усе з гэтым пагадзіліся, але ўсё адно праскоквала.

### *„Калідорны сказаў, што звальняецца“*

— Быў у нас супрацоўнік такі, і ў ІЧУ, і ў СІЗА, які нам цыгарэты прыносіў. За свае грошы купляў і прыносіў. Быў час, што нам цыгарэты нават забаранялі перадаваць. Расказваў, дзе што адбываецца. Але такіх мала было, адзін-два чалавекі з усіх. Ім таксама забаранялі з намі размаўляць, усюды камэры. Гэты калідорны 15-га сказаў, што звальняецца. І мы больш яго ня бачылі.

### *„Асьвенцім новы будуем“*

— Тады нам сказалі, што мы ў Слуцку. Было відаць, што ўсё гэта рабілася похапкам: сьвежазрубленыя вышкі, плот. Пры нас рабацягі забівалі дадатковыя палі, абгортвалі іх калючым дротам. Жартавалі, таксама ня моцна задаволеныя: „Асьвенцім новы будуем“.

### *„Забіў таракана“*

— Быў забаўны момант: у Лукашэнкі 30 жніўня быў дзень нараджэньня, а ў камэры на Акрэсьціна ў ноч на 30 жніўня я забіў таракана.

## „У вачах людзей у чорным чытаўся страх“

*Максім, 43 гады, уладальнік мэблевай кампаніі:*

— 13 жніўня са мной не адбылося нічога звышнатуральнага. Ішоў па працоўных справах у раёне Нацыянальнай бібліятэкі. Паварочваю галаву і бачу чорны бус з танаванымі шыбамі. А ў мяне на ўсё гэта чуйка. Разумею, што ўсе, зараз мяне будуць прымаць. Так яно і выйшла.

З машыны выбеглі мужыкі ў чорных масках, як бандзюкі ў 90-я, дагналі, схапілі мяне і дзяўчыну з хлопцам, якія праходзілі міма, і ўсіх разам заштурхалі ў машыну. Я асабліва не супраціўляўся. Усяго нас у бусе апынулася дванаццаць затрыманых. Плюс шэсьць людзей у чорным разам з кіроўцам. Як потым я зразумеў, нас узялі за сымболіку. Адразу мне сарвалі з рукі белую стужачку.

Я не маўчаў, пытаўся, што кепскага ім зрабіў. Спачатку яны нават уступалі ў дыялёг, казалі: „Ды вы нам усім надакучылі, нам усё гэта ўжо надакучыла“. На што я хутка зрэагаваў і адказаў, маўляў, ехалі б вы дадому да жонкі і дзяцей, дык не, са мной тут катаецеся. Пасьля чаго я і атрымаў першы ўдар у калена.

А потым мяне панесла. Выказаў усё, што пра іх думаю. Што ўсё, што яны робяць — гэта незаконна, і што ўсіх іх чакае трыбунал. І што вы думаеце? За ўсё гэта яны мяне крышку паштурхалі, больш каб закрыў рот, але ў іх у вачах чытаўся страх. Яны ўсе нас баяцца. Самі б’юць і пераглядваюцца паміж сабой, разумеюць, што сам-насам бы ня справіліся.

З усіх дванаццаці чалавек мне дасталася больш за ўсё, бо я ўвесь час бурчаў. Людзі ў чорным прасілі мяне памаўчаць, а я ім адказваў, што мне сумна і што я сам па сабе люблю пагаварыць. Не, вы ня думайце, што я бясстрашны. Многія мае сябры да гэтага часу ляжаць пакалечаныя ў лякарні пасьля ўсяго гэтага. Напэўна, мяне проста так загартаваў жыцьцёвы досьвед.

Яшчэ ў дзяцінстве мама пакінула мяне ў дзіцячым доме. Мяне выхоўвала вуліца. А потым служыў у Чачэніі, прайшоў вайну ў 1995 годзе, ведаю, што такое сьмерць. З бою нас вярнулася двое з шаснаццаці — я з раненьнямі і яшчэ адзін таварыш на інвалідным вазку. І мне зусім ня хочацца, каб цяпер, у мірны час, адбывалася нешта падобнае. Я сам вайсковец, ведаю псыхалёгію сілавікоў, мяне так проста не напалохаць, не зламаць.

За ўвесь час, пакуль нас вазілі па горадзе, паўгадзіны патрацілі на мяне. На ўсе мае словы адказвалі кулакамі. Відаць, што людзі падрыхтаваныя, б'юць у самыя болевыя месцы — рэбры, калені, рукі, цягліцы. Па твары ня білі, стараліся не пакідаць сінякоў. Два разы ўдарылі ў калена так, што да гэтага часу калю абязбольвальныя і кульгаю.

Калі мяне забралі, першая думка была пра тое, што дадому не вярнуся. Быў гатовы да таго, што павязуць невядома куды. І ніхто ня будзе ведаць, дзе я і што са мной, а потым знойдзе ў лесе які-небудзь грыбнік. А яшчэ баяўся, што залезуць мне ў тэлефон — і ўсё, прывітаньне, Акрэсьціна. Быў страх за таварышаў, зь якімі перапісваліся і

стэлефаноўваліся, каб іх таксама не забралі. Але, як ні дзіўна, тэлефону ніхто не запатрабаваў.

Я сваю пазыцыю ўтойваць ня буду. Ужо пачынаючы з 9 жніўня я актыўна ўдзельнічаю ўва ўсіх акцыях пратэсту і працягну рабіць гэта далей. Нягледзячы на тое, што я грамадзянін Расеі, з 2004 году жыву ў Менску. Так, мне прапаноўвалі беларускае грамадзянства, але пры дзейнай уладзе мне гэта нецікава. Маю дачку-беларуску, ёй 9 гадоў. І ўсё гэта я раблю дзеля яе, каб яна жыла ў спакойнай і цудоўнай краіне.

Цяпер кожную раніцу прачынаюся, гляджу ў люстэрка і кажу: „Хто малайчына? Максім малайчына. На Акрэсьціна сёньня паедзем? Не, не паедзем“. Усё роўна ёсьць адчуваньне, што міма мяне гэтыя падзеі ня пройдуць. Нельга ва ўсім гэтым варыцца і застацца ўбаку.

У выніку сілавікі павазілі нас гадзіны тры ў машыне і выкінулі за горадам у раёне Ўруччa. Напрыканцы ўдарылі мяне нагой у сьпіну, і я ўпаў на калені. Разьвітаўся зь імі словамі: „Дзякуй, закон бумэрангу яшчэ ніхто не адмяняў“.

Калі машына зьехала, некаторыя, хто быў са мной там поплеч, выказвалі свае прэтэнзіі: маўляў, навошта ты балбатаў, скажы дзякуй, што наогул выпусьцілі. Я нават трохі пакрыўдзіўся на людзей. Мы быццам бы ўсе з аднолькавымі стужкамі, за адну ідэю, а калі сутнасьць даходзіць да справы — усе адразу ў кусты. У мяне крыху іншы характар.

Заявы ў міліцыю я не пісаў. На каго, людзей у чорным? Гэта сьмешна. Магу пайсьці з заявай і не вярнуцца. У лякарню таксама не зьвяртаўся. Уколы ў калена калю сам. Яно ў мяне да гэтага часу як каменнае. Але гэта мяне не спыняе схадзіць з усімі

на плошчу па нядзелях. Аднойчы нават выступіў у вольны мікрафон, расказаў, што са мной адбылося, і падзякаваў беларусам за тое, што вы крутая нацыя. На беларусаў цяпер глядзіць увесь сьвет і ганарыцца вамі. І таму назад шляху ўжо няма.

## „Пакажам мазырскую гасьціннасьць"

*Уладзімер, 33 гады, Каленкавічы:*

— 13 жніўня гадзін каля 18, яшчэ сьвяціла сонца, я выйшаў на бульвар Юнацтва ў Мазыры, каб ісьці на аўтобусны прыпынак.

У мяне ціўкнуў тэлефон, я стаў чытаць паведамленьне. У гэты момант міма мяне марудна праехала цывільная „лада-прыёра" на расейскіх нумарах. Я зірнуў на яе і зноў апусьціў вочы ў тэлефон. І раптам на мяне накінуліся чатыры чалавекі ў чорнай форме безь ніякіх значкоў, зорачак ці лычак, у кепках і чорных масках, як ад каранавірусу. Яны выскачылі з тае „лады". Паклалі мяне тварам у асфальт і заламалі рукі, а потым пацягнулі ў машыну. Пасадзілі паміж сабой на задняе сядзеньне. Ужо калі ехалі, яны шукалі ў сябе кайданкі і, знайшоўшы, надзелі іх мне на рукі за сьпінай.

Прывезьлі ў Мазырскі РАУС. Правялі праз турнікет, павярнулі на лесьвіцу і тут жа, на пляцоўцы перад прыступкамі, павалілі на падлогу тварам уніз, нацягнулі на галаву куртку і пачалі біць. Пры гэтым я ня мог нават прыкрывацца, бо мае рукі былі скаваныя за сьпінай. Я ня бачыў, чым мяне білі, але некаторыя ўдары былі як высьпяткі, а

некаторыя зьверху па сьпіне, ягадзіцах, нагах, відаць, міліцэйскім гумавым дручком.

Потым мяне паднялі і пацягнулі на трэці паверх. Зацягнулі ў нейкі вялікі кабінэт. Відаць, нейкага начальніка, бо я пасьпеў убачыць вялікі стол і шэрагі крэслаў уздоўж сьценаў. Тут зноў паклалі на падлогу тварам уніз і нацягнулі на галаву куртку. Спачатку пагражалі, што, маўляў, я ўжо „накрычаў на 3 гады“, а зараз яны аформяць і на „дзясятачку“.

Пачалі абшукваць, спыталі, дзе тэлефон. Але яго ў мяне выхапілі яшчэ пры затрыманьні. Я ня бачыў твараў, спачатку бачыў толькі ногі, бо галава была прыгнутая долу і прыціснутая да падлогі чыёйсьці нагой, а потым увогуле нічога ня бачыў, бо на галаве была куртка. Толькі чуў, што тыя, хто мяне біў, зьвярталіся да кагосьці „таварыш палкоўнік“. Калі прынесьлі мой тэлефон, ад мяне пачалі патрабаваць пароль. А мой тэлефон можна было разблякаваць сканэрам пальца альбо сканэрам твару, альбо паролем. Яны спачатку паднесьлі да пальца, але тэлефон не разблякаваўся, потым да твару, але, відаць, пасьля таго, што адбылося, мой твар мала быў падобны да таго, які „памятаў“ тэлефон.

Тады апарат запатрабаваў увесьці лічбавы пароль. Я адмаўляўся казаць. Мяне зноў пачалі біць дубінкамі і нагамі. У выніку я мусіў сказаць пароль. Міліцыянты разблякавалі тэлефон і са словамі „Так, зараз пачытаем, што ты тут пішаш!“ пачалі адкрываць у тэлефоне розныя праграмы.

І раптам — моцны ўдар па галаве. Я зьнепрытомнеў. Што было далей, ня памятаю. Відаць, потым на мяне плюхнулі вады, бо я, калі ачуўся,

адчуў, што мокры. Мне пачалі казаць, што зараз панапісваюць ад майго імя, што я паеду на 10 гадоў. Корпаліся ў маёй тэлефоннай кнізе, пытаючы, хто ў мяне як падпісаны. Шмат разоў казалі: „Здасі вашага каардынатара, і мы цябе адпусьцім". Але я казаў, што ня ведаю ніякіх каардынатараў, я прыехаў з Каленкавічаў да сябра і ня ўдзельнічаў ні ў якіх акцыях. Потым я пачуў, што яны згадалі прэзэрватыў і адзін зь іх сказаў: „Зараз зробім зь цябе дзяўчынку". Але нехта сказаў ім, што ня трэба. Мяне зноў паднялі і некуды пацягнулі. Вывелі на вуліцу. Ужо было зусім цёмна.

Мяне перавялі праз вуліцу ў будынак насупраць райаддзелу міліцыі. Завёўшы ў нейкі пакой у тым будынку, мяне зноў кінулі на падлогу тварам уніз. Я пасьпеў заўважыць толькі нейкую даволі маладую жанчыну ў званьні маёра, і побач са мной на падлозе ляжаў яшчэ адзін чалавек. Калі на падлогу ўпаў я, таго чалавека паднялі і павялі.

Я пачуў голас жанчыны-маёра: „А! Калінкавіцкі! Зараз мы табе пакажам мазырскую гасьціннасьць! Цяпер вядзіце сабак!"

Я падумаў, сапраўдных сабак, зараз разарвуць. Але прыйшлі людзі. Мяркуючы па тупаце і галасах — шмат людзей. І пачалі вельмі моцна мяне біць. Нехта, відаць, малаціў дручком, нехта проста нагамі. Потым я адчуў, што па мне прайшліся абцасамі. Я думаю, што гэта тая жанчына, бо абцасы адчуваліся танчэйшыя, але даўжэйшыя за абцасы берцаў. Яна ж, відаць, трапіла мне мыском абутку ў скронь, бо мысок быў востры, не як у берца. Я некалькі разоў траціў прытомнасьць. Ачухваўся, калі мяне аблівалі вадой.

З носу проста ручаём бегла кроў, твар ляжаў у крыві. Тая жанчына казала: „Ты пашкадуеш, што сюды прыехаў!“ Потым зноў шмат udараў адразу ад некалькіх чалавек. Я моцна закрычаў і зноў зьнепрытомнеў. Потым паступова вярнуўся ў прытомнасьць. Адчуў, што мне ў сьпіну і ніжэй штурхаюць нечым, мабыць, дручком. Было вельмі балюча, магчыма, ад болю я і ачуўся. Потым яны ўзялі маю галаву і трэсьлі яе. Я расплюшчыў вочы. Зноў пачуў жаночы голас: „Хопіць, сыходзьце!“. Пасьля нейкі мужчына ў цывільным мяне падняў. Сурвэткай працерлі твар ад крыві. Зь мяне бегла вада, і яны ёю размазвалі кроў.

Затым мяне вывелі ў двор гэтага будынку. Там зьнялі кайданкі, з шыі зьнялі ланцужок і крыжык і павялі ў ізалятар часовага ўтрыманьня, які знаходзіцца крыху правей ад РАУС. Я ня мог стаць на левую нагу, каб пераступіць нейкі невысокі парканчык, праз які мы пераходзілі, дык міліцыянты перакінулі маю нагу.

У ІЧУ на мяне склалі пратакол за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Загадалі падпісаць. Пры гэтым прыгразілі, што, калі не падпішу, працягнуць зьбіваць.

Потым мяне завялі ў 12-ю камэру. Там ужо былі тры хлопцы маладыя. Усе таксама пабітыя. Адзін крыху меней. Ён сказаў, што ня варта было трываць, трэба было адразу моцна крычаць. Ён крычаў, і таму яго меней білі.

На раніцу, ня даўшы ні паесьці, ні папіць, мяне завезьлі ў суд. Прозьвішча судзьдзі ня памятаю, гэта была поўная такая жанчына. Ніякіх ні папераў пра вынікі суду, ні копіяў пратаколаў мне не далі.

Суд доўжыўся мо якія хвіліны дзьве. Мне далі 15 сутак. Прывезьлі назад у камэру. Там хлопцы паказалі, што ў мяне ўся шыя ў крыві. А праз тры дні мяне вызвалілі. Я выйшаў з ІЧУ і зьдзівіўся. Там было шмат людзей. Былі валянтэры, якія прапанавалі адвезьці, куды мне трэба; былі псыхолягі; прапаноўвалі ежу і пітво. Нас сустракалі як герояў.

Мэдыкі дыягнаставалі ў мяне закрытую чэрапна-мазгавую траўму, страсеньне мазгоў, шматлікія кровападцёкі і гематомы. Дагэтуль адчуваю галавакружэньне і млосьць. Баліць хрыбетнік. Мне прызначылі МРТ усяго цела.

Да мяне ў ІЧУ прыходзіў сьледчы, апытваў наконт зьбіваньня. Я расказаў яму, як было. Цяпер ён мне тэлефануе, просіць прыехаць у Мазыр, каб зноў даць нейкія паказаньні. Але я баюся. Ходзяць размовы, што тых, хто зноў трапляе ў гэтыя ўстановы, затрымліваюць і выпраўляюць у міліцыю. А што там будзе адбывацца, можна толькі здагадвацца. Яны пастараюцца зрабіць усё, каб схаваць свае злачынствы і каб пра іх ня стала вядома.

## „Калі няма ў сьпісах, хутчэй за ўсё, яго забілі да сьмерці“

*Сьвятлана, маці катаванага на Акрэсьціна:*

— Увечары 13 жніўня ў тэлеграм-каналах пачалі цыркуляваць чуткі пра тое, што затрыманых выпускаюць. Да 23-й гадзіны едзем з мужам на Акрэсьціна — чакаць сына.

Гэта найгоршая ноч у маім жыцьці. Інфармацыя вельмі бедная, яе дазавана перадаюць нейкія міліцэйскія асобы праз валянтэраў. Валянтэры наводзяць парадак сярод натоўпу ўсхваляваных людзей, просяць не шумець і ня пляскаць, бо гэта злуе турэмнікаў і яны адыгрываюцца на арыштантах. Прыяжджаюць журналісты. Быццам бы павінны выпускаць. Шыхтуемся калідорам уздоўж турэмнай сьцяны, цягнем шыі, каб першымі ўбачыць сваіх родных, калі іх выпусьцяць.

Да Акрэсьціна прыяжджае намесьнік міністра Барсукоў. Абяцае, што да 6 раніцы выпусьцяць усіх затрыманых. Надзея ўбачыць сына становіцца рэальнасьцю!

Усю тую ноч — то з брамкі, то з варот — выпускаюць групкі затрыманых. Невядома, хто зараз выйдзе. Натоўп велізарны, баюся прапусьціць сына. Калі не магу разгледзець праз натоўп, крычу ягонае імя, спадзеючыся, што пазнае голас.

Хлопцы выходзяць на сваіх нагах; многія кульгаюць, кідаюцца ад натоўпу, закрываюць твары капюшонамі. Валянтэры спыняюць іх, запісваюць, адводзяць да мэдыкаў. Мэдыкі выклікаюць „хуткія“, аднаго хлопца вязе рэанімацыя. Гадаю, у якім выглядзе будзе мой хлопчык.

Выходзіць новая групка затрыманых (ледзь не сказала „пацярпелых“). Некаторыя выходзяць з брамкі і тут жа нагінаюцца і адводзяць рукі за сьпіну. За два-тры дні іх надрэсавалі так сябе паводзіць.

Усю ноч назіраю чараду скалечаных, пабітых, дэмаралізаваных людзей. Хтосьці ня можа ўспомніць свайго імя. У кагосьці няма вока. З разьбітай галавой, са зьбітым тварам, ледзь клыпаю-

ць, крывяцца ад болю. Хлопец з аблітымі нейкай белай дрэньню валасамі трымаецца мужна, дае інтэрвію журналістам. Зусім маладзенькі хлапчук зь сінімі рукамі і заплылым вокам, яму выклікаюць „хуткую“ валянтэры. Кожны раз кідаюся да групы выпушчаных, шукаю свайго сына і гадаю, якія калецтвы ў яго будуць, у думках малюся невядома каму, каб калецтвы былі ня вельмі страшнымі.

Да сямі гадзін раніцы валянтэры перадаюць зьвесткі ад невядомых супрацоўнікаў турмы, што больш сёньня нікога ня будуць выпускаць. Пасьля бяссоннай ночы ў поўным ступары еду дадому пісаць, тэлефанаваць, высьвятляць, балазе, ёсьць інтэрнэт.

14 жніўня працягваю высьвятляць, дзе мой сын. Зьяўляецца інфармацыя, што многіх з Акрэсьціна адправілі ў Жодзіна, у Слуцак. Адганяючы самыя страшныя думкі, спрабую датэлефанавацца ў РУУС Савецкага раёну, у суды, праваабаронцам, пішу па ўсіх адрасах, якія ёсьць на праваабарончых сайтах, дзе могуць дапамагчы з інфармацыяй. На „Фэйсбуку“ вывешваем фатаздымак сына з просьбай дапамагчы вызначыць месцазнаходжаньне.

Тэлефаную знаёмаму супрацоўніку міліцыі. Праз паўгадзіны ён мне паведамляе, што ўчора быў суд, сыну далі 11 сутак, пакуль ён на Акрэсьціна, але 99%, што яго павязуць у Жодзіна. Сьмяротны страх за сына крыху адпускае, нешта канкрэтна становіцца вядома, ды і пра Жодзіна ёсьць станоўчыя водгукі, цягне на 10 балаў сярод турмаў. Там ня б’юць і нават кормяць.

Зноў пачынаю непакоіцца: а ці дакладныя гэтыя зьвесткі? І як быць з абяцаньнем Барсукова вы-

пусьціць усіх? Абзвоньваю суды. У Савецкім няма зьвестак пра майго хлопчыка, раяць тэлефанаваць у Вярхоўны, усе зьвесткі там. Дазваньваюся да Вярхоўнага. Нахабная цётка адказвае: „Глядзіце на сайце“. Я ёй тлумачу, што на сайце суды за 11-га, а мой асуджаны, па чутках, 13-га. У адказ: „Чакайце, не пасьпяваем напісаць сьпісы“. Тут ужо я выбухаю (дарма, трэба заўсёды быць зь імі стрыманым): вы столькі пасьпелі асудзіць, што за паўдня не пасьпелі ўсе імёны ўбіць у эксэлеўскі файл? Колькі ж кожны суд доўжыўся? У адказ пакрыўджанае сапеньне, завяршаю званок.

У Фрунзэнскім судзе ветлівая дама нарэшце дае першыя афіцыйныя зьвесткі: так, асуджаны на 11 сутак, як мяркуецца, на Акрэсьціна, удакладняйце. „Дзе???“ — „У РУУС“. Дазваніцца немагчыма. Высьвятляецца, што адкрываецца гарачая лінія, дзе будуць даваць апэратыўныя зьвесткі пра месцазнаходжаньне арыштантаў. Праз 15 хвілін упартых спробаў датэлефаноўваюся. Мэгаветлівая дзяўчына адказвае, што майго сына няма ў ніводным са сьпісаў. Так, быў на Акрэсьціна, але яго цяпер ужо, мяркуючы па ўсім, адпусьцілі.

Ляцім з мужам на Акрэсьціна. Пытаемся ў валянтэраў, ці выпушчаны такі. Адказваюць, што запісваюць усіх, але нашага не выпускалі. На дзьвярах каля ЦІПа вісіць сьпіс. Ура!!!! У ім ёсьць наш хлопчык. Ніколі ня думала, што так парадуюся імю свайго дзіцяці ў турэмным сьпісе. Зьяўляецца пэўнасьць. Чакаць. З брамкі выпускаюць малымі групкамі хлопцаў. Іх стан горшы, чым у тых, каго выпускалі ноччу. Валянтэры аказваюць ім усялякую дапамогу. Некаторыя палохаюцца, спрабуюць уцякаць ад валянтэраў, хоць тыя спакойныя і

ветлівыя. У тых, хто прабыў у засьценках некалькі дзён, часта неадэкватная рэакцыя.

З варот выяжджаюць тры аўтазакі. Турэмнікі перадаюць сьпісы з тымі, хто ў іх. Наш хлопчык у сьпісах ня значыцца. Валянтэры папярэджваюць, што ў сьпісах можа быць недакладная інфармацыя праз блытаніну, якая робіцца ў турме. Дакладна нічога невядома.

Валянтэры на машынах накіроўваюцца за аўтазакамі. Вядома, што зьняволеных з аўтазакаў выпускаюць па два-тры чалавекі ў самых розных частках гораду. Валянтэры іх прывозяць назад да Акрэсьціна, каб аказаць дапамогу і адзначыць у сьпісах вызваленых. Пабітыя брудныя людзі ў ірванай скрываўленай вопратцы, бяз грошай і дакументаў, — выдатныя кандыдаты на новы арышт. Таму вельмі важна ўсіх выявіць.

Пастаянна правяраю ўсе сьпісы: адпушчаных, якія засталіся, у лякарнях. Адзіны сьпіс, у якім ён ёсьць — на дзьвярах турмы. Сьпіс абнаўляюць. У ім няма нашага дзіцяці! І сярод адпушчаных няма! У мяне цёмна ў вачах — увесь дзень блыталі сьляды, яго імя то зьяўлялася, то зьнікала. Хутчэй за ўсё, яго забілі да сьмерці, раз яго няма нідзе, я пра яго нічога не магу даведацца. Я рыдаю так, што здаецца, цяпер ужо для мяне ўсё скончыцца. Ад гэтага болю выратаваньне адно — разьбіць галаву аб суседняе дрэва, толькі няма сіл устаць. Мяне суцяшаюць псыхолягі, пояць чымсьці супакаяльным. Я стараюся ўзяць сябе ў рукі, атрымліваецца дрэнна, мая бурная фантазія малюе такія страшныя карціны зь міксу таго, што я бачыла за ўсю ноч і ўвесь дзень, што сьлёзы ручаём цякуць. Я люта матаю галавой, каб адагнаць гэтыя страшныя

карцінкі. Усё жыцьцё майго хлопчыка праходзіць у мяне перад вачыма. Я яго нараджала, любіла, вучыла, клапацілася, сябравала зь ім, слухала яго музыку, чытала яго артыкулы і ганарылася — а цяпер нелюдзі забілі яго палкамі? Гэта немагчыма, гэта не са мной адбываецца.

У гэты час з варот выяжджае яшчэ адзін аўтазак. Я рвуся ехаць за ім. Мяне ўтрымліваюць: „Куды? Толькі ў ДТЗ трапіце ў такім стане“. Суцяшаюць мяне, кажуць, за аўтазакам імчацца машыны з валянтэрамі. Спрабую дакладна гаварыць зь юрыстамі, высьвятляю, што я магу зрабіць далей. Зьбіраю шаблёны нейкіх заяваў, дакумэнтаў. Трэба змагацца далей.

Званок на тэлефон. Гэта мой сын!!! Ён быў у апошнім аўтазаку, валянтэры яго прывезьлі назад на Акрэсьціна!!! Абодва вокі ў яго падбітыя, на твары рваная рана, брудныя валасы вісяць нейкімі жмуткамі (амонавец стрыг у аўтазаку нажом), астатніх калецтваў пад адзеньнем не відаць. Але ён жывы, са мной і вельмі радасна ўсьміхаецца.

Дзякуй маім цудоўным сябрам, маім дарагім калегам, майму стойкаму мужу, які ўвесь час быў побач са мной. Дзякуй усім знаёмым і незнаёмым, хто падтрымліваў словам, парадай, спачуваньнем. І асобны нізкі паклон валянтэрам. Колькі змагу, буду ім дапамагаць.

# РЭВАЛЮЦЫЯ НААДВАРОТ

*16 жніўня на плошчы Незалежнасьці прайшла акцыя ў падтрымку Лукашэнкі. Галасы ўдзельнікаў:*

## *„Нашто зьмяняць краіну?“*

— Па-першае, наша краіна свабодная. Кожны мае сваё волевыяўленьне. Некалькі дзён таму тут людзі бегалі, крычалі і выказвалі сваё меркаваньне пра тое, што трэба зьмяніць краіну. А нашто зьмяняць краіну? Ці мы станем лепей працаваць? Ці нам гэта нешта дасьць? Не. Кожны павінен сваімі рукамі нешта рабіць. І калі мы кожны сваімі рукамі нешта зробім, у нас будзе ўсё добра. Я таксама хачу памяняць. Я хачу памяняць, каб у маёй краіне быў спакой, каб я ўвечары не баяўся выходзіць зь сям’ёй сваёй. Як цяпер. Людзі бегаюць, крычаць. Моладзь бяжыць, незразумела. Вы паглядзіце, колькі моладзі ўчора ўдзельнічала. Што яны могуць вырашыць? Я галасаваў за прэзыдэнта. Гэта адзіная кандыдатура на дадзены момант, хто можа нешта зьмяніць у нашай дзяржаве. Ціханоўская шмат цікавага прапаноўвала, але яе жаданьне на паўгода ўсяго толькі… „Праз паўгода я сыйду“. Дзяржава, якая ня мае ніякай стабільнасьці. Як далей працаваць? Хто будзе кіраваць? Раскідаць? Нам Украіна паказала. Людзі дагэтуль разабрацца ня могуць, што рабіць з краінай. Іншыя краіны, дзе прайшлі так званыя аранжавыя каляровыя рэвалюцыі. Міру няма. І людзі там кажуць, што

дрэнныя кіраўнікі. Дык навошта? Што да разгону, міліцыя выконвае тыя задачы, якія яна павінна выконваць. Трэба глядзець з розных бакоў, бо кожны мае сваю праўду. Нават ваша тэлебачаньне, Радыё Свабода паказвала, як моладзь падбягае, штурхае і ўцякае. Але, прабачце, калі вашу жонку, дзяцей нехта ўдарыў, вы будзеце абараняць. Таму заканадаўства павінна вырашыць, хто вінаваты, а хто не. Ні ў якім разе ня трэба на гэтым падымаць пытаньне і казаць, што вось яны вінаватыя ўсе цалкам. Ці наадварот — гэты бок вінаваты. Давайце прыбярэм усю міліцыю цалкам убок, што будзе ў краіне, у горадзе? Што да пабітых. Зноў жа. Пасьля ўдару дубінкай сіняк у кожным разе будзе. Трэба, каб рабілі заявы, падавалі ў пракуратуру і каб разьбіраліся.

### *„Хачу спаць“*

— Я тут, бо хачу спаць. Ужо тыдзень ня сплю. Па чатыры гадзіны. Шум гам гэты пастаянна. Стаміўся ад гэтай гадасьці. Крычаць, сварацца, нешта бегаюць. Спакою няма. Прасіць па-нармальнаму — не разумеюць. Хоць ты шурупаў якіх накідай. Ну, свае ж людзі, беларусы. Падумаў-падумаў, ай… Лепей так выкажуся. Я свой выбар зрабіў, аддаў голас за дзейнага прэзыдэнта. За спакой і пастаянства, ня хочацца нешта мяняць. Каб усё было добра, нармальна. У кожнай сям'і ёсьць, вядома, праблемы. А так усё добра. Сыты, накормлены, чысты, падстрыжаны. Усё. Ну лішняга няма, вядома, таму тое, што ёсьць, — добра. Каб не аднялі. Зьбітых бачыў. Ня ведаю. Папярэдзілі не ісьці, я б не пайшоў. У мяне духа рэвалюцыянэра няма. Як мой

сусед кажа, у мяне тады сьвята, калі выпʼю і паем багата. Каб было ўсё ў магазіне, у халадзільніку. Каб дзеці радаваліся, усьміхаліся.

### *„Тыя, хто супраць, павінны быць пачутыя“*

— Я галасавала за дзейнага прэзыдэнта і гэта маё права прыйсьці сюды. Хачу падтрымаць уладу. Я галасавала за Лукашэнку сыходзячы са свайго жыцьцёвага вопыту. Па-першае, я не нарадзілася ў гэтай краіне. І мне, здавалася б, павінна быць усё адно. Але я жыву тут, тут нарадзіліся трое маіх дзяцей, у мяне ёсьць даброты, якія я атрымала. Я збудавала кватэру, мае дзеці займаюцца спортам, усе трое хакеем. Пры гэтым у мяне вельмі сярэдняя зарплата. Але я не баюся іх выпускаць на вуліцу, ім ніхто не прапануе наркотыкі. У прынцыпе я задаволеная ўсім. Чаму я павінна быць супраць? Мне падабаецца, як я жыла да выбараў. Мне не падабаецца тое, што адбываецца. Але пры гэтым усім я супраць зьбіцьця людзей. Хто вінаваты? Нельга абвінаваціць аднаго. Заўсёды ў сварцы вінаватыя абодва. Вядома, гэтыя злачынствы будуць расьсьледаваныя. Я лічу, што на прадстаўнікоў улады нападаць нельга, вядома, у адказ будзе агрэсія. Але і зьбіваць людзей, якія былі затрыманыя… Ну, вы іх затрымалі, яны мітынгавалі, нешта яны парушылі, але зьбіваць іх так жорстка нельга. Гэта кожны чалавек у краіне скажа: жорсткасьць ужываць нельга. Я сюды прыйшла, каб не было падзелу ў грамадзтве, каб не было агрэсіі ні ў адзін, ні ў другі бок. Ёсьць вельмі шмат людзей, якія супраць. Яны таксама павінны быць пачутыя.

## *„Зьбіваць і катаваць кагосьці нельга“*

— Мы зь Менску, працуем на электрамэханічным заводзе. Прыйшлі, бо бачым, што адбываецца ў краіне, як краіна каціцца ў прорву праз акцыі пратэсту. Таму вырашылі падтрымаць стабільнасьць і захаваць краіну, тэрытарыяльную цэласнасьць у тым ліку. Бо пачынаецца падзел на сваіх і чужых: бел-чырвона-белыя і іншыя. Мы жылі нармальна ўвесь час. У нас была адзіная краіна. Цяпер яе спрабуюць падзяліць. Мы ня хочам гэтага. У прынцыпе я дагэтуль на мітынгі ніколі не хадзіў. Але цяпер трэба падтрымаць, цяпер такі час настаў. Міма апазыцыйных мітынгаў толькі праходзіў. Вядома, там творыцца беспрадзел паўнейшы. Вядома, там ёсьць людзі, якія выходзяць зь нейкімі перакананьнямі, але ідзе інфармацыйная вайна, якая іх туды проста-напраста сьцягвае і замбуе. Гэта называецца прамываньне мазгоў. Разгоны нямірных дэманстрацый, вядома, падтрымліваем. Тое, што туды маглі патрапіць выпадковыя мінакі, ухваляць нельга. Калі людзі ідуць з працы, у іх няма шляхоў абходу, яны трапляюць пад гэтую гарачую руку. Вядома, гвалт гэта дрэнна, пагатоў да людзей, якія ўвогуле ні пры чым. Натуральна, тут ацэнка адназначная. Калі зьбівалі людзей, якія ў міліцыю кідалі камянямі, тут, як кажуць, на агрэсію была ўжытая агрэсія. Але зьбіваць і катаваць кагосьці нельга, гэта адназначна.

## *„Трымаю расейскі сьцяг“*

— Трымаю расейскі сьцяг, бо я зь Віцебску і лічу, што гэта нашы браты. Я лічу, што мы адзін народ і нас нішто ня можа разьядноўваць. Я працую

індывідуальным прадпрымальнікам. Спрабуюць разьяднаць… Я мяркую па тым, як вы і вашы калегі асьвятляюць тое, што адбываецца ў маёй роднай рэспубліцы. І яшчэ я лічу, што на беларускай мове трэба ня толькі ўмець размаўляць, трэба яшчэ і разумець усю глыбіню нашай вялікай мовы. І я лічу, што на беларускай мове трэба заслужыць права размаўляць. Беларуская мова — гэта мова стварэньня, гэта мова міру, але ніяк не праява агрэсіі, вываду людзей на дэманстрацыі (*гаворыць гэта па-расейску*).

### *„Адны беларусы з аднаго боку, другія з другога“*

— Я ня ведаю ніводнага чалавека, каму можа падабацца тое, што цяпер адбываецца. Чамусьці адны беларусы сталі з аднаго боку, другія беларусы з другога боку. Для беларусаў гэта не ўласьцівая рыса і такога ніколі не павінна быць. Дайсьці да каляровай рэвалюцыі вельмі лёгка. Але мы людзі цывілізаваныя. Ёсьць улада, ёсьць канстытуцыя, ёсьць закон. Мы жылі добра і мірна, а цяпер ідзеш па вуліцы і думаеш, чаму ты ня можаш трымаць гэтага колеру сьцяжок, а ён павінен быць іншага колеру. Ідуць сёньня ўсе зь дзяржаўным сьцягам у калонах, а паказваюць ім адзін палец уверх, яшчэ нейкія фігуры. Вы бачылі, каб я ехала ў машыне, нехта іншы ехаў і паказваў тым, хто стаіць з шаром белым ці з кветкамі. Калі ласка, гэта права чалавека. Мы таксама гэта паважаем. А вы, прэса, ўсё гэта падаграваеце.

# РЭВАЛЮЦЫЯ ВУЛІЦ

*Тым часам па праспэкце Незалежнасьці людзі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі ішлі да стэлы.*

## *„Людзі адчуваюць сябе нацыяй“*

— Я ня памятаю падобных падзей у Менску. Людзі адчуваюць сябе адзіным народам, нацыяй, а не асобнымі людзьмі. Мы ўжо ня можам больш баяцца, ужо няма ніякіх сіл баяцца і чакаць.

## *„Чуць сэрца не разарвалася“*

— Вы ведаеце, на нашым участку калі я ўбачыла гэтыя вынікі — 188 за Ціханоўскую і 767 за Лукашэнку — у мяне ледзь сэрца не разарвалася. І яшчэ 91 за Канапацкую. Увогуле ня ведалі, хто гэта такая. Так што мы ідзем адстайваць свае правы. Людзей сталага ўзросту тут вельмі шмат. Мне 54 гады, у мяне чацьвёра ўнукаў. Вось якія цяпер бабулі. І я хачу, каб мае ўнукі жылі ў свабоднай добрай краіне і не баяліся нічога.

## *„Яго больш не прызнае́ народ. І не прызна́е“*

— Я СММшчык, які вядзе інстаграм на БТ. Я заўтра буду пісаць заяву на звальненьне. У гэтай краіне павінна быць любоў, павінна быць праўда, павінна быць свабода. Я ўсё жыцьцё жыла пры гэтай уладзе. Я ўсё жыцьцё маўчала. Я хачу сказаць былому прэзыдэнту, што яму па-

ра зьмірыцца з тым, што яго больш не прызнае́ народ. І не прызна́е. Настроі людзей у Белтэлерадыёкампаніі розныя. Ёсьць людзі, якія баяцца. Ёсьць, якія настроеныя радыкальна. Па-рознаму. Калег на мітынгах сустракала. Імёны, вядома, ня буду называць.

## *„Глуханямы павінен загаварыць“*

— Таму што глуханямы за 26 гадоў павінен загаварыць. Мы загаварылі. Мы чакалі гэтага цудоўнага жыцьця 26 гадоў. Мне 53 гады. 26 гадоў проста… ну ня ведаю куды. У сьметніцу. Мы дачакаліся свабоды, радасьці, шчасьця. Эканоміка будзе толькі квітнець. Мы ня будзем карміць чыноўнікаў, гэтых бязьдзельнікаў, якія нічога ня могуць. Бо ў чыноўнікі ідуць людзі з адсутнасьцю ўсіх талентаў. Яны могуць толькі ківаць галовамі яму ці аддаваць дурацкія загады. Усё. Мы, цудоўны, адукаваны, цікавы, таленавіты, крэатыўны народ павінны слухаць пастаянна вось гэтую лухту, якую ён нясе. Я не хачу казаць „калхозную“, бо калгасьнікі цудоўныя людзі, але гэта агідна слухаць гэтага бязграматнага чалавека, які нічога ня смысьліць ні ў адным пытаньні. А мы, вы паглядзіце, якія мы прыгожыя. І мы хочам такога самага прыгожага, шчасьлівага, свабоднага жыцьця. Я прыехала з Гомлю, і я настаўніца. Я прыехала адразу пасьля выбараў, я ўдзельнічала ва ўсіх ланцугах салідарнасьці. І заўтра я зьяжджаю з гэтай перамогай і прывязу яе ў Гомель.

## *„Прадчуваем, што будзем шчасьлівымі“*

— Мы стаміліся і вырашылі нацешыцца гэтай прыгажосьцю. Людзі ўсьміхаюцца. Я першы раз у жыцьці бачу, каб так людзі радаваліся. Калі ў нас былі якія сьвяты? Твары заўсёды сумныя, сур’ёзныя. А тут радасьць. Столькі бел-чырвона-белых колераў. Нават і дзеці тут. Мы шчасьлівыя. Здаецца, мы прадчуваем, што мы будзем шчасьлівымі. Надакучыла ў гэтым калхозным прыгоне жыць.

## *„Краіна такая дзякуючы нам“*

— Гэты чалавек ужо зрабіў дастаткова гора гэтай краіне і хочацца проста, каб ён ціха-мірна сышоў. Зь ім потым, я спадзяюся, трыбунал разьбярэцца. Але хопіць ужо. Ужо проста цярпеньня ў гэтага народу няма. Беларусы прывыклі самі пра сябе клапаціцца. Гэты чалавек мала чаго зрабіў для беларусаў. І тая краіна, якая ў нас ёсьць цяпер, гэта толькі дзякуючы нам. А гэты чалавек нас заўсёды тармазіў. Таму, калі ён сыдзе, нічога дрэннага ня здарыцца. Наадварот, стане толькі добра. Нам моцны прэзыдэнт, як ён сябе пазыцыянуе, больш непатрэбны. Нам патрэбны добры ўпраўленец, сучасны, пажадана нават жанчына.

## *„За свае амаль 40 гадоў такой колькасьці людзей ня бачыў“*

— Уразіла такая неверагодная колькасьць людзей… Я за свае амаль 40 гадоў такога ня бачыў, ні ў пачатку 90-х такой колькасьці ня бачыў. І гэты маральны ўздым народны. Мне падаецца, сапраўды кажуць, што цяпер адбываецца нараджэньне

беларускай нацыі. Менавіта праз пакуты, праз гэтыя забойствы, праз боль. На маю думку, тое, што цяпер адбываецца, гэта добра ўсё, гэта сьвята, але гэта не канчатковая перамога. Ёсьць у нас Усход, ёсьць Захад і ёсьць улада. Яна хоць і дэлігітымізавала сябе праз кроў, але яна ёсьць, яна аддае загады вайскоўцам, амону. Таму ня трэба расслабляцца яшчэ. Трэба гуртавацца, паказваць, што нас большасьць. Мы ўжо сёньня паказалі.

### *„Мы такі самы народ, як і нашы суседзі“*

— Гэта кліч сэрца і жаданьне перамен. Мы хочам паказаць, што мы такі самы цывілізаваны народ, як і нашы суседзі: прыбалты, палякі, украінцы, калі хочаце. То бок, мы нічым не адрозьніваемся і, можа быць, дзесьці лепшыя крыху. Раней многімі валодаў страх, бо было вельмі шмат прэцэдэнтаў, якія прымушалі людзей маўчаць. Цяпер адбыўся прарыў. І мы адчулі глыток свабоды. Але яе паспрабавалі патапіць у крыві. І вось цяпер абурэньне, але, слава богу, гэта ўсё ў межах закону, талерантна, карэктна, як вы бачыце. Мы не парушаем правілы дарожнага руху, мы ня сьмецім. І гэта толькі пачатак.

*17 жніўня на прыступках Міністэрства здароўя адбылася акцыя мэдыкаў супраць гвалту.*

### *„Міністар пагражае нам звальненьнем“*

— Пратэст мэдыкаў міністру здароўя выкліканы тым, што ён не падтрымаў нашы патрабаваньні ад пачатку, адмаўляў усялякія прыцясьненьні лека-

раў, адмаўляў пабоі, якія наносілі пратэстоўцам, казаў, што ні ў якую лячэбную ўстанову пацярпелыя не паступалі, што траўмы адзінкавыя і не зьвязаныя ні зь якім залішнім гвалтам і сказаў, што ўсім, хто будзе выходзіць, пагражае звальненьне ці нейкія іншыя санкцыі. Але калі ўсіх будуць звальняць, выйдзе яшчэ болей. Так што баяцца ў прынцыпе бессэнсоўна.

## *„Мы судовыя мэдычныя экспэрты“*

— Мы судовыя мэдычныя экспэрты. Да нас на прыём прыходзяць людзі, вызваленыя з ІЧУ, СІЗА, з Акрэсьціна. І гэта вельмі страшна. Яны расказваюць тое, што там адбывалася. Раней, калі гэта пачалося, была інфармацыя, што сьледчыя органы не даюць людзям пастановаў, каб яны ішлі на экспэртызу. Цяпер ужо, я так разумею, гэтае пытаньне вырашанае, бо пачынаючы з гэтых выходных ідзе вельмі шмат людзей пацярпелых, якія распавядаюць, што адбывалася. Нашы калегі няспынна прымаюць іх. Пацярпелыя распавядаюць пра фізычныя і маральныя прыніжэньні, як іх б’юць, праганяюць па гэтых „калідорах сьмерці“, катуюць электрашокерам, робяць гвалтоўныя дзеяньні рознымі прадметамі. Ну мы ўсё гэта пішам, фіксуем, складаюцца фотатабліцы, складаюцца заключэньні, якія потым, я вельмі спадзяюся на гэта, з дапамогай адвакатаў будуць накіраваныя ў суд, і ўсе будуць закліканыя да адказу. Таму я заклікаю людзей ісьці ў Сьледчы камітэт ці ў пракуратуру, браць пастанову і ісьці да нас.

### *„Апошняя кропля, калі зьбілі мэдработнікаў“*

— Я лекарка 10-й паліклінікі гораду Менску. Вельмі моцна насьцярожыла людзей і жахнула тое, што адбывалася з нашымі мірнымі грамадзянамі, якія выйшлі на свой мірны пратэст. Апошняй кропляй стала, калі зьбілі мэдработнікаў, якія выйшлі на вуліцу дапамагаць, калі іх білі са словамі: каму вы дапамагаеце? Для лекараў няма ніколі добрага і дрэннага боку. Для лекараў ёсьць людзі, якіх трэба ратаваць, якім трэба аказваць мэдычную дапамогу. І калі лекарам не даюць рабіць сваю працу і за гэта б'юць, зьбіваюць, гэта жахліва. Мне 26 гадоў, я жыву столькі, колькі кіруе наш прэзыдэнт. Такога быць не павінна.

*19 жніўня рабочыя „Беларуськалію“ сабраліся на плошчы ў Салігорску, каб абмеркаваць свой страйк.*

### *„Не разьбітае ніводнае шкло“*

— Мы не задаволеныя тым, што ўрад пайшоў ваяваць супраць народу. Зьбівалі людзей, забіралі, цяпер дагэтуль сядзяць. Ладна ў Менску, там былі сутыкненьні, але тут, у Салігорску не разьбітае ніводнае шкло, нічога, нідзе, усё было мірна, аднак вельмі шмат людзей пацярпела праз свае перакананьні. Хапалі і дзяцей, і ўсіх запар, гэта ня толькі Беларуськалій. Гвалт над народам, гэтага рабіць нельга было.

### *„Людзей абурыла пастаянная хлусьня“*

— Людзей вельмі абурае, што людзі ў нас быдла ў разуменьні ўлады. Таму мы выступаем за тое, каб мы нарэшце сталі беларусамі, людзьмі звацца, як той казаў. І хоць я ўжо не працую ў гэтым калектыве, два гады на пэнсіі, я таксама прыйшоў. Бо ў маіх дзяцей і ўнукаў пры гэтай уладзе няма будучыні. Людзей абурыла ня тое, што мы мала ці многа зарабляем. Людзей абурыла гэтая хлусьня пастаянная.

### *„Жонка дома замкнула“*

— Палова працуе, палова спускаецца і не працуе. Нехта ўвогуле не выходзіць на працу. Уначы ціснулі з боку генэральнага, езьдзіў па рудніках. Нехта працаваў, бо хоча гэтую капейку зарабіць, а камусьці і гэтая капейка ўжо ня трэба. Хтосьці за свой гаманец трымаецца, хтосьці за месца, успамінае, што ў яго многа крэдытаў. Аднаго, быў выпадак, была тут забастоўка, і яго жонка дома замкнула. Ціск з боку сваякоў, сям'і і гэтак далей. Нехта проста ня бачыць усёй сытуацыі ў Беларусі. Нашы начальнікі ўчасткаў, яны як бы і з намі, але слова супраць сказаць ня могуць. Яны як бы і з народам і бліжэй да начальства, якое зьверху.

### *„Лепш бы гэтага інтэрнэту не было“*

— Так усё сумна, так дрэнна. Лепш бы гэтага інтэрнэту не было. Лепш бы мы ўсяго гэтага не глядзелі, у тым ліку вас. Вы вельмі добры канал. Мы проста ў шоку ад усяго, што робіцца ў нас. Найбольш ад таго… як сказала сёньня мая сьвя-

круха, якая вось ужо памірае, яна кажа: Зінка, вы яшчэ яго не прагналі? Цара скінулі, а яго ня можам? Я кажу: ня можам і плачам. Так што ўсім расказвайце і паказвайце. Мы ў шоку ад усяго. І нічога зрабіць ня можам. А вы працуйце, вы малойцы.

*22 жніўня ў Берасьці адбыўся Марш супраць забойстваў і гвалту.*

### *„Трэба зьяжджаць“*

— Сьлёзы на вачах за ўсё, што адбылося з намі за гэты час. Няма словаў, толькі адно пытаньне: за што? Мы плацім падаткі гэтай дзяржаве, мы кормім уладу, якая павінна нас абараняць. А яна нас б’е. У многіх людзей разьвілася фобія, баяцца выходзіць на вуліцу. Я баюся падыходзіць да пад’езда дома і баюся, што не прыйду дадому. І мой сын, якому 25 гадоў. Увечары пасьля выбараў амон гнаў людзей, людзі разьбягаліся, яны ўсіх запар грэблі. Хацелі, відаць, нас усіх зьнішчыць. Трэба зьяжджаць. Моладзі трэба зьяжджаць, бо працаваць на гэтую ўладу і плаціць падаткі няма сэнсу. Мы рабы для іх.

### *„Знак роўнасьці“*

— Вельмі няправільна, што тыя людзі, якія ходзяць на мітынгі ў падтрымку Лукашэнкі, ставяць знак роўнасьці паміж Рэспублікай Беларусь і прозьвішчам Лукашэнкі. Яны павінны зразумець, што калі Лукашэнка сыдзе, Беларусь нікуды ня дзенецца. Я не жыву ў Беларусі ўжо два гады. Я

зь Берасьця, але я зьехала. А зьехала, бо думала, што безнадзейна нешта тут памяняць. Але цяпер калі я бачу гэтае сьвятло ў канцы тунэлю, я ўсё адно зьеду, але я хачу дабіцца, каб Беларусь была той краінай, зь якой не захочацца зьяжджаць“.

*23 жніўня ў Менску праходзіў Марш новай Беларусі. Плошча Незалежнасьці не змагла зьмясьціць усіх удзельнікаў, людзі занялі таксама ўсю прастору праспэкта да Кастрычніцкай плошчы.*

### *„Людзі зьбіраюцца для перамен“*

— У мінулую нядзелю я быў у сваім родным горадзе Мазыры. А сёньня я вырашыў прыехаць у Менск падтрымаць. Яны кажуць, мы купленыя. Мы купленыя Эўропай. Гэта сьмешна. Цяпер у Мазыры такі вось настрой (паказвае вялікі палец). Усё ўсё бачаць, усе цудоўна разумеюць, усе хочуць перамен і ўсе гэтага дамагаюцца, як могуць. І тут вясёлыя людзі, якіх так хочацца бачыць, якія ідуць з настроем, якія бачаць у сваіх сэрцах і вачах перамены і якія для гэтага і зьбіраюцца.

### *„За праўду мы прыйшлі зь дзецьмі“*

— Мы хочам праўды для сябе і для нашых дзяцей. Таму мы прыйшлі зь імі. А наконт бясьпекі, калі ўсе захочуць адчуваць сябе ў бясьпецы, дык нічога і ня будзе. Бо пасьля падзеяў тых трох дзён зразумела, што мы ў небясьпецы ў кожным месцы ў нашай краіне і ў кожны час. На мінулым тыдні я таксама хадзіў, але такога вялікага сьцяга ў мяне яшчэ не было. Я яго купіў зусім нядаўна ў нейкіх

добрых людзей, якія іх шыюць. А дагэтуль у мяне быў маленькі, які вісеў на дзіцячай пляцоўцы ўжо шмат гадоў дома. Ён прыгожы.

### *„Мы выехалі ў пяць раніцы“*

— Мы прыехалі зь Берасьця. Берасьце цяпер таксама перакрываюць — Жабінка, усе гэтыя пад’езды, дарогі. Звужаюць, конусы ставяць. Карацей, не прапускаюць. Але мы выехалі ў пяць раніцы. У Менску мы далучыліся першы раз. Але мы ў Берасьці выходзім кожны раз, кожны дзень. Мы пераможам!

### *„Усе суседзі галасавалі за Ціханоўскую“*

— Мае суседзі, зь якімі я жыву ў адным доме, каго я пытаўся, усе галасавалі за Ціханоўскую. Але выніковы пратакол нам так і не паказалі. Яшчэ на выбарах 2015 году мы ўсе галасавалі за Аляксандра Рыгоравіча, а ўжо на гэтых выбарах наша ўся сям’я галасавала за Сьвятлану Ціханоўскую. Мае бацькі таксама.

### *„Зьмяніліся колеры“*

— Праўладныя мітынгі я бачыў, я іх называю „ряженые“. Гэта ж ня цяжка зразумець, калі чалавек ідзе сам, а калі яго прывезьлі і прымушаюць гэта рабіць. Калі гэтая ўлада ня хлусіла? Хоць адзін год з 26-ці. Я такога ня памятаю. А я жыву ўжо даўно. Яны могуць казаць, што і на Марс зьлёталі. Я лічу, што людзі не павінны здавацца. Я б не сказаў, што гэта нейкі палітычны пратэст, гэта ўжо такое яднаньне нацыі. А выходзіў я першы раз у

90-я гады, калі яшчэ не было ніякага Лукашэнкі. Зьмяніліся колеры. Тады было ўсё шэрае, але таксама была прага да свабоды. І цяпер тое самае, толькі больш у шмат разоў.

## *„Вывучыў слова «фэйк»“*

— Гэта словы нашага прэзыдэнта, маўляў, гэта ўсё фэйк, што людзі зьбіраюцца, што гэта ўсё праплачана. Што 60 працэнтаў людзей, якія былі зьбітыя, гэта ўсё фэйк. Ён проста вывучыў слова „фэйк“ і цяпер паўсюль яго выкарыстоўвае. Але інфармацыі куча, шмат відэа, шмат пацьверджаньняў. Я ня думаю, што людзі проста б пайшлі з пабоямі, сябе зьбілі ці кідаліся на шкло, а пасьля сказалі, што гэта іх пабілі недзе на Акрэсьціна. Таму кожны сам выбірае, у што верыць.

## *„У меру і да 18-ці не наліваем“*

— Бармэны Беларусі выказваюць сваю салідарнасьць усяму народу Беларусі. То бок мы супраць гвалту, які адбываецца, бо бар заўсёды быў па-за палітыкай. Але тут прыйшлося выйсьці на вуліцы і паказаць нашу салідарнасьць кожнаму чалавеку. Мы п’ем за любоў, за мір і бяз гвалту, але ў меру і да 18-ці не наліваем.

## *„Гатовы галасаваць адкрыта“*

— На нашым участку мы ведаем толькі вынікі „Голасу“, паводле якіх перамагла Ціханоўская. А камісія не апублікавала. На ўсіх участках фальсыфікацыі, на большасьці. І зноў жа. Калі казаць пра сумленныя выбары, а чаму тады не дапусьцілі

ў камісіі новых людзей? Чаму ў камісіях людзі, якія сядзяць там трэція, чацьвертыя выбары запар? Калі яму няма чаго баяцца, няхай зробіць сумленныя выбары, празрыстыя. Напрыклад, я спакойна мог бы галасаваць адкрыта, не таемна. Калі 80% за яго прагаласавала, а чаго столькі народу цяпер ходзіць на акцыі, на мітынгі. За Лукашэнку людзей прывозяць на аўтобусе, а мы ходзім самі. Ім прывозяць апаратуру, якая таксама — пытаньне — за чые грошы. І чаму, дапусьцім, я на некаторых фатаграфіях з розных гарадоў бачу адны і тыя ж твары? У мяне ёсьць пытаньні да ягоных мітынгаў. І мне цікава, ці зьбярэ ён хоць бы дзясятую частку ад той колькасьці, колькі нас сёньня ці ў мінулую нядзелю?

### *„Ён перагнуў палку“*

— Гэты раз ён перагнуў палку. Калі б там хоць нейкая была ілюзія справядлівасьці, магчыма, людзі б так востра не рэагавалі. Але тое, што адбываецца цяпер, у краіне, дзе самая асноўная каштоўнасьць — гэта жыцьцё чалавека, так груба над ёй насьмяяліся.

### *„Цяпер актывісты амаль усе“*

— Да гэтага году мы на палітычныя акцыі не выходзілі ніколі. То бок былі людзі, нейкія актывісты, а цяпер гэта амаль усе. І знаёмыя і сябры, усе так ці інакш недзе тут ходзяць. Такі трыгер быў у выглядзе выбараў чарговых і, напэўна, проста прыйшоў час, народ сасьпеў. 10 гадоў таму было адчуваньне нейкай бескарыснасьці выхаду на

вуліцу, а цяпер здаецца, што перамены недзе ўжо не за гарамі.

### *„Сыстэма будзе перахопліваць павестку“*

— Калі народ прызнае Ціханоўскую прэзыдэнтам і яна, калі скажа, што яна прэзыдэнт, яна павінна ўжо нейкія больш сур'ёзныя рабіць палітычныя крокі, ня ведаю, абвяшчаць збор парлямэнту, аддаваць каманды арміі. Яна павінна менавіта паводзіць сябе, як прэзыдэнт. Яна выбары выйграла, і мы чакаем ад яе актыўных палітычных крокаў. Тое, што сабралася Каардынацыйная рада — гэта добра. Яны сапраўды стараюцца акуратна, у рамках закону. І зразумела, што ўся лукашэнкаўская сыстэма будзе перахопліваць павестку, будуць заводзіць справы, кагосьці садзіць, кагосьці адпускаць — але гэта проста перахопліваньне павесткі. І патрэбныя больш рашучыя палітычныя дзеяньні. Людзі, я ўпэўнены, падтрымаюць і Каардынацыйную раду, і Ціханоўскую.

### *„Пачаў размаўляць на беларускай мове“*

— БЧБ сьцяг у мяне з 2011 году. Тады былі вельмі нядобрыя падзеі 2010 году, калі разагналі Плошчу. Мяне гэта ўсё скаланула, і менавіта тады я пачаў размаўляць на беларускай мове, завёў сьцяг. Цяпер усё адбываецца больш масава і больш надзеі на перамены. Тады такое адчуваньне было адзін вечар, а на наступны ранак гэта была жорсткая дэпрэсія, жорсткае расчараваньне. Цяпер зусім ня так. Цяпер кожны дзень нешта адбываецца, кожны дзень бачыш людзей, якія выходзяць, якія змагаюцца, якія нешта робяць,

якія падтрымліваюць адзін аднаго. Гэта ўсё не дае апусьціцца ў такую дэпрэсію. Людзі сталі больш цесна кантактаваць адзін з адным, напрыклад, зьбірацца грашыма на нейкія ініцыятывы. Такога, як цяпер, не было ніколі.

### *„Хацеў бы бачыць тут таксама ЧЗ сьцяг“*

— Мяне завуць Ільля. Я хацеў бы бачыць тут яшчэ і чырвона-зялёны сьцяг. Чаму? Таму што дзейная ўлада імкнецца нас супрацьпаставіць адных адным. Калі б мы аб’ядналіся і тут было 50 на 50 таго і таго сьцяга, паказалі б, што мы адзіныя і талерантныя, якімі павінны быць сапраўдныя беларусы. Гэта было б выдатна. Я ўвогуле большы прыхільнік чырвона-зялёнага сьцяга, таму што ўсё жыцьцё быў апалітычны. Але цяпер я лічу, што як у нас дзьве мовы раўнапраўныя, дык цяпер павінны быць і два сьцягі раўнапраўныя. Падзел выгадны толькі дзейнай уладзе — падзяляй і ўладарнічай. Так, мы хочам быць пачутымі, нас тут мільён-два, ёсьць яшчэ чатыры мільёны, якія нам спачуваюць. Гэта вялізная колькасьць. І трэба паказаць ім, што мы паважаем іхны сьцяг, і яны наш сьцяг, што мы адзіныя.

### *„Старыя пердуны за Лукашэнку“*

— Нам проста кажуць, што старыя пердуны за Лукашэнку. Мне 65 гадоў. Ня ўсе пердуны за Лукашэнку. Мы супраць фашызму, што калі нават і бралі, ня трэба лупіць людзей у аўтазаках, ня трэба лупіць людзей у турме. Ну і надакучыў ужо, шчыра кажучы. Я ніколі за яго не галасаваў. І тут ужо большасьць. Я думаю, што з Расеяй як

сябравалі, так і будзем сябраваць. З усім сьветам мы павінны сябраваць. І з Эўропай, і з Расеяй. Мы ня супраць нікога. Умяшаньня з боку Расеі, я думаю, ня будзе. Думаю, проста інфармацыю Пуціну ня так далажылі. Таму мы супраць. Народ адвярнуўся. Спачатку пра каранавірус ён нагаварыў, цяпер вось пабіў... Назад звароту ўжо ня будзе. Толькі калі ён зноў будзе страляць, іншага варыянту няма.

## *„Мы цалкам залежым ад Расеі“*

— Сёньня магутна, вельмі класна, мірна, добра. Я не разумею, як яшчэ гэты чалавек дагэтуль не ўсьведамляе, што ўся краіна ўстала супраць таго, што выбары сфальсыфікаваныя, супраць жорсткага абыходжаньня зь людзьмі. Мы ўсе ўжо сталі палітычна больш граматнымі, ня верым у гэтую прапаганду. Ён крычыць на кожным кроку, што мы незалежныя, а за 26 гадоў у нас забралі наш сьцяг, нашу мову. Я ня супраць таго, каб у нас былі і беларуская, і расейская, і ангельская мовы. Але мы цалкам залежым ад Расеі. Мы закрытыя. І ніякай незалежнасьці ў нас няма. У нас няма незалежнасьці СМІ, мы ня можам выйсьці, сабрацца, выказаць сваю думку. Нас абсалютна ня чуе ўлада. А тое, што адбываецца на Акрэсьціна... Чырвоная лінія пяройдзеная.

## *„Да мурашак па скуры“*

— Той народ, той дух, які сёньня я прачула, — гэта да мурашак па скуры. Я адчула свой народ. Я адчула, што мы адзіныя, што мы мірныя, што мы

сьветлыя. І я вельмі вельмі спадзяюся, што гэта наша будучыня.

### *„Не хачу, каб намі кіравалі людзі, якія нас не паважаюць“*

— Я не хачу, каб намі кіравалі людзі, якія нас не паважаюць. Не паважаюць нашу мову, нашу гісторыю, якія хлусяць і нават ня могуць набраць дастаткова галасоў, каб перамагчы на выбарах сумленна.

### *„Мы выйгралі інфармацыйную вайну“*

— У 2010 годзе я была на Плошчы. Тады не было дамоўленасьці ў штабоў і, напэўна, мы тады прайгралі інфармацыйную вайну. А цяпер мы яе выйгралі. Вы паглядзіце, колькі людзей, якія ў курсе. Людзей вельмі шмат, якія кажуць былому прэзыдэнту — сыходзь.

*25 жніўня каля Міністэрства адукацыі адбыўся пікет у падтрымку сумленных настаўнікаў.*

### *„Мне здаецца, я распранутая“*

— Я выкладчыца ўнівэрсытэту. Прыйшла падтрымаць сваіх калег. Увогуле я баюся цяпер хадзіць па Менску, там, дзе я нарадзілася, дзе я жыву. Мне здаецца, што я распранутая. І гэты страх у мяне зьявіўся яшчэ на выбарах, калі я зайшла ў кабіну, якая была пазбаўленая ўсіх гэтых запавесаў. І цяпер я хаджу па Менску зусім не абароненая. І гэта галоўнае, чаму я хачу, каб гэтая сытуацыя

зьмянілася. Наконт таго, што шмат настаўнікаў удзельнічалі ў несумленных выбарах, я не хачу нікога абвінавачваць, кожны адказвае сам за сябе, кожны чалавек павінен сам вырашаць, што ён будзе рабіць і як лічыць. Гэта праблема сумленьня кожнага чалавека.

### *„Супраць ідэалёгіі ў школе“*

— Я настаўнік гісторыі з установы адкукацыі „гімназія №11 гораду Менску“. Мы супраць ідэалёгіі ў школе. Вельмі моцна пхаюць ідэалёгію ў грамадазнаўства і гісторыю. Мы супраць гэтага. Бо наш рэжым, ён сябе дыскрэдытаваў. У тым ліку і празь людзей нашай прафэсіі.

### *„Прафэсія, якая шмат цярпіць“*

— Мы сужэнцы. Я таксама настаўнік гісторыі, але зь іншай установы. Мы ў прынцыпе тая прафэсія, якая шмат цярпіць. Але цяпер цярпець проста ўжо немагчыма. Я лічу, што мы, гісторыкі, павінны данесьці дзіцяці факты, на якіх ён зможа пабудаваць сваё меркаваньне. А нам цяпер кажуць, што мы павінны праводзіць ідэалёгію дзяржавы.

### *„За белую стужку“*

— Мая мама настаўнік. Мама хадзіла зь белай стужкай, і яна расказвала, які прэсынг яна цярпела з боку свайго дырэктара, завуча праз тое, што проста насіла на руцэ белую стужку і ня згодная з той ідэалёгіяй, якую прапагандуе наша дзяржава. Мама настаўніца пачатковых клясаў.

## *„За сумленных настаўнікаў“*

— Я не настаўніца, я шматдзетная маці. Я лічу, што тыя настаўнікі, якія фальсыфікавалі выбары, яны павінны адказаць перад законам. Але я супраць таго, каб цяпер гнабілі ўсіх астатніх настаўнікаў. Таму я цяпер на гэтым месцы, я прыйшла падтрымаць сумленных настаўнікаў.

## *„Звольнілі за пазыцыю“*

— Я дачка настаўнікаў, сама не настаўніца. Але мяне абурае тое, што адбываецца зараз у краіне, мяне абурае, як ставяцца да настаўнікаў. У нас у школе настаўніцу звольнілі, не працягнулі зь ёй кантракт за тое, што яна мае сваю пазыцыю. Таму мы прыйшлі ў тым ліку і яе падтрымаць. Гэта 61-я школа. Дырэктар Цубікава Ірына Віктараўна, якая чысьціць кадры і выдаляе ўсіх настаўнікаў і іншы пэрсанал, хто не падтрымлівае і не выконвае загады зьверху.

## *„Лена, пара паважаць сябе“*

— Я ўжо пэнсіянэрка. Працавала ва ўпраўленьні адукацыі. Выхавацелька ў мяне сястра, і калі я ёй сказала: Лена, пара паважаць сябе, яна мне адказала: Ліля, мне патрэбная зарплата, мне трэба плаціць крэдыты, і я паўставаць не змагу. Яна адна выхоўвае дзіця. Я кажу: Лена, дык ты ж можаш страціць працу, ня кажучы ўжо пра зарплату. Ну, яна сказала мне: Ня лезь. І вось мне цяпер вельмі радасна, што нарэшце настаўнікі ўсталі. Бо мне сапраўды хочацца, каб яны пастаялі за сябе.

## *„Вэртыкаль жыве ў паралельным сьвеце“*

— Я не настаўнік. Я прыйшоў, каб падтрымаць настаўнікаў. У першую чаргу, тых, на якіх ціснуць цяпер. І якім кажуць, што калі яны ня будуць трымацца дзяржаўнай ідэалёгіі, то іх звольняць. І, зь іншага боку, падтрымаць настаўнікаў, на якіх ціснулі ў часе выбараў, якім проста давялося фальсыфікаваць выбары і на якіх цяпер ціснуць у тым ліку з боку многіх прыхільнікаў Ціханоўскай. Я лічу, што ім проста трэба сумленна прызнацца, што гэта адбывалася і такім чынам дапамагчы ўсім нам аспрэчыць вынікі выбараў. Я ўпэўнены, што ніхто з чыноўнікаў ня выйдзе да нас, бо ўся гэтая вэртыкаль, яна настолькі адарваная ад рэальнасьці і яна жыве ў настолькі нейкім паралельным сьвеце… Яны проста не разумеюць словаў, якія ім адрасуюцца.

## *„Для дзяцей важны прыклад“*

— Мы хочам падтрымаць настаўнікаў, каб яны не баяліся, каб яны маглі заяўляць сваё меркаваньне, бо для дзяцей вельмі важны гэты прыклад. Нельга абражаць, мучыць, біць таго, хто супраць твайго меркаваньня. Гэта няправільна. Мы ня хочам, каб у школе панавала такая атмасфэра.

## *„Пацярпелі дзеці з добрых сем’яў“*

— Немагчыма дараваць тое, што адбылося за апошнія два тыдні. Як зьняважылі нашых людзей, лепшае, што ёсьць у нашай краіне. Пацярпелі насамрэч адукаваныя дзеці, з добрых сем’яў. Гэта будучыня нашай краіны.

### *„Ня могуць працаваць у школе“*

— Я мама траіх дарослых дзяцей. Мой унук праз два гады пойдзе ў школу. І я хачу, каб яго вучылі сумленныя настаўнікі. Я лічу, што тыя настаўнікі, якія сябе заплямілі ўдзелам у гэтых выбарах, яны ня могуць працаваць у школе. У іх было ўжо два тыдні. Яны маглі сказаць гэта ананімна, як яны фальсыфікавалі, як іх прымушалі. Калі ў іх ёсьць сумленьне, ёсьць годнасьць, яны маглі гэта зрабіць. Ну а старшыні камісій, яны паводле крымінальных артыкулаў пойдуць. А тым настаўнікам, якія не фальсыфікавалі, нізкі паклон ад нас, бацькоў. Гэта справа выбару кожнага. Яны змаглі не падпісаць, нехта змог пайсьці на бальнічны, нехта змог проста не пагадзіцца ўдзельнічаць у гэтай камісіі. Усё залежыць ад чалавека.

### *„Як можна нас увогуле забраць?“*

— Калі шчыра, я не баюся. У мяне бацька вайсковец, падпалкоўнік, і я не ўяўляю, як тыя ж вайскоўцы могуць пайсьці… вы паглядзіце, гэта ж жанчыны, выкладчыцы, настаўніцы… мы ўсе прыйшлі зь мірам. Як можна нас увогуле забраць? Гэта проста страта вайсковай годнасьці.

### *„Самае страшнае яны ўжо зрабілі“*

— Сілавікі не палохаюць, бо самае страшнае, што яны маглі зрабіць, яны ўжо зрабілі. Далей няма куды. Гэта (*паказвае на аўтазакі*) ужо проста сьмешна. Людзі ўжо перасталі баяцца, і спадзяюся, што настаўнікі таксама ўсё больш і больш

будуць пераадольваць свой страх і ня толькі ў Менску, але і паўсюль.

### *„Калегі сталі казаць праўду“*

— Прыйшла падтрымаць сваіх калег. Я ўжо пэнсіянэрка. Падтрымаць, таму што малайцы. Сталі казаць праўду, і на іх, вядома, пачаліся ганеньні з боку ўлады. Так не павінна быць, але я думаю, што і ўлада гэтая хутка здасца. Яна ня зможа кіраваць сумленнымі людзьмі. А нас стала вельмі шмат. Што значыць звольніць? Нас і так мала. Я ведаю спэцыялістаў майго прадмету, фізыкі, вельмі мала. Тым больш, якасных настаўнікаў. Таму мне вельмі шкада, што тых настаўнікаў, якія зьяўляюцца найлепшымі, будуць звальняць. А вось тое, што павінен быў прадэманстраваць міністар... Ён увогуле павінен быў сказаць: прабачце, дарагія, я за вас буду стаяць гарой. А калі не атрымаецца, я сыду разам з вамі. Сумленны чалавек зрабіў бы так. А ён ня выйшаў.

### *„Вера — тое, дзеля чаго паміраюць. Ідэалёгія — тое, дзеля чаго забіваюць“*

— Тоні Бэн, брытанскі палітычны дзеяч, гэта яго фраза (*паказвае плякат*). Увогуле ў канстытуцыі ў нас дэмакратыя, якой мы на справе, вядома, не адчуваем. У тым ліку там напісана, што ніякая рэлігійная, палітычная партыя ня мае права навязваць сваю ідэалёгію. На жаль, дэмакратыі не існуе ў нашай краіне. Хто будзе вучыць людзей? Тыя, хто прытрымліваецца яго ідэалёгіі? Гэта будуць амонаўцы? Што можа даць такі чалавек, як наш у двукосьсях прэзыдэнт? Кожнае яго слова — гэта

ганьба для краіны. Кожнае яго выступленьне. Я ня ведаю, як прамываюць ім (*паказвае на аўтазакі з амонаўцамі*) мазгі на службе, гэта страшна, што адукацыя аказваецца ў нашай краіне слабейшая за прамыўку мазгоў.

## *„Што ўяўляе сабой гэтая ідэалёгія?“*

— У першую чаргу я таксама настаўніца, вось мая альма матэр (*паказвае на пэдунівэрсытэт*). І я прыйшла сюды запытацца: а што ж уяўляе сабой ідэалёгія нашай дзяржавы? Калі ён лічыць ідэалёгіяй менавіта тое, што людзі падманваюць адзін аднаго, тое, што рука руку мые, тое, што гэтага трэба ўзброіць і на людзей з кветкамі весьці… Настаўнікі, яны павінны быць свабоднымі і яны павінны пашыраць погляды людзей, дзяцей. Асноўная мэта настаўніцкая якая? Менавіта тое, што яны павінны разьвіваць гарманічную асобу. Чыноўнікі хочуць утрымацца на двух крэслах, ні таму боку, ні гэтаму. А вы бачыце, якія вучні ў іх (*паказвае на аўтазакі*). Вось яны, вучні нашага міністэрства адукацыі.

## *„Якая ідэалёгія ў інфарматыцы“*

— Я прыйшоў падтрымаць сябе як настаўніка і ўсіх маіх калег. Я працую ў 53-й менскай школе, настаўнік інфарматыкі. У першую чаргу трэба заставацца сумленным перад сабой. Калі за гэта не змагацца, калі не пра гэта казаць, тады пра што? І якая можа быць ідэалёгія ў інфарматыцы?

## *„Іншай ідэалёгіі, на жаль, ня бачу“*

— Прыйшла падтрымаць сябе, бо я настаўніца. Я ня ведаю, што маецца на ўвазе пад ідэалёгіяй, вось той, якая ёсьць. Калі гэта зьбіцьцё, фальсыфікацыі, гвалт, — гэта не ідэалёгія. І я ніколі не вучыла гэтаму і ня буду вучыць, нават калі мяне звольняць за гэта. Іншай ідэалёгіі я ў гэтай дзяржаве, на жаль, ня бачу. Я выкладаю гісторыю.

## *„Мы што, ваюем, страляем, сьмецім?“*

— Я адпрацавала 37 гадоў у школе, цяпер на пэнсіі. Мы ўсё жыцьцё сеялі разумнае, добрае, вечнае. І выконвалі дзяржаўную замову. Але калі дзяржаўная замова не супадае зь лёзунгам настаўніка пра разумнае, добрае, вечнае, як можна працаваць? Калі ў мяне ёсьць нейкае сваё асаблівае меркаваньне, яно павінна быць, я магу выйсьці і яго выказаць. Так і робяць усе сумленныя настаўнікі. А то што за пагрозы: мы іх звольнім, хто быў на мітынгу. Гэта ж няправільна. Мітынг — гэта спосаб выказаць сваё меркаваньне. Чаму мітынг незаконны? Калі людзі хочуць выйсьці, чаму ім ня даць гэтай магчымасьці? Мы што, ваюем? Мы што, страляем? Буянім? Сьмецім? Чаму на нас выставілі вадамёты? Такога не было пры ўсіх уладах, якія я пражыла. Няма павагі да чалавека.

## *„Самыя зацкаваныя людзі“*

— Я не настаўнік, я проста мама і чалавек. Мае дзеці ўжо вывучыліся. Я працавала ў гэтай сыстэме адукацыі. Справа ў тым, што гэта самыя зацкаваныя людзі. Ува ўсе часы, ня толькі ў сёнь-

няшняй Беларусі. І ў дадзены момант гэта проста дайшло да нейкай крытычнай кропкі. Куды ўжо іх болей ціснуць. Сёньня я прыйшла, каб іх падтрымаць з цэхавай салідарнасьці. Усе мамы — настаўніцы. І кожная жанчына, якая сюды прыйшла, яна перажывае за тое, што адбываецца, за сваіх дзяцей, мы іх не пакінем. Гэта не адшчапенцы, гэта нашы дзеці.

## „Я пражыла ўсе гэтыя 13 дзён з усьмешкай“

*Дар'я, архітэктар:*

— Нас зь сястрой затрымалі 12 верасьня на мірнай акцыі пратэсту. Мы яшчэ толькі зьбіраліся на плошчы вакол Ратушы, як пачаліся першыя затрыманьні. Нас атачыла вялізная колькасьць амонаўцаў і пачалі адціскаць да сьценаў кавярні. Раптам я апынулася ў першым шэрагу счэпкі, твар у твар з гэтымі людзьмі.

Я сама немалога росту, але некаторым з гэтых быкоў я была па падбародзьдзе. Мне не было страшна. Я не крычала, а проста глядзела ім у вочы і думала, як бы выбрацца з пасткі. Потым нейкі зь іх закрыў мне сваёй чорнай рукой вочы са словамі „чё пялишься?“.

Некаторыя зь іх даставалі з нагрудных кішэняў тэлефоны і проста фатаграфавалі нас ці здымалі відэа з адлегласьці паўмэтра. Многія крыўляліся ці проста сьмяяліся. Мяне гэта ўразіла, бо, як выглядала, для іх гэта была забава. Гульня ў ката і мышку.

Потым пачалі хапаць. Мяне ўзялі пад локці і выцягнулі са счэпкі. Далей быў калідор да дзьвярэй аўтазака. Я ішла сама, мяне не вялі. Сястра пайшла за мною.

Аўтазак набілі пад завязку. Там быў адчынены люк, і мы сталі выкідаць у яго свае сьцягі, бо іх часта адбіраюць і зьнішчаюць, а так хоць дастануцца неабыякавым людзям.

Праехалі зусім няшмат, і каля Палацу спорту аўтазак спыніўся. Нас пачалі перасаджваць у іншы,

разьбіты на асобныя камэры. Калі я выходзіла з аўтазаку, быў выстаўлены вялікі калідор з супрацоўнікаў у балаклавах. Я ўсьміхалася. Я ўвогуле шчыра магу сказаць, што пражыла ўсе гэтыя 13 дзён з усьмешкай.

Адразу пачаліся камэнтары: „ну вот, с улыбкой, вот как нужно быть“, „какая красивая“, „приятно вас видеть“. Пакуль я ішла праз гэты жывы калідор, пасьпела толькі сказаць: „А мне вас ня вельмі“.

У Фрунзэнскім РУУС мы прасядзелі каля пяці гадзін. На допыце дзяўчына-інспэктар вельмі ветліва са мной пагаварыла і дакладна ўсё запісала. Я мела яблык у сумцы: вярталася з заняткаў, а брала яго раніцай на перакус, бо ведала, што не пасьпяваю паабедаць. Яна ў сьпісе рэчаў так і напісала: яблычак.

Мне падсунулі нейкія паперы (пратакол), і мужчына ў цывільным пачаў на іх паказваць і крычаць: „Тэрмінова, хутчэй падпісвайце, ужо машына прыехала, давайце, давайце, мы вас адпусьцім дадому!“. Я ўбачыла, што насупраць майго прозьвішча ў табліцы напісана ЦІП, і зразумела, што дадому нас не адпусьцяць. Яны ўвогуле амаль усе і ўвесь час хлусяць. І гэтая хлусьня такая аб’ёмная і бессыстэмная, што часам выклікала пачуцьцё бясьсільля перад ёй.

Вядома ж, ніякая машына нас не чакала, і мяне падганялі, каб я хутчэй падпісала дакумэнты, практычна іх не чытаючы. У камэры РУУС мы прасядзелі даволі доўга. Потым павезьлі ў ЦІП на Акрэсьціна, дзе на першым паверсе паставілі тварам да сьцяны.

Галава балела ад паездкі і стомленасьці. Калі глядзіш доўга ў сьцяну перад тварам, галава

пачынае кружыцца, цяжка арыентавацца. Я расьсяродзілася, гледзячы на поўзаньне маленькай молі. Мы чакалі супрацоўніцу-жанчыну, якая кожную з нас мела агледзець. За гэты час зноў перапраўвяралі нашы асабістыя рэчы, і калі глядзелі маю сумку, я папрасіла аддаць мне яблык, які мог так папросту згнісьці.

Неўзабаве прыйшла вельмі прыгожая дзяўчына ў форме, але з абсалютна жалезным тварам, мэханічная, і мы па чарзе заходзілі ў пакой, дзе разьдзяваліся дагала, толькі пакідалі майткі, яна ўсё адзеньне правярала, забірала бялізну з „косткамі“, мы адзяваліся і вярталіся да сьценкі.

Пакуль супрацоўнік адчыняў дзьверы камэры, хтосьці з нас у яго спытаў: „А вошы ёсьць?“ — „Не, але калі добра пашукаць, можна знайсьці што заўгодна“. — „І справядлівасьць?“ — „Не, справядлівасьць — не“.

На судзе я расказала судзьдзі, што лёзунгі проста не пасьпела пракрычаць. Яна ўсьміхнулася і працягвала. У канцы яна спытала, ці ведала я, што мітынг несанкцыянаваны? Я адказала, што ведала. Яна спытала, чаму я пайшла. Я сказала — каб выказаць сваю грамадзянскую пазыцыю, бо іншымі законнымі спосабамі зрабіць гэта цяпер немагчыма.

Я ведала, калі прымала рашэньне ісьці на мітынг, ведала, калі ішла, што магу атрымаць і 15 сутак. І таму ў мяне было поўнае прыняцьце сытуацыі. А яшчэ я адчувала сілу ўнутры. Сілу і яснасьць, а таксама мір і цішыню. Яны былі са мной практычна ўвесь тэрмін.

Пасьля сьняданку быў шмон. „Прадольная“ спытала: „Вас тут шесть же?“. Мы потым варажылі — што яна мела на ўвазе? „6 ж.“ Мо жалудоў?

У аўторак раніцай мы даведаліся, што нас сёньня перавядуць у Жодзіна. Там да супрацоўніка, каля якога я стаяла, зьвярнуліся, ён нешта адказаў, і мяне зьдзівілі два моманты: 1) нармальная мова (увогуле тыя, хто з другога боку, вельмі рэдка гавораць правільна, выкарыстоўваючы складаназалежныя сказы); 2) ён падмацаваў усё словам „фэрштэйн“.

У Жодзіне з рэчамі ў руках мы спусьціліся ўніз і апынуліся ў калідоры, дзе пахла цыгарэтамі і капустай. Сталі перад дзьвярыма пакоя. Пасьля прыглушанага сьвятла галерэяў і калідораў пакой здаўся напоўненым зьзяньнем белага сьвятла. Першае, што я ўбачыла, — стол. За сталом супрацоўнік у форме і з мэдычнай маскай на твары. Адной рукой ён падпёр галаву. Я скіравалася да яго. Раптам на мяне закрычаў чалавек справа: „Ану зрабіла два крокі назад, я сказаў!“

На канапе сядзеў худы, тонкі супрацоўнік, увесь у чорным. На галаве ў яго была балаклава, якая сьмешна заканчвалася на ўзроўні грудзей, як каўпак у ка́та. Ён паўсядзеў-паўляжаў, адной рукой падтрымліваў дубінку, другой пісаў у журнале. Я паглядзела яму ў вочы, калі ён крычаў. Яны былі спалоханыя.

„Фамилия, имя, отчество. Громко и четко!“ — Я назвала, ён махнуў рукой, ня стаў пісаць: „Жалобы есть?“ У гэты момант я адчула, што нешта датыкнулася да маёй шыі справа. Тэрмомэтар.

„Не“, — прабубнела я ў маску. Блін, нават калі і былі скаргі, дык калі такім тонам пытаюцца, ты імгненна вылечваесься.

„36,1“, — паведаміў маю тэмпэратуру супрацоўнік у блакітнай кашулі. — „Распишись!“.

Пасьля мэдычнага агляду нас пашыхтавалі каля іншай сьцяны. Усімі сіламі ў нас стараліся ўсяліць страх і трымценьне, але мне было нястрашна. Там руліў усім маёр, як потым мы даведаліся, начальнік ІЧУ Жодзінскага ГАУС.

Нехта зь дзяўчат збоку ад мяне нешта сказаў. Маёр падышоў да яе ззаду і стаў раўсьці: „Зараз сьпіна ўся будзе сіняя!“. Я падумала, што вось ён самасьцьвярджаецца, упіваецца сваёй уладай, запалохвае. Бедны, дробны чалавек. Ня верылася, што ён можа свае пагрозы ажыцьцявіць. Дзяўчаты адна за адной падыходзілі і перашэптваліся. Маёр зноў падышоў і стаў раўсьці: „Я что, неясно папярэдзіў?! Ану змоўклі! Я навучу вас паважаць, сядаеце на шыю! Апошняе кітайскае папярэджаньне!“. Я стрымала сьмяшок.

Ён ведае, што такое кітайскае папярэджаньне? Гэта тонкі тролінг ці як?

Голы шмон. І словы, прыдуманыя намі: калі нас везьлі, прыдумалі, што „аўтазэкі“ едуць. Хтосьці прыдумаў слова „ашмонавец“.

Супрацоўніца ўсё правярала, шкарпэткі і бялізну расьцягвала ў руках, мацала, чытала цыдулкі, ламала мыла. У мяне заваліўся рубель у кішэні, яго паклалі ў пакецік і апісалі.

Нас адвялі ў камэру на 10 чалавек на 3-м паверсе. Маёр сказаў таму, хто нас суправаджаў, каб паклікаў дзяжурнага. І калі гэты чалавек перадаваў дзяжурнаму, што яго выклікаюць, то на

пытаньне „навошта?“ сказаў: „Работаць, арбайтэн, арбайтэн!“.

У камэры мне адразу кінуліся ў вочы высмаленая столь, брудныя сьцены і аблезлыя мэталічныя нары, а ў нос — пах прытхласьці, цыгарэт і яшчэ чагосьці. Гэта пах турмы, якога я баялася. Баялася, што ён паселіцца ў маіх рэчах, асядзе на паліто і будзе палохаць маіх сяброў. Потым я ўбачыла сваіх дарагіх дзяўчат і вырашыла, што галоўнае — людзі, а са сьценамі можна звыкнуцца.

Такім чынам, у камэры нас было дзесяць „жэ“. Тры з маёй камэры на Акрэсьціна і шэсьць новенькіх выдатных дзяўчат.

Задалі дзяжурнаму пытаньне пра пасьцельную бялізну. Ён сказаў, што матрацы, коўдры, падушкі новыя, ніякія „бічы“ на іх ня спалі, а вось зь бялізнай нявыкрутка, адказны чалавек сышоў а шостай, і бялізну нам даць ня могуць. Але праз дзесяць хвілін ён прынес нам стос бялізны са словамі, што нам проста пашанцавала. Тым, хто паверыў у наш шанцунак, скажу: гэта хлусьня. Ня ведаю: навошта яны там увесь час хлусяць?

Пасьля сьняданку ўмыліся. Я вырашыла заняцца прыбіраньнем. Мела старыя легінсы, якія мне перадалі сярод рэчаў. Паколькі ў камэры не было нічога для прыбіраньня, акрамя адной чорнай пальчаткі, я вырашыла разарваць штаны напалам: адну частку выкарыстаць для мыцьця туалету, другую — для камэры. Яшчэ, пакуль у нас былі лыжкі, я зрабіла пакет мыльнай стружкі, якую разводзіла ў вадзе для мыцьця.

Праз пару дзён нам далі разьведзеную хлёрку, але мыльную стружку мы выкарыстоўвалі наступным чынам: у бутэльку з вадой кідалі па-

ру стружак і збоўтвалі. Атрымлівалася мыльная духмяная вада, якой мы абмывалі туалет пасьля выкарыстаньня, бо пасьля адкрыцьця вінта вадой усё не змывалася.

З размовы: „У нас тут такі змыў вінтажны“. — „Так, ад слова вінт“.

Яшчэ каб не было паху з туалету, пасьля кожнага выкарыстаньня праціралі падлогу вакол вільготнай сурвэткай, і гэта нас ратавала.

Мы навялі парадак, і камэра стала нашай.

Пасьля вячэры нам аддалі перадачы. У нашай камэры атрымалі ўсе, нават тыя, хто не чакаў. Усяго была аграмадная колькасьць, і мы зрабілі рэарганізацыю паліц — частку пад ежу, адна пад бібліятэку, адна пад касмэтычныя сродкі. У нас стаяў вялізны стос туалетнай паперы, некалькі пакетаў са сродкамі гігіены, печывам, сушанінамі і арэхамі. Мне перадалі нават згушчанку і сала з часныком.

Але самым важным і дарагім былі „пасхалачкі“ — цыдулкі з волі, напісаныя ў кнігах паміж радкоў, абведзеныя літары ў сканвордах, надпісы на туалетнай паперы і яшчэ лісты ў розных патаемных месцах, якія я ня буду абнародаваць, каб і іншыя людзі маглі перадаць сваім дарагім пасланьні такім чынам. Для мяне ўвогуле змаглі схаваць даўжэзны ліст, які мяне падтрымліваў да наступнага.

Гэта надзіва цёпла і радасна — вось так чытаць кнігу, а потым раптам выяўляць лёгка напісаную алоўкам цыдулку паміж радкоў. Там гэта вельмі дарагое і важнае.

На другі дзень у Жодзіне мы зноў пачалі прасіць душ і прагулянку — з надзеяй, што нам дазво-

ляць нешта адно. Дзяжурныя параілі зьвярнуцца да начальніка, Андрэя Міхайлавіча Лагуна.

Пасьля перазьменкі дзяўчаты сталі яго клікаць. Нехта падышоў да камэры. Сказаў, што намесьнік. Як мы потым даведаліся, гэта быў сам маёр Лагун А. М., начальнік ІЧУ. Сталі прасіць адвесьці нас у душ і на прагулянку. Ён сказаў фразу, якая стала крылатай: „Гэээта пакараньне“. Паўтараць трэба строгім голасам і з максымальна суворым тварам.

Карацей, ён нам паведаў, што душ „паложан“ раз на тыдзень. І ўвогуле, чаго мы патрабуем? „Гэээта пакараньне!“.

Праз нейкі час ён зноў да нас зазірнуў і сказаў, што праз 15 хвілін адвядзе ў душ. Мы пачалі зьбірацца. Праз хвіліну нам сталі адчыняць дзьверы, мы ледзь пасьпелі сабрацца.

Душ, як выявілася, быў вельмі блізка ад нашай камэры. Каб нас туды адвесьці, сабраліся некалькі супрацоўнікаў. Лагун, а потым мы выкрасьлілі зь ягонага прозьвішча літару „а“, сказаў, што праз 10 хвілін (норма 15) мы павінны быць ужо адзетыя, інакш ён без папярэджаньня адчыніць дзьверы.

Мы вельмі хутка справіліся, і калі маёр адчыніў дзьверы, ужо былі гатовыя. Ён сказаў зь лёгкім зьдзекам нешта на тэму радасьці ад простых рэчаў. Нас адвялі назад.

Калі мяне выпускалі, „прадольны“ адрываў адну частку ад рахунку за харчаваньне. Імя/прозьвішча там упісваліся ад рукі. Почырк таго, хто ўпісваў, быў ня вельмі зразумелы. І ён такі пытаецца: „Как у тебя фамилия? Чечло?“ — „Чечло?“. Мой рогат чулі на ўсіх паверхах турмы, напэўна.

Дачыненьні з тымі, хто знаходзіўся па той бок мэталічных дзьвярэй, былі складанымі. Былі

тры розныя зьмены. Дзьве больш-менш, трэцюю мы празвалі гоблінамі, бо яны, як толькі пасьля адбою выключалі сьвятло ў камэрах, пачыналі гучна размаўляць, сьмяяцца, моцна грукаць мэталічнымі дзьвярыма і кратамі, крычаць адзін аднаму, будучы ў розных канцах калідору. Адну ноч яны прымалі новапрыбылых людзей, і гэта было жахліва, шумна, груба.

Я ніколі ня думала, што пасьля школы мне давядзецца чуць такія жарты — я іх называю „за трыста“, ці тое, як размаўляюць матам. Мат — ён таксама розны бывае, і ў турме ён быў жахлівы.

Я мела пакет з плястырамі, які мне перадалі ў перадачы. Такое не даюць у камэру, і ён ляжаў на адмысловай паліцы-выступе звонку дзьвярэй. Аднойчы адзін з „прадольных“ пасьля таго, як сабралі посуд, паказаў у кармушку гэты пакет, і спытаў, чый ён. Тут трэба заўважыць, што іншы раз з намі размаўлялі праз кармушку — у гэтай камунікацыі не відаць твару таго, хто кажа, а толькі яго сярэднюю частку. Нават калі прыгнуцца.

„Чый?“ — „Мой“, — адказваю, прыгнуўшыся. — „Я піз...ну два?“.

Я разгубілася, я ўвогуле не зразумела, што ён хоча з плястырамі зрабіць. У мяне ў галаве з вар’яцкай хуткасьцю праносіліся думкі, я шукала, што адказаць.

„Эээ, калі ласка“, — пасьля некаторага замяшаньня адказала я, бо вырашыла, што гэты адказ самы ўнівэрсальны, што б ён там ні меў на ўвазе. Дзяўчаты ацанілі гэтую сытуацыю і рагаталі.

Празь нейкі час я заўважыла, што калі хачу пра нешта сказаць людзям за дзьвярыма, то стараюся

максымальна спрасьціць зварот, літаральна да аднаго-двух словаў.

Мы мелі шмат дробных пакетаў ад перадачак, і сам сабой завёўся пакет з пакетамі: мы сартавалі сьмецьце, дзякуй цудоўным дзяўчатам. Асобна зьбіралі пакеты, бутэлькі і накрыўкі ад іх. І ў апошні дзень вырашылі пазбавіцца большай часткі бутэлек, і каб скласьці іх у пакет і вынесьці, пачалі таптаць. Адразу ж нарысаваўся дзяжурны: „Вы што, бутэлькі топчаце?“

Я пачала тлумачыць пра сартаваньне і забруджваньне плянэты ў пары сказаў. Ён выслухаў і сказаў: „А па-нармальнаму?“

З часам я навучылася адрозьніваць зьмены і дзяжурных, нават па галасах некаторых (асабліва гоблінаў). Яны ішлі па калідоры і адзін другому казаў, а той яму адказваў: „Гніда!“ — „Ты!“ — „Гніда!“ — „Ты!“ — „Гніда!“ — „Ты!“.

Адзін „прадольны“, невысокага росту, у кепцы/масцы, вельмі ўважліва заўсёды глядзеў у вочка. Я старалася ніколі не глядзець у адказ. Але аднойчы я стаяла побач зь дзьвярыма і паглядзела ў вочка ў адказ. Я паглядзела чалавеку глыбока ў вочы, і мяне гэта ўразіла.

Датуль я ўжо думала над сваім лістом гэтым людзям і не магла рашыцца яго напісаць. Думка пра яго прыйшла мне ноччу, вельмі шумнай і цяжкай, калі гобліны не давалі нікому спаць.

Дзяжурныя ў Жодзіне самі вызначалі нас як палітычных. Часам яны размаўлялі між сабой, што, маўляў, гэтыя вось ня кончаныя ж. (Вось ужо лексыкі панабралася.) Я часта думала пра іх, разважала. І зразумела, што гэта людзі з зусім іншай рэальнасьці. Яны нядрэнныя ў цэлым, магчыма, у

сваёй сыстэме каардынатаў яны добрыя — нармальныя работнікі, узорныя бацькі і мужы, сьвядомыя грамадзяне.

Былі сярод іх адэкватныя. Напрыклад, дзяжурны, які творча падышоў да раздачы перадачаў, у нядзелю перад сваёй перазьменкай звадзіў нас у душ. А потым прыйшоў з праверкай (дзьве зьмены былі разам) і сказаў: „Добрай раніцы яшчэ раз“, чым выклікаў насьмешку ад другой зьмены: „Ахахах, ну ты і ўляпіў“, і недаўменьне з майго боку. Што тут сьмешнага?

Менавіта ён выпускаў мяне і менавіта гэтаму чалавеку патрапіў у рукі мой ліст. Я вырашыла: аддам тым, хто будзе выпускаць. Нават і не аддам, а пакіну дзяўчатам, што выходзяць пазьней, няхай перададуць дзяжурным праз гадзіну пасьля майго выхаду.

Я паклала яго ў капэрту з маркай і падпісала алоўкам, каб капэрту можна было выкарыстаць яшчэ раз: „Тым, хто знаходзіцца з адваротнага боку мэталічных дзьвярэй“.

У лісьце я напісала наступнае (каротка перадаю сэнс, як памятаю):

„Ваша праца — тэст на чалавечнасьць. І няхай мы з вамі апынуліся па розныя бакі мэталічных дзьвярэй, у сутнасьці, мы — частка аднаго цэлага. Кожны чалавек, нават самы жахлівы злачынца, варты людзкіх адносінаў. Мы кожны здаем гэты тэст на сваім месцы і рана ці позна будзем даваць адказ.

Вам складана, у вас ёсьць улада. Улада нават можа пазбавіць чалавека фізычнага жыцьця, але вы НІКОЛІ ня зможаце пазбавіць чалавека ўнутранай свабоды.

Я ўдзячная за кожны добры рух, кожную праяву людзкага абыходжаньня, хоць дзіўна дзякаваць за тое, што павінна быць натуральным.

Думка высьпявае, і да пункту прыняцьця рашэньняў трэба дарасьці, бо кожнае рашэньне — гэта і адказнасьць за ўсе наступствы, якія гэтае рашэньне пацягне за сабой.

Прыніжаючы іншага чалавека, вы, у першую чаргу, прыніжаеце сябе.

Зь верай у чалавечнасьць,

ЧД".

Буду ідэалісткай. Шчасьлівыя ідыёты — самыя свабодныя людзі, менавіта злосьць і нянавісьць нас зьвязваюць і робяць рабамі. Буду верыць, што ўсё не дарэмна.

## „Усім раю Гюго «Адрынутыя»"

*Уладзімер, сьвятар, Гомель:*

У пятніцу, 18 верасьня, мяне выклікалі ў Савецкі РАУС „для гутаркі". Адтуль пад канвоем адвезьлі ў суд, а далей — у ІЧУ.

Мы з жонкай стараемся ў жыцьці трымацца прынцыпу „Спадзявайся на лепшае, але рыхтуйся да горшага" (*сьмяецца*). Першы раз незразумела, што з сабой браць. Узяў пару трантаў, кнігу, напісаў бацьку, каб ён прынёс Гюго. Усім, хто рыхтуецца да сутак, раю Гюго „Адрынутыя". Яшчэ, калі хтосьці ня ведае, як рыхтавацца да новай Беларусі, як Беларусь гэтую перажыць, — Салжаніцына „Архіпэляг Гулаг", ну і Шаламава „Калымскія сшыткі", Уладзімера Букоўскага „І вяртаецца вецер".

Цяпер трэба думаць яшчэ і пра адзеньне — лепш бяз кніжкі быць, але ў цяпле. Там вельмі холадна, коўдры даволі тонкія.

Дык вось. У пастарунак я пайшоў з адвакатам, прапусьцілі і майго бацьку. Вельмі маладыя супрацоўнікі, усе ў масках, адзін вельмі нэгатыўна рэагаваў. У гэтага „неабыякавага“ супрацоўніка на сьцяне ў рамачцы вісіць тэкст прысягі расейскага афіцэра 1804 году — пры тым, што ён адкрыта хлусіў у твар, хаміў адвакату. Мы вельмі доўга чакалі. Адвакат папрасіў назваць імя начальніка, каб падаць скаргу. І вось гэты супрацоўнік заяўляе, што ня ведае, хто ягоны начальнік, як яго завуць, дзе ягоны кабінэт.

Склалі пратакол за акцыю каля ўнівэрсытэту імя Сухога. Я не згадзіўся з напісаным і адмовіўся ад тлумачэньняў. Потым афармілі другі пратакол — за акцыю на Савецкай (за яго потым я атрымаў 15 сутак). Выходзіў я на адзіночныя пікеты з плякатам „Спыніце гвалт“.

У канцы 1930-х раскулачылі мужа сястры майго дзеда Апанаса, той быў кулаком — гаспадарлівым селянінам. Жылі пад Гомлем, бедна, 8 дзяцей. Дзеда арыштаваў КДБ, дзед некалькі месяцаў адседзеў у гомельскай турме. Зь яго ляпілі „польскага шпіёна“. Асобна дапытвалі бабулю. Дзед з бабай трымаліся (лішняга не нагаварылі), і справа не зьляпілася. Дзякуй Богу!

І вось — горкая іронія. Унук праз 90 гадоў — таксама „польскі шпіён“: кіруецца праз космас з цэнтру ў Варшаве.

Шмат маладых супрацоўнікаў. Пару чалавек былі з нармальнымі вачыма — мне іх шкада. Я сабе дрэнна ўяўляю, як у школе настаўніца: „Каця,

кім ты будзеш, калі вырасьцеш?“ — „Доктарам“. — „Малайчына. А ты, Пецечка?“ — „А я буду ахоўваць людзей на зоне“. — „Малайчына, Пецечка, нехта ж павінен рабіць гэтую работу“. Я ня ведаю, як сябе можна прысьвяціць гэтаму.

У мяне не было асабістага кантакту з турэмнікамі, але ўсе ведалі, што я сьвятар. Сказаць, што яны баяцца як чэрці ладану майго падрасьніка — могуць западозрыць у нейкай нездаровай містыцы. Я на судзе быў у форме, у ІЧУ я прыехаў у падрасьніку з крыжам. Я быў у прывілеяваным становішчы: пры паступленьні, калі абшукваюць і разьдзяваюць, мяне не прымусілі здымаць ніжнюю бялізну. Адзін хлопец мне прапанаваў зьняць бялізну, я спытаўся: калі ён калі-небудзь зойдзе ў царкву на Вялікдзень ці на Каляды, ці не сапсуе ён сабе сьвята вобразам сьвятара, які прысядае? Ён з такой цікавай інтанацыяй сказаў, што, калі гэта мяне прыніжае, я магу не здымаць. Склалася ўражаньне, што ён не разумее, што гэта прыніжае кожнага чалавека.

Нехта называе гэта абходам раніцай і ўвечары, я — шмонам (вось гэтая лексыка турэмная і праскоквае). Пасьля трох шмонаў (я надзяваў падрасьнік) яны падманным шляхам у мяне яго сталі адбіраць, патрабавалі. Кажу: „Гэта маё адзеньне. Ці ў жанчын вы таксама адбіраеце доўгія спадніцы, бо вам нязручна абшукваць ногі?“ Але вырашыў не ісьці на канфлікт, калі б яны здымалі зь мяне сілай. Аддаў.

Калі везьлі на суд другі раз, я настойліва дабіваўся надзець падрасьнік. Яны пайшлі насустрач, але сказалі, што крыж не аддадуць у кожным разе. Калі прывезьлі назад у ІЧУ, адразу ж

забралі ўсё зноў. Увогуле, усё залежыць ад іхнага настрою. На першых сутках я папрасіў другую коўдру, калі пачаў прастываць, — прынесьлі зь першага разу. На першых я сабе грабеньчык дзён 5-6 раніцай і ўвечары прасіў.

Ад родных да мяне даходзіла меней прадуктаў, чым перадавалі. А бачыў у сьпісе, напрыклад, сала, каўбасу, яшчэ нешта, без вагі. Думаў, што, напэўна, шмат не дазваляюць — 150-200 г, жменька-дзьве. Родныя потым зьдзіўлена расказвалі, што сала перадавалі па паўкіляграма, сухой каўбасы рэзалася палка. Хто зьядаў ці куды выкідаў астатняе, я ня ведаю.

Ежа там проста брыдкая. Я чуў, што, паводле дамовы, харчы пастаўляе камбінат „Галяктыка“. Гэта простыя прадукты, але іх можна прыгатаваць уежна. Тое, што гатуюць яны, гідотнае. Думаю, многія пра гэта кажуць, але ў мяне ёсьць магчымасьць сказаць праз журналістаў: „Галяктыка“, вы гатуеце агідна, я вашым кліентам больш ня буду ніколі!

Увесь час хацелася пабачыць далягляд. Нават гарадзкі. Думаў, прыйду дадому і адключу электрычнасьць. Але мне было лягчэй: дзякуючы свайму росту, хоць я не зьмяшчаўся ў шконку, але мог глядзець у вакно. Калі я хацеў на прагулку — у мяне яна была: я стаяў і глядзеў на вуліцу, на дрэвы, надвор’е. Прыходзілі валянтэры, адну нядзелю на губным гармоніку гралі.

З вокнаў лепей відаць з другога паверху. Кожную нядзелю мы бачылі, як сілавікі рыхтуюцца да разгону — гадзін у 11-12 прыяжджаюць аўтазакі, бусікі, усе зьяжджаюцца, у масках. Яны ўсьміхаюцца адзін аднаму, абдымаюцца, рыхтуюцца

ехаць разганяць жанчын, пэнсіянэраў. Вельмі бадзёра заўсёды выглядаюць.

За гэтыя 25 дзён я пракуродымеў тытунём, прасаліўся мацярком — вельмі шмат мату, нават сярод супрацоўніцаў, жанчын-канваірак. Для людзей, якія атрымліваюць суткі за пратэсты, гэта не часы Шаламава — не па пяць гадоў, не Сібір, але нават у гэтых маштабах слова „свабода“ — гэта ня нейкае клішэ, не банальнасьць, якая нічога ня значыць. Гэта базавая неабходнасьць для кожнага чалавека, якое б злачынства ён ні ўчыніў.

І нават калі ён трапляе ў месцы пазбаўленьня волі, то як зь ім там абыходзіцца і ў якіх умовах утрымліваюць, — я ўпэўнены на 120%, што гэта трэба кардынальна перагледзець.

Мне часам кажуць: ну гэта ж не ў Нарвэгіі, там Брэйвік у трохзоркавым гатэлі яшчэ і адукацыю атрымлівае праз інтэрнэт. Вось нават і так павінна быць! Гэта тое, што патрэбна кожнаму чалавеку. Тое, што кажа Леўчанка: забіралі матрац, бялізну — я не ўяўляю ступень садызму, бесчалавечнасьці людзей, якія аддавалі і выконвалі загады. Не даваць ваду, каб змыць туалет, давесьці чалавека, каб вошы завяліся...

Таму, калі мы будзем будаваць новую краіну, утрыманьне ў такіх месцах — думаю, для шмат каго гэта будуць не пустыя словы. І за што суткі даюцца. У мяне склалася ўражаньне, што давалі за п’янку, напрыклад, за бытавыя скандалы, 15 сутак, каб не выглядала так: паскандаліў п’яны — атрымаў 5, а з плякатам пастаяў — 15.

Калі выпускалі, быў цырк: прыйшлі загадзя, настойвалі, каб я быў у спартовых штанах. У сьпіну дзяжурны спытаў, у якой царкве служу — яўна

каб выпадкова туды не прыйсьці і не сустрэць бацюшку, якога да споднягa разьдзявалі.

Сказалі, што павязуць у Савецкі РАУС для прафіляктычнай гутаркі. Пасадзілі ў „стакан“, дзе не хапала паветра, дзьверы адчыніць адмовіліся. Там не гермэтычна зачынена, але я ж вялікага фармату, у гэтыя „стаканы“ не зьмяшчаюся. Даводзілася скручваць сябе, каб на гэтай лавачцы ўмясьціцца. Калені падзець няма куды, падлога няроўная, выпукліна для задняга кола ўнутр камэры. Гэта дастаткова жахліва.

Доўга вазілі па раёне, нейкі адрэзак шляху нават рухаліся задам. Давазілі да таго, што мне стала блага. Калі выйшаў, я ня ведаў, чаго чакаць: у турму КДБ прывезьлі ці куды?

Я выйшаў на дарогу, прысеў на траву: перад вачыма цёмна, ногі сшэрхлі. „Мы вас дадому прывезьлі, тут недалёка“, — кажуць. Я бачу нейкія прыватныя дамы, але ня мой. Пастаялі нейкі час, паглядзелі, каб я ня ўпаў, і зьехалі. Ну а я ў гэтых штанах, у кофце пайшоў. Яны вельмі настойвалі, каб я ня быў у сьвятарскай форме.

Гэта бесчалавечная сваволя — яны могуць рабіць з табой усё, што захочуць. Думаю, яны цудоўна гэта ўсьведамляюць. І калі чалавеку стане кепска, ня ведаю, ці будуць яны апраўдвацца, але знойдуць інструкцыю, каб яшчэ яго ў гэтым абвінаваціць: „Меў нахабства страціць прытомнасьць ад недахопу паветра ў «стакане»“.

Як дома? Сустрэлі, паабдымаліся. Апошнім часам хочацца з усімі абдымацца. Ня толькі з роднымі. Звычайна мужчыны больш схільныя камусьці там руку пацiснуць з удзячнасьцю, моцна. А цяпер хочацца зь людзьмі абдымацца, ой…

Я масу паштовак, лістоў атрымаў: зь Берасьця, Полацку, Горадні, Менску — ня толькі з Гомельшчыны. Вялізны ўсім дзякуй, што падтрымлівалі мяне! Пішыце. Вось я думаў і ня ведаў, пра што пісаць палітзьняволеным. Цяпер ведаю: можна пастарацца пагаварыць з чалавекам, навіны нейкія расказаць, акрамя „Трымайцеся, мы разам“. Мне здаецца, гэта вельмі важна. І пра надвор’е. Я вось вельмі непакоіўся, што пачне халаднець, а я пачынаў захворваць, у мяне хранічны бранхіт.

Яшчэ гэта важна, бо супрацоўнікі ІЧУ чытаюць, бачаць адрасы, што гэта лісты не ад родных. Разумеюць, што не маргіналы сядзяць — што гэта яны ў меншасьці.

Дзеці мне малявалі бела-чырвона-белыя сьцягі, „Кусь за Беларусь“; пісалі, што мы пераможам. Гэтыя дзеці ўжо не захочуць жыць пры гэтым рэжыме. Думаю, мае дзеці не адны такія“.

## „Лекараў нават на вайне не чапаюць“

*Валянціна, 58 гадоў, фэльчар хуткай дапамогі, Бабруйск:*

— Мяне затрымалі ў раёне ГЦ „Карона“ 20 верасьня, калі ўдзельнікі мітынгу ўжо разыходзіліся. Выскачылі двое, рукі расставілі і пацягнулі.

Даставілі ў ГУУС на Менскую, 130. Зьбіраліся везьці ў ІЧУ да суду. Зрабілі асабісты догляд, прымусілі разьдзецца. Але мне ад усяго гэтага зрабілася дрэнна. І мяне адвезьлі ў лякарню, у мяне быў высокі ціск – 180/100. І там мяне шпіталізавалі. Так я прабыла на бальнічным да

19 кастрычніка. Увесь гэты час тэлефанавалі зь міліцыі і суду то на працу, то мне асабіста. Прапаноўвалі даць згоду на разгляд справы безь мяне. Я не згадзілася.

Суд прызначылі, як толькі мне закрылі бальнічны, — на 20 кастрычніка. Справу разглядала ў сваім кабінэце судзьдзя Тацяна Тарабуева. Я сказала, што вінаватай сябе не прызнаю. І ўказала на памылкі ў рапарце пра затрыманьне. Там пра мяне напісана „ён“, „нёс на плячах бела-чырвона-белы сьцяг“. Па-першае, ніякага сьцяга ў мяне не было, па-другое, дык хто я — ён, яна, яно?

Складаньне пратаколу таксама ішло з парушэньнямі. Мне не растлумачылі мае правы. Калі я на гэта ўказала, мне сказалі — адкрывайце інтэрнэт і чытайце. Што ж, калі ў вас здарыцца апэндыцыт, таксама адкрывайце інтэрнэт, дыягнастуйце і самі сабе рабіце апэрацыю.

Судзьдзя казала, што дзеяньні супрацоўнікаў міліцыі ня ёсьць прадметам разгляду і што на іх я ўжо даўно магла падаць скаргу.

Сьведкам выступаў начальнік аддзелу аховы правапарадку і прафіляктыкі УУС Бабруйскага гарвыканкаму падпалкоўнік Сяргей Рудзько. Ён казаў, што яны мяне папярэджвалі, а я працягвала хадзіць і размахваць шарыкам, паводзіла сябе нахабна, з выклікам, паказвала розныя жэсты на відэакамэру, кулак, напрыклад.

Пасьля прагляду фатаграфіяў і відэа Тарабуева абвясьціла рашэньне — штраф у 25 базавых або 675 беларускіх рублёў.

Тое, што адбываецца, проста шакуе. Што судзяць журналістаў, адбіраюць ліцэнзіі ў адвакатаў, што нам усім проста схлусілі на выбарах. Калі

мяне затрымалі, я сядзела ў гэтым аддзяленьні міліцыі, глядзела на супрацоўнікаў і думала пра тое, што ў нас адбывалася 9-11 жніўня, пра тое, што тады рабіла міліцыя і што перажывалі мірныя людзі. Я не магу пра гэта ня думаць. І як мэдык не магу заплюшчваць вочы на тое, як людзей б'юць, чыняць над імі гвалт.

Тады, у жніўні, калегі выяжджалі на выклік да маладога мужчыны зь пераломам сьцягна пасьля сутычкі з амонам на плошчы. Гэты мужчына пытаўся, за што зь ім так. А яму матам адказвалі, каб замаўчаў, і каб было за што, увогуле забілі б. А міліцыянт, які яго суправаджаў, на пытаньне лекараў, што будзе тым, хто да такога стану пабіў чалавека, адказваў — нічога.

Лекараў нават на вайне не чапаюць, бо яны ратуюць усіх — і сваіх, і ворагаў, і злачынцаў, і міліцыянтаў. А ў нас не глядзяць ні на што. Караюць мэдыкаў і ня думаюць, што хутка ня будзе каму іх саміх лячыць і ратаваць.

Я спрабую ўявіць сабе, што б я адчувала, калі б мне давялося прыехаць на выклік да тых, хто мяне затрымліваў, да Рудзько таго ж ці да судзьдзі Тарабуевай, якая вынесла гэтае рашэньне пра мяне. Напэўна, у душы ў мяне была б бура. Але гэта ніяк не адбілася б ні на маіх паводзінах, ні на маіх словах — я б сумленна ратавала іхныя жыцьці, як і ўсіх іншых людзей у разе неабходнасьці.

Сума штрафу 675 рублёў — гэта месячны заробак фэльчара хуткай дапамогі.

Пасьля суду на разьвітаньне падпалкоўнік Рудзько сказаў мне: „У нас яшчэ шмат матэрыялаў на вас. Трымайцеся“.

Але я хадзіла, хаджу і буду хадзіць на мірныя мітынгі. Мяне ня спыняць ні гэтыя пагрозы, ні суды і штрафы. Нам усім нельга здавацца. Трэба пратэставаць і далей. Як вядома, вада і камень точыць, нават па кропельцы.

## „Крэдыт плоціцца, машына коціцца“

*Аляксандар Памідораў, музыка:*

— Нас затрымалі пасьля канцэрту; ня ведаю, можа быць, выпадкова. Яны прыехалі на шасьці ці сямі машынах і сталі ганяцца за людзьмі па парку, а народу было сапраўды шмат. Нас з Лэсьлі затрымалі ўжо на выхадзе. Бачу, бягуць на нас — і ў цывільным, і ў чорным, і ў зялёным, і бяз знакаў, і са знакамі, нехта яшчэ ў пагонах.

У Лэсьлі на заплечніку быў павязаны сьцяг: „О, гэтага са сьцягам бяры. І патлатага з гітарай!“ Нічога не мяняецца, усё, як у 1996-м: „Патлатага бяры“.

Калі нас забралі і завезьлі ў Заводзкае РУУС, нас павялі на другі паверх, а калідор зачынены, падымаецца нейкі маёр з ключамі і так крыху нацягнута гыгыкае: „Ну чё, бл*, видали, майданутые чё утворили, гы-гы?“ — „А чё такое?“ — „А они меня в базу внесли, бл..., и откуда, бл..., узнали мой телефон и телефон жены, суки“. А я бачу, ён цэглы наваліў, вай-вай. Дадзеныя чалавека, які выступаў на нашым судзе ў якасьці сьведкі, Лэсьлі знайшоў адразу пасьля выхаду з турмы. Міліцыянт аказаўся невялікага розуму чалавекам — ён далучыўся да раённага тэлеграм-чата і спрабаваў там нешта

прапагандаваць. Людзі ня думаюць, прычым, калі пачынаеш зь імі размаўляць, бачыш па вачах, што пачынаецца працэс думаньня: то бок там ёсьць, чым думаць! А потым думаць становіцца страшна і балюча, таму яны кажуць: „Так, усё, хопіць, запаўняем паперку і пайшоў далей калідорам“.

У турме ёсьць тыя, хто ўсё робіць ідэйна, а ёсьць тыя, хто працуе, таму што працуе. Месца, яго энэргетыка чалавека таксама мяняе. На Акрэсьціна — мы абменьваліся думкамі — сьніліся вельмі цікавыя сны, а ў Жодзіне ўжо не. З адной парай ахоўнікаў у Жодзіне можна было дамовіцца, запатрабаваць тое-сёе, яны разумелі гумар і самі пра нешта пыталіся. А былі людзі кшталту „Закрылі пашчы, бл..., зьніштожу нахран“, якія атрымліваюць асалоду ад таго, што могуць зьдзекавацца зь іншых.

Там такія размовы былі. „Я зараз вас пастаўлю, будзеце стаяць у мяне і трымаць матрацы на выцягнутых руках“. — „Ой, хлопцы, у нас выхавальнік зь піянэрскага лягеру, ты зь якога атраду зьбег?“ — „Прыдуркі, бл...“ Нас не разумелі, калі мы патрабавалі анучу і швабру, маўляў, дурныя нейкія. Калі я выходзіў і забіраў рэчы, кажу афіцэру: „Можа, у вас кніга скаргаў і прапаноў ёсьць?“ — „А што такое?“ — „Падзяку б вам напісаў“. Там чалавек трохі гумар разумеў і адказаў: „У вуснай форме будзе дастаткова“. Лэсьлі ўвогуле востра сябе паводзіў, яго ўжо мянты называлі Фёдаравічам і казалі: „Федорович, ну вот это вот ты зря счас сказал, вот это было обидно“. Альбо мы сядзім, пра культуру размаўляем, а міліцыянт заводзіцца: „Што вы, бл..., все такие умные? У вас, может, еще и высшее образование есть?“ — „Ёсьць“. — „И у

тебя есть?“ — „Ёсьць“. — „А у тебя?“ — „Ёсьць“. — „...б вашу мать“, — і смутак на твары. Нехта проста ня думае: адпрацаваў зьмену, прыйшоў дадому, павесіў форму, паеў баршчу: форма ёсьць, пайка ёсьць, крэдыт плоціцца, машына коціцца.

Там у нечым пераасэнсоўваеш жыцьцё і людзей. Я мог іранізаваць, што нарэшце адасплюся і намаўчуся — ніфіга, там увесь час пра нешта размаўляеш. Такая інтэлектуальная практыка — гэта супэр, але з другога боку, стамляесься ад сьвятла круглымі суткамі, а ўсьведамленьне таго, што ты знаходзісься ў чатырох сьценах, можа стаць сур’ёзнай псыхалягічнай траўмай.

Людзі могуць храбрыцца, але назад ня хочацца зусім, абсалютна ня хочацца. Увогуле ўся сытуацыя ад пачатку перадвыбарнай кампаніі не спрыяе здароўю і добраму настрою, можна рэальна з глузду зьехаць, калі не знаходзіць ва ўсім гэтым нейкі гумар. Ведаю людзей, якія пасьля адседкі адрасна ідуць да псыхоляга. Трэба мець пэўную моц, і нашы людзі маюць моц.

Пераасэнсоўваеш, што табе сапраўды патрэбна, што варта ўвагі, а што не. Ты разумееш, што такое сябры і што нечага для кагосьці не зрабіў, хаця мог. Ужо па-іншаму будуеш адносіны зь людзьмі, камунікуеш зь незнаёмымі на вуліцы. Усьведамляеш каштоўнасьць размовы, вагу слова, вартасьць звычайнай папяровай кнігі, важнасьць падтрымкі, кошт сьвежага паветра, нават калі цябе вывелі пагуляць у каменны турэмны мяшок бяз даху і ты чуеш, што недзе ідзе цягнік, брэшуць сабакі, адчуваеш пах чыгуначнага мазуту. Разумееш важнасьць таго, каб падтрымаць суседзяў

і загнаць праз баландзёра перадачку з камэры ў камэру і атрымаць у адказ удзячны стук.

## „Паглядзела яго картку і ўбачыла месца працы — амон“

*Лекарка, Менск:*

— Гэта быў звычайны дзень прыёму. Дзесьці пад канец зьмены да мяне прыйшоў пацыент. Прыём я вяла адна, без мэдсястры. Паглядзела яго картку і ўбачыла месца працы — амон. Мы ж лекары, па ідэі, павінны бесстаронньне ставіцца да пацыентаў. Але мне не хацелася дапамагаць яму абсалютна. Калі б там было нешта экстранае, я была гатовая аказаць дапамогу, хоць і рыпела б зубамі.

Ён прыйшоў пасьля стацыянарнага лячэньня. Я спытала, што турбуе. Аб'ектыўна здароўю нічога не пагражала і нейкіх станаў асаблівых не было. Зразумела, што ўва ўсіх у баку сьвярбіць, а ў носе хлюпае, але нічога, што трэба было б лячыць, не было. Пацыент спрабаваў запатрабаваць у мяне бальнічны.

Я яму сказала: „Паколькі гэта ня экстраная сытуацыя, то я вымушана вам адмовіць адпаведна сваім перакананьням. Зьвяртайцеся да іншага лекара“.

Твар у гэтага амонаўца скамянеў, а вочы, як мне здаецца, пачырванелі. Ён з самага пачатку зразумеў, што за перакананьні — у мяне ж бел-чырвона-белы бранзалет на руцэ. Сказаў: „Разумееце, у мяне праца такая...“ Я адказала, што разумею, але

раз аб'ектыўна ніякай мэдычнай дапамогі не было патрэбна, я параіла запісацца да іншага лекара.

Пацыент не крычаў, не пагражаў, проста бразнуў дзьвярыма і пайшоў, а я працягвала свой прыём. Сэрца калацілася, думала, што зараз наляцяць на працу.

Натуральна, на наступны дзень пацыент з амону пайшоў да галоўнага лекара са сваёй вэрсіяй: ён паміраў, а я, бессардэчная, дапамогі не аказала. У нас заўсёды, калі ёсьць скарга, вінаваты лекар, нават калі пацыент ня мае рацыі. Я спрабавала запярэчыць, але сэнсу гэта ня мела, як і ўсюды ў нас. Мяне пазбавілі месячнай прэміі, а гэта істотная частка зарплаты.

Калегам я асабліва не расказвала, але ў цэлым яны паставіліся нармальна. Большасьць людзей супраць гэтай улады, але адкрыта гэтага ніхто не гаворыць.

Разумееце, проста я не магу аказваць дапамогу тым людзям, якія б'юць свой жа народ, якому яны прысягу давалі. Нават не ўяўляю, як яны могуць прыходзіць дадому, абдымаць сваіх дзяцей, гатаваць ежу... Проста жывуць звычайным жыцьцём, а на працы такое вытвараюць?!

Мне пасьля гэтага страшна стала. Я і так шарахаюся ад кожнага бусіка, а цяпер — падыходжу да пад'езда, а там мікрааўтобус, якога раней не было. Думаеш: на мне адны шкарпэткі і адны майткі... Што калі забяруць на 15 сутак?.. Я чакаю, што можа быць помста. У нас цяпер толькі законы фізыкі дзейнічаюць.

А я проста не хацела дапамагаць таму чалавеку, які ўдзельнічаў у катаваньнях — ускосна альбо

непасрэдна... Улічваючы, што ў мяне таксама суткі былі на Акрэсьціна.

Білі ўсіх. Дзяўчат, мужчын, дарослых жанчын. Пагражалі на бутэлькі саджаць. Размовы мацюкамі, „чэлядзь паднявольная“ — гэта самае мінімальнае. У параўнаньні зь іншымі людзьмі я не пацярпела. Пару сінякоў было. Там пры затрыманьні білі без разбору. Павыскоквалі з рэйсавага аўтобуса і сталі хапаць... Хто не пасьпеў уцячы, той я. Білі ў бусе. Гэта ў жніўні ўсё было.

У камэры было два ложкі безь нічога і нас чалавек дваццаць. Тры дні не кармілі, не паілі. З крана цякло нешта накшталт вады. У некаторых дзяўчат месячныя: ірвалі на сабе футболкі, каб неяк прыбіраць кроў. Сукамэрніцы ўсе былі пабітыя. Нам яшчэ пашанцавала, што нікога з нас не згвалтавалі, але зь іншых камэр дзяўчат — так. Сэксуальны гвалт быў з ужываньнем дубінак, мне пра гэта расказалі людзі, якім няма падстаў ня верыць.

Хацелася б асобна прывітаньне мэдыкам перадаць, якія працуюць на Акрэсьціна. Як можна не аказваць дапамогу людзям, асабліва тады?! Гэта ж горш за Асьвенцім было! Пераламаюць рукі, ногі, хрыбетнікі, крывацёкі... У мяне ёсьць знаёмыя, якія ў тыя дні на „хуткай“ працавалі. Яны гавораць, што іх проста не пускалі, якіх толькі падстаў яны не прыдумлялі, каб людзей забраць. Гэтых лекараў потым знайшлі і пакаралі суткамі. Цяпер жа прычын для затрыманьня ня трэба.

Я хадзіла на пратэсты дапамагаць людзям. Сяджу ўвечары 9 жніўня, інтэрнэту няма, загадзя падпісалася на SMS-рассылку з навінамі. Я іх чытаю і не магу сядзець дома. Сабрала торбу зь

бінтамі, перакісам вадароду, нашатырам — усё, што першае на розум прыйшло. І пайшла адна да стэлы. На жаль, мая торба спатрэбілася. Там і сьвятлашумавыя былі, і раненьні ад гумовых куляў. Бачу, на траве чалавек курчыцца. „Што з табой?“ Ён паказвае кроў на назе; хутка перавязала, таблетку абязбольвальнага ў рот. „Можаш ісьці?“ Панюхаў нашатыру і пайшоў. Чалавек дваццаць за вечар перавязаць атрымлівалася. Такіх лекараў вельмі шмат было. Ня трэба рабіць зь мяне героя... Я хадзіла 9, 10 і 11 жніўня. І ў апошні дзень мяне затрымалі.

Як спраўляюся? Акрамя палітычнай сытуацыі, у жыцьці ёсьць шмат іншых сфэр. А так — у чаканьні вясны. Я ўпэўнена, што мы пераможам. Ну вось як інакш жыць?! Цяпер у мяне стадыя ня тое каб бясьсільля... На гэтай сынусоідзе „Нас расстраляюць — мы пераможам“ я цяпер у ямцы. Настолькі абурае гэтае ўсё беззаконьне, невыкананьне правоў чалавека, правоў грамадзян. У мяне ёсьць блізкія, зь якімі можна падзяліцца, зьняць стрэс.

Так, мы паздымалі шторы правільных колераў, ну а як цяпер? Вось гавораць, што пратэст зьдзьмуўся. Нічога ня зьдзьмулася. Разумееце, раней гэта быў бурлівы паток, а цяпер суп, што кіпіць пад вечкам у рондлі. Яно бамбане. Людзі ўжо ня змогуць зьмірыцца, пункт невяртаньня пройдзены.

Я часта думаю, што будзе, калі гэты дзень надыдзе. Усе будуць хадзіць абдымацца, у Менск прыедуць беларусы з усіх куткоў сьвету, шампанскае будзе ліцца ракой... Ты проста ня будзеш баяцца выйсьці на вуліцу, калі гэта ўсё скончыцца. Хутчэй бы гэты дзень настаў.

## „Сорамна, што я нашу форму, а брат пацярпеў ад людзей у форме“

*Яўген, вайсковец, Смаргоні:*

— Я служыў старшым афіцэрам аддзела ідэалягічнай работы вучэбнага цэнтру інстытуту памежнай службы ў Смаргонях. Восем з паловай гадоў аддаў службе.

Да жніўня мне мая праца прыносіла задавальненьне, я ведаў, што я дапамагаю людзям, быў такім вайсковым івэнт-мэнэджарам: з аднаго боку адказваў за прапаганду, ідэалёгію, інфармаваньне людзей пра службу, краіну і тое, што ад іх патрабуецца; з другога — арганізоўваў сьвяты, культурныя мерапрыемствы, сплавы. Хіба што перад выбарамі адмовіўся расказваць пра Бабарыку і Ціханоўскага — гэта стаў рабіць мой начальнік.

Як „надзейнага“, мяне ўзялі назіральнікам на выбары, дзе я зьвярнуў увагу на завышэньне яўкі. Быў скандал, выклікалі майго начальніка, потым мне трэба было тэрмінова зьезьдзіць у Менск, я вяртаюся — на маім назіральніцкім месцы ўжо сядзіць мясцовы дэпутат. Пры гэтым на рабоце вырашылі, што я езьдзіў кансультавацца з апазыцыяй ці яшчэ зь некім.

Мая сяброўка Вольга Будай — адна з актыўных жыхарак Смаргоняў. Мне начальства пачало гаварыць, што я, маўляў, ня з тымі сябрую, трэба неяк спыняць камунікацыю. Але сяброў не выбіраюць. Дзе работа, а дзе сяброўства.

Чаплялі мяне за падабайкі пад допісамі Радыё Свабода, чыталі мае перапіскі „ВКонтакте“ і Instagram, прынамсі.

Але пасьля жніўня служыць мне ўжо стала некамфортна. У часе гэтых падзей пацярпелі многія сваякі маіх салдат, бацькі.

Напрыклад, на вядомым фота, дзе на газоне ляжыць чалавек, а над ім з выцягнутымі рукамі спэцназавец, дык чалавек на зямлі — дзядзька нашага салдата. Ён наўпрост спытаў у мяне, што я пра гэта думаю. А што мне сказаць, апроч таго, што так быць не павінна, што гэта незаконна, што гэта бясчынства? Людзі ня могуць абараніць свае правы законнымі шляхамі, а на іх кідаюць войскі.

Пра такі мой адказ (адказ ідэоляга!) стала вядома кіраўніцтву.

Але і мае ўласныя сваякі пацярпелі. Мой стрыечны брат быў на Акрэсьціна чатыры дні. Адна справа, калі ты бачыш нейкія відэа, і другая — калі перад табой сіні родны чалавек стогне, ня можа падняцца і кажа, што ён яшчэ лёгка абышоўся. У мяне былі сьлёзы на вачах, што не хапіла мужнасьці выйсьці абараніць яго. Сорамна было сесьці побач зь ім, бо я нашу форму, а брат пацярпеў ад людзей у форме.

Мяне пачалі тузаць да начальства. Начальнік мой сказаў: „У мяне двое дзяцей, яны вучацца на платным, не звальняй мяне, калі ласка“.

Вядома, зь сябрамі я працягваў кантактаваць, на недзяржаўныя мэдыя як быў падпісаны, так і застаўся. І з часам, калі ўсё пачало супакойвацца, пачаліся рэпрэсіі. Ня толькі ў дачыненьні да мяне аднаго, але і да іншых супрацоўнікаў. Я адчуваў, што ідзе да майго звальненьня: пачалі абвяшчаць спагнаньні. За ўсю службу ніводнага не было, толькі заахвочваньні, а тут пачалося.

І вось 6 студзеня выклікалі ў Менск, была жорсткая размова, маўляў, цябе будзем звальняць, што б ні рабіў, выдалі папярэджаньне аб няпоўнай службовай адпаведнасьці. Ставілі такія задачы, якія я ня мог выканаць; падрыхтаваць загад, які ніколі не рабіў...

Набегла пяць спагнаньняў — склікалі камісію на звальненьне. Падчас яе яшчэ дыялёг такі быў: „Вось прайшло ўжо некалькі месяцаў, ты па-ранейшаму лічыш, што было няправільна зроблена ў жніўні?“ Ды вядома ж, я так лічу!

„Значыць, будзем па розныя бакі барыкад, я буду абараняць свой народ“, — мне адказвае адзін афіцэр. Я ў шоку: „А што гэта, у нас ужо два нейкія народы зьявілася? Нязгодная большасьць — гэта не беларусы?“

У выніку мяне звольнілі; налічаць, відаць, 39 тысяч штрафу за навучаньне ў інстытуце, рахунак яшчэ не прыходзіў. Буду выплочваць, будзе цяжка, нават калі па тысячы ў месяц аддаваць — гэта тры гады.

Сыходзіў я са сьлязьмі на вачах; хтосьці мяне падтрымліваў: і салдаты, і афіцэры. Мае назіраньні — большасьці абыякава, хто ва ўладзе; ёсьць невялікая частка тых, хто спачувае, і яшчэ меншая частка тых, хто гэта ўсё падтрымлівае.

Пра курсантаў нічога не магу сказаць. Яны жывуць у закрытым калектыве, мала што ведаюць. У той час, як нехта зь іх галасаваў за Ціханоўскую, іншыя ўдзельнічалі ў падзеях на вуліцах — адзін злавіў у твар цагліну і страціў зубы. Гэта таксама няправільна, я лічу; я супраць усякага гвалту.

## „У мяне была бутэлька з колай, і я абліла амонаўца“

*Анастасія, 13 гадоў, Горадня:*

— Было 4 кастрычніка. У той дзень мне айчым прапанаваў схадзіць прагуляцца зь ім і яго сябрам у горад. Пра тое, што там будзе мітынг, я ня ведала. Мы проста пайшлі гуляць. На вуліцы Савецкай мы ўбачылі шмат міліцыі. Айчым, праходзячы міма, паглядзеў на іх. Яны спыталі ў яго: „Што, пагаварыць хочаш? Зараз пагаворым“. Але мы, не спыняючыся, пайшлі далей.

У нейкі момант мы ўбачылі, што айчымавага сябра няма побач. І зноў вярнуліся на тое месца з надзеяй знайсьці яго там.

Пачаўся канфлікт паміж айчымам і міліцыянтамі. Як усё было дакладна, я ня памятаю. Яны нешта сказалі па рацыі. І я ўбачыла, як шэсьць людзей у чорным бягуць на айчыма. Яны пачалі заломваць яму рукі. Я вельмі спалохалася і вырашыла хоць неяк яму дапамагчы. У руках у мяне была бутэлька з колай, і я абліла амонаўца.

Потым я адчула ўдар у лапаткі і ўбачыла, як мне ў твар накіроўваюць газавы балёнчык. Гэта быў сьлезацечны газ.

У мяне гарэў увесь твар. Мяне зацягнулі ў аўтазак і пасадзілі там у клетку. Тэлефон паклалі побач. Я папрасіла аддаць мне яго, каб паставіць на яго пароль. Адзін амонавец дазволіў. Другі крыкнуў: „Што ты зь ёй важдаесься?“ Зайшоў у клетку і адштурхнуў мяне.

Я пасьпела напісаць маме паведамленьне. Мама ў той дзень была на працы і пра тое, што здарылася са мной, дазналася з вайбэру.

*Ала, мама Анастасіі:*

— Вось глядзіце, такое паведамленьне атрымала: „Матуля, мне страшна, забяры мяне, прашу“. Я ёй пішу: „Што з табой? Дзе ты?“ У адказ яна мне прысылае фатаздымак з аўтазака. Я ёй: „Спытайся, куды цябе вязуць“. У адказ на гэта яна шле галасавое паведамленьне, дзе пытаецца ў амонаўца: „Куды вы мяне везяце?“, а ён кажа: „Яшчэ ня ведаю“.

Тады я пачала тэлефанаваць у Кастрычніцкі РАУС на вуліцы Гая. Там мне сказалі, маўляў, калі ваша дачка непаўналетняя, то ніхто яе ня мог затрымаць. Але неўзабаве мне Насьця патэлефанавала і сказала, што яна на вуліцы Дубко.

У Ленінскім РАУС яе апыталі, была праведзеная гутарка з псыхолягам. Там, кажа, абыходзіліся зь ёй ужо ветліва.

Я спытала, ці законнае затрыманьне непаўналетняй. Мне адказалі: „Вядома. Яна ж абліла супрацоўніка! А раптам там кіслата была?“

Пасьля інцыдэнту да нас у сям’ю ўжо прыходзіла камісія ў складзе адміністрацыі школы, псыхоляга і інспэктара. Сказалі, могуць прызнаць становішча сям’і як сацыяльна небясьпечнае або паставіць Насьцю на ўлік у інспэкцыю спраў непаўналетніх. Адказ будзе на працягу 15 працоўных дзён.

Дарэчы, той пратэст на Савецкай плошчы, дзе праходзіў сельскагаспадарчы кірмаш, не адбыўся. А мужу далі сем сутак арышту.

## „Сябры пасьля турмы сказалі, што добра выглядаю“

*Кацярына, сядзела 12 дзён:*

— На сутках я была з касмэтыкай. Мае сваякі перадалі мне вялізны пакет сродкаў для догляду скуры, бо ведалі, што яна ў мяне дастаткова праблемная. І ўсе вельмі сьмяяліся, бо дзяўчатам паклалі рулёны туалетнай паперы, а мне — скрабы, увільгатняльныя крэмы, міцэлярную ваду.

Самае галоўнае, што я таксама дзяўчатам сваім перадавала, — гэта антыбактэрыяльнае мыла. Я мылася выключна ім, бо ў камэры вельмі шмат мікробаў, бактэрый. І абавязкова пасьля — увільгатняльны крэм, бо недахоп паветра вельмі сушыць скуру.

У нас не было гарачай вады. Быў лайфхак: мы бралі бутэлькі з вадой і ўкручвалі іх у коўдру, калі клаліся спаць, для таго, каб вада стала хаця б пакаёвай тэмпэратуры. Гэта была галоўная наша забава — цэлы дзень даглядаць сябе. Дзяўчаты мылі галаву праз дзень. Замест фэна выкарыстоўвалі ручнік: закручваеш яго ў каўбаску, нахіляеш галаву і пачынаеш узьбіваць валасы.

Нас у „палаце“ было 10 чалавек і, хоць яна разьлічаная на 10 ложкаў, была вельмі маленькая. Таму, калі гаварыць пра заняткі спортам, то гэта максымум расьцяжка, інакш ты проста забіра-

еш кісларод, якога і так бракуе. А калі ў нас быў шпацыр (тры разы за ўвесь час), мы зь дзяўчатамі абавязкова трэніраваліся: прысяданьні, скачкі, адціска111ьні.

Калі хтосьці актыўна пратэстуе, парада — абавязкова зьняць пазногці. Шэляк (доўгатэрміновае пакрыцьцё) быў вялікай праблемай. Мне пашанцавала, бо я зьняла пакрыцьцё, калі яшчэ быў каранавірус актыўны. У каго быў шэляк, пазногці за 10 дзён так адрасьлі — чапляліся, ламаліся да крыві.

Першыя чатыры дні мы ня елі ад стрэсу, а пасьля зьявіўся апэтыт. Таму я сачыла за вагой. Я, напрыклад, дома ем толькі бялковую ежу і гародніну, а тут цябе кормяць кашамі з малаком, у перадачках — хлебцы, арэхі і каўбаса сыравэнджаная. Я пасьля турмы не магу наагул глядзець на каўбасу! Калі раней гэта быў жаданы ласунак, які дазваляеш сабе на нейкае сьвята, пару скрылікаў, то цяпер для мяне гэта асацыяцыя з турмой — усё! Дык вось, у ізалятары ў мяне была ўмова — ня есьці пасьля шасьці. Нас кармілі апошні раз у 17:00—17:30 — і ўсё на гэтым.

Зразумела, што гэта ўсё жудасна і няправільна. Ня буду паглыбляцца ў падрабязнасьці таго, што там адбывалася. Але мы сябе настроілі калектыўна на добры лад. Бо тое, чаго дабіваюцца ў турме, — каб ты пазбавіўся прыгажосьці, характару, трываласьці, сілы волі. А калі ты перамагаеш свой страх, стрэс, ты можаш і там існаваць (у нас тады яшчэ не забіралі матрацаў).

Мы ў камэры ладзілі забавы, прыдумлялі м’юзыклы, пісалі песьні і вершы. Калі я выйшла, мне мае сябры сказалі: ды ты добра выглядаеш! Пазы-

тыўнае мысьленьне — адна з галоўных передумоў. Плюс антыбактэрыяльнае мыла.

*Рэната, сядзела 14 дзён:*

— Самае галоўнае — гэта добры настрой, сон, сьвежае паветра і халаднаватая вада. Я сабе не дазваляла замаркоціцца, бо ўсё ўжо здарылася — трэба пражыць і гэты этап жыцьця.

Сьмех дапамагае разрадзіць абстаноўку і прымушае нэрвавацца наглядчыкаў. Сьпяваньне любімых песень, перастукваньне з суседзямі. Зарадка, ёга — хто што любіць.

Гімнастыка для твару — проста знаходка! Пашанцавала, што адна дзяўчына ведала практыкаваньні, рабілі амаль штодзень. Я выйшла са сьвежым тварам і безь сінякоў пад вачыма.

Мыцьцё халаднаватай вадой бадзёрыла ранкам. Шампунь мне дастаўся ад валянтэраў, але ў Жодзіне давалі бутэльку на камэру і лазьневае мыла. Пасьля шампуню апалосквала валасы халоднай вадой, каб лускавінкі закрыліся. Паціскаеш валасы, пакуль вільготныя — і кучаравінкі на месцы.

Калі не выводзілі на шпацыр, дапамагала фортка. Калі не было холадна, тры дні правялі з прачыненым вакном, на ноч завешвалі курткамі. Лепш сьвежае паветра, чым духата.

Сьвятло на ноч не выключалі, а маскі для сну зь перадач выкідалі, таму даводзілася вынаходзіць нешта. Спаць у капюшоне выдатна, але не ўва ўсіх ён ёсьць. Я прыдумала маску для сну са звычайнай блакітнай аднаразовай маскі і жаночай пракладкі.

Усё цудоўна прыклейваецца і крыльцамі фіксуецца, можна нават дзьве прымацаваць. Цемра забясьпечаная, а значыць, і глыбокі паўнавартасны сон. Гумкі ня ціснуць, за ноч маска не спадае.

Пасьля, калі новенькіх да нас падсялялі, ім па дарозе расказвалі, што мы і маскі самі робім, і дзьверы ў туалеце змайстравалі. З прасьціны: адзін канец з дапамогай жгута з пакетаў злучылі з ложкам, а другі, калі трэба было, да сьцяны прывязвалі.

*Аляксандра, сядзела 20 дзён:*

— У нашай камэры было шмат чаго. Са стандартнага — шампунь, гель для душу, крэм для рук. Але не хапала „ўмывалкі“, крэму для твару і бальзаму для валасоў. Хаця стаялі розныя незразумелыя слоічкі з карэйскай касмэтыкай, якія многія асьцерагаліся спрабаваць — магчыма, там штосьці патрэбнае і было.

Пакуль сядзелі на ЦІПе, думалі маску з аўсянкі рабіць, але да гэтага не дайшло.

Ваду грэлі ў бутэльках на батарэях. Нават былі сваркі, што хтосьці ўзяў замнога, калі ішлі мыцца: нас сядзела шмат у камэры (15-19 чалавек), а на батарэю мала бутэлек зьмяшчалася.

Зборы на выхад пачыналіся за дзень да гэтай даты. Звычайна гэта быў „душ“ з бутэлек. Пасьля — глябальнае мыцьцё рэчаў, каб пакінуць іх новенькім. Перад выхадам усе запляталі каласкі. Укладку зрабіць ня можаш, а так хоць з кучаравінкамі выйдзеш. Хтосьці заплятаў дзьве-

тры коскі, а хтосьці і 20. А гумкі для гэтага ад масак адрывалі.

Быў у нас ці то крэм для цела, ці то мус. Мы намазваліся ім замест духоў, каб хоць неяк прыемна пахнуць.

Дзяўчаты зьбіраліся загадзя, бо маглі адпусьціць раней. Таму пасьля ўсіх збораў пачыналася пакутлівае чаканьне. Асабліва гэта адбівалася на кучарах, якія пасьпявалі распусьціцца.

## „Мікітаў чаравік бачыла каля піцэрыі“

*Надзея, Менск:*

— Момант свайго затрыманьня 11 кастрычніка я пасьпела зьняць на відэа. А пабітым раварыстам у кадры аказаўся старэйшы брат Героя Беларусі біятляністкі Дар’і Домрачавай, архітэктар Мікіта Домрачаў. Разам зь ім на падлозе міліцэйскага аўтобуса мы даехалі да Фрунзэнскага РУУС.

Прыкладна а 16-й гадзіне я зь сяброўкай спрабавала ўцякаць ад сілавікоў па вуліцы Зыбіцкай. Прыйшлося хавацца ў жалезным боксе з кантэйнэрамі для сьмецьця. Там ужо стаіліся некалькі дзяўчат і пажылая пара.

Літаральна ў нас на вачах амонаўцы зьбілі з ровара мужчыну і проста так, без аніякай прычыны, пачалі яго жорстка біць дубінкамі і нагамі — па ўсім целе, галаве. Я ўсё гэта здымала на тэлефон, і акурат у той момант мяне самую схапілі.

Сваю сяброўку я не магу знайсьці дагэтуль. У ізалятары на Акрэсьціна сьпісы затрыманых не агучваюць, адсылаюць у Жодзіна. Там таксама

ніякай канкрэтыкі. Самой удалося выйсьці з Фрунзэнскага РУУС толькі дзякуючы таму, што схлусіла: маўляў, дома засталося малое дзіця.

Гэта было маё другое затрыманьне, мусіла схлусіць, бо адназначна пайшла б на суткі. Астатніх 60 чалавек, відаць па ўсім, адправілі ў Жодзіна, на Акрэсьціна іх няма.

Пакуль на мяне складалі пратакол, трымалі 4 гадзіны. А сьледчы нават не чытае ніякіх пратаколаў, усё пад капірку. Пры гэтым ім хапае часу сядзець у тэлеграм-чатах, сачыць за дваровымі актыўнасьцямі і высылаць у месцы збору „групы захопу". Гэта я зразумела зь перамоваў апэратыўнікаў у аддзяленьні міліцыі.

Самае страшнае, калі затрымлівае амон. Калі ў пастарунку мянты проста замучаныя, то гэтыя — цалкам у неадэкваце, не зьдзіўлюся, калі пад наркатой. Шалёныя вочы, суцэльны мат і асалода, калі іншым балюча.

Раптам гвалт зьмяняецца гульлівасьцю, непрыстойнасьцямі. Толькі што білі, і вось ужо адзін з ахоўнікаў прапануе з тэрмасу „хлябнуць гарбаткі". Загадаў разблякаваць тэлефон — кажа, зараз сэлфі будзем рабіць. То дзіка крычаць, то раптам лагодныя, рагочуць. Абсалютна замбаваныя, хоць на выгляд не старэйшыя за 30 гадоў кожны.

Неўзабаве нас перагрузілі ў іншы аўтобус. Там ужо былі не амонаўцы, а звычайныя міліцыянты. Мужчына-раварыст тым часам сьцякаў крывёй, прасіў выклікаць „хуткую". На назе быў толькі адзін чаравік, іншы страціў пры затрыманьні. Праваахоўнікі абы як пераматалі галаву, хоць кроў не спынялася. Адзін міліцыянт пры гэтым так і сказаў: капец, прабітая галава. Да моманту

прыезду ў пастарунак раварыст ужо нават ня енчыў, проста ляжаў на падлозе і ледзь дыхаў. Пачалі пхаць нагамі, каб пераканацца, ці жывы хоць. Яго ўжо зусім абмяклым выцягвалі з буса, сам падняцца ня мог.

Пакуль быў у прытомнасьці, ён увесь час прасіў вярнуць ровар ці, прынамсі, прымацаваць замком, бо ён яму вельмі дарагі.

Я думаю, што менавіта Мікітаў чаравік бачыла каля піцэрыі ў пачатку Зыбіцкай, дзе і адбыліся жорсткія затрыманьні.

А яшчэ хачу сказаць, якія ў нас неймаверныя людзі. Калі пачаўся хапун, я кінула свой заплечнік да сьметніцы — у ім быў трохмэтровы сьцяг нашага раёну, гаманец, пашпарт. А позна ўначы знайшла заплечнік у піцэрыі побач. І ўсе мае рэчы былі на месцы! Калі б сьцяг знайшлі ў міліцыі, так хутка пэўна ня выйшла б.

## „Мяне паклалі ў маю ж лужыну крыві“

*Максім Харошын:*

— Я ня помсьлівы і ніколі не жадаю людзям зла, але я яшчэ раз хачу паглядзець ім у вочы, толькі калі яны будуць за кратамі.

Мяне завуць Максім Харошын, я той самы ўладальнік „Первого цветного“ і той самы вясёлы хлопец, які раздаваў на жаночых акцыях кветкі.

13 кастрычніка мяне затрымалі невядомыя. Я вельмі доўга баяўся гэтыя кадры глядзець. І толькі нядаўна пачаў іх праглядаць… І я сам у жаху, я сам

не пазнаю сябе. Бо я заўсёды вясёлы, адкрыты, жыцьцярадасны. А тут увесь проста кабачок якісьці. Для мяне гэта нейкі сон. Я гэтага ня памятаю.

Мы з жонкай выйшлі ў 8:30 раніцы ў двор, селі ў машыну, не пасьпелі дзьверы зачыніць. Адразу гэтыя дзьверы адчынілі, пачалі крычаць матам. І мы не зразумелі, хто гэта, людзі былі бяз масак. Першая думка ў мяне: „Можа быць, гэта нейкі пранк“. Адразу пачалі біць мяне ў твар. Тры ўдары ў твар — і я ўжо проста ня бачу. У мяне ацякло вока, разарвалі губы. Столькі крыві, што я ўжо проста ня бачу. Пасьля мяне паклалі ў маю ж лужыну крыві. Я там яшчэ ляжаў пяць хвілін, а яны рабіліператрус машыны. Потым яны надзелі мне балаклаву і завялі ў свой мікрааўтобус.

У мікрааўтобусе яны ўжо былі ў масках. Мне сказалі сядзець на карачках, не падымаць галавы. І ўсю дарогу, пакуль мяне везьлі ў пастарунак (хвілін сорак), я быў на каленях.

Калі мяне прывезьлі ў Першамайскі РУУС, то там было больш жорстка. Там завялі мяне ў кабінэт, дзе было чалавек дзесяць, зь іх недзе тры дзяўчыны. Там адразу пачалі біць. Калі мяне білі, усе дзяўчаты і ўсе супрацоўнікі, акрамя двух, пры гэтым казалі: „Як мы ад гэтага стаміліся, хопіць іх ужо біць“. І сыходзілі з кабінэта.

Мяне білі дубінкамі, білі ў твар і казалі: „Чаго табе яшчэ не хапае ў гэтай краіне? Мы навучым любіць міліцыю. Мы вас усіх вышчамім, усіх зловім“. Яны мне казалі: „Мы дакажам, што ты кідаўся шумавымі гранатамі, што ты разабраў вадамёт, мы дакажам, што ты спаліў лецішча начальніка амону“. То бок усё, што адбывалася ў Беларусі, яны імкнуліся на мяне перапісаць.

Мы жывём у цэнтры гораду, мы ўвесь час езьдзілі са сьцягам. Мы былі заўважныя ў цэнтры гораду. Такіх, як мы, ня тое што няшмат, але мы ім прымільгаліся. Яны мне пра гэта сказалі, што пастаянна бачылі маю машыну, што „ты нейкі бясстрашны“.

Яны мяне зьбілі да страты прытомнасьці, далі нашатыр, каб прывесьці ў парадак. Празь пяць хвілін пачалі зноў біць. І потым у мяне пачаўся астматычны прыпадак, мне не хапала паветра. Я пачаў задыхацца, і гэта іх вельмі моцна напалохала. Яны пачалі адзін на аднаго раўсьці, што ж вы нарабілі. Усе выбеглі з кабінэта і выклікалі „хуткую“.

Мяне ў стане шоку даставілі ў лякарню. Выйшаўшы зь лякарні, я паехаў на рэабілітацыю ў Літву. Знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі мне дакладна небясьпечна.

Фізычна мне лепей, маральна — так сабе. Увесь час усплываюць нейкія флэшбэкі, працуем з псыхолягам, з псыхатэрапэўтам. Я думаў, што гэта будзе пераносіцца крыху лягчэй.

У Вільні я сустрэўся са Сьвятланай Ціханоўскай. Яна ўбачыла мяне, ёй сказалі: „Гэта той Максім, за якога вы моцна хваляваліся“. Мы падышлі, проста абнялі адно аднаго і пачалі плакаць. Я думаю, што сёньня гэта стан кожнага беларуса. Бо мы вельмі салідарныя і адзін за аднаго перажываем той боль, які мы перанесьлі.

Мне вельмі шмат людзей напісалі, тых, якіх пабілі 9-11 жніўня. Да майго выпадку яны думалі, што больш ня пойдуць на акцыі. Бо ім фізычна балюча, маральна балюча, нехта інваліды, нехта калекі. Але пасьля майго выпадку... Мне было

гэта вельмі горка чытаць, але яны напісалі: „Ты як новы вітук нашых сіл, пасьля твайго выпадку мы ўсе будзем выходзіць“.

## „Ноч прасядзела на плястыкавай бутэльцы з вадой“

*Алена, 54 гады, пэнсіянэрка, Магілёў:*

— 14 кастрычніка на Пакровы ды сьвята маці да мяне завіталі дачка з унукам і сяброўка, і мы пайшлі фатаграфавацца ў вышыванках на плошчу да гандлёвага цэнтру „Атрыюм“. Там папрасілі маладога чалавека, каб зьняў нас на тле бел-чырвона-белага сьцяга. Раптам зьявіўся „ціхар“, які пачаў здымаць нашу кампанію на відэа. Зь міліцэйскай машыны выскачылі людзі ў чорным з дручкамі ды, як мне падалося, зброяй. Іхныя твары хавалі маскі і балаклавы. Мяне, сяброўку, хлопца, які фатаграфаваў, і ягоную дзяўчыну запхнулі ў машыну. Дачку з унукам адпусьцілі.

Дарогаю ў Кастрычніцкі аддзел міліцыі мяне, спалоханую, запэўнівалі, што праз 15 хвілінаў па афармленьні дакумэнтаў адпусьцяць. Там склалі пратакол, што я ўдзельнічала ў „несанкцыянаваным мітынгу“. Апісалі мае рэчы і пасадзілі ў „малпоўню“. У ёй было холадна. На бэтоннай лаўцы я асьцерагалася сядзець, каб не захварэць. Прасіла ахоўнікаў даць мне кардон падаслаць. Просьбы ня чулі. Падклала паліто, але цела хутка стыла, бо была я ў адной вышыванцы. Ноч прасядзела на плястыкавай бутэльцы з вадой.

Ноччу ў аддзел прыходзіла дачка перадаць цёплыя рэчы і ежу. Ёй паведамілі, што мне цёпла і ні ў чым ня маю патрэбы.

А 4-й раніцы нас павезьлі ў ізалятар. Мне ад страху і нэрвовага ўзрушэньня было блага: не адчувала сэрца, нямелі рукі. Пакуль маю сяброўку афармлялі, прылегла ў машыне, але міліцыянт загадаў сядзець. Ізалятар нас у кепскім стане не прыняў. Зноў кінулі ў „малпоўню", я зноў села на бутэльку. Прасіла выклікаць „хуткую дапамогу". Дзяжурны дакараў: маўляў, я мусіла працаваць на лецішчы і фатаграфаваць унукаў, а не хадзіць на мітынгі.

Лекарка „хуткай дапамогі" дапытвала мяне, чаму трапіла ў міліцыю, прасіла параўнаць бел-чырвона-белы сьцяг з чырвона-зялёным і патлумачыць іхныя адрозьненьні, а таксама згадаць 1990-я гады і параўнаць зь цяперашнімі часамі. Я трывала зьдзекі. Наглуміўшыся, мне зрабілі іньекцыю і на разьвітаньне пасьмяяліся з вышыванкі. У „малпоўні" я ня вытрымала, лягла на бэтонную лаўку. Ужо на волі іншыя мэдыкі сказалі, што ў мяне быў прыступ нэўральгіі.

Раніцай звазілі ў Сьледчы камітэт, зьнялі адбіткі пальцаў, сфатаграфавалі, адтуль павезьлі дамоў па лекі і ежу і зноў у ізалятар. На яго тэрыторыі ў цесным закутку службовай машыны сядзелі ўдваіх больш за гадзіну. Я пачала задыхацца, доўга прасіла адчыніць дзьверы ды звадзіць у прыбіральню. Ізалятар зноў нас ня ўзяў. Вярнулі ў аддзел, дзе са мною правялі „прафіляктычную гутарку" і нейкім цудам выпусьцілі.

Тое, што перажыла, ні з чым не параўнаць. Трыццаць гадоў я адрабіла выхавальніцай, вый-

шла на пэнсію, ніколі не трапляла ў міліцыю, і толькі за тое, што сфатаграфавалася зь бел-чырвона-белым сьцягам, зь мяне так пазьдзекаваліся. Адкуль у людзей у міліцэйскай форме столькі азьвярэласьці? Я напісала скаргу ў пракуратуру і галоўнаму лекару на „мэдыка-сьледчую“. Няхай адпішуць, хто даў ім права так абыходзіцца са мною. Зьбіраюся дапамагаць тым, хто перажыў перасьлед, як я.

## „У камэры я зразумела, як людзі замярзаюць у сьнезе“

*Надзея, былая супрацоўніца „Белавія“:*

—Першы раз мяне затрымалі 18 кастрычніка разам з шасьцю сябрамі. Хлопцы зьбіраліся на Партызанскі марш. Але ўзяць удзел у акцыі нам не ўдалося: нашу кампанію затрымалі на Трасьцянецкай і адвезьлі ў Ленінскае РУУС. Дзевяць гадзін я ды іншыя правялі ў гаражы, стоячы тварам да сьцяны.

У гараж пэрыядычна прыяжджаў амон і біў тых хлопцаў, якія былі пазначаныя чырвонай фарбай. Раўлі: „Чаго вам не хапае?“ Білі іх галавой аб мэталічны плот.

У мяне былі вільготныя сурвэткі, я перадала іх хлопцам, у якіх на руках былі чырвоныя пазнакі. Аднаму атрымалася сьцерці, другому — не.

Супрацоўнік, які складаў пратаколы проста ў гаражы, быў больш-менш адэкватны. Не абражаў. Калі ў яго зазваніў тэлефон, ён сказаў: „Я буду сёньня позна, бо «невероятных» афармляю“.

У жодзінскім ІЧУ я атрымала дубінкай па нырках. Мы ішлі калідорам. Першы канваір задаў тэмп, усе за ім ішлі падскокам, а там катакомбы, я спатыкнулася, ледзь ня ўпала і для раўнавагі дастала рукі з-за сьпіны — за гэта тут жа ўдарылі...

У ІЧУ ўсе супрацоўнікі размаўлялі матам, замахваючыся дубінкай. Абражалі. Называлі нас прастытуткамі і тэрарыстамі.

Двое сутак, якія я правяла ў ізалятары, стаўленьне было на такім самым узроўні, і толькі калі выклікалі на допыт, я пачула: „Добры дзень! Я сьледчы з Барысава. Не хвалюйцеся, я вас біць ня буду“.

Не было ацяпленьня, наўмысна адчынілі вакно. У камэры я зразумела, як людзі замярзаюць у сьнезе. Было жудасна холадна. Не далі нічога: ні матраца, ні коўдры.

Стол быў самым цёплым месцам. Калі я на яго клалася, і гэта бачылі канваіры, яны білі нагамі па дзьвярах, пагражалі, крычалі, каб зьлезла са стала. Калі я націснула на кнопку і папрасіла зачыніць вакно, пасыпаліся мацюкі і пагрозы.

Спачатку ў чатырохмясцовай камэры было дзевяць дзяўчат, на наступную раніцу я засталася адна. Суд адбыўся 20 кастрычніка. Мне далі штраф — 20 базавых.

У справах усіх маіх сяброў быў адзін сьведка — засакрэчаны сілавік, які заявіў на судзе, што мы ішлі ў натоўпе і выкрыквалі лёзунгі. У чацьвярых з кампаніі ў пратаколах былі пазначаныя розныя месцы затрыманьня, але адзін час.

У канцы лістапада мы з калегамі — супрацоўнікі „Белавія“ і Нацыянальнага аэрапорту „Менск“ — запісалі відэазварот, у якім заявілі: „Мы не нарка-

маны, не алькаголікі і ня польская фальшыўка. Мы грамадзяне Беларусі і жадаем жыць у свабоднай і прававой дзяржаве, у якой выконваюцца закон і правы чалавека, дзе праводзяцца раўнапраўныя перадвыбарчыя кампаніі і сумленныя празрыстыя выбары“.

Мы падтрымалі беларусаў, якіх звольнілі за іх грамадзянскую пазыцыю, і асудзілі затрыманьні мэдыкаў і пэнсіянэраў.

„Хочам у будынку нашага аэравакзалу сустракаць гасьцей, а не праводзіць суайчыньнікаў, вымушаных пакідаць межы нашай краіны, баючыся за сваё жыцьцё толькі таму, што выказвалі свой пункт гледжаньня. Мы бачым будучыню нашай краіны без рэпрэсій, перасьледаў, палітычных зьняволеных“.

Пасьля таго, як наша відэа зьявілася ў сетцы, з кожным з дванаццаці чалавек, якія выказаліся ў звароце, правялі ідэалягічную гутарку. У аэрапорт прыехалі начальнік аддзелу кадраў „Белавія“ і намесьнік генэральнага дырэктара ў ідэалягічных пытаньнях. Акрамя іх, на сустрэчы прысутнічалі некалькі маіх кіраўнікоў.

Пыталіся, чаму мы запісалі зварот у форме „Белавія“. Я патлумачыла, што бяз формы мы безаблічныя. Кажу, таму, што ў кастрычніку мяне называлі прастытуткай у Жодзіне. Быў момант, калі ў мяне пацяклі сьлёзы ад успамінаў пра перажытае ў ІЧУ. Сказала: гэты відэазварот павінны былі запісваць вы як кіраўнікі. У нас шмат супрацоўнікаў пацярпелі ў жніўні-верасьні. Яны проста вярталіся з працы і ня ўдзельнічалі ў акцыях.

Працоўны транспарт праходзіць праз станцыі мэтро „Магілёўская“ і „Уручча“. Аўтобус спыняец-

ца, мэтро зачыненае, людзі ідуць пешшу. Тады хапалі ўсіх без разбору. Жанчыны, якім за 60 гадоў, уцякалі ад амону, і ня ўсім удалося.

Мне сказалі: „Вы працуеце на дзяржпрадпрыемстве, вы ж разумееце, у каго большая частка акцый. На што вы ўвогуле разьлічвалі?“ Быў і такі аргумэнт: „Мы плацім вам заробак“. Я адказала, што грошы мне не даюць проста так, я працую. Яшчэ спасылаліся на тое, што шмат каму цяпер заробак затрымліваюць, а мне нават далі 13-ы. Я ня вытрымала і сказала, што гэта плявок у твар — 13-ы заробак — 400 рублёў.

На разьвітаньне начальнік аддзелу кадраў сказаў: „Не хачу сустрэць вас праз год і каб вы мяне ненавідзелі“. Намесьнік генэральнага дырэктара па ідэалёгіі дадаў, што, можа быць, калі б ён быў у маім узросьце, зрабіў бы сапраўды гэтаксама, але ня ўпэўнены.

Падзеі разьвіваліся імкліва: празь дзень мяне выклікалі ў офіс „Белавія“ да начальніка наземнага комплексу і прапанавалі два варыянты: альбо я дапрацоўваю да заканчэньня кантракту ў студзені 2021-га і на гэты час пераходжу на працу ў офіс, альбо пішу заяву „пры згодзе бакоў“. Я ўзяла паўзу, каб падумаць.

У мяне забралі пропуск з фармулёўкай „у мэтах бясьпекі аэрапорту“. Я працавала інспэктарам групы пошуку багажу. Празь дзень пропуск вярнулі — у мяне была працоўная зьмена.

У выніку я напісала заяву аб звальненьні „пры згодзе бакоў“. У заяве паказала, што прашу звольніць мяне ў сувязі з тым, што мае маральныя прынцыпы, а таксама паняцьце сумленнасьці

і справядлівасьці не адпавядаюць ідэалягічным нормам авіякампаніі.

Адзначу, што гендырэктар „Белавія“ Гусараў у маёй гісторыі ні пры чым. З пачатку верасьня ён быў на лячэньні і, хутчэй за ўсё, ня ведаў, што адбываецца.

4 сьнежня мяне звольнілі, а праз некалькі тыдняў я даведалася, што на мяне і маіх калегаў, якія запісалі відэазварот, завялі адміністрацыйную справу паводле артыкулу 23.34.

На той момант яшчэ аднаго супрацоўніка папрасілі з працы, у дваіх забралі пропускі. Зрабілі часовыя. Сказалі, што звольняць усіх, але не адным махам, каб не было так рэзанансна.

24 сьнежня да мяне дадому ў Мацавічы прыехалі супрацоўнікі міліцыі аэрапорту і забралі мяне на допыт. У нас была цікавая размова з адным супрацоўнікам органаў. Ён, як і многія іншыя яго калегі, пытаўся: маўляў, чаго вам не хапае, у „Белавія“ добры заробак. Паводле яго, некаторыя опэры атрымліваюць 700 рублёў, начальства па 2000.

Вось я, кажа, звычайны магілёўскі хлопец, у свой час прыехаў у Менск з адной зубной шчоткай, а цяпер у мяне трохпакаёвая кватэра. Я ўдакладніла: „Дык яна ж у вас ільготная“. Ён пацьвердзіў. Спытала: „А чаму астатнія службы ня маюць ільготаў?“

Супрацоўнік, які вёз мяне з допыту дадому, казаў, што думаў, пратэстоўцы з камянямі выходзяць. Мне здалося, ён не чытае навінаў, а слухае тое, што гавораць яму на працы. Прасіў прабачэньня перада мной і пытаўся пра курсы, як можна прайсьці перападрыхтоўку…

Мы разумелі, што нам дадуць суткі. Так і здарылася. 11 студзеня судзілі майго калегу, яго арыштавалі. На наступны дзень на суд я прыйшла з рэчамі. Судзьдзя Аляксандар Рудэнка вынес рашэньне: 15 дзён арышту. Мяне адправілі ў ІЧУ на Акрэсьціна.

Мне пашанцавала: прапусьцілі з торбай, у якой былі цёплая вопратка для сябе і суседак, сродкі гігіены. У першы вечар мы гулялі ў покер — зрабілі косьці з хлеба. Я выйгравала і сказала: сёньня мой дзень. А потым успомніла, што мне прысудзілі 15 сутак...

У мяне не было ні матраца, ні падушкі, ні коўдры, але спалі па двое, таму было нармальна. Жорстка не абыходзіліся. Быліператрусы, кідалі вопратку на падлогу, паламалі хлебныя косьці.

Маімі суседкамі па камэры былі: 66-гадовая жанчына, якая зьбіралася зьняць відэа танцавальнага флэш-мобу (сьнег з галінак не пасьпела стрэсьці і атрымала 15 сутак), чатыры дзяўчыны, якія каталіся на горцы, а па дарозе дадому вырашылі сфатаграфавацца са сьцягам (тут жа пад'ехаў бусік, іх забралі з санкамі. Далі па 15 сутак, адну судзьдзя „пашкадаваў", даў 14, таму што ў яе цукровы дыябэт) і жанчына бяз пэўнага месца жыхарства.

14 студзеня мяне перавезьлі ў Жодзінскі ІЧУ. Я была зьдзіўленая, калі сустрэла там супрацоўнікаў, якія ў кастрычніку размаўлялі матам і пагражалі затрыманым. На гэты раз яны паводзілі сябе карэктна і нават цікавіліся ў арыштантаў, ці ёсьць у іх скаргі на здароўе і якія-небудзь пытаньні.

Было ўключана ацяпленьне. У камэры на 10 чалавек нас было восем: шэсьць жанчын, асуджаных паводле народнага артыкулу 23.34, дзьве — паводле бытавых. На працягу тыдня нас вадзілі ў душ праз дзень і на прагулкі штодня.

Сваю будучыню я бачу ў новай сфэры. Маю заяўку ўхваліў фонд BYSOL, створаны для аказаньня дапамогі і падтрымкі тым, хто пазбавіўся працы з палітычных прычынаў. Я займаюся ангельскай і зьбіраюся на курсы для распрацоўнікаў праграмнага забесьпячэньня.

Я веру ў тое, што перамены ў нашай краіне непазьбежныя. У нас моцны народ. Рэпрэсіі яшчэ больш яго аб'ядноўваюць. Людзі, якія трапляюць на суткі паводле бытавых артыкулаў і адбываюць пакараньне з „палітычнымі", рэзка мяняюць свае погляды.

А яшчэ канваіры мне расказвалі, што шмат каго з супрацоўнікаў органаў затрымлівалі, а потым ужо ў пастарунку разьбіраліся, што гэта свае.

Цяпер такі час, калі нават дваровы кот ня можа заставацца па-за палітыкай...

# ПАСЬЛЯ ТУРМЫ

**„Турма выхоўвае найлепшыя адносіны адзін да аднаго“**
**„Я цяпер шарахаюся ад мужчынскіх постацяў“**
**„Кватэра стала для мяне турмой“**
**„Пасьля Акрэсьціна ў мяне станоўчы тэст на COVID-19“**
**„Я баюся выходзіць на вуліцу адна“**

## *„Дубінка на плячо“*

— Потым надышоў момант ікс — адпускаюць. Але сказалі, што рэчы аддадуць праз два тыдні. А ў мяне там ключы ад машыны, ад кватэры, дакумэнты, карткі банкаўскія. Гэта значыць, мяне бруднага, сьмярдзючага, бяз грошай і дакумэнтаў выганяюць. Я ім кажу: „Вы разумееце, што вы мяне ў бамжа ператварылі? Мне вось адкрыта няма куды дзецца: ні ключоў, ні тэлефона, ні грошай“. У адказ — дубінка на плячо. Вось так праводзілі.

## *„Падвяла бровы алоўкам“*

— На выхад я зьбіралася ў гуморы. Спачатку бровы падвяла алоўкам, потым шарыкавай асадкай стала праводзіць стрэлкі. Тут заходзіць супрацоўнік: „Усё, пара“. А ў мяне другая стрэлка недарысаваная. Кажу: „Пачакайце, я яшчэ не нафарбавалася!“ Гэта была субота. Я думала: так, надзяваю самыя высокія абцасы, міні-спадніцу — і на тэхна-паці. Мяне сустракаюць сябры,

бацькі, мы едзем дадому. І тут яны расказваюць, што забілі Рамана Бандарэнку. Мяне гэта выбіла з каляіны, увесь настрой сышоў на нішто.

### *„Разьбірацца ня будуць“*

— Я паспрабаваў удакладніць, дзе мае рэчы. Адказалі: „Валіце ўжо, потым забераце! Ці назад хочаце?“ Дарэчы, пазьней, як і многія, я стаяў у чарзе па паўдня, але нават з валянтэрамі не знайшоў свайго тэлефона. Напісаў заяву пра страту рэчаў, але мне прыйшоў адказ, што разьбірацца ня будуць.

### *„Ну што, дахадзілася?“*

— Гэта адбылося ўжо каля сьцен турмы ў Жодзіне, калі нас толькі-толькі адпусьцілі. Адна дзяўчына з нашай камэры тут жа набрала маму. Яна вельмі ўсхвалявана слухала гудкі, а потым асьцярожна сказала: „Мама, гэта я, мяне выпусьцілі“. А ў адказ пачула: „Ну што, дахадзілася?“ Дзяўчынка зьмянілася з твару і сумна адказала: „А ты, мама? Дагаласавалася?“ Не магу, гучыць у галаве ўжо каторы тыдзень: „Мама, мяне выпусьцілі“ — „Ну што, дахадзілася?“.

### *„Амон проста так не затрымлівае“*

— Апошнія пяць гадоў я працаваў у Мін’юсьце, і адразу пасьля затрыманьня ў РУУС ногі павялі на працу. Хацеў асабіста задаць пытаньне міністру Алегу Сьліжэўскаму: „Ці магу я працаваць у вашым ведамстве пасьля таго, што перажыў за апошнія суткі?“ Алег Леанідавіч выслухаў мяне і сказаў: „Я

ня веру, амон проста так не затрымлівае“. Паабяцаў паставіць прагул, хоць на той момант я адсутнічаў менш за тры гадзіны, а назаўтра зволькіць паводле артыкулу.

### *„Інфармацыйны дэтокс“*

— Ня ведаю, як мяне зьмянілі гэтыя 20 сутак, патрэбны час, каб усё ўсьвядоміць. Але калі я выйшла, расказвала, што сядзець ня страшна — страшна жыць у гэтай краіне. У турме ў цябе інфармацыйны дэтокс. І там шмат хто казаў, што сеў у дэпрэсіі, а выходзіў без. А як ты можаш быць не ў дэпрэсіі, калі кожны дзень чытаеш навіны і там сапраўднае пекла?

### *„Можна, я цябе сфатаграфую?“*

— Нас прывезьлі ў Бараўляны. Адразу мяне агледзаў хірург, а потым яшчэ лекары. Адзін глядзіць маю сьпіну і кажа: „Ахранець“. Кажа: „Можна, я цябе сфатаграфую, таму што людзі ня вераць“. Потым мне паказаў гэтае фота, а там проста палка на палцы, і толькі пара белых трыкутнікаў, куды ня трапілі ўдары.

### *„Мэдычную картку канфіскаваў Сьледчы камітэт“*

— Пасьля гэтых сутак ужо двойчы мне даводзілася браць бальнічны з прычыны моцных боляў у сьпіне. На наступны дзень пасьля вяртаньня траўмы зафіксавалі дактары ў паліклініцы. Я тады і падумаць ня мог, што ўсё трэба здымаць на фота і відэа. Ня мог я і дапусьціць, што мая картка будзе

цікавай яшчэ для кагосьці. Аднак пазьней яе канфіскаваў Сьледчы камітэт. Мне патэлефанавалі і папрасілі прыйсьці, нібыта каб абмеркаваць тое, што там напісана. Але я не пайшоў, хоць і ведаю, што там напісаная праўда.

### *„Два павароты ключа“*

— Якое яшчэ можа быць адчуваньне ад таго, што адбываецца? Трохі страху. У кватэры не куру, даводзіцца выходзіць. Перш, чым выйсьці кудысьці, пару разоў у „вочка“ паглядзіш. Па вуліцы ідзеш — увесь час азіраесься. Раней дзьверы замкнеш на адзін паварот ключа, цяпер на два.

### *„Кроў не прыбралі дагэтуль“*

— Было вельмі страшна вяртацца на Акрэсьціна па рэчы. Я думаў, што цяпер зайду, а яны такія: „А, дык гэта ты, а ну хадзі сюды…“ Але падумаў, што калі тады не забілі, то цяпер ужо дакладна не заб’юць. Калі прыйшоў, убачыў тое месца, дзе я ляжаў, сваю лужыну крыві на асфальце. Хоць і прайшло тры дні пасьля таго, але яе ніхто не прыбраў дагэтуль.

### *„Сацыяльна небясьпечная мама“*

— Сын цяпер жартуе зь мяне, кажа, што нарадзіўся ў сацыяльна небясьпечнай мамы. Я таксама сьмяюся. Часам трэба трапіць у такую сытуацыю, каб зразумець, як цябе любіць твая сям’я. А таксама адчуць радасьць ад простых рэчаў — паху кавы раніцай, сну бяз крыку турэмнікаў -- і проста радавацца магчымасьці ўбачыць неба ў вакне.

### *„Адчуваць сябе шчасьлівай“*

— Дзень 9 жніўня стаў пераломным у маім жыцьці, і наступныя некалькі месяцаў шмат чаго далі. Я стала менш эгаістычнай, адчула сябе часткай народу, пазнаёмілася з цудоўнымі суседзямі, наладзіла стасункі з бацькамі, зразумела свае магчымасьці і сваю адказнасьць. Перажываньні, якія раней здаваліся вялікімі, цяпер сталі няважнымі. Я часта плакала, але не ад таго, што ўсё кепска, а ад таго, якімі цудоўнымі аказаліся людзі, якіх я сустракаю. І ўсё гэта дазваляе адчуваць сябе шчасьлівай.

## „Міліцыя цісьне праз органы апекі“

*Вольга, Магілёў:*

— Прыстойныя сем’і ў нас могуць стаць „праблемнымі“, калі бацькі ўдзельнічаюць у акцыях пратэсту супраць Лукашэнкі. Міліцыя цісьне на нас праз органы апекі.

У канцы мінулага тыдня я нарэшце атрымала выпіску з пратаколу паседжаньня савету прафіляктыкі безнагляднасьці і правапарушэньняў непаўналетніх. Камісія сярэдняй школы №35, дзе вучыцца мая адзінаццацігадовая дачка, вырашыла, што ў майго дзіцяці ўсё добра. Але гэтага заключэньня давялося чакаць больш за месяц.

Я замужам ужо трынаццаць гадоў; у нас свая кватэра, лецішча, кожны год сям’ёй езьдзім у адпачынак на мора — па мясцовых мерках вельмі нават прыстойная сям’я. Аднак мая палітычная актыўнасьць рэзка зьмяніла стаўленьне мясцовых уладаў да нас — міліцыя пачала нас перасьледаваць.

Пры праверцы „на дабрабыт“ было зроблена шэсьць запытаў. Разьлікова-касавы цэнтар даў даведку, што запазычанасьцяў у камунальных плацяжах у нас няма; у наркалёгіі ніхто з нас на ўліку не стаіць, у міліцыю прыводаў не было і на працы ў бацькоў праблем няма.

А самым непрыемным момантам стала нечаканае зьяўленьне школьнай камісіі ў нас дома. Адразу пяць чалавек на чале з намесьнікам дырэктара аднойчы ўвечары прыйшлі праверыць, у якім стане знаходзіцца наша кватэра, ці ёсьць

спальнае месца ў дачкі і дзе яна робіць урокі. А яшчэ яны зазіралі ў лядоўню і шафы з прадуктамі.

Падставай для такой своеасаблівай праверкі стаў ліст намесьніка начальніка Ленінскага РАУС Магілёва Аляксандра Пушына ў аддзел адукацыі райвыканкаму. У ім Пушын адкрыта ўказаў на палітычны характар таго, што адбываецца („грамадзянка бярэ актыўны ўдзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах“) і запатрабаваў „прыняць меры прафіляктычнага ўзьдзеяньня“.

Ліст быў перанакіраваны з аддзелу адукацыі ў школу. І „мерай узьдзеяньня“ аказалася так званае сацыяльнае расьсьледаваньне, вынікі якога цяпер і паступілі нарэшце ўва ўсе інстанцыі. Пры неспрыяльным разьвіцьці падзей у сучаснай Беларусі такое расьсьледаваньне — гэта просты шлях да прызнаньня, што дзіця знаходзіцца ў сацыяльна небясьпечным становішчы, што можа прывесьці ягоных бацькоў да пазбаўленьня бацькоўскіх правоў.

Такой была патэнцыйная цана майго ўдзелу ў фотасэсіі салідарнасьці з пабітым міліцыяй рэнтгенолягам магілёўскай стаматалягічнай паліклінікі Андрэем Вярбіцкім. Мы, восем жанчын, 19 кастрычніка вырашылі сфатаграфавацца з партрэтам Вярбіцкага, каб потым адаслаць яму ў турму, дзе доктар тады знаходзіўся, зробленыя сваімі рукамі паштоўкі.

Не пасьпелі мы зрабіць здымак, як да нас пад’ехаў мікрааўтобус з амонам і ўсіх затрымалі. На нас склалі пратаколы пра ўдзел у несанкцыянаванай акцыі. Аднак у судзе справа стала развальвацца, тройчы яе матэрыялы адпраўляліся на дапрацоўку. Гэта значыць, рашэньня суду пра

маю вінаватасьць дагэтуль няма, але камісія ўжо прыходзіла.

Таму на online-паседжаньне савету прафіляктыкі я запрасіла юрыста цэнтру „Вясна“ Барыса Бухеля. Ён быў вельмі зьдзіўлены формай дачыненьняў чыноўнікаў ад адукацыі. Спаслаўшыся на COVID-19, было вырашана правесьці афіцыйнае паседжаньне з дапамогай мэсэнджару. Гэта значыць, што рэальнага сходу не склікалі, размова ішла з карцінкамі на экране, а хто і як пры гэтым вёў пратакол паседжаньня — вялікае пытаньне.

Пры гэтым каранавірус раней не перашкодзіў прыйсьці камісіі ў нашу кватэру. Хоць артыкулу 23.34 КаАП няма нават у пераліку падставаў, якія даюць права падазраваць тую ці іншую сям'ю ў праблемнасьці. Інакш кажучы, перасьлед мяне ад пачатку быў незаконным.

Гісторыя была б няпоўнай бяз згадваньня яшчэ адной важнай акалічнасьці. Я выхоўвалася ў Чавускім доме-інтэрнаце, я сірата. Нягледзячы на гэта, змагла атрымаць дзьве вышэйшыя адукацыі, займалася дванаццацьцю відамі спорту, у некаторых зь іх кандыдат у майстры. Я вельмі цаню сваю сям'ю і гатовая за яе змагацца.

## „Як правільны акорд у канцы музычнай фразы“

*Андрусь Такінданг, музыка:*

— Мы з калегамі з гурту Recha прадчувалі затрыманьне. Шэраг нашых знаёмых, калег-артыстаў ужо адбывалі адміністрацыйныя пакараньні

за выступы ў дварах. А Recha ледзь не штодня ўдзельнічала ў народных, дваровых канцэртах.

4 лістапада мы прыехалі на менскую вуліцу Нёманскую. Жыхары сабраліся безь сьцягоў і лёзунгаў на ўрачыстае адкрыцьцё насьценнага малюнка, зацьверджанага і ўзгодненага з ЖЭСам. Публіка была цудоўная — дзеці танчылі, дарослыя падпявалі. Нам шчодра аддзячылі: уручылі самаробнае печыва, кветкі. Калі выяжджалі са двара на таксоўцы, машыну пераняў стылёва апрануты ў цывільнае мужчына: „Стаяць, міліцыя. Тэлефоны на сядзеньне".

З двух вялікіх бусаў падбеглі амонаўцы ў балаклавах, хтосьці са зброяй, хтосьці без, і прымусілі перайсьці ў аўтобус, які стаяў побач.

Загадалі сесьці на падлогу, дарогай пачалі апытваць у даволі экспрэсіўнай манеры. Фізычнага гвалту амон не ўжываў, а дзьмутая, пацанская агрэсія выглядала абсурдна і камічна. Быццам да дарослага чалавека сталі чапляцца школьнікі-хуліганы: непрыемна, страшна і сьмешна. „Э, эфіёп, колькі вам заплацілі?", „Ага, у вас пячэньне бел-чырвона-белае", „Гэты нярускі каторы — беларус?", „У арміі служыў ці не?", „Крамбамбулю знаеце, вашых дружочкаў?"... Мацюкі, гопніцкія наезды ішлі ад маладых, 20-гадовых, старэйшыя ж амонаўцы дарогай паводзілі сябе больш стрымана.

У Фрунзенскім РУУС, куды нас даставілі, міліцыянты, якія паводзілі сябе карэктна, выгадна адрозьніваліся ад калег, што строілі кпіны, мацюкаліся, кідалі домру аб падлогу, быццам вартыя жалю злыя дзеці, на якіх і форма сядзела неяк асабліва няўклюдна. Ня ведаю, як усе гэтыя розныя

супрацоўнікі ўжываюцца, трываюць адзін аднаго ў адных кабінэтах. Агульны матыў і ў пастарунку, і на Акрэсьціна — „Чаго ж вам усім дома не сядзіцца? Грайце канцэрты ў сваіх кватэрах“.

Такая рэакцыя, можа быць, зьвязаная зь вельмі вялікай колькасьцю затрыманых. Камэры поўняцца дактарамі, бізнэсоўцамі, артыстамі, інжынэрамі, праграмістамі, беспрацоўнымі, пэнсіянэрамі, студэнтамі.

Пасьля нас адправілі на Акрэсьціна. Асабісты агляд. Ланцужок з крыжам трэба здаць на захаваньне. Я сьпяшаюся, таму ніяк не магу адчапіць карабін. „Не хвалюйся“, — кажа міліцыянт, усьміхаецца і дапамагае.

Мінімалістычны функцыянал. Жоўтыя сьцены, карычневая драўляная падлога, туалет, дээспэшная лава, стол, мэталічныя ложкі. Спачатку нас разьмясьцілі ў камэру на чатырох. Сядзець разам, усім гуртом — гэта вялікая ўдача. Пэўна, што эпічнае затрыманьне Recha не засталося незаўважаным, і нашыя сваякі здагадваюцца, дзе мы знаходзімся. Але ўсё адно ў зьняволеньні найбольш хвалюесься за каханых і родных, якія, у сваю чаргу, на волі перажываюць за вязьняў.

Агледзеўся, памыўся пад кранам, адціснуўся ад падлогі, памаліўся. Настрой бадзёры, прыўзьняты. Даўно маральна рыхтаваўся да арышту, таму ўся гэтая сытуацыя выклікала своеасаблівую палёгку, як правільны акорд у канцы музычнай фразы.

Тым часам у калідоры пануе супрацьлеглая атмасфэра. Там лаюцца, перабрэхваюцца між сабой супрацоўнікі з канвою: чатыры вязьні, пяць пратаколаў, некага ня могуць далічыцца. Дыялёг хлопцаў густа перасыпаны мацюкамі. Відаць, ад-

зін да аднаго міліцыянты ставяцца яшчэ з большай варожасьцю, чым да затрыманых.

А 22:00 зьмяншаюць сьвятло, адбой, можна разгарнуць матрац і легчы спаць. А 6:00 сьвятло запальваецца ярчэй, трэба хуценька падняцца і скруціць матрац. У вакенца дзьвярэй перадалі туалетную паперу. Ура, можна жыць! Запрацавала выцяжка, у камэры пачало зьяўляцца болей паветра, перастае сьціскаць скроні. На сьняданак каша і салодкая гарбата.

Музыкі па-рознаму рэагуюць на затрыманьне. Ігар і я пачуваемся добра, у Кастуся баліць галава, у Лёні праблемы з нагой. Жартуем, размаўляем. Аказваецца, акардэаніст Ігар — пятае дзіця ў сям'і. Бубнач Лёня ня дужа ладзіў з бацькам, але цудоўна пачуваўся з бабуляй і дзядулем.

„Я інтравэрт у дэпрэсіі, мне доўга сярод людзей цяжка. Але вас, хлопцы, пакуль што ня хочацца задушыць", — прызнаецца басіст Косьця.

„А мне вусьцішна, — кажа Лёня. — Я мушу дачцэ казку чытаць, а ня тут сядзець. Як жа цесна, усё цісьне. Мы ж для дзяцей гралі, завошта нас сюды?"

Лёня, вольналюбны, лясны, добры, пяшчотны, уразьлівы чалавек, найбольш востра з нас перажывае зьняволеньне.

На абед у вакенца камэры перадаюць суп, кампот, кашу з рыбнай катлетай і два боханы хлеба, чорнага і белага (напэўна, каб мы маглі сабе шахматы зьляпіць). Ежа мне падабаецца, так карысна і рэгулярна не харчаваўся ніколі. Але няма куды траціць спажытую энэргію і не хапае пітва (кубак гарбаты зранку, кубак кампоту ў абед). Таму порцыі кашы абмяжоўваю, мяса адразу выкідаю, ад вячэры адмаўляюся. Санаторый-прафілакто-

рый: дзякуй Богу, ня трапілі сюды ў жніўні пад гарачую руку.

Уначы нас перавялі ў двухмясцовую камэру і выдалі адзін матрац на ўсіх. Відаць, не хапае месца на Акрэсьціна — значыць, на маршы затрымалі шмат народу. Начую на падлозе. Час цячэ марудна: гуляем у словы, мэдытуем, я малюся, раблю зарадку, вучымся прысядаць на аднойназе. На калідоры пачынаюцца суды праз скайп, сьцішваемся і прыслухоўваемся.

Затрымалі каля гандлёвага цэнтру, ішоў купляць зарадку для тэлефона, не крычаў, ня пляскаў — 15 сутак. Ішоў пратэставаць супраць беззаконьня — 15 сутак. Затрымалі — значыць, вінаваты.

На наступны дзень судзілі і нашу групу. Мяне першага адканваявалі ў асобны кабінэт, пасадзілі перад ноўтбукам. На экране зьявіўся адвакат: „Андрэй, вас ня білі? Як сябе адчуваеце?“ У залі суду пабачыў маці і сваю Ганначку, пачуў гоман падтрымкі.

Адвакат добра рабіў сваю справу, знайшоў сьведку з канцэрту, спрытна апытаў беднага амонаўца (якое добрае беларускае вымаўленьне ў шмат якіх міліцыянтаў, адчуваецца, што людзі прыехалі зь вёсак і не пасьпелі страціць дзеканьне, цеканьне ды іншае аканьне-яканьне). Адвакат паказаў відэазапіс з выступу Recha, прад’явіў маё пасьведчаньне творчага работніка, пэнсійныя пасьведчаньні маці, бабулі. І ў нейкі момант я пачаў хвалявацца, што мяне выпусьцяць, а музыкаў пакінуць. Але ўсё скончылася добра: вырак, як і ў маіх сяброў-дружочкаў — 15 сутак. Пасьля прысуду стала яшчэ лягчэй, са спакойнай душой

клаўся спаць, аднак уначы зноўку прагучаў загад: „Паўлёнак, Лісецкі, з рэчамі на выхад“.

Цікава, Кастуся і Лёню пераводзяць у іншыя камэры ці этапуюць у Жодзіна, Бабруйск?..

На наступны дзень мы з Ігарам радаваліся жыцьцю. Акардэаніст прызнаўся, што даўно хацеў трапіць у вязьніцу зь цікавасьці, я зь ім пагадзіўся. Дзякуй Богу за гэты цудоўны час, час маіх улюбёных заняткаў — магчымасьць думаць і сузіраць быцьцё зь перапынкамі на туалет, абед, мыцьцё ў кране.

Празь нейкі час дзьверы ў камэры адчыніліся. Малады міліцыянт скамандаваў устаць. На парозе стаяў ахоўнік у фуражцы, мужчына ў касьцюме і бацюшка зь сівой барадой: „Чаго вы патрабуеце ад Праваслаўнай царквы?“

Паглядзець 10 сэкундаў на новых цывільных людзей па той бок сьцяны ўжо было сьвята, але я адважыўся папрасіць яшчэ і малітоўнік. Брама зь лязгатам зачынілася, а праз вакенца нам пачалі перадаваць шкарпэткі, мыла, зубную пасту і малітоўнік. Мы з Ігарам з двух філёзафаў-стоўпнікаў ператварыліся ў сапраўдных багацеяў.

Добра быць праведнікам адным у замкнёным пакоі, адгароджаным ад мітусьні і спакусаў сьвету. Няма на каго раздражняцца, каму зайздросьціць. Каша і гарбата — лесьвіца Якава, памыўся ў кране — сядзі сузірай сябе. Лілеі сярод церняў, жонкі Саламонавы — далёкі сьмех жанчын, што сустракаюць сясьцёр з маршу, каля брамы Акрэсьціна. На дзіва годны танец дачкі Ірада — на калідоры пошчак абцасаў маладой наглядчыцы. Голас яе, як зорка Палын, — горкі і звонкі: „Насцу табе ў

рот“, — ці то пагражае, ці то абяцае міліцыянтка некаму па тэлефоне.

У чацьвер міліцыянт пынес нам зь Ігарам перадачы. Найвялікшы скарб у пасылцы з дому — нататнік і асадка. Маю, на чым пісаць, маляваць. І камэра ня камэра, а працоўны кабінэт.

На наступную раніцу Ігара перавялі ў іншую камэру, і я застаўся адзін у прасторы 2 на 4 мэтры. Пішу ў перасланы нататнік свае ўражаньні, малюю. Стрыжань няўмольна сканчаецца, хвалююся, як жа далей тут існаваць бяз справы. Ніколі ня думаў, што асадку можна сьпісаць за суткі. Божа, памнож цудоўным чынам чарніла ў стрыжні.

У той самы дзень у мяне зьявіўся сусед. Малады сукамэрнік падарыў мне асадку, выплакаўся, нажаліўся і заснуў на верхняй шконцы юначым сном.

Неўзабаве мяне перавялі ў большую камэру, на шэсьць ложкаў.

Тут сядзяць нашы людзі. Бізнэсоўцы, інжынэры, навукоўцы. Штовечар — лекцыя пра старажытны Рым, раніцай — зарадка. Даклады пра будаўніцтва дому, бізнэс. Сукамэрнікі мае — мужчыны ад 22 да 48 гадоў, усе сядзяць чарговы раз, усе моцныя і прыгожыя. Галёкаюць за сьцяной дзяўчаты, іх прывезьлі нядаўна. Мы мужчынскай кампаніяй дзелім стол зь перадач, жартуем, рагочам, як раптам на парозе начальнік Акрэсьціна са сьвітай: „У чым прычыны добрага настрою і сьмеху? Я вас аж у сваім кабінэце чую. Камфортныя ўмовы, дык магу пагоршыць“. Начальнік сыходзіць, а разам зь ім прападае і гарачая вада.

Трохі хварэю, дрэнна быць нядужым у вязьніцы, можа, ковід ці іншая трасца. Суседзяў маіх хапалі і ўтрымлівалі ў пастарунку куды больш жорстка,

чым музыкаў. Таму маё прызнаньне, што малюся і за міліцыянтаў, і за амон хлопцы ўспрымаюць неадназначна. А я апавядаю пра хрысьціянства, што гэтых бедных службоўцаў асабіста мне дужа шкада.

У нейкі момант на сьцяну камэры павесілі артыкул зь нейкай газэты пра садызм. Частка зьняволеных прапануе паглядзець на рэакцыю аховы, але інтэлігентны інжынэр прапануе зьняць. Ён летам быў зьбіты і бачыў, як білі навокал людзей за тое, што іх суседзі енчылі. Білі ня тых, хто падаваў голас у перапоўненым аўтазаку, а тых, хто быў бліжэй.

„А ты свае траўмы зафіксаваў?“ — спытаўся я.

„Не, мне сорамна было са сваімі несур’ёзнымі траўмамі да доктара зьвяртацца, калі маіх суседзяў скалечылі ўшчэнт“.

Газэта застаецца на сьцяне камэры.

„Калі яшчэ раз нешта на сьцяну павесіце, пальцам падцірацца будзеце, уркі. Марш у норку!“ — шалее на ранішняй праверцы міліцыянт.

„Ого, як яго бамбанула, значыцца, справы нашы не зусім дрэнныя“, — ціха пераміргваемся мы.

Падыходжу да вакна. Праз шчыліну крыху відаць прыватны сэктар, за ім далёкія дзевяціпавярховікі. На шэрай сьцяне аднаго з дамоў урачыста вылучаецца бел-чырвона-белы сьцяг.

## „Трымаючыся за рукі, мы зайшлі ў будынак турмы“

*Павал Горбач, паэт:*

— Яно як было. Паклікалі ўвечары 6 лістапада выступіць зь вершамі ў двары на Залатой Горцы — на адным канцэрце зь Лявонам Вольскім. Пагадзіўся, думаю — і паэзію сваю невялікай торбачкай у масы занясу, і Вольскага паслухаю. Нават дзяўчына мая, Насьця, сабралася прыйсьці, хоць ніколі на мае выступы ня ходзіць.

У пятніцу ўвечары паблукаў у дварах, шукаючы прызначанае месца, знайшоў, выступаў трэцім і апошнім з паэтаў, потым час да прыезду Вольскага займаў нейкі дэпутат Вярхоўнага Савету, пасьля ўжо сам спадар Лявон пачаў сьпяваць. На „Простых словах“ вырашылі мы з Насьцяй ціхенька пайсьці — ці мала што, раптам хапун пачнецца.

Пайшлі ў бок унівэрсаму „Залатагорскі“, я выклікаў таксі, кіроўца ўжо пад’яжджаў. Паводле маршруту ў аплікацыі ён павінен быў спыніцца на дарозе насупраць крамы, але чамусьці паехаў за яе, таму мы з Насьцяй пачалі пераходзіць дарогу назад да ўнівэрсаму. Калі ўжо амаль перайшлі, побач спыніўся бусік, выйшлі некалькі супрацоўнікаў амону і сказалі ехаць зь імі. Так я, Насьця і падораная мне каробка піражанкаў пачалі сваё падарожжа ў сьвет рэпрэсій.

Амонаўцаў у мікрааўтобусе было пяць. Яны спыталі і перапыталі нашы прозьвішчы, сказалі выключыць тэлефоны і прасачылі за тым, каб мы гэта зрабілі, баец насупраць папрасіў паставіць пірожныя на калені, каб на павароце яны ня ўпалі.

Ён жа некалькі разоў паправіў відэарэгістратар — накіроўваў на мяне. Ціха і бяз гвалту даехалі мы да Савецкага РУУС. Піражанкі амонаўцы забраць адмовіліся.

У пастарунку нас завялі ў падвал, у актавую залю, дзе знаходзіліся некалькі супрацоўнікаў міліцыі. Некаторыя зь іх задавалі пытаньні пра затрыманьне, але ніхто не прадстаўляўся. „Палітынфармацыю“ з намі вырашыў правесьці толькі адзін міліцыянт — на выгляд маёр, мяркуючы па гаворцы — ня менш за 10 гадоў выслугі. Ён казаў, што канцэрты ў дварах а сёмай вечара перашкаджаюць людзям адпачываць ад працы. Другі, малады, спытаў: „А хто такі Лявон Вольскі?“

Насьцю паклікалі на „апытаньне“, а мяне тым часам абшукалі, склалі матузкі-папругі, дзьве „ксівы“, партманэт ды іншыя жуйкі ў сьмецьцевы пакет з надпісам „Горбач П.С.“, а пасьля ў актавай залі зьнялі на відэа: у профіль, анфас. „Як адносіцеся да дзейнай улады?“ Адказаў, што да дзейнай улады не адношуся.

Пасьля вывелі назад у калідор і пасадзілі побач з Насьцяй, у якой ужо таксама адабралі асабістыя рэчы — ёй сказалі, што павязуць у турму. Цяпер на „апытаньне“ павялі мяне — падняліся, як я зразумеў, зь дзяжурным па пастарунку ў кабінэт, дзе хвілін 15 ён пытаўся ў мяне пра абставіны затрыманьня, пра тое, хто паклікаў выступаць, дзе можна пачытаць мае вершы (сказаў, што ў адным з нумароў часопісу „Маладосць“ за 2016 год). Я яму выказаў думкі пра тое, што затрымалі нас, каб „адпрацаваць“ дваровае „несанкцыянаванае мерапрыемства“. Той у адказ сказаў, што „гэта ня

так працуе“. Зь ягоных жа словаў, запісваў „апытаньне“ ён „так, для сябе“.

Ажывіўся міліцыянт, толькі калі я згадаў пра сваё мінулае жыцьцё, працу зь сілавікамі, пра юбілейны мэдаль ад калісьці камандуючага ўнутранымі войскамі Караева. Таварыш дзяжурны спрабаваў жартаваць жарты „дык трэба Караеву патэлефанаваць“, але ўрэшце сказаў: „Калі ўжо гэта ўсё скончыцца...“ — і адвёў мяне назад да дзяўчыны. Там я расьпісаўся за ўзяты пад арышт тэлефон, міліцыянт сказаў што судзіць могуць нават заўтра, але я не паверыў — заўтра была субота. Копію пратаколу ня выдалі. Пакінуць сабе піражанкі міліцыянты зноў адмовіліся.

Нас з Насьцяй павялі ў „малпоўню“. Тамтэйшы маёр выдаў нам маскі, зачыніў Насьцю ў камэры, а мне сказаў, што трэба абрэзаць гумку ў капюшоне курткі, выдаў вялікія нажніцы. Ня змог не спытаць у яго — чаго гэта мне такі небясьпечны прадмет даверылі? Той адказаў: „Калі паспрабуеш нешта зрабіць, я цябе проста тут шлёпну“. Я і не спрабаваў. Маёр сказаў, што цягам паўгадзіны нас адправяць на Акрэсьціна, і гэта добра — пасьпім на мяккім.

Так яно і выйшла — праз некаторы час мяне і Насьцю ўжо вялі з пастарунку, дзе каля ўваходу дзяжурылі два аўтаматчыкі. Селі ў звычайны патрульны легкавік — за стырном старлей, на пасажырскім — лейтэнант, ззаду сядзеў адзін у цывільным, ён выйшаў недзе на праспэкце Дзяржынскага. Малады лейтэнант шмат гаварыў, разважаў аб пратэстах, быў поўны жыцьця. Сышліся з усімі супрацоўнікамі ў думцы, што нам проста не пашанцавала. Недалёка ад варот на

Акрэсьціна спыніліся, каб пакурыць. Піражанкі лейтэнант пакінуць сабе адмовіўся.

Пасьля перакуру заехалі за вароты, і мы з Насьцяй, трымаючыся за рукі, зайшлі ў будынак турмы. Там нас абшукалі, жанчына папытала пра здароўе — сказаў ёй, што я ў аднаразовых лінзах (у мяне зрок -11), але да панядзелка, да суду, я пляную ў іх пратрымацца. Жанчына нават выказала невялікі непакой з гэтай нагоды. Насьці аддалі піражанкі, каб яна забрала іх з сабой у камэру.

Пазьней выдалі бялізну і павялі на трэці паверх разам зь яшчэ парай-тройкай такіх жа няўдачлівых грамадзян. Гэта было ўжо пасьля адбою. Калі зайшоў у камэру, гарэў толькі начнік. Чалавек зь ніжніх нараў каля дзьвярэй паказаў, што верхнія вольныя. Я залез туды і доўга ня спаў — думаў усе гэтыя думкі нядаўна затрыманага. Жахліва сьмярдзела параша. Бліжэй да раніцы праваліўся ў сон.

Прачнуўся ад гукаў сраньня аднаго з сукамэрнікаў, усе астатнія быццам бы спалі. Потым той, што пакакаў, пачаў апантана ананіраваць, а нацешыўшы плоць, пайшоў адпачываць за сталом. Як пазьней высьветлілася, гэта быў 66-гадовы бяздомны Алег Залатар, які ня раз сядзеў і кожную раніцу пачынаў з размоваў пра тое, як жа аформіць пэнсію, калі няма пашпарту. Акрамя яго, у камэры былі двое палітычных — Арцішэўскі і Іваноў — а таксама двое мужчын, якія трапілі ў казэматы праз алькаголь.

Арцішэўскі трапіў у ІЧУ за рэплікі ў нейкім з чатаў. Гадоў яму каля 40, ён выкладае ў БНТУ, валодае ушу. Паводле яго, яму спрабавалі навязаць крымінальны артыкул. Але сядзеў ён праз

пратакол паводле 23.34, які ў судзе адправілі на дапрацоўку. Выйсьці павінен быў у нядзелю — заканчваліся трое сутак.

Іванова таксама спрабавалі раскруціць на крыміналку — як я зразумеў, ягоны страйкбольны пісталет здымаўся ў роліку, дзе жанчыны хаваюць зброю ў лесе. Сядзеў Іваноў таксама паводле 23.34, тэрмін ягоны быццам заканчваўся пад вечар суботы. У яго канфіскавалі бронекамізэлькі і шлем — на экспэртызу. У гэтым рыштунку Іваноў час ад часу здымаўся з таварышамі ў расейскіх сэрыялах — якраз у ролі амонаўца.

Субота прайшла ў абмеркаваньні затрыманьняў, пад вечар Іванова выпусьцілі, і я пераехаў на яго ніжнія нары. Кармілі ў ІЧУ дрэннай сталоўскай ежай, супрацоўнікі размаўлялі пераважна матам, а да смуроду ад парашы пачаў ужо прывыкаць. З акна ў камэры быў відаць кавалачак неба, прыватнага сэктару і шматпавярховік. Аднойчы атрымалася ўбачыць дзьвюх жанчын, якія праходзілі па дарозе.

У ноч на нядзелю на месца, якое вызвалілася ў камэры, падсялілі дзеда гадоў за 60. Зь ягоных словаў, дачка „здала“. Такім поўным камплектам мы дажылі да вечара нядзелі 8 лістапада. Тады выпусьцілі спачатку гэтага дзеда, а потым усіх „алькаголікаў“ — яны, напэўна, не такія небясьпечныя для грамадзтва, як палітычныя. Засталіся мы ўдвох з Максімам Арцішэўскім. Яму ў выніку прэзэнтавалі іншы пратакол — за непадпарадкаваньне.

Ноччу або раніцай — да пад'ёму заставалася пара гадзін — у камэру засялілі яшчэ восем чалавек з апошняга маршу. Сярод іх быў Аляксей

Кірэеў, яшчэ двое мужчын за 50, Вадзім з тытанавым пратэзам у назе; 20-гадовы Арцём, які адслужыў нядаўна на мяжы; падобны да Ісуса Саша; сумны чалавек зь нямецкім прозьвішчам і Віця-дальнабойнік, які праслужыў 15 гадоў у ДАІ. Пазнаёміліся ўжо раніцай. Даведаліся ад іх, што пратэсты зусім ня зьдзьмуліся, а ў ЗША перамог Байдэн.

У чалавека зь нямецкім прозьвішчам на волі засталіся 9-месячны сын і жонка. Гэты мужчына пастаянна казаў, што выходзіць на вуліцу ня трэба, што сярод нас ёсьць падсадны. Ён быў такі адзін. Астатнія так і струменілі аптымізмам, нягледзячы на пабоі і, уласна, само знаходжаньне ў ІЧУ. Двух з сукамэрнікаў перавялі ў суседнюю кельлю, і мы нейкі час былі ўвасьмёх.

У панядзелак 9 лістапада пачаліся „суды“. Усім маім сукамэрнікам, акрамя Арцішэўскага, далі па 15 сутак. Калі мяне павялі перад абедам на другі паверх „судзіцца“, у адной з суседніх камэр у „кармушку“ выглядвала Насьця. Ад гэтага стала цяплей — ад таго, што яна побач. У калідоры на другім паверсе людзей заводзілі ў кабінэты, дзе і адбываліся „суды“ праз скайп, разьмяркоўвалі паводле сьпісаў міліцыянты. З адным зь іх пагутарыў і даведаўся, што Насьцю будуць „судзіць“ пасьля абеду. А другі расказаў, што ў нядзелю ў Менску затрымалі звыш 1200 чалавек — я памятаў, што раней такіх лічбаў пасьля маршаў не было, максымум 500-600.

Урэшце высьветлілася, што ў мяне ёсьць адвакат, які вывучае маю справу. Таму мяне вярнулі назад у камэру. Ужо пасьля абеду вывелі зноў. Ахоўнік яшчэ чамусьці спытаў, ці не зь Целяханаў

я. Думаў, напэўна, што знаёмы ці сваяк. Яшчэ спытаў, чаго мяне другі раз вядуць. Калі даведаўся, што ёсьць адвакат, сказаў, што дакладна тады 15 сутак дадуць.

Убачыліся ў калідоры з Насьцяй, расказаў ёй, што ў нас у камэры вошы — нядаўна іх выявілі. У кабінэце праз скайп пагаварылі з адвакатам. Ён сказаў, хто яго наняў, паказаў, што ёсьць памылкі ў пратаколе — адзін з панятых зьяўляецца супрацоўнікам міліцыі. Сьведкі, на яго думку, былі выдуманыя. Я яму сказаў, што прызнаю віну — спадзяваўся на штраф за вершыкі ў двары. Сказаў, што мне вельмі трэба перадаць у камэру акуляры — калі дадуць суткі за вершыкі ў двары. Увесь час размовы з адвакатам у гэтым жа кабінэце стаяў і падслухоўваў міліцыянт.

Пачаўся „суд“, і „судзьдзі“ Фёдаравай я выклаў усё, што адбылося — як увечары 6.11 выступаў перад публікай колькасьцю прыкладна 20 асобаў, у тым ліку сабак і дзяцей, як затрымалі мяне каля 20:30, а не ў 21:45, як пазначана ў пратаколе, і іншае. Сказаў, што прызнаю тое, што парушыў заканадаўства аб масавых мерапрыемствах шляхам чытаньня вершаў. Пасьля з калідору паклікалі „сьведку“, які прадставіўся ўчастковым Мікітам Бельскім і пераказаў „судзьдзі“ пратакол, паказаўшы, што ён мяне затрымліваў. На пытаньне „судзьдзі“, ці чытаў я вершы, ён адказаць ня змог. Задаць яму пытаньні мне і адвакату не далі — „судзьдзя“ адразу ж пасьля „паказаньняў“ участковага сышла недзе хвіліны на тры і вярнулася з пастановай, зачытала мне мае 15 сутак, я пажадаў ёй посьпеху. Пасьля пачуў нейкі бадзёры вокліч з залі суду і крыкнуў у адказ, у выніку малады пра-

ваахоўнік за плечы адвёў мяне з кабінэта. Пасьпеў сказаць толькі Насьці, якая сядзела побач, што мне 15 сутак. Як высьветлілася пазьней, у маёй пастанове напісана, што віны я не прызнаў. Ды і халера зь імі.

Ужо атрымаўшы ў плечы свае суткі, мы пераначавалі, душачы там-сям пэрыядычна вошай, а днём у аўторак 10 лістапада пачаўся рух — нас вывелі ў калідор з рэчамі і паставілі каля сьцяны. Пахла пераводам у ЦІП. Аднак празь нейкі час, пад мацюкі ахоўнікаў, завялі назад у камэру. Празь некаторы час зноў вывелі. У паветры ўжо адчувалася накіраваньне ў Жодзіна. Я ведаў, што Насьця засталася тут, але ня ведаў, колькі ёй далі. Перад спускам на першы паверх удалося пагаварыць праз „кармушку“ — ёй таксама дасталася 15 сутак.

Падганяў да выхаду нас супрацоўнік амону ў балаклаве. Я спытаў у мясцовага міліцыянта, куды едзем. Той сказаў — у Жодзіна. Нас, 20 чалавек, пагрузілі ў зялёны „аўтазак“, які папраўдзе завецца прыкладна як „машына для перавозкі асабовага складу“. На прыступках гэтага МАЗа ляжаў бел-чырвона-белы сьцяг.

Да Жодзіна ехалі моўчкі. Адзін раз нехта засьмяяўся — калі машына дзесьці на дарозе пасыгналіла нам „Жыве Беларусь!“. Амонавец толькі спытаў: „Што, сьмешна табе?“ Калі прыехалі ў Жодзіна, адчынілі дзьверы — з машыны павалiла пара, як з лазьні. Вось пакуль мы стаялі каля ІЧУ і чакалі прыёмкі, пачала працаваць „дыялёгавая пляцоўка“ — адзін з амонаўцаў вырашыў пагутарыць. Да гэтага хтосьці зь іх глядзеў нейкага блогера, які апавядаў аб пратэстах у Польшчы,

а таксама відэа зь дзяржаўнай ТВ. На пад’езьдзе яшчэ яны перабралі нашы асабістыя справы — у машыне апынуліся дзесьцi трое раней судзімых (328, атрыманьне і дача хабару, і быццам нявыплата падаткаў), а таксама некалькі „гоншчыкаў“ — людзей зь дзясяткамі парушэньняў 18.13 КаАП — чамусьці адзін амонавец пацяшаўся менавіта зь іх, калі прагугліў, што гэта за артыкул. Іншы пачаў абараняць. Так неяк і пачалася размова.

Высьветлілася, што нашы канваіры зусім ня жорсткія і таксама асуджаюць гвалт, кажучы пра сваіх залішне агрэсіўных калег „і ў добрай сям’і вырадак бывае“. У гісторыі пра тысячы пабітых яны ня вераць; ня вераць у тое, як мясцовыя жодзінскія турэмнікі выцягвалі людзей з амонаўскіх „калідораў“ дубінак. Шмат гаварылі пра Ціханоўскую і Нехта, але спадары асуджаныя ім патлумачылі, што гэтыя пэрсоны для іх не аўтарытэты, а выходзяць яны за новыя выбары і супраць гвалту. Віця-дальнабойнік ад імя калектыўнага несьвядомага заявіў людзям у балаклавах, што, можа быць, нічога б і не было, калі б замест 80% намалявалі 60% і нікога ў сінь ня білі.

Перад тым, як нас вывесьці, адзін з амонаўцаў, гледзячы на разасланы бел-чырвона-белы сьцяг, сказаў свайму калегу: „Вось чырвоная дарожка. У сьветлую будучыню“. Яны пасьмяяліся.

Гаварылі мы і пра сьцягі таксама, пераканалі былі амонаўцаў прыбраць сьцяг з прыступак — старшы іхны сказаў, што мы сваёй дыскусіяй паставілі іх „у бязвыхаднае становішча“. Але ў выніку, калі выходзілі з аўтазака, сьцяг усё ж такі не прыбралі, а прымушалі людзей наступаць.

Прымаў нас Міша Балаклава — хлопец у шапцы і шаліку да вачэй. Казалі, што ён вельмі хоча трапіць у амон. Міша пытаўся, чаму ў польскай арміі нас не навучылі шыхтавацца і ўсякае такое трызьненьне. Запомніўся тым, што ў адказ на словы аднаго з мужчын пра тое, што ён быў у кантакце з каранавірусным, сказаў, што зараз ударыць па пячонцы і каб больш такога не было. У аглядным кабінэце на падлозе зноў былі сьцягі.

Пасьля ўсіх займальных працэдур нас засялілі ў 32-ю камэру, дзе на голых мэталічных нарах ужо ляжалі 10 чалавек. Усяго нас аказалася роўна 20. Пералічваць усіх ня буду, але кампанія аказалася пярэстая. У тым ліку выкладчык БДУ, рамесьнік, былы вайсковец, інструктар кіраваньня, крышнаіт, студэнты і гэтак далей. На патрабаваньне Аляксея Кірэева („Давай вату!!!“) выдалі матрацы, пасьцельную бялізну і ручнікі. Матрацы былі новенькія, сіненькія, як бясхмарнае беларускае неба.

Вясёлай кампаніяй мы праседзелі ў Жодзіне з 10 па 14 лістапада. У пачатку адседкі ў госьці нават заходзіў нейкі маёр у суправаджэньні Мішы Бабыклавы. Акрамя гэтага, высьветлілася, што ў камэру мы з сабой прывезьлі адзежных вошай з Акрэсьціна. Паведамілі пра гэта ахоўнікам.

Фэльчара мы прасілі разоў дзесяць, яго абяцалі, але ніхто не прыйшоў. Таму чалавек з тэмпэратурай ціхутка ляжаў у куце, а чалавек з пратэзам сустава паціху кульгаў па камэры.

Перадачы пачалі насіць у сераду ноччу. Я атрымаў торбу, падпісаную бацькавым почыркам. Там, праўда, адсутнічалі названыя ў сьпісе 300 цыгарэт — як высьветлілася пазьней, 15 пачкаў Sobranie спатрэбіліся камусьці іншаму. Затое,

дзякуй Богу, прыйшлі акуляры і я на шосты дзень усё ж зьняў аднаразовыя лінзы.

Ноччу ў камэры адбылася бяседа, а цыгарэты (НЗ дзясятка) зайшлі зь іншымі перадачамі — былі чамусьці нават у тых, хто ня курыць.

Курыць пры ўсім пры гэтым было як бы нельга — на сьцяне вісела непадпісаная паперка, дзе нейкі маёр Лагун расьпісаў правілы і распарадак дня, які не выконваўся нават лямпамі ў камэры — тыя ніколі не выключаліся.

Аднойчы, унюхаўшы пах дыму, ахоўнік адчыніў нашу „кармушку“, дастаў пярцовы балёнчык і спытаў, ці ведаем мы, што гэта такое. Падумалася, што выхваляецца, напэўна. Але ён прыгразіў, што распыліць нам у камэру газ, калі такое паўторыцца. Назаўтра быццам ён жа даваў прыкурыць праз „кармушку“.

Што яшчэ пра Жодзіна... У камэры над ракавінай было люстэрка — можна было палюбавацца сабой упершыню з моманту затрыманьня. Вада была толькі халодная. Параша не сьмярдзела, ды і заткнуць яе можна было вялікай бутэлькай. Дзьверцаў у яе, як на Акрэсьціна, не было. Сьвятло, паўтаруся, не выключалася, але пад вечар сілай думкі адну зь лямпаў дзённага сьвятла нам атрымлівалася пагасіць. Ага, запалкі ёсьць у кожнай камэры, трэба толькі ўмець іх шукаць.

Пад бесьперапынныя размовы мы дасядзелі да 14 лістапада. Да гэтага дня тым, каго судзілі ў Жодзіне (усім прапісалі менш за 15 сутак), выдалі копіі пастаноў суду. Да гэтага дня мы пасьпелі адправіць лісты — мае ў канвэртах першай клясы дайшлі бацькам у Салігорск праз 10 дзён.

Удзень 14-га назвалі прозьвішчы тых, каму трэба сабраць рэчы і чакаць — такіх была палова камэры. З рэчамі нас вывелі ў калідор, дзе стаяў сярод іншых і Павал Аракелян.

Пашыхтавалі, прагналі праз тунэлі і зьмясьцілі ўжо ў клясычны аўтазак — мне дастаўся аднамясцовы „стакан“. Усяго ў машыне было 16 чалавек плюс ахова. З размоваў рыцараў ордэну фуражканосцаў было зразумела, што аўтазакаў з палітычнымі каля 10, толькі наш на 16 асобаў, а астатнія разьлічаны на 20. Везьлі прыкладна каля 180 мужчын і 30 жанчын. Ехалі з суправаджэньнем ДАІ. Спыніліся толькі раз — хтосьці, пэўна, ня мог стрымаць струменю.

Везьлі нас байцы ўнутраных войскаў. Стоячы, праз маленькую дзірку я бачыў вуліцу праз закратаваную шыбу дзьвярэй. Побач сядзеў вэвэшнік з цалкам адкрытым тварам. Ён падняў на мяне моўчкі вочы разы тры, а пасьля надзеў маску. Але мне яго твар быў абыякавы — я глядзеў на вуліцу, дзе ляжаў першы сьнег. Байцы з намі не размаўлялі. І мы ня ведалі, куды едзем.

Праз працяглы час заўважыў, што заехалі ў горад. Зразумеў, што гэта Магілёў, — разгледзеў рэгіён на нумарах машын. Прыбылі да ІЧУ, дзе доўга стаялі — відавочна, разгружалі астатніх. Пра тое, што ў Магілёве нешта ня так, стала зразумела адразу — калі ніхто чамусьці не лаяўся матам, а вайскоўцы ўнутраных войскаў пачалі вышукваць зялёны парасон і партманэт, якія былі ў кагосьці ў асабістых рэчах.

Доўга мы стаялі ў калідоры ІЧУ, чакаючы сваёй чаргі на засяленьне. Пасьля пeратрусу, які быў самым пільным з пачатку адседкі, прыйшоў маёр

і спытаў, хто сядзеў у 32-й камэры ў Жодзіне. Аказалася, што клапатлівыя ахоўнікі пазначылі недзе, што ў нас вошы. Таму ў Магілёве 8 чалавек з 32-й (астатнія зьехалі ў магілёўскую турму, а не ў ІЧУ) засялілі ў адну 10-мясцовую камэру.

Ня памятаю, ці пасьпелі мы павячэраць. Але пасьпелі прачытаць у распарадку на дзьвярах, што курыць можна раз на дзьве гадзіны. І ўзрадаваліся.

У камэры была і гарачая, і халодная вада; выкладзеная пліткай параша мела плястыкавыя дзьверцы. Люстэрка не было, праз замазаныя нібыта мылам вокны нічога не відаць. Выдалі чыстую белую бялізну. Аднак матрацы і падушкі бачылі многае, вядома. Матрацы трэба было зьбіваць, ірваць унутры іх напаўняльнік, каб спаць нармальна, а не на камяках ваты.

Даведаліся ў ахоўнікаў, што ў сераду магчымая лазьня, а ў чацьвер павінны прынесьці перадачы. Нагадаю, прывезьлі нас у суботу, 14 лістапада. І ўсе аказаліся такімі выхаванымі, што пакінулі свае прадукты ў Жодзіне. Спробы вывезьці з Жодзіна частку сала спыняў сівы мужык, які сядзеў там жа; ён калісьці быў вайскоўцам. Сквапны, напэўна. Затое нехта з сукамэрнікаў вывез амаль усе цыгарэты.

Праз два дні, 16-га, двум нашым імяніньнікам прыйшлі лісты ад валянтэраў, адзін нават атрымаў ліст ад маці. Прыкладна да аўторка мы згуртаваным калектывам жылі, зрэдку душачы там-сям вошай, якія адступалі ў швы адзеньня.

У Магілёве, у адрозьненьне ад Акрэсьціна і Жодзіна, былі ранішнія праверкі — аж паўузводу людзей у пагонах (некаторыя з драўлянымі

малаткамі на доўгіх ручках і зь люстэркамі, як на мытні) заходзіла ў камэру. Там яны пераварочвалі матрацы і стукалі, мабыць, па нарах. Аднак чатыры запалкі ў камэры ўсё ж знайшлі не яны.

У аўторак да нас, вашывых палітычных, падсялілі яшчэ двух — менчукоў з апошняга маршу. Аднаму, студэнту Ігару, далі паводле двух пратаколаў (23.34 і непадпарадкаваньне) 25 сутак, другому, ахоўніку Лёшу, — 15 сутак паводле ўсім вядомага артыкулу. Ад іх даведаліся пра гібель Рамана Бандарэнкі і акцыі памяці.

Неўзабаве высьветлілася, што вышэйшыя сілы забараняюць спаць на матрацах удзень, а гарачая вада была адключаная „з прычыны правядзеньня работ“. Радыё зь „Юністар“ раптам пераключылася на „Культуру“. У душ у сераду нас не звадзілі. Аднак зьдзівілі тым, што звадзілі ў чацьвер! Як было выдатна памыцца ўпершыню за амаль два тыдні! І нават гарачую ваду ў працэсе мыцьця не адключалі! У чацьвер вечарам яшчэ прыйшлі перадачкі, зь якіх нічога ня скралі. Крышнаіту, дзякуй Богу, перадалі ўсялякія арэхі. Бо мяса ж ён ня еў.

У ІЧУ ёсьць бібліятэка, і мы бралі адтуль кніжкі. Мяркуючы па ўсім, спадары ахоўнікі спрабавалі жартаваць, бо першы раз, сярод іншага, прынесьлі нам зборнік апавяданьняў ібэрыйскіх пісьменьнікаў пад назвай нешта накшталт „Крык пеўня ў бухце“.

Дзякуючы мясцовай бібліятэцы прачытаў першы том „Зьнесеных ветрам“. Цікавае чытво, вядома. Такімі дзіўнымі здаюцца выпісаныя там уяўленьні людзей.

Днём у суботу, 21 лістапада, раптам вывелі на шпацыр. Бэтонны дворык, у суседніх былі яшчэ

людзі. Хтосьці добрым баском засьпяваў казацкую песьню „Калі мы былі на вайне...“ Падумаў, што гэта міліцыянт і крыкнуў, што не туды ён пайшоў працаваць, вядома. Хлопцы, праўда, казалі, што гэта з асуджаных хтосьці.

Адзін сукамэрнік тэмпэратурыў, і аднойчы ноччу яму стала кепска — паехаў на „хуткай“. Вярнуўся неўзабаве. Яму зьбілі тэмпэратуру, прапісалі антыбіётыкі, якіх не было ў ІЧУ, і адпусьцілі. На патрабаваньне яму выдавалі флавамэд і кроплі для носу. Забаўляла, што назвы ён не запомніў і пэрыядычна патрабаваў выдаць яму фэнібут. Пасьля паездкі гэтага хлопца на „хуткай“ у мяне паступова зьнік нюх, я перастаў адчуваць смак і без таго прэснай ежы, башка была „мутная“ — як быццам пры паніжаным ціску. У некаторых таварышаў заклала насы.

Увечары 21-га сказалі зьбірацца. На аглядзе зноў разьдзелі дагала. Калі стаяў каля заклепленага напалову вакна з голай натурай і глядзеў на відэакамэру зьверху, пачуў Насьцін голас. Мяркуючы па ўсім, яе ўжо амаль выпусьцілі. Хтосьці тлумачыў ёй, як дайсьці да вакзалу. Я апрануўся ў праінспэктаваныя рэчы, сказаў ахоўнікам побач, што чую голас знаёмы. Адзін адказаў, што так, разам з вашай дзяўчынай выйдзеце.

І мы выйшлі, трымаючыся за рукі.

## „Ці сувымернае пакараньне з тым, што мы зрабілі?“

*Аляксандар Мініч, лекар-анкаўроляг:*

— У пачатку лістапада насупраць 1-й лякарні ў цэнтры Менску затрымалі некалькі дзясяткаў мэдыкаў і мяне ў тым ліку. На судзе загадчык маёй лябараторыі ў РНПЦ Аляксандар Ралевіч сказаў, што я адзіны і спрактыкаваны ляпараскапічны хірург і, калі я буду знаходзіцца ў зьняволеньні, мяне ня будзе кім замяніць. Аднак судзьдзя Настасься Ачалава выпісала мне 13 сутак, на якіх я заразіўся каранавірусам і выпаў з мэдыцыны яшчэ на два тыдні.

Ляпараскапічныя апэрацыі ў нашым аддзяленьні пачалі рабіць гадоў 20 таму. У ляпараскапіі лекар дасягае патрэбнага выніку пры меншым разрэзе, у выніку чалавек хутчэй аднаўляецца. Тэхнічна гэтыя апэрацыі больш складаныя і патрабуюць ад хірургаў адмысловых навыкаў.

Мяне затрымалі ў суботу, а ў панядзелак я павінен быў праводзіць ляпараскапічнае выдаленьне ныркі цяжарнай пацыентцы. З бусіка, пакуль у нас яшчэ не забралі тэлефоны, я патэлефанаваў калегу і папрасіў у выпадку неабходнасьці мяне замяніць. Калега справіўся. Не скажу, што гэта была нейкая супэрскладаная апэрацыя, але ў нас такое рабілі ўпершыню. І, калі б нешта ішло ня так, у мяне было б больш досьведу, каб выйсьці зь нестандартнай сытуацыі.

За 13 дзён я пасьпеў зьмяніць тры адрасы. Пабываў і ў ІЧУ на Акрэсьціна, і ў Магілёве, і ў СІЗА

ў Жодзіне. Нічога жахлівага ў турме са мной не адбывалася.

У камэру на Акрэсьціна мы заехалі групай дактароў: шэсьць чалавек на шэсьць ложкаў. Нам далі матрацы і падушкі. Пасьцельнай бялізны ня выдалі, затое ў кране была гарачая і халодная вада. Пазьней мяне перавялі ў трохмясцовую камэру, і таксама з дактарамі. Жорсткасьці да нас ніхто не праяўляў, але ж трэба было выконваць правілы: днём матрацы павінны быць скручаныя, ляжаць на шконцы нельга, пры выхадзе на калідор стаяць тварам да сьцяны з рукамі за сьпінай.

У Жодзіне я спачатку трапіў у камэру на 8 чалавек. Мужчын тут, праўда, было 14. Потым мяне перасялілі ў больш камфортныя ўмовы: у камэру, дзе нават з маім прыходам заставаліся свабодныя ложкі.

У адрозьненьне ад першай камэры, тут былі ежа, кнігі, горы туалетнай паперы, сродкі гігіены. Для сябе я так і не зразумеў, як у адзін час у адным месцы могуць быць дзьве настолькі розныя камэры. Дарэчы, у Жодзіне кожную раніцу дзьве гадзіны гралі патрыятычныя песьні кшталту „Любімую не аддаюць". Я ставіўся да гэтага спакойна, але многія ўспрымалі гэта як катаваньні.

Усе, з кім я знаходзіўся за кратамі, былі „палітычнымі". У Магілёве, калі зайшоў у камэру, нехта з хлопцаў пажартаваў: „Заўсёды хацеў зь лекарам пасядзець". Тут жа здарыўся адзін кранальны момант. Некалькі мужчын атрымалі лісты ад незнаёмых дзяўчат з Магілёва. Мабыць, тыя даведаліся іх прозьвішчы са сьпісаў арыштаваных і вырашылі перадаць словы падтрымкі.

З усіх супрацоўнікаў, зь якімі мы сутыкаліся, пэрсанал магілёўскай турмы быў самым карэктным. Тут нас упершыню звадзілі ў душ і кожны дзень выводзілі на шпацыр.

У турме я захварэў. Ад каго заразіўся, дакладна ня ведаю. Пяцёра маіх сукамэрнікаў былі прастыўшы. У некалькіх зь іх у нейкі момант прапаў нюх.

Сваякі на ўсялякі выпадак перадалі мне гарачкапаніжальнае. Лекі нам на рукі не аддавалі, таму я прасіў ахоўнікаў прыносіць мне мае ж таблеткі. Дарэчы, у турме ёсьць правіла, што ў камэры аднаму заставацца нельга: ці выходзім усе, ці ніхто. У адзін дзень, калі мяне пачало трэсьці і знаходзіцца на вуліцы мне было б некамфортна, сукамэрнікі таксама адмовіліся ад прагулкі.

Вызваліўся 20 лістапада. ПЦР-тэст паказаў, што ў мяне COVID-19 — і на два тыдні я пайшоў на бальнічны.

На пратэсты выходзяць зусім ня ўсе лекары. У асноўным тыя, хто гатовы гаварыць, — гэта запатрабаваныя прафэсіяналы. Людзі, якія былі на стажы за мяжой, разумеюць, як павінна быць уладкаваная мэдыцына, і хочуць нешта зьмяніць. Я не належу да тых дактароў, якія зь дзяцінства марылі працаваць у мэдыцыне. У 1991-м я канчаў школу. Якраз была перабудова, мы думалі, што неўзабаве зажывём, як за мяжой, а якія прафэсіі там самыя высокааплатныя? Юрысты і лекары. Вучыўся я добра, і бацькі параілі мне ісьці ў мэдычную ВНУ. Тады мы не чакалі, што зноў апынёмся ў Савецкім Саюзе, дзе лекару плаціць ня трэба. Але гэта здарылася, і мы працягнулі так

жыць. А сёлета ў нас упершыню зьявіўся шанец нешта зьмяніць, у тым ліку і ў мэдыцыне.

Так, я падпісаў ліст мэдыкаў супраць гвалту і фальсыфікацыі выбараў. Яго падпісалі некалькі тысяч чалавек. Публікацыю пра гэта зрабіў тэлеграм-канал „Белыя халаты“. Пазьней, мабыць, за гэты подпіс мяне „прапясочылі“ на сайце пра „шалапутных дзяцей айчыны, якія пераабуліся“. Нібыта радзіма нас выхавала, дала нам усё, а мы, злыдні, ёй здрадзілі. Дарэчы, на ўсе свае стажы — а іх былі дзясяткі — ад дзяржавы я не атрымаў ніводнага рубля. У мэдычных колах з гэтага сайту ўсе сьмяяліся і называлі яго дошкай ганару.

Ня думаю, што да лекараў трэба ставіцца неяк інакш, чым да іншых людзей. Мірна выходзіць на вуліцу, каб паказаць сваю нязгоду — гэта наша канстытуцыйнае права. Калі з пункту гледжаньня цяперашняй улады гэта парушэньне закону, добра, мы гатовыя адказаць. Але ўзьнікае пытаньне аб выбары меры пакараньня. Яна вагаецца ад папярэджаньня да максымальных 15 сутак. Ёсьць варыянт прызначыць штраф. Навошта тады ізаляваць ад працы тых, хто служыць на карысьць грамадзтва? Ці сувымерна гэта з тым, што мы зрабілі? Мне здаецца, не.

Атрымаўшы дыплём, я працаваў уролягам. Так здарылася, што ў 2011 годзе ў выніку сур’ёзнай хваробы ў мяне ледзь не загінуў брат. Дзякуючы дапамозе сяброў мы змаглі адправіць яго ў Ізраіль. Мы з мамай паехалі зь ім, каб суправаджаць яго. Ведаючы на добрым узроўні ангельскую, у Ізраілі я пазнаёміўся з калегамі-ўролягамі, якія маюць вялікую практыку ляпараскапічных апэрацый. Цягам чатырох месяцаў знаходжаньня ў

Ізраілі я змог пастажавацца ў ляпараскапічнай уралёгіі ў чатырох клініках. Пазьней, вярнуўшыся ў Беларусь, стаў выкарыстоўваць новыя веды. Пры гэтым працягваў вывучаць асаблівасьці ляпараскапічных апэрацый: стажаваўся ў іншых краінах, у тым ліку і ў Ізраілі.

Не магу сказаць, што я глыбокі патрыёт, але, калі з маім братам здарылася бяда, дадому я вярнуўся з дакладным разуменьнем: я хачу зрабіць мэдыцыну ў Беларусі лепшай. Хоць бы на тым адрэзку, куды дацягнуцца мае рукі. І я рады, што мае калегі і кіраўніцтва мяне ў гэтым падтрымліваюць.

## „«Перагарнуць старонку» не атрымаецца, псыхіка так не працуе“

*Сяргей, лекар-псыхіятар, псыхатэрапэўт:*

— 7 лістапада, калі ў Менску каля 1-й лякарні затрымалі каля 50 мэдработнікаў, я таксама апынуўся ў аўтазаку, а потым на сутках.

Суд прызначыў мне 15 дзён арышту, і я пасьпеў пабываць у ізалятарах на Акрэсьціна, у Жодзіне і Магілёве. Людзі вакол увесь час мяняліся і па-рознаму перажывалі зьняволеньне, але, перш чым гаварыць пра іхныя і мае рэакцыі, пачну з фактараў, якія за кратамі зьяўляюцца траўматагеннымі.

Першае — пачуцьцё неіснаваньня часу і няпэўнасьці. Да суду ты ня ведаеш свайго лёсу і ніхто нічога табе не гаворыць. Да таго ж у цябе няма гадзіньніка. У Жодзіне, напрыклад, дзе сьвятло

ніколі не выключалася, а вакно моцна закратаванае, мы арыентаваліся толькі па сьняданку, абедзе і вячэры. Усё гэта кепска пераносіцца псыхікай і спараджае адчуваньне ўласнага неіснаваньня ў сьвеце. Думкі спыняюцца (ты ня думаеш, што табе трэба кудысьці пайсьці, нешта зрабіць...). Да таго ж табе няма куды сябе падзець, ад гэтага ўзьнікае трывога, зьяўляюцца фантазіі і адчуваньне, што цябе ўсе забудуць. Гэта і ёсьць трывога ўласнага зьнікненьня.

Другое: за кратамі чалавек пазбаўляецца адлюстроўваньня сябе, сваёй ідэнтычнасьці з боку іншых. Што гэта значыць? У працэсе жыцьця, калі мы маем зносіны з рознымі людзьмі, яны сваімі рэакцыямі на нас паказваюць, якія мы (як я выглядаю, як сябе прэзэнтую, што я значу, хто я). У зьняволеньні гэта зьнікае, бо сувязі са значнымі людзьмі разрываюцца. За кратамі месца значных людзей займаюць ахоўнікі, ад якіх ты робісься практычна абсалютна залежным. У выніку ў зьняволенага могуць зьявіцца ўнутраныя сумневы: „Ці сапраўды я добры? Ці сапраўды я чагосьці варты? Можа, я і праўда вінаваты?“

Калі чалавек мае ўстойлівую ідэнтычнасьць (моцны ўнутраны стрыжань, разуменьне, што ён прафэсіянал), то яму лягчэй. Калі ж ён яшчэ не знайшоў сябе, тады ён аказваецца ў вялікай унутранай разгубленасьці. У гэтым выпадку ён можа несьвядома прымаць бок суб'екта, ад якога залежыць, нават калі той відавочна агрэсіўны. Праяўляецца стакгольмскі сындром, калі ахвяра пачынае бачыць сябе саюзьнікам свайго агрэсара або нават бачыць у ім заступніка.

Важна, што зьняволены мае зносіны ня толькі з аховай, але і з сукамэрнікамі. Гэта зьніжае рызыку таго, што ўсё гэта стане для чалавека цяжкай траўматычнай падзеяй, але таксама залежыць ад таго, хто побач. Вельмі важна, каб людзі ў камэры гаварылі пра сваю дзейнасьць, каштоўнасьці, погляды. У маіх камэрах тыя, хто мог так адкрыта і з запалам пра сябе расказаць, захоўвалі сваю вітальнасьць — стан і разуменьне, што, якія б ні былі ўмовы цяпер, я гэта пражыву і працягну займацца сваімі звыклымі справамі; я гэта я і застануся сабой. Тыя ж, хто менш удзельнічаў у размовах, зь цягам часу станавіліся больш закрытымі, дэпрэсіўнымі, часам адмаўляліся ад ежы і ад кантактаў.

Мне пакуль не даводзілася шчыльна размаўляць зь людзьмі, якія ў ІЧУ перажылі гвалт, але відавочна: гэта вельмі траўматычная падзея. Такая сытуацыя расхіствае базавую патрэбу чалавека — патрэбу ў бясьпецы. Далей гэта будзе прадукаваць трывогу. Магчыма, дастаткова моцную: чалавек пачынае баяцца весьці актыўнае жыцьцё ў любой яго форме, бо так ён трапіць у небясьпеку, у стан безабароннасьці і бездапаможнасьці. У выніку ў кагосьці гэта можа выліцца ў трывожнае расстройства (нэўроз) або посттраўматычнае стрэсавае расстройства.

Людзі, якія не падтрымліваюць пратэсту і апынуліся ў аўтазаку выпадкова, напрыклад па дарозе ў краму… Адны зь іх яшчэ больш умацуюць сваю ўпэўненасьць, што тыя, хто выходзіць на маршы, дрэнныя: „Праз вас я таксама пацярпеў“. Другія ўбачаць сытуацыю пад іншым вуглом. Мне здаецца, частка ахоўнікаў, калі глядзяць на

тых, хто трапляе паводле палітычных артыкулаў, пачынаюць мяняцца. Бо відавочна, што ім даводзіцца працаваць зь людзьмі, якія паводзяць сябе спакойна, інтэлігентна і культурна, не праяўляючы прыкмет гвалту; да іх ня трэба ўжываць жорсткіх мэтадаў кантролю.

Колькасьць людзей, якія цяпер зьвяртаюцца да спэцыялістаў, значна павялічылася. Вялікая колькасьць тых, хто ні ў чым ня ўдзельнічаў, — іх турбуе пачуцьцё віны і трывогі. Шмат родных і блізкіх удзельнікаў акцый і самі ўдзельнікі.

У нейкі ступені наша грамадзтва даўно траўмаванае. Не ў палітычным кантэксьце, а ў пляне грамадзкай сьвядомасьці, калі грамадзтва — гэта як жывы арганізм. За XX стагодзьдзе мы перажылі рэвалюцыі, дзьве вайны, рэпрэсіі 1937-га, развал Саюзу. Практычна ніхто з нас нічога з гэтага не прапрацоўваў, як, напрыклад, было ў Нямеччыне з дэнацыфікацыяй. Мая думка: тое, што адбываецца цяпер, — гэта свайго роду сутыкненьне новага і старога, савецкага. Гэта значыць, нагадваюць пра сябе непрапрацаваныя траўмы. Ваенная рыторыка, якая цяпер у нас актыўна трансьлюецца, гэта прыклад траўматычных наступстваў Другой сусьветнай вайны.

Ёсьць і такія, хто працягвае жыць, быццам нічога не адбываецца. У кожнага свая жыцьцёвая прастора. Можна думаць, што ёсьць тыя, у каго яна не перасякаецца з падзеямі, што адбываюцца. Хоць яшчэ Фройд казаў: псыхіка ўяўляе сабой айсбэрг, вялікая частка якога (гэта значыць, несьвядомыя працэсы) пад вадой, і толькі верхавіна — гэта тое, што мы ўсьведамляем. Магчыма, гэтыя людзі

проста пакуль не ўсьведамляюць, што зь імі нешта адбываецца.

Напрыклад, родныя затрыманых перажываюць тыя ж вельмі моцныя пачуцьці, што і тыя, хто быў затрыманы або пацярпеў. Плюс у іх дадаецца вялікі страх страты.

Ёсьць нямала гісторый, калі блізкія затрыманага, якія да арышту яго падтрымлівалі, пасьля пачынаюць вінавaціць. Тут шмат што залежыць ад ступені эмацыйнай залежнасьці адзін ад аднаго. Чым яна большая, тым мацнейшым пасьля будзе пачуцьцё страты, злосьць і абвінавачваньне. Тут добры прыклад — адносіны паміж сынам і бацькам, які пайшоў на фронт і загінуў. З аднаго боку, дзіця любіць бацьку, а з другога злуецца, што той выбраў барацьбу, а не сям'ю. Спатрэбіцца шмат часу, каб дзіця зразумела: тата ня мог іначай. Дарэчы, тут ёсьць і іншы момант. Напрыклад, бацька застаўся дома. Ня факт, што ў будучыні дзіця ў яго не спытае: „Чаму ўсе пайшлі, а ты не? Ты баязьлівец?"

Калі бацькі — прыхільнікі дзейнай улады, выклікаюць міліцыю на дзяцей, якія вешаюць на вокны БЧБ-шторы… Думаю, тут у іх першапачаткова была нейкая канфліктная сытуацыя, у якую ўпляліся новыя, палітычныя дачыненьні. Я абсалютна ўпэўнены, што гэтым бацькам ня ўсё роўна. Але адбываецца дзіўны перакрут: я ў табе маю патрэбу, але, раз ты не са мной, я буду цябе атакаваць. Аднаму з бацькоў важна, каб дзіця было ягоным працягам — такіх самых ідэй, поглядаў, але ў падобных сем'ях дзеці часта, наадварот, імкнуцца адарвацца, каб адчуць сябе індывідуальнымі і асобнымі. У выніку бацька ці

маці ўспрымаюць гэта як атаку, нібыта сын або дачка забірае ў іх сябе.

Ахвяры (тыя, каго білі) і агрэсары (тыя, хто біў) па-рознаму перажываюць падзеі. Ахвяра адчувае боль — эмацыйны, фізычны. Гэты боль прымушае зважаць на тое, што баліць. Калі гэтую траўму прапрацоўваць (што можа заняць не адзін год), то з гэтага стану можна выйсьці безь вялікіх страт. Калі ж чалавек ня мае атачэньня, якое яго прымае, або няма куды зьвярнуцца па дапамогу, то боль ізалюецца ў псыхіцы.

Парадокс у тым, што праз нейкі час гэтая непрапрацаваная псыхічная траўма перадасца дзецям, наступнаму пакаленьню. Напрыклад, ахвяра будзе трансьляваць сыну або дачцэ: „Каб не было балюча, ты павінен сам стаць катам“.

З агрэсарамі ўсё інакш. У нейкі момант яны апынаюцца ў безвыходным становішчы. Калі яны зробяць нешта, каб адчуць боль (ці ўвогуле проста адчуць), гэта значыць, што ім давядзецца сутыкнуцца і з болем іншых людзей, гэта значыць зь незваротным жахам, які ўжо быў учынены. Перанесьці гэта вельмі складана. Таму псыхіка агрэсара працуе на тое, каб да канца заставацца на ранейшых рэйках. Каб ні на крок не пасунуцца да магчымасьці хоць нешта адчуць. Гэта трагедыя для ўсіх.

У выніку гвалтоўныя дзеяньні будуць утойвацца, але дзеці гэтых людзей адчуюць: у сям’і ёсьць нейкая забароненая тэма, пра якую нельга пытацца. Інакш вобраз добрага бацькі, якім дзіця яго ўяўляе, можа стаць не такім добрым. Усё гэта прыводзіць дзяцей да няздольнасьці жыць шчыра. Ня думаю, што такія хлопцы пойдуць па сьлядах

бацькоў, хоць і гэта ня выключана. Хутчэй, зь іх вырастуць людзі, якім спатрэбіцца шмат часу, каб зразумець сябе. Магчыма, яны так і ня змогуць гэтага зрабіць.

Ёсьць вострыя рэакцыі, якія праяўляюцца ў першыя гадзіны і дні. Яны характарызуюцца моцнымі эмоцыямі — лютасьцю, злосьцю, моцнай трывогай. Чалавек можа ня спаць, знаходзіцца ў здранцьвеньні.

Ёсьць адтэрмінаваныя рэакцыі, гэта тое, што называецца посттраўматычным стрэсавым расстройствам. Яны могуць праяўляцца праз месяцы, паўгода. У чалавека можа паступова разьвівацца дэпрэсіўны стан, парушаецца сон. Калі, напрыклад, былі больш актыўныя падзеі, зьвязаныя з затрыманьнямі, чалавек мог, выкажам здагадку, ехаць міма ГЦ „Рыга“ ці мэтро „Пушкінская“ і аўтаматычна ўспамінаць: „Тут усё адбывалася“. І яго агортвала трывога або злосьць, або ўнутранае эмацыйнае здранцьвеньне. Усё гэта ў значнай ступені памяншае здольнасьць чалавека падтрымліваць стасункі, любіць і працаваць. Ён становіцца раздражняльным, зьяўляюцца праблемы ў блізкіх стасунках, у сям’і. Часам, дарэчы, чалавек нават сьвядома ня зьвязвае ўсё гэта з тым траўматычным досьведам, які ў яго ёсьць.

У далейшым на ўзроўні цела гэта можа прыводзіць да хвароб, павышэньня рызыкі суіцыдаў, злоўжываньня алькаголем, гвалту ў сям’і і адзін над адным.

Калі праходзіць нямала часу, а чалавек застаецца спакойным, значыць, у яго не сфармавалася посттраўматычнага стрэсавага расстройства. Псыхіка — дзіўная сыстэма. Яна імкнецца да

аднаўленьня, як рана да загойваньня. Пагадзіцеся, адзін чалавек паглядзіць фільм жахаў — і тыдзень ня зможа спаць, а другі падумае: „Што тут страшнага?“

У кожнага сваё ўспрыманьне. Плюс яно залежыць ад ступені сьвядомай уцягнутасьці: чым яна большая, тым ніжэйшая рызыка посттраўматычнага стрэсавага расстройства. Тыя, хто сьвядома сутыкаецца з чымсьці і гэта пражывае (калі актыўнасьць чалавека напоўненая энэргіяй яго сапраўдных перакананьняў і каштоўнасьцяў), лягчэй пераносяць тое, што адбываецца, чым тыя, хто, напрыклад, проста сочыць за навінамі ў тэлеграме. З агаворкай толькі, калі гэта не масіўная траўматычная падзея, зьвязаная з гвалтам. У гэтым выпадку закранае ўсіх.

Варта таксама ўлічваць, што турбулентнасьць працягваецца, а значыць, мы працягваем жыць з пачуцьцём эмацыйнай мабілізацыі. Пакуль гэта адбываецца, посттраўматычныя наступствы могуць не адчувацца. Часта бывае так, што, калі чалавек едзе ў бясьпечнае месца ці ўсё сканчаецца і, здавалася б, можна выдыхнуць, пачынаюцца псыхалягічныя або псыхічныя праблемы.

Пасьля траўматычных падзей толькі трэцяе пакаленьне можа быць больш-менш свабодным ад гэтага траўматычнага досьведу. Гэта значыць, вашы ўнукі.

Страх пры зьяўленьні міліцыі хутка ня пройдзе. Ёсьць прыказка: апёкся на малацэ, дзьмеш на ваду. Тое ж і з асаблівасьцю траўматычных перажываньняў. Пры траўме, нават калі чалавек быў проста сьведкам, псыхіка выразна вылоўлівае прыкметы таго, адкуль можа ісьці небясьпека. Сто-

ячы на прыпынку, мы яшчэ доўга будзем узірацца: што гэта — маршрутка або бусік. Думаю, гэта інстынктыўная здольнасьць чалавека, якая дазваляе яму выжываць.

„Перагарнуць старонку“ не атрымаецца, псыхіка так не працуе. Да лекара, па віне якога адбылася трагедыя, наўрад ці будзе чарга на прыём. Каб стаўленьне памянялася, яму давядзецца адкрыта расказаць пра здарэньне. А потым зноўку даказаць свой прафэсіяналізм. Перайменаваньне міліцыі ў паліцыю, як гэта адбылося ў Расеі, стаўленьня да супрацоўнікаў не зьмяніла.

Ці ёсьць ува ўсіх гэтых падзеях нешта добрае для псыхікі? Часта кажуць, што беларусы ўбачылі адзін аднаго. Мы ўбачылі аднадумцаў, а таксама тых, хто думае інакш. І нам трэба навучыцца быць разам, нават калі мы думаем па-рознаму. Без таго, каб зьнішчаць. Гэта першае.

Другое: нам трэба навучыцца журыцца і смуткаваць. Гэта вельмі важна, бо той, хто добра журыцца, добра радуецца. Працэсы смуткаваньня спрыяюць разьвіцьцю. Калі ты тужыш па нечым каштоўным, што адышло, страчана або закончылася, яно застаецца ў табе як досьвед, зь якім ты ідзеш далей.

## „У яго былі белыя вырачаныя вочы“

*Анатоль:*

— Па Багдановіча праехалі бусы, разьвярнуліся і перакрылі вуліцу. Нам варта было бегчы ім насустрач і сыходзіць у двары: пакуль калёна

ня спыніцца, сілавікі з машын не выбягаюць. А мы забеглі ў тупіковы двор побач з вайсковым шпіталём.

Тут на мяне нясецца зь вялікай хуткасьцю двухмэтровы амбал-сілавік; падбягае, і я бачу, што ягоныя вочы поўныя страху. І ён мне напаўголасу кажа: „Ідзі адсюль, ідзі!“ — і адыходзіць ад мяне. А куды ісьці? Я потым ужо, задняй думкай зразумеў, што трэба было проста спакойна ісьці скрозь іх. Пяцьдзясят на пяцьдзясят, выйшаў бы ці не. А тое, што я схаваўся за дрэва, мне не дапамагло.

З буса перакінулі ў МАЗ для перавозкі сілавікоў — тое, што памылкова называюць аўтазакамі. У нашым „стакане“ нейкі хлапчук папрасіўся ў кут і там адціраў фарбу, якой яго пазначылі.

Усе іхныя размовы суправаджаліся матам-пераматам, а яшчэ яны называлі нас алоўкамі: „Там столькі алоўкаў“. У мяне брат служыў на мяжы і казаў, што там таксама так называлі затрыманых.

Нас прывезьлі ў Савецкае РУУС і паставілі ў двары ўздоўж плоту. Вось, праўда, крыўдна: яшчэ 15 хвілін таму ты проста ішоў па вуліцы, нічога не парушаў — а цяпер стаіш з задранымі рукамі. Добра, калі б затрымалі на маршы, — ну і халера зь ім. А тут проста так.

Побач стаяў мужык з рукамі, сьцягнутымі плястыкавай сьцяжкай. Яму сьцяжку разрэзалі толькі гадзіны праз тры, — у яго былі ня рукі, а два сінія пяльмені.

Празь дзьве гадзіны выклікалі да нейкага опэра ці сьледчага, ня ведаю. Спачатку здалося, што ён нармальны, але толькі здалося. Гэты опэр правёў апытаньне і склаў пратакол. Даў мне

расьпісацца і сказаў: „Прачытай і расьпішыся, усё роўна гэта ні на што не ўплывае“.

Сілавікі рэальна марадзёрствуюць. Адбіраюць рэчы, і потым пра тое, што ў цябе там было, — грошы, каштоўнасьці — забудзься, усё забяруць. Адзінае, тэлефонаў не бяруць, за гэта могуць заляцець за крадзёж. А ўсё, што пры затрыманьні не апішуць, — разьвітайся.

Я ў сілавіка спытаў, чаму ён на мяне раве матам, але ён зусім шалёны быў, у яго вочы нейкія белыя, вырачаныя.

Хлопцы, што стаялі і нас ахоўвалі, яны сапраўды кончаныя. Вельмі грэбліва ставіліся да тых, хто гаварыў па-беларуску, а самі пры гэтым перагаворваліся на страшнай трасянцы, з характэрным гэканьем.

Дзесьці ў гадзіну ночы па нас прыехаў аўтазак-мікрааўтобус. Гэта значыць, звычайны мікрык, але ўнутры сапраўдныя „стаканы“. Ні сядзець, ні стаяць — напхалі, як селядцоў, — і павезьлі на Акрэсьціна. Кіроўца гэтага мікрааўтобуса сказаў, што, калі пад'яжджаў, вельмі хацеў нас „падбрыць“ люстэркам — праехаць паўз усіх нас і зачапіць. Ну вось табе што, задавальненьне ад гэтага?

У ІЧУ на Акрэсьціна паўпаверха адгароджана пад суд. Ахоўнік цябе прыводзіць і перадае пад подпіс камусьці іншаму, і той вядзе цябе на суд. І вось ахоўнік мяне перадае таму самаму опэру, ці як яго там, з Савецкага РУУС, і той мяне вядзе на суд! Суд быў вочны, не праз скайп.

Мяне судзіў судзьдзя Воўк. Ён шалёны, чапляецца да ўсякай бздуры. Мне прыгадалі ўсе мае адміністрацыйкі за перавышэньне хуткасьці — гэта, натуральна, выступіла абцяжлівай акалічнасьцю.

У гэтай краіне, калі ты перавысіў хуткасьць на пару кілямэтраў, будзь гатовы да таго, што адказваць за гэта будзеш да канца жыцьця.

І тут аказалася, што маім сьведкам выступае гэты ж опэр з пастарунку. Ён мне скамандаваў: „Тварам да сьцяны, рукі за сьпіну“ — а сам пачаў даваць паказаньні. Ён не хаваўся пад балаклавай, але быў у масцы і дзіўнай кепачцы. Назваў сваё імя: Бельскі Мікіта Аляксандравіч. Але я чуў, што на судзе гэтыя імя-прозьвішча вельмі папулярныя ў сьведак.

І вось ён пачаў гарадзіць такую хлусьню, што аж вушы вялі. Нібыта асабіста ён і мяне затрымаў, і яшчэ 60 чалавек… Судзьдзю ўсё абыякава, ён ня стаў мяне слухаць. Адышоў на вынясеньне пастановы, праз паўхвіліны вярнуўся: 15 сутак, „свободен“.

На зваротным шляху я Мікіту Аляксандравічу выказаў усё, што пра яго думаю. Прычым, па-мойму, ён рэальна быў у паніцы. Не скажу, што ён спалохаўся, але запанікаваў. Калі ён мяне здаваў ахоўніку і расьпісваўся ў журнале, я спытаў: „Мікіта Аляксандравіч, гэта вас мама так хлусіць навучыла?“

Ён не знайшоўся, што адказаць. Побач быў яшчэ нейкі ахоўнік, адказаў замест яго: „А вы ведалі, куды ішлі“. Ну вось куды я ішоў? Ты наогул там быў, ты бачыў, куды я ішоў? А Бельскі расьпісваецца, і ў яго дзіка трымцяць рукі. Я кажу яму: „А ручкі чаго трасуцца? Усё ж такі сорамна хлусіць?“ — „Мне сорамна, што вы, дэбілы, ходзіце па вуліцы“. — „Гэтыя дэбілы табе заробак плацяць“.

Ён павінен мяне перадаць ахоўніку, я стаю каля сьцяны, а ў Бельскага нейкая мітусьня пачалася.

Нехта крычыць пра мяне: „А гэта чый? Што ён тут робіць?“ — а Бельскі па калідоры нейкія незразумелыя рухі вырабляе, туды-сюды бегае. Мне рэальна сьмешна было: я яму сказаў усяго пару слоў — а ён у такой паніцы.

Назаўтра пагрузілі ў міліцэйскі МАЗ і павезьлі ў Жодзіна.

Нас дваццаць чалавек і іх чацьвёра. Адзін старэйшы і трое салапетаў; усе ў чорнай форме і балаклавах. Гэтыя ахоўнікі ўсю дарогу ў тэлефонах сваіх праседзелі. Адзін зь іх тэлефанаваў дадому, казаў: „Ага, зайду ў краму, малака куплю, хлеба куплю“. Ну проста звычайныя людзі, са звычайнымі патрэбамі.

Прычым я зьвярнуў увагу, што да людзей, якія маюць нейкае дачыненьне да крымінальнага сьвету (напрыклад, па наколках апазнаюць), яны лепш ставяцца, чым да нас. Здаецца, што, калі б ня служба ў міліцыі, яны б самі сядзелі, іх проста прэ ад гэтай турэмнай рамантыкі. У аднаго хлопца была пячатка, і ахоўнікі ўсё спрабавалі ў яго высьветліць, сядзеў ён ці не сядзеў, а той ім не адказваў. Тады яны ўзялі нашы асабістыя справы і пачалі шукаць зэкаў: яны ж упэўнены, што мы ўсе крымінальнікі кончаныя.

Іхны старшы выйшаў, і ім вельмі хацелася пагаварыць.

У іх настолькі прамытыя мазгі, што проста жах. Я ім усё выказаў, пачынаючы з дня выбараў. Расказаў ім, што ўладамі парушана палова Крымінальнага кодэксу, уключаючы артыкул 357, частка 3, за якую прадугледжана, у тым ліку, і сьмяротнае пакараньне. Гэта захоп улады сілавымі мэтадамі з ахвярамі сярод мірнага насельніцтва. „А мы што

парушаем? — кажу. — Закон аб масавых мерапрыемствах сам па сабе супярэчыць Канстытуцыі. Мы нічога не парушаем, мы мірна ходзім“.

У нейкі момант я іх нават троліць пачаў, мне гэта па кайфу стала.

„А вось вы ведаеце артыкул 5.3 КаАП? Пра што ён?“. А яны такія вачыма лыпаюць: „Не, ня ведаем“. „А якога хера вось я, айцішнік, ведаю, а вы, супрацоўнікі міліцыі, ня ведаеце?“. Стаяць, перасмыкаюцца. „Артыкул гэты, — кажу, — называецца «Крайняя неабходнасьць». У выпадку, калі ў людзей няма законных спосабаў адстаяць свае правы — тыя ж самыя масавыя мерапрыемствы — нават пры бягучым заканадаўстве гэтыя дзеяньні не зьяўляюцца парушэньнем“.

Потым яны зьмянілі кружэлку: маўляў, сярод вас жа ходзіць шмат радыкалаў! Я кажу: „Вось перад вамі сядзяць 20 чалавек — вы бачыце хоць аднаго радыкала?“ Яны кажуць: „Ну мы ж ня ведаем, хто вы ёсьць, вось, маўляў, глядзім, шукаем, спрабуем выявіць“. Адзін зь іх кажа: „А вось калі б вы ўзялі, самі б іх злавілі і нам аддалі — а самі б мітынгавалі...“ І хтосьці з нас адказаў: „Вы разумееце, што калі мы цяпер пачнём у натоўпе лавіць радыкалаў, то мы па крыміналцы сядзем? Бо ўсе радыкалы ў натоўпе — гэта вашы ціхары!“ А яны такія: „Ды не, ды што вы, ды ладна вам!“

Была яшчэ такая карціна са сьцягам. Яны ж сьцелюць бел-чырвона-белы сьцяг на падлогу і прымушаюць па ім хадзіць. І мы ў гэты МАЗ таксама грузіліся, ступаючы на сьцяг. І я кажу ім: „Вось вы топчацеся па сьцягу і прымушаеце нас па ім хадзіць. Мне непрыемна. Навошта вы гэта робіце?“ Адзін зь іх адказвае: „Гэта мае погля-

ды, я іх выказваю“. „Ты разумееш, — кажу, — што мужыкі свае погляды так не выказваюць? Гэта наш беларускі нацыянальны сьцяг. Ворагі, калі захопліваюць сьцяг у баі, так са сьцягам ня робяць. А мы ж, здаецца, нават ня ворагі...“ І ён стаіць, зноў вачыма лыпае, яму сказаць няма чаго.

Былі сярод нас, затрыманых, тыя, хто ўжо ня першы раз папаўся. Былі і тыя, каго білі, у тым жа Жодзіне. І вось пытаемся: а навошта было так лупіць затрыманых? „А мы ня бачылі, мы ня ведаем“. Гэта ў іх стандартнае: мы такога ня ведаем. Хтосьці, можа, і біў кагосьці, але мы не пры чым, гэта дакладна ня мы.

Адзін з гэтых сілавікоў сядзеў у куце і ўсё ў свой тэлефон вытарэшчваўся. І ўжо вельмі ён мне нагадаў майго лжэсьведку з суду, Бельскага. Я не магу сьцьвярджаць на 100%, што гэта ён. Але чамусьці я быў упэўнены, што пазнаю яго з тысячы — па словах, па вачах, па голасе. У яго характэрныя бровы, гаворка таксама характэрная. І наўпрост жа не спытаеш — можа прыляцець. І пачаў здалёку: „Навошта нас ля плоту 10 гадзін трымалі? Навошта ў пастарунку білі? Вось у Савецкім РУУС хто-небудзь з вас быў?“ І два амонаўцы глядзяць на гэтага трэцяга, з тэлефонам, чакаючы, што той сам адкажа. Потым назад паварочваюцца да мяне і заяўляюць: „Не, ніхто ня быў!“

Пра бел-чырвона-белы сьцяг нямала гаварылі. Я пытаюся: „Ты хоць ведаеш гісторыю гэтага сьцяга?“ — „Не, — адказвае. — Я ўжо пры новым нарадзіўся“. Гэта значыць, ім нават 25 гадоў няма яшчэ.

Яны элемэнтарна тупыя. Для іх зразумець рэчы лягічна немагчыма. Што ёсьць прыватнае, што ёсьць агульнае, якія прычынна-выніковыя

сувязі — для іх гэта вельмі цяжка. Ім бы проста крычаць, бегчы, біць. Я працягваю: „Калі вы нас хоць крыху як людзей паважаеце, не прымушайце нас таптацца па сьцягу, прыбярыце яго“. Той адказаў: „Вы нам не пакідаеце выбару, я ўжо проста вымушаны прыбраць сьцяг“.

Хрэна! Нічога ён не прыбраў. На словах яны такія героі, а як толькі вяртаецца начальства, дык і ўсё. Звонку паступіла каманда выводзіць нас, сьцяг яны не прыбралі.

У Жодзіне ёсьць такі даволі вядомы Міша-Балаклава — ён якраз нас прымаў. Пакуль нас апісвалі, мы стаялі тварам у сьцяну, і па голасе і інтанацыях я думаў, што гэта нейкі мацак. А там такое дробнае стварэньне, што... Ахова ў турме ня носіць балаклаваў, ён там адзін такі быў. Кажуць, што хоча ў амон трапіць. Нашы прозьвішчы ў сьпісе ён і на трэці дзень ня мог прачытаць.

З намі сядзеў адзін хлапчук. Ён, калі ў камэру трапіў, кажа: „Глядзіце, што ў мяне ёсьць“. Здымае швэдар, пад ім — майка зь дзіркай на ўсе грудзі. Там быў прынт „Пагоні“, і гэты Міша-Балаклава ўзяў яго майку і акуратна вырваў усю „Пагоню“. І гэта ж ня вышыта, а проста намалявана, там ніякіх швоў няма. Што табе вось гэта дало? Ты сябе стаў мацнейшым адчуваць? Разумнейшым? Лепшым? Чаго дамогся?

У Жодзіне абслуга, баландзёры, — гэта ўсё зэкі. Зь імі ў прынцыпе асабліва і не пагаворыш. Акрамя адбітага Мішы-Балаклавы, было некалькі турэмнікаў, якіх фіг зразумееш: нібыта і ня надта жорсткія, але ўсё роўна відаць, што так сабе хлопцы.

Але вось быў адзін хлопец, яму проста павага. І дапамагаць спрабаваў, і прыкурыць хлопцам даваў, час мог сказаць, навіны некаторыя пераказваў. Усе астатнія люта баяцца заходзіць у камэры, а гэты, калі прыносіў перадачы, сьмела ў камэру заходзіў. Прычым пасьля прыезду гэты хлапчук быў першым зь сілавікоў, каго мы ўбачылі з адкрытым тварам. І адзін з нас пытаецца ў яго: „А чаго гэта ўсе ў балаклавах, а вам што, не палажана?“ — „Хто ўсе?“ — „Ну калегі вашыя“. — „Яны мне не калегі“ — адказаў ён.

## „Уключыў рэжым Ніны Багінскай“

*Віктар Фянчук, эколяг:*

— Учора затрымалі добрага сябра, Ваню Багдановіча. І я сам адчуў, што гэта такое, стаяць уночы каля пастарунку. Сёньня зноў суды. Супакойваеш сваякоў і жартуеш, што сядзець нескладана. Ніякай рамантыкі, вядома, у гэтых адседках няма. Але за час сядзеньня з амаль 30 людзьмі, памяняўшы тры папраўчыя ўстановы, я ня ўбачыў ніводнага чалавека, які б ня справіўся са сваімі суткамі. У нейкай ступені сядзельцам нават прасьцей, чым іхным сваякам і сябрам. Жыцьцё вызначанае і цячэ мерна.

Для мяне ўсё пачалося ля стэлы, калі я разгарнуў сьцяг і „ўключыў рэжым Ніны Багінскай“, як потым сказаў адзін мой таварыш. Сьцяг у руках накладвае свой адбітак, і ты перастаеш баяцца і ўцякаць. Ланцуг вэвэшнікаў праглынуў мяне вельмі хутка. І я ўбачыў шырока расплюшчаныя

вочы маладога хлопца, які схапіў мяне за руку, і ў іх была пякельная сумесь адрэналіну і страху. „Я не супраціўляюся. Ты толькі дыхай“, — цяпер гэта здаецца мне дзіўным, але менавіта так я разы тры яму сказаў, пакуль ён вёў мяне, няўмела спрабуючы заламаць мне руку, да свайго камандзіра, у якога на шлеме ззаду была налепка „Псих“.

У аўтазаку я трапіў у „стакан“ з Жэнем з Wargaming і Сашам Міцкевічам, выкладчыкам музычнай школы. Калі Сашу затрымалі, ягоная жонка пайшла добраахвотна за ім да аўтазака, яе таксама пасадзілі кудысьці насупраць, і яна крычала: „Саня, я тут!“ А Саня прасіў амонаўцаў прагнаць яе з аўтазака дамоў, да дзяцей.

Тады я яшчэ ня ведаў, што з Жэнем і Сашам я апынуся ў адной камэры ў Жодзіне, а з Сашам чатыры ночы буду спаць валетам на адной шконцы і прыціскацца да яго як мага шчыльней сьпінай, каб сагрэцца.

Там жа ў аўтазаку студэнт-юрыст Ягор з тарцавога „стакана“ з, мабыць, зламанай галёнкай і ў стане посттраўматычнага шоку, няспынна спрабаваў накіраваць на „праведны шлях“ амонаўцаў, якія суправаджалі нас і не прамовілі ні слова на яго спробы іх разгаварыць. У Савецкім РУУС Ягора паставяць тварам да сьцяны разам з усімі намі. І кожны раз, калі ён, ня маючы сіл стаяць на зламанай назе, будзе апускацца на калені, яго будуць падымаць назад. Потым ён будзе кульгаць праз увесь двор на допыт. І толькі вечарам яму выклічуць „хуткую дапамогу“.

На Акрэсьціна мяне разьмясьцілі аднаго ў карцары. І гэта было дзіўна, таму што астатнія сядзелі там 20 чалавек у камэры на васьмярых.

Вітаньне сонца на адкінутай шконцы карцару (мой ёга-тычэр Roman Romanovich мной бы ганарыўся), мэдытацыя і сілавыя практыкаваньні з адкідным ложкам. Увогуле, усё пачыналася для мяне як круты маўклівы рэтрыт. І нават тое, што судзьдзя па прозьвішчы Воўк даў адразу 15 сутак, не сапсавала маіх адчуваньняў. Пакуль у аўторак вечарам нас ня вывелі ў двор і не адправілі ў Жодзіна.

Па дарозе ў Жодзіна хлопцы радаваліся ў аўтазаку, бо ў Жодзіне, па водгуках, было клясна. Нас жа сустрэлі людзі з рэальна садысцкімі схільнасьцямі — мацюкамі, сядзеньнем на выдуманым зэдліку і высьпяткам за павольнае разьдзяваньне. „Служыў?“ — „Не“ — „Слабак!“ Калі мы нарэшце апынуліся ў камэры, ніхто не наракаў, што нас 16, а ложкаў усяго 8, усе былі рады спакою. Больш жорсткасьці ў нас нідзе не было, але „цёплая“ сустрэча запомнілася надоўга. Іншыя хлопцы потым казалі, што іх прымушалі мыць у душы падлогу бел-чырвона-белымі сьцягамі. У Жодзіне мы атрымалі першыя перадачы, і жыцьцё наладзілася. Усе ўцягнуліся ў рэжым, і дні пацяклі.

Праз чатыры дні нас перамясьцілі ў Магілёў даседжваць 9 дзён. Трэба было вызваляць месца для чаканых затрыманых на чарговым нядзельным маршы. Невялікая камэра на 16 чалавек з высокай вільготнасьцю ад таго, што слаба працуюць батарэі. Празь нейкі час мы пачалі хварэць, і да канца тэрміну перахварэла паўкамэры (некалькі чалавек потым зрабілі аналізы і пацьвердзілі каранавірус). Не дапамаглі штодзённыя прагулкі, якія ўладальнік лягістычнай кампаніі Раман выдатнаператварыў для нас ва ўрокі фізкультуры на сьвежым паветры. На жаль, у Магілёў некаль-

кім людзям перадалі цыгарэты, пачаліся штогадзінныя курэньні, у выніку ад няма чаго рабіць закурылі яшчэ пару чалавек з тых, хто звычайна ня курыць.

Галоўным пытаньнем у Магілёве было „Як мы будзем адсюль выбірацца?“, бо хтосьці быў бяз грошай, хтосьці без тэлефона. Не было і дня, мусіць, каб журналіст Ян, родам з Магілёва, не расказваў пра тое, як ходзяць маршруткі на Менск ці не маляваў бы схему, як ад СІЗА дайсьці да аўтавакзалу. Але гэта аказалася лішнім — першымі на выхадзе нас сустрэлі два хлопцы са словамі „Не хвалюйцеся, мы валянтэры. Назавіце ваша прозьвішча“. Усё аказалася арганізавана і пад кантролем.

## „Міцкевіч, я цябе кахаю!“

*Аляксандар Міцкевіч:*

— Восеньская рамантыка. Калі мне здымалі кайданкі ў аўтазаку, ты стаяла звонку, кайданкі не расшпіляліся, і таму я яшчэ мог папрасіць, каб цябе адпусьцілі. Праз хвіліны дзьве я, седзячы за кратамі, пачуў з суседняга „стакана“: „Саня, я тут!“

Я ведаў, што ты перажывала, калі мяне схапілі, каб унутры аўтазака ня „ўсыпалі“ (затрымалі крыху брутальна) і ішла са мной, але ня думаў, што станеш, як і я, „алоўкам у пэнале“. Засмуціўся, вінаваціў сябе... І тут чую на ўвесь аўтазак: „Міцкевіч, я цябе кахаю!“

На вуліцы ў пастарунку, стоячы ля сьцяны, мы былі на адлегласьці, некалькі чалавек паміж намі.

Хлопцы, якія ехалі са мной у „стакане“, хацелі саступіць сваё месца, каб мы стаялі бліжэй адно да аднаго, ад чыстага сэрца думаючы, што так можна зрабіць, але мы засталіся стаяць на сваіх месцах. Празь пяць хвілін ужо ня проста стаяць, а падняўшы рукі на сьцяну і расставіўшы ногі; рухацца было нельга. Я перажываў, як ты гэта вытрымаеш — холадна, дажджыць, рукі шэрхнуць, мат стаіць, хамяць несупынна...

Празь нейкі час нас сталі апытваць, выводзіць на вопіс рэчаў і г. д. І вось, вярнуўшыся, ты становісься каля мяне. Я магу ціхенька перашэптвацца з табой, дакрануцца да тваёй рукі, трымаючы рукі па-ранейшаму на сьцяне. Проста крыху апусьціўшы руку ўніз.

Пачынаюць выклікаць у аўтазак; я думаю, што цябе выпусьцяць, выходжу і, вярнуўшыся, бачу: там, дзе стаяла ты, засталася бутэлечка з вадой. Ты пакінула яе мне — некалькі глыткоў вады, якія нагадвалі ўсе 15 дзён пра тваё каханьне...

Вось так я стаяў да ночы: перад вачыма твая рука, сьцяна, побач стаіць бутэлечка на 250 мл, і словы, сказаныя ў аўтазаку. За 75 гадзін ты перажыла больш...

Я ня ведаў, што ты сьпіш пад сталом у „хаце“ на чатырох, дзе вас пасялілі 19 чалавек; што ты ня можаш есьці; што вас у дзьве гадзіны ночы павезьлі на суд. Ня ведаў... Думаў, што ты дома, зь дзецьмі... Дзякуй, што ты была побач, што ты заўсёды побач, як Анёл. Я, вядома, не хацеў, каб ты гэта перажыла; ты не хацела, каб я гэта перажыў, але цяпер у нас ёсьць тое, чаго мы абое хацелі — быць побач і на волі. Рамантыка... Такая вось восеньская рамантыка.

## „Усё значна горш, чым ты мог сабе ўявіць“

*Вольга Хіжынкова, журналістка, Міс Беларусь – 2008:*

— Сонечныя дні ў турме былі самымі складанымі. Шэрасьць неяк можна ператрываць, а калі столькі сьвятла... Адразу ўяўляеш сабе, як бацькі выходзяць з хаты, сядаюць на ганак разам з нашым сабакам — старэнькай Мартай — і жмурацца на сонца... Гэта цяжка.

Як толькі ўбачыла вочы блізкіх і пераступіла парог хаты, здалося, быццам скончыўся страшны сон і гэтых 42 дзён зьняволеньня не было. Але яны былі: поўныя самымі рознымі людзьмі, кнігамі і разважаньнямі.

Ці зьмянілася нешта ўва мне пасьля затрыманьня? У галоўным — не. Бо каштоўнасьці, якія я падтрымлівала раніцай 8 лістапада, застаюцца для мяне актуальнымі і сёньня.

Вядома, уявіць загадзя, як ты будзеш паводзіць сябе ў падобных абставінах, немагчыма. Нам уласьціва прыпісваць сабе пэўныя рысы характару і спадзявацца, што, незалежна ад абставін, ты будзеш паводзіць сябе годна. Але папраўдзе абсалютна кожны, я ўпэўнена ў гэтым, можа трапіць у сытуацыю, якая прымусіць адступіцца ад сваіх прынцыпаў.

Мне пашчасьціла — я засталася ім верная.

Каб хаця б паспрабаваць прымусіць чалавека адмовіцца ад сваіх поглядаў, перайсьці на другі бок, яму трэба паказаць нейкі стваральны і паказальны прыклад.

Уявім раптам, што я, апынуўшыся ў ЦІП на Акрэсьціна, на свае вочы ўбачыла, што ўсе нормы ўтрыманьня людзей у турме выконваюцца. Што супрацоўнікі размаўляюць з табой па-чалавечы — я ні ў якім разе не гавару пра нейкае „эксклюзіўнае“ стаўленьне, выключна пра мінімальную этыку.

Дык вось, калі б усё было так, я б, магчыма, засумнявалася: ну ўсё ня так ужо дрэнна... Можа быць, жахі перабольшаныя?

Але ў рэальнасьці ты бачыш, што ўсё значна горш, чым ты мог сабе ўявіць. І гэта толькі ўмацоўвае цябе ў тваіх перакананьнях. Калі мэта — яшчэ мацней настроіць людзей супраць сябе, што ж, гэта слушны шлях.

На маршы я выходзіла раз за разам хутчэй ад таго, што ёсьць нешта большае, чым страх. Я ж якраз восьмага лістапада і не хацела ісьці. Прачнулася, паглядзела ў вакно — было пахмурна — і адчула, што хачу застацца дома. Што сілаў больш няма. Але адкрыла стужку, пачытала навіны... І зразумела, што павінна выйсьці.

Пагатоў давайце ўдумаемся ў саму пастаноўку пытаньня: ці магу я выйсьці з дому, ці не? Яна больш чым дзіўная.

Бо я цалкам адэкватны чалавек, які не зьбіраецца рабіць ніякіх супрацьпраўных дзеяньняў. Дык чаму ж я павінна баяцца прагулкі па сваім горадзе? Няўжо гэта ўсё, да чаго мы прыйшлі за гады сувэрэнітэту?

Да таго, што чалавек, які апынуўся ў цэнтры гораду па нядзелях — парушальнік закону.

І што нам рабіць, калі гэта адзіна магчымы шлях волевыяўленьня ў сытуацыі, калі свабоды і правы

асобы абясцэненыя?.. Іншых варыянтаў выказаць свой пункт гледжаньня не было, а я не магу сябе паважаць, калі маўчу. Я ня маю згоды сама з сабой, калі сяджу як мыш пад венікам.

Калі б я ведала наперад, праз што давядзецца прайсьці, я б зрабіла тое самае. Я была да гэтага гатовая. Неразумна публікаваць фатаздымкі зь нядзельных прагулак у адкрытым доступе і спадзявацца, што з табой гэтага ня здарыцца.

Мне нават пісалі пару разоў: „Оля, некалькі новых падпісчыкаў і твая згадка ў СМІ ня вартыя таго, каб рызыкаваць сваёй бясьпекай“. Але ж я рабіла гэта не дзеля новых падпісчыкаў і згадак у СМІ.

Кожны мой пост, кожны мой выхад быў надзеяй на тое, што мяне пачуе хоць адзін чалавек, ад якога нешта залежыць. Што дзякуючы майму голасу, які гучыць сярод многіх іншых, нешта можа зьмяніцца. Я разумею, што гэта гучыць наіўна, але раптам?.. Прынамсі, я буду ведаць, што зрабіла тое, што ад мяне залежала. Я ж ніколі не заклікала да беспарадкаў — толькі да дыялёгу. Мне няма чаго саромецца і няма пра што шкадаваць.

Напэўна, я шчасьлівы чалавек, бо, знаходзячыся ў турме, зразумела, што на волі ўсё рабіла правільна — прынамсі, паводле маёй шкалы каштоўнасьцяў. Займалася тым, што для мяне сапраўды важна. Была з тымі, каго і праўда люблю.

Адзінае, чым дакарала сябе, — што ў гэтай сытуацыі не падумала пра бацькоў, пра Ваню і пра жывёлаў пад маёй апекай. Мучылася ад таго, што ўсе цяжкасьці, якія мы раней дзялілі на дваіх, зваляцца цяпер на плечы майго мужа.

Хоць, калі шчыра, нават у той момант, калі думала пра гэта, я разумела, што ўсё роўна б не змагла па-іншаму. І што мае блізкія ведаюць гэта.

Ніхто з маіх родных людзей ні ў чым не папракнуў мяне. Бацькі цалкам на маім баку. Кажуць, што трэба трымаць сьпіну і заставацца вернай сваім перакананьням.

Тата, дарэчы, раней не без раздражненьня мог сказаць: „Ну што вы ўсё ходзіце і ходзіце? Навошта ўсё гэта?“. Або так разважаў: „Так, ты, вядома, добрая. Ты нічога дрэннага зрабіць ня можаш. Але адкуль ты ведаеш, што там на другім баку натоўпу? Затрымліваюць толькі тых, хто буяніць“.

Калі мяне арыштавалі, тату давялося сёе-тое пераасэнсаваць. Інакш давялося б прызнаць, што ягоная дачка дэбашырка.

Дарэчы, пра дэбашыра. За больш як месяц адседкі маімі суседкамі ў камэры станавіліся самыя розныя жанчыны. Калейдаскоп лёсаў такі, што пры жаданьні можна выпусьціць зборнік апавяданьняў у духу майго ўлюбёнага Даўлатава.

Першыя два тыдні я знаходзілася ў кампаніі жанчын, якія сядзелі не паводле майго артыкулу. У асноўным іх забралі за расьпіцьцё сьпіртных напояў і задзірлівыя паводзіны ў грамадзкіх месцах. Усе яны былі вельмі дабрадушнымі і бяскрыўднымі людзьмі. Проста ў нейкі момант абставіны аказаліся мацнейшымі за іх.

Мяне асабліва ўразіла Валянціна Ўладзімераўна — усіх, хто старэйшы за мяне, я называла па бацьку.

Валянціна займалася лёгкай атлетыкай, была чэмпіёнкай вобласьці, езьдзіла на міжнародныя спаборніцтвы. Атрымала вышэйшую адукацыю ў

Рызе, працавала ў банкаўскай сфэры, 10 гадоў была юрысконсультам. А потым у яе жыцьці здарыўся нейкі надлом, пачаліся праблемы з алькаголем... Цяпер яна рэгулярна трапляе ў турму. У гэты раз яна ўцякала ад п'янога мужа — так і апынулася на вакзале, адкуль яе забралі. Кажа: „Лёгкая атлетыка мне вельмі спатрэбілася — мой жа ніколі мяне дагнаць ня можа".

Спачатку ў камэры ў яе здарыўся прыступ эпілепсіі, потым — белай гарачкі. Гэта доўжылася пяць дзён. А пасьля яна стала інтэлігентнай, вельмі добрай жанчынай. У яе, дарэчы, ёсьць два сабачкі. Я вельмі за іх перажываю. Думаю, можа, трэба зьезьдзіць туды, праверыць, што зь імі...

Яшчэ адна мая кампаньёнка, якая прывяла з сабой у камэру „хатніх гадаванцаў" (вошай), — Ала Ільлінічна. Некалькі гадоў таму ў яе загінуў муж — няшчасны выпадак: быў зваршчыкам, зваліўся з вышыні. Потым дачка нейкім чынам, я ўжо не разьбіралася ў гэтых сямейных цяжкасьцях, выцесьніла яе з кватэры. І Ала Ільлінічна пачала бадзяцца. Яна курсуе паміж Камароўкай і вакзалам, сьпіць каля цеплатрас — гэта ўсё яе жыцьцё.

У трэцяй маёй суседкі і цёзкі іншы маршрут: дом — праца. Здаецца, цалкам сабе нармальны варыянт. Але пераадолець гэтую адлегласьць для Вольгі — сапраўдны квэст. Бо ў дарозе яе знаходзяць прыгоды. Кажа: „Дакладна памятаю, што ехала на працу, а прачнулася на Акрэсьціна і ў сіняках". Яна пазбаўленая бацькоўскіх правоў — дачка жыве зь сястрой. Сястру мая суседка па камэры лічыць у гэтым вінаватай. Ды ўсе вакол вінаватыя: не разумеюць яе, несправядлівыя да яе, не дапамаглі. А розум у яе працуе, жартуе

вельмі сьмешна! Шкада чалавека. Я кажу: „Воля, трэба проста перастаць піць. Паспрабуй! Ты ўжо 15 дзён пратрымалася“. „Не, — кажа, — я занадта люблю піва, з гэтым нічога нельга зрабіць“.

Гэты сьвет існуе як быццам паралельна нашаму. Мы не заўважаем гэтых людзей у паўсядзённым жыцьці, а яны — нас. Напрыклад, мае сукамэрніцы ня ведалі пра тое, што адбываецца ў краіне. „Як? Проста так забіраюць і садзяць?“. Яны былі шакаваныя і абураныя.

У цэлым мы нядрэнна ладзілі. І я не зусім разумею, якой рэакцыі ад мяне чакалі, калі падсялялі іх да мяне. Што я пачну крычаць: „Ды вы ведаеце, хто я такая?“ і патрабаваць накрухмаленыя прасьціны? Гэта зусім не ў маёй натуры.

Я адразу зразумела, што патрэбны самакантроль і сацыяльная дыстанцыя, інакш гадаванцы неўзабаве зьявяцца і ў мяне. Бясконца мыла рукі і, па магчымасьці, працірала паверхні ў камэры. Як магла, дапамагала суседкам. Дзялілася бялізнай, спрабавала памыць ім галовы. Вельмі хацела апрацаваць іх ад вошай, але нам не перадалі гэтых сродкаў.

Я нашмат больш баялася прыпадобніцца не да маіх суседак у камэры, а да тых, хто прыдумляе такія „выхаваўчыя мэтады“. Спадзяюся, ніякія жыцьцёвыя абставіны ня зробяць мяне чалавекам з такім мысьленьнем.

А што тычыцца гэтых глыбока няшчасных жанчын... Я ж вясковая жыхарка па сутнасьці сваёй. Мяне складана чымсьці спалохаць і шакаваць. Я не тэарэтычна, а на практыцы знаёмая з прадстаўнікамі ўсіх сацыяльных слаёў.

По дарозе ў Жодзіна я пазнаёмілася з ашаламляльнай зладзюжкай. Яна зрабіла на мяне вельмі моцнае ўражаньне: бо першае, што я ўбачыла ў яе руках — пакет з шакалядкамі. Я, як чалавек, у якога з вугляводамі асаблівыя адносіны, адразу зірнула на гэтую жанчыну ўхвальна.

Аказалася, што мая суседка падкрадае — ня тое каб на продаж, а для душы. Напрыклад, дваццаць шакалядак і бляшанку кавы яна ўзяла для сябе. Хацела піцьцём кавы прыемнасьць сабе зрабіць. Самае неймавернае (хоць, з другога боку, чалавек — спэцыяліст усё ж такі): яна прымудрылася гэтыя шакалядкі так прыхаваць, што іх не знайшлі пры аглядзе. Толькі каву забралі, а ўсё гэтае багацьце яна прыцягнула ў камэру. Ела там гэтыя шакалядкі на ўсю моц. Ну і дзялілася, вядома, таксама.

„Мне дрэнна, — кажа. — Я ўжо глядзець на іх не магу. Вось бы супчыку цяпер ці кашы“.

Але самай сьмешнай была яе рэакцыя на прыезд у жодзінскую турму. Акінуўшы яе позіркам, яна рэзюмавала: „Магчыма, тут нас расстраляюць“.

Але ў некаторых сытуацыях пачуцьцё гумару не ратавала. Я чула, як праходзілі судовыя слуханьні, і тры гісторыі запомніліся, напэўна, назаўсёды.

Першая гісторыя — пра мужчыну, які з торцікам у руках ішоў у госьці да сваіх састарэлых бацькоў. Яны на самаізаляцыі сядзелі, засумавалі па сыну. Яму далі суткі — ня памятаю, праўда, колькі.

Другая — пра глухаватага дзядка, які ехаў на выставу прадуктаў пчалярства. Ён увесь час перапытваў, недачуваючы і не разумеючы, у чым яго вінавацяць. І ўсё спрабаваў растлумачыць,

што на лецішчы ў яго пчальнік, расказваў, што для пчальніка гэтага трэба было купіць. Таксама прысудзілі суткі, 12 ці 13.

Трэцяя гісторыя самая невыносная. Мужчына, як ён казаў, ішоў з царквы — некалькі дзён таму ў яго памёр сын. Хацеў памаліцца і паставіць сьвечку. Гэты мужчына назваў прозьвішча сына і нумар лякарні, заклікаў патэлефанаваць і праверыць гэты факт. Ён казаў: „Якое масавае мерапрыемства? Мне да яго справы няма. У мяне ў душы нічога, акрамя болю, не засталося. Я страціў сына. У мяне баліць сэрца“. Я ня бачыла яго твару, але ў голасе было столькі адчаю. Яму далі 15 сутак. У мяне ўсё ўнутры абарвалася. Нават седзячы там, я ўсё роўна ня верыла ў тое, што такое можа быць.

Інфармацыйны голад быў мацнейшы за фізычны. Здаецца, я б абмяняла магчымасьць атрымліваць перадачу на ліст — хоць бы адзін на тыдзень. Магчыма, таму мяне гэтых лістоў пазбавілі цалкам.

Мучыў моцны страх, што дома нешта здарылася, а я пра гэта ня ведаю. У турме я ўпершыню зразумела, што такое панічныя атакі — яны былі зьвязаныя менавіта з думкамі пра бацькоў, жывёлаў і сяброў.

Даведацца пра тое, што адбываецца дома, я не магла, але сякія-такія навіны з жыцьця краіны ўсё ж прыходзілі — ад дзяўчат, якіх да мяне падсаджвалі. Напэўна, самай цяжкай зь іх стала сьмерць Рамана Бандарэнкі.

Я пачала здагадвацца пра тое, што здарылася нешта непапраўнае, калі слухала працэс, які праходзіў у калідоры. Малады чалавек сказаў: „Я знаходзіўся ў горадзе, каб ушанаваць памяць

Рамана“. Я пачала ўспамінаць, як завуць загінулых… Тарайкоўскі быў Аляксандрам. Ды і месца не супадае — хлопец сапраўды гаварыў не пра „Пушкінскую“.

Тады зарадзілася падазрэньне, што адбылося страшнае, што ў нас новая ахвяра. І вечарам таго ж дня да мяне падсялілі дзяўчат, якія ўсё расказалі. Гэта быў страшэнны боль. Але сьледам за ім прыйшло іншае пачуцьцё: ты наогул ні на што не павінна скардзіцца ў гэтай сытуацыі. Ты яшчэ можаш нешта зьмяніць, бо жывая. Проста трэба трымацца і быць моцнай.

Пражываць гэты досьвед мне вельмі дапамагала літаратура. За 42 дні я прачытала раманы Булата Акуджавы „Падарожжа дылетантаў“ і Айн Рэнд „Атлянт расправіў плечы“, перачытала п’есы Чэхава і галоўныя творы Булгакава.

Колькі разоў я чытала Булгакава, а зноў знайшла новае для сябе. Адна сцэна з Понтыем Пілатам у „Майстру і Маргарыце“ чаго вартая. Тая, у якой ён прымае рашэньне, наступствы якога будуць мучыць яго ўсё жыцьцё. Ня ведаю, чаму гэтую кнігу яшчэ не ўключылі ў сьпіс забароненай у турме літаратуры. Магчыма, хтосьці проста не заўважае гэтых паралеляў.

Мяне, напрыклад, проста ўразіла сытуацыя, калі ахоўнікі, убачыўшы ў камэры маю кнігу — „Сабачае сэрца“ — пачалі сьмяяцца: „Ой, ды мы гэта яшчэ ў школе чыталі!“. Ну так, чыталі… Сытуацыя проста трагікамічная.

Але часьцей за ўсё ў турме я ўспамінала кнігу „Сказаць жыцьцю «Так!»“ Віктара Франкла — псыхоляга, які прайшоў праз канцлягер. Я пракручвала ў галаве фрагмэнт пра тое, як у яго ўвесь

час развальвалася тое падабенства абутку, якое Віктар змог для сябе змайстраваць. Ён разумеў, што гэты абутак — нітачка, якая зьвязвае яго з жыцьцём, з чалавечым абліччам. Як толькі ён зьмірыцца з тым, што абутак разваліўся, — памрэ. І вось аднойчы падчас работ Віктар знайшоў у заледзянелай зямлі кавалак дроту, змог пранесьці яго ў барак і схаваць. Ён піша, што, прыціскаючы гэты дрот да сябе, упершыню за доўгі час адчуў сябе шчасьлівым чалавекам. Бо ведаў: зь яго дапамогай ён адрамантуе чаравікі — і жыцьцё працягнецца.

Чалавечыя пакуты за гэтыя дні не абясцэнілі ў маіх вачах пакуты жывёлаў, наадварот. Гэта ўсё так цесна зьвязана. Тое, што чалавек падпарадкаваў сабе ўсё — гэта зло, і я заўсёды пра гэта казала. Карцінка, пасьля якой я перастала есьці мяса, да гэтага часу стаіць перад вачыма. Я ехала кудысьці па МКАД, а перада мной — фура з каровамі, якіх зразумела куды вязуць. Лупцуе дождж, кроплі сьцякаюць па гэтых веях доўгіх... Яны ня ведаюць, што іх чакае.

І вось едзем мы ў аўтазаку — і не належым сабе і сваёй волі, не разумеем, куды нас вязуць і што з намі будзе далей.

Адчуваеце паралель? Справа толькі ў тым, у каго больш сілы. Ён і вырашае, як распарадзіцца вашым лёсам.

Супрацоўнікі турмы розныя. Адзін ахоўнік выкінуў на падлогу булачкі, выпечаныя мамай адной са зьняволеных. Іншы разарваў малюнак з коцікам на сьцяне. Але сярод супрацоўнікаў такіх месцаў ёсьць адэкватныя людзі, якія не выходзяць за рамкі сваіх службовых паўнамоцтваў. Я іх сустра-

кала. Думаю, многія зь іх — проста выканаўцы, якія дзейнічаюць у рамках дазволенага. Яны ведаюць, што катаваць людзей фізычна нельга, але ёсьць маса іншых спосабаў зрабіць балюча, не выходзячы за рамкі прававога поля. А ёсьць і адмысловая катэгорыя. Тыя, хто робяць гэта ахвотна, не без задавальненьня. Гэта значыць, прыўносяць ва ўсякую справу асабісты ўклад. Я глядзела на іх і разумела, што, калі ім дазволяць паўтарыць падзеі жніўня, яны без сумненьняў зробяць гэта. Таму што адчуваюць патрэбу ў вымяшчэньні сваёй агрэсіі. Я не магу глядзець такім людзям у вочы. Мне сорамна. Не за сябе.

Калі выйшла, я не была гатовая да такой хвалі любові і ўсяляк пратэстую супраць тэрміну „народнай гераіні“, якім бы прыемным ён ня быў. Я саромеюся, па-першае. А па-другое, для мяне герой — гэта кожны, хто выйшаў з зоны свайго камфорту, сказаў сваё слова, перамог страх. Да таго ж я, праўда, не лічу сябе пацярпелай. Я жывая і здаровая. У мяне нават аналіз крыві добры.

Я скептык, але, магчыма, усё менавіта так дзякуючы гэтай самай калясальнай падтрымцы, якая дабіралася да мяне праз нейкія там энэргетычныя патокі. Ня ведаю, як гэта дзейнічае, але я сапраўды яе адчувала. І я ад усяго сэрца хачу сказаць „дзякуй“ за ўсё тое добрае, што было сказана і напісана мне за гэты час. Тое суперажываньне, якое выказалі мне і маім блізкім — найлепшае, што маглі для мяне зрабіць беларусы.

Я такая ўдзячная, што нават бянтэжуся. Кожны раз, калі вы кажаце мне нешта добрае, шукаю словы, якія будуць такімі ж шчырымі і каштоўнымі.

Калі дорыце кветкі, хачу падарыць нешта ў адказ, таму што адчуваю тое самае, што і вы.

Я ведаю пра флэшмоб з калготкамі Conte, а таксама пра скандал, які разгарэўся неўзабаве пасьля яго.

Я сапраўды баюся, што „дзяўчына з упакоўкі калготак“ можа стаць маім самым вялікім дасягненьнем у жыцьці. І што пазнаваць мяне будуць па нагах. Я ўдзячная ўсім, хто імкнуўся мяне абараніць, але хачу заступіцца за Conte, якіх зачапіла рыкашэтам. Мы і сапраўды даўно не зьвязаныя працоўнымі адносінамі, у іх няма перада мной ніякіх абавязаньняў. Тое, што адбылося, — хутчэй пралік маркетолягаў або СММ-спэцыялістаў, якія выбралі, магчыма, ня самы зручны момант для публікацыі. Ня больш за тое. А па факце пацярпела рэпутацыя брэнду, зь якім мяне зьвязваюць толькі самыя цёплыя ўспаміны і 10 гадоў супрацоўніцтва, пра якія я і слова дрэннага не скажу.

Цяпер нам важна адмовіцца ад ілюзій, набрацца цярпеньня і веры. І прыняць, што гэта доўгі шлях. Але мы пройдзем яго, і выявіцца, што ў яго канцы — сьвятло. І ў гэтым сьвятле мы ўпершыню ўбачым сябе як нацыю.

## „Сьцяг нам ножкі сагрэў“

*Марыя, мэдык:*

— 8 лістапада. Гуляла ў цэнтры гораду. Я ўпэўнена, што маю на гэта права. Стаяць, ісьці, адна ці з некім, дзе лічу патрэбным, у якой лічу патрэбным вопратцы і дапаўненьні да вопраткі. Іх фармулёўкі

„несанкцыянаванае масавае мерапрыемства“, „незарэгістраваная сымболіка“ — гэта іхныя фантазіі і няведаньне Канстытуцыі. Ім так зручна.

...Пасыпаліся, як гарох, ляцелі па ходніках мосту. Мяне ўзяў пад локаць высокі „чорны“, здаецца, алмазавец. Я ціха сказала, што іду сама, „Калі ласка, не прысьпешвайце, у мяне крок меншы“. Ён і вёў асьцярожна. А навокал віравала розная энэргетыка, хтосьці зь іх нёсься разьюшана, затрымліваў брутальна. Зайшла ў бус, ён зьняў зь мяне плякат і са словамі „А гэта ўжо пакінем гісторыі“ прыставіў яго да агароджы мосту. З пачуцьцём гумару, аднак. Параіў і шалік з Пагоняй зьняць. Шкада, што не паклала ў заплечнік, мог бы захавацца. А так у пастарунку зьнялі і зьнесьлі разам з чыёйсьці бэйсболкай. Напэўна, яны экіпіруюць ціхароў, цяпер усё магчыма.

У шэрым аўтазаку, куды нас перасадзілі, дзьверы ў камэру падобныя на дзьверы печы. Месцаў тры там на лаве, нас было 6 жанчын. Мужчын кідалі на падлогу, чуліся ўдары і стогны.

Паставілі на вуліцы тварам да сьцяны, рукі за сьпіну. Жанчын менш пільнавалі. Таму варочалася, разглядала. П’яны мужчына, яўна ня з „нашых“, трохі буяніў. Яны яго, ужо пабітага, яшчэ білі, зашпілілі кайданкі, працягнулі па асфальце. Адчуваньне, быццам гэта ў цябе зь пясьцяў дзярэцца скура. Навошта яны і такіх бяруць, для „карцінкі“? Нагадала, што да кожнага чалавека трэба па-людзку, будзе ляжаць на зямлі — застудзіць ныркі. Прынесьлі шыну, пасадзілі яго.

Паступова ўсіх перапісалі. Папрасіла выклікаць „хуткую“ хлопцу з апухлай нагой і крывёй на патыліцы. Яго забралі. Яшчэ для аднаго прасіла —

гематома ўтварылася каля скроні. Яны паглядзелі, вырашылі, што ня трэба. Многія мужчыны кульгалі моцна, але ня скардзіліся, трымаліся. Жанчына побач пабялела, кашляла. Упрошвала я, каб адпусьцілі яе, бо кантакт першага ўзроўню. Не, нікога больш ня выпусьцілі. Нават мамы малых дзяцей паехалі ў выніку ў Жодзіна. Машу (3 гады дачушка) судзілі толькі праз два дні, далі 25 базавых. Жэню (двое дзяцей, 5 і 7 гадоў) пратрымалі ўвогуле тры дні, у сераду, ужо на Акрэсьціна, прысудзіўшы 50 базавых.

Вобшук. Перапісваюць каштоўнае — пашпарт, ланцужок, завушніцы, пярсьцёнкі (зьняць), грошы, ключы. Тэлефону не было з сабой. Яго забіраюць як гарантыю сплаты штрафу.

Яны. Цікава паназіраць. Шмат хто ў балаклавах. У простых масках тыя, якія „чалавечнейшыя“, ці як.

Жанчына-міліцыянтка была прыязнай, сказала булачку ўзяць з сабой і выбачылася перад тым, як правяла па кішэнях. Дазваляла зрабіць званок усім, у каго былі тэлефоны. Жанчын вадзіла ў „цывільную“ прыбіральню ў будынку. Сказала застацца ў гаражах, каб ня мерзьлі; прапанавала крэсла. Я папрасіла схадзіць па жанчын, што засталіся на вуліцы. Дазволілі.

Засяроджаныя, падкрэсьлена ветлівыя складальнікі пратаколаў. Кшталту „Мы проста выконваем сваю працу“.

Ахоўнікі розныя. Адзін хацеў пагаварыць, выстаўляўся, жаліўся, што мэдыкі адмовілі бацькам. Даказваў, што ня ўдзельнічае ў затрыманьнях, не атрымлівае дадатковых грошай. Не разумее, чаго мы ходзім, бо яго бацькі і сваякі нікуды ня ходзяць, усім задаволеныя. „Эмпатыі пазбаўле-

ны“, — сказала я, але наўрад ці ён зразумеў. Іншыя ўпэўнены, што пратэсты фінансуюцца, але, можа, да шарагоўцаў не даходзяць грошы.

Самы адэкватны і спагадлівы на пытаньне, чаму ён тут працуе, адказаў, што ў разгонах ня ўдзельнічаў. Калі прымусяць — апусьціць шчыт.

Нейкі самы ўпэўнена-разьвязны, у цывільным, нечакана запытаўся на „ты“: „Як думаеш, пераможаце?“ Я адказала, што пераможам, бо людзі не даруюць гвалту і зьдзекаў. Мэдыкі не даруюць. Ён пагадзіўся: „Так, мэдыкі не даруюць“.

Бліжэй да вечара прынесьлі ежу і ваду ад валянтэраў. Вялікі дзякуй, сапраўды паратунак, бо ў турме ўжо могуць трымаць бязь ежы доўга.

Усё б нішто сабе, але трымалі нас там гадзін 15. Месцаў прысесьці амаль няма, гаражы халодныя, ратавалася, мераючы прастору крокамі. А мужчыны, зь якімі прыехалі ў аўтазаку, так і прабылі амаль увесь час на вуліцы каля сьцяны.

Мова. Нас тады яшчэ не пазначалі. Звыкла ігнаравалі нават напісаньне прозьвішча. Толькі той, хто здымаў і каротка апытваў, усьміхнуўся: „100%“ (вінаватая), але далей гаварыў са мной па-беларуску.

Транспартаваньне ў турму. Аўтазак-перавозка, з лавамі. Усім не хапіла, мужчыны некаторыя сталі ўвесь час. Доўга-доўга, душна, хацелася хутчэй трапіць усярэдзіну, каб прылегчы.

Сьцягі. На падлозе, у нейкім калідоры з паваротамі. Ад нечаканасьці і нейкага імгнення ўзьніклага мэталёвага смаку ў роце я збочыла да сьцяны. Можа, канваір ужо быў стомлены (тое пад ранак, гадзін мо сем), я ішла апошняй да таго ж. Мяне ня ўдарылі.

Доўга чакалі асабістага агляду. Сьцяг і там на падлозе. Выказаўшыся пра дзікунства гэтага, таксама сказала, што мяне прыніжае агляд. Па адміністрацыйцы прапісана „адсутнасьць складу злачынства“. Недалёкая дзеўка нешта хаміла, потым заявіла, што пакліча ахоўніка-мужчыну. Разулася, разьдзелася і стала на Сьцяг. Дзяўчына ў камэры потым суцяшальна зазначыла: „Сьцяг нам ножкі сагрэў“.

Нарэшце камэра. А там два ложкі двухпавярховыя, мэталічныя рашоткі без матрацаў. І ўжо жыхарак амаль удвая больш. Неяк прытулілася седзячы, „правалілася“. Памятаю, прывялі яшчэ жанчын, адна расплакалася. Думаю, таксама марыла прылегчы. А тут і сесьці няма дзе. Але пацясьніліся.

Потым пачула маё прозьвішча. На выхад. Канваір, даючы падпісваць абавязаньне зьявіцца ў суд, бурчаў незадаволена: „Калі вы такія ўнікальныя і незаменныя мэдыкі, а міліцыя вам кепская, трэба дома сядзець“.

Я ніяк не чакала такой дапамогі і ўдзелу. Я кранутая і ўдзячная. Суд яшчэ будзе.

Але мне хочацца сказаць: ня бойцеся. Варта і сябе зразумець, што ты вытрымаеш. Можна паспрабаваць і дапамагчы камусьці. Калі ўпэўнены, што гатовы.

## „Я выходжу“

*Алена, маці Рамана Бандарэнкі:*

— Раман вырас у Ніжнявартаўску, вучыўся там у мастацкай школе, у розны час займаўся плаваньнем, баскетболам, гуляў у валейбол, бадмінтон, настольны тэніс. Лета ён праводзіў у Менску, а калі яму споўнілася 16 гадоў, паступіў тут у архітэктурна-будаўнічы каледж, і мы зь ім пераехалі жыць у гэты горад. Тут Раман скончыў Акадэмію мастацтваў, потым адслужыў у войску, працаваў дырэктарам крамы.

Увечары 11 лістапада невядомыя сталі здымаць бел-чырвона-белыя стужачкі з агароджы ў двары нашага дому. Раман напісаў у чаце мясцовых жыхароў: „Я выходжу“. У двары невядомыя яго пабілі і забралі, неўзабаве пасьля гэтага ён памёр у лякарні. Яму быў 31 год.

Я яшчэ не да канца ўсьвядоміла страту свайго адзінага і любімага сына, таму, вядома, у эмацыйным пляне мне вельмі цяжка. Мне ўвесь час здаецца, што гэта адбываецца не са мной, што ўсё зьменіцца, што Рома вернецца, скажа: „Мама, я вярнуўся!“ Але большую частку часу са мной мае родныя, блізкія, сябры; я атрымліваю моцную падтрымку і толькі дзякуючы ёй яшчэ трымаюся і магу нешта рабіць.

Крымінальная справа пра гібель Рамана дагэтуль не адкрытая. Але завялі справу супраць лекара Арцёма Сарокіна, які сказаў, што ў Рамана ў крыві не было алькаголю, і супраць журналісткі Кацярыны Барысевіч, якая напісала пра гэта.

Крымінальная справа павінна была быць распачатая ў першы дзень па факце сьмерці, а гэтага зроблена не было. А ўсе гэтыя сьледчыя дзеяньні, збор нейкіх характарыстык, апытаньні, гутаркі павінны праводзіцца ў рамках адкрытай крымінальнай справы, а не наадварот, як мне патлумачылі: спачатку ўсё зьбіраецца, а потым будзе прымацца рашэньне, адкрыць справу ці не адкрыць. Як такое можа быць?

Атрымліваецца, на асобаў, якія сапраўды зрабілі злачынства, забіўшы майго сына, справа не заведзеная, а заведзеная на доктара, які сказаў праўду, і журналістку, якая таксама сказала праўду. Выходзіць, за праўду распачалі крымінальную справу. Цяпер увесь мой час ідзе на тое, каб справа аб забойстве Ромы была адкрытая. Мне вельмі хочацца, каб злачынцаў, якія гэта ўчынілі, знайшлі і пакаралі паводле закону.

Мне сказалі, што цяпер праводзіцца ўсебаковая праверка. Я на мінулым тыдні была пяць гадзін у пракуратуры, і мяне зьдзівіла, што пытаюцца такія рэчы, якія наогул ня маюць дачыненьня да таго, што адбываецца: напрыклад, у які садок Рома хадзіў, у якой школе ён вучыўся. Я спытала ў сьледчага, якое дачыненьне гэта мае да злачынства, ці гэта дапаможа вызначыць злачынцаў, якія ўчынілі гэтае забойства? На што мне сьледчы сказаў: „Мы складаем партрэт Рамана“.

Я спытала: „Вы такія ж сьледчыя мерапрыемствы праводзіце і ў дачыненьні да тых асобаў, якія зрабілі гэтае злачынства?“ Мне сказалі: „Так, мы праводзім вельмі вялікую працу“. Я спадзяюся, што гэта так.

Я бачыла зварот лекара Арцёма Сарокіна, у якім ён заклікае не палітызаваць сытуацыю. Але незразумела, у якіх умовах гэты зварот быў запісаны. Як я зразумела са звароту, у чалавека сям'я, жонка, дзеці, праца любімая: гэта можна выкарыстоўваць для таго, каб такое запісаць. У гэтым звароце лекар не гаворыць, што сказаў няпраўду. Калі я прыйшла раніцай да Ромы ў рэанімацыю, на стале ляжала мэдычная карта, і я на свае вочы бачыла, што там было, што сапраўды ў крыві алькаголю не было. Гэтыя дакумэнты былі потым канфіскаваныя зь лякарні.

Пра тое, што Раман знаходзіцца ў шпіталі, я даведалася а палове чацьвертай раніцы 12 лістапада. Пачуўся званок у дзьверы, прыйшлі дзьве дзяўчыны і хлопец, я іх першы раз бачыла, яны сказалі: „Вы толькі не хвалюйцеся, ваш Рома ў лякарні, яму зараз робяць апэрацыю, яна будзе доўгая". Мне пакінулі тэлефон рэанімацыі і сказалі званіць, пытацца, калі скончыцца апэрацыя. Я прыехала да 11 гадзін, калі лекар ужо мог са мной пагаварыць.

Ён мне адразу сказаў, як быццам выліў на мяне цэбар халоднай вады, што ў Ромы шанцаў няма і што ён знаходзіцца ў найцяжэйшым крытычным стане, вельмі нестабільным. Потым, праўда, выправіўся, сказаў, што надзея і шанец заўсёды ёсьць, але гэты шанец вельмі-вельмі малы. Я спытала, ці можна мне ўбачыць Рому. Мне дазволілі, адразу далі халат, бахілы, шапачку.

Тады мне здавалася, што Рома проста сьпіць, як пасьля наркозу, там усякія трубачкі былі, кропельніцы, апараты, нешта мігцела, нейкія лічбы, дыяграмы, паказчыкі. Ён дыхаў, я ўвесь час трыма-

ла яго за руку, гладзіла, прасіла, каб ён трымаўся; казала, што я зь ім, што гэта добрая лякарня і добрыя дактары, казала: „Ты моцны, ты вытрымаеш, і ўсё будзе добра“.

У яго былі шырокія сіњякі на абодвух запясьцях, уся шыя сіняя, апухлы твар, увесь у ранках; вочы апухлыя ў ранках, вушная ракавіна ўся ў крыві, сківаца была зламаная. Лекар сказаў, што яму патрэбна яшчэ адна апэрацыя, але спачатку стан павінен стабілізавацца, інакш ніяк. Ён сказаў, што чакаюць прыезду акадэміка і будзе кансыліюм, а потым скажуць мне нешта канкрэтнае.

Пасьля кансыліюму мне адразу сказалі, што ў Ромы адзін шанец з тысячы, што ўсё залежыць ад сілы Ромавага арганізму і ад Госпада Бога. Сказалі, што да таго, як Рому даставілі ў лякарню, ён ужо доўгі час быў у коме, і што яму тады не аказвалася кваліфікаваная мэдычная дапамога; і, калі б яго прывезьлі раней, то, магчыма, яго б выратавалі, але гэтага не адбылося.

І потым лекар кажа: „Самае страшнае тое, што ў яго пашкоджаны ствол галаўнога мозгу, які адказвае за ўсе функцыі арганізму, пачынаючы ад такіх жыцьцёва важных, як сэрцабіцьце і дыханьне, і заканчваючы нюхам, смакам“. Ён мне расказаў, што гэты ўчастак знаходзіцца вышэй патыліцы і што Рому вельмі доўга, жорстка і мэтанакіравана білі ў адно і тое ж месца. Паводле яго, Рома сам нічога ня зможа рабіць, ён не адчувае і ня будзе адчуваць ні смаку, ні паху, нічога.

Наконт рэакцыі людзей... Я не магу сказаць, што мне гэта было прыемна, але я вельмі ўдзячная людзям, якія так спагадліва паставіліся да сытуацыі і да мяне асабіста. Вельмі многія

прапаноўвалі дапамогу, многія пісалі, тэлефанавалі. Я не чакала такой рэакцыі ад такой вялікай колькасьці незнаёмых мне людзей, для мяне гэта было дзіўна. Я зразумела, што я не адна і магу з усім гэтым справіцца. Энэргія гэтых людзей перадалася мне, і стала лягчэй.

Больш за ўсё ўразіла такая вялікая колькасьць сьвечак, кветак, на якіх было напісана імя Ромы. Тое, што зусім незнаёмыя людзі, нават тыя, хто ня жыў побач, зьяжджаліся з усяго гораду на „плошчу Пераменаў“, прыносілі фатаграфіі, кветкі, цацкі. Я выйшла туды і ўбачыла, як усё прыходзілі і прыходзілі людзі, плакалі; я не хацела, каб мяне пазналі як Ромаву маму: я была, як усе, бачыла надпісы „Рома, мы з табой“, „Мы памятаем“. Я бачыла, што гэта ўсё было ня штучна, а ад душы.

Яшчэ для мяне вельмі нечаканым было тое, што мне перадалі пасылку з ласункамі з Італіі, з Балёньні. Яна прыйшла ад зусім незнаёмага мне чалавека, мне яе перадалі праз дзясятыя рукі. Для мяне гэта было так прыемна, прычым што менавіта з Балёньні — я была там прыкладна ў гэтую ж пару год таму і хацела вярнуцца туды яшчэ.

Чаму Рома выйшаў? Ён абаронца, ён прывык, што, калі побач слабы чалавек, ён заўсёды прыйдзе на дапамогу. І, як я разумею, там проста ў двары былі дзяўчаты, і ён выйшаў, каб быць побач і, калі што, можа быць, дапамагчы. Вядома, ён разумеў, што гэта небясьпечна.

У свой час ён вельмі хацеў пайсьці ў войска, але яго спачатку не ўзялі. У нас у сям'і быў такі парадак, што чалавек павінен мець вышэйшую адукацыю. З войскам тое самае: абодва дзяды Ромы служылі ў арміі, яго тата быў у ПДВ, у нас

дома быў ягоны блакітны барэт. Таму, калі атрымалася так, што мы з Ромам пераехалі ў Менск, а ягоны тата застаўся ў Ніжнявартаўску, то рашэньне пра тое, каб „адкасіць“ ад войска, нават не абмяркоўвалася. Хоць я, як і ўсякая мама, ня вельмі хацела, каб Рома служыў: у войску здараюцца розныя сытуацыі. Але Рома мне сказаў: „Мама, я ад войска касіць ня буду; я вырашыў, што канчаю Акадэмію мастацтваў і ў войска пайду“.

Ён скончыў акадэмію летам, сам для сябе ўсё вырашыў, прайшоў мэдкамісію, вельмі хацеў у спэцназ, як і яго бацька. І Рому ўзялі ў армію, у спэцназ, ён зрабіў праводзіны, сабраліся сябры. Раніцай ён пайшоў у ваенкамат, і атрымалася так, што яму і яшчэ некалькім хлопцам сказалі: „Хлопцы, ідзіце дадому“. Астатнія хлопцы былі радыя, а Рома кажа: „Як дадому?“ Ён паехаў ва Ўручча, у гэтую частку 3214, куды ён хацеў, спытаць, можа нейкая памылка адбылася. Але там яму сказалі: „Усё, давай, да вясны!“ Усе сьмяяліся, што яго не ўзялі, але потым вясной ён трапіў у 3214 і свае 25 гадоў адзначаў у войску.

У жніўні я прачытала, што вайскоўцы гэтай часткі разганяюць пратэсты ў Менску, і сказала яму. Ён адказаў: „У гэтых падразьдзяленьняў іншая спэцыфіка, ня можа гэтага быць, ня веру. Ты, напэўна, памылілася“.

Увогуле, калі ўсе гэтыя рэчы пачаліся, ён мне неяк сказаў: „Мама, будзь асьцярожная, калі ты будзеш на вуліцы ў выходны дзень, трэба літаральна некалькі хвілін, каб часткі даехалі з аднаго канца ў другі. І калі ты апынесься ў гэтым месцы, дык будзе вельмі дрэнна“.

Сама я на пратэсты не хадзіла. Па-першае, Рома мяне папярэдзіў, што гэта можа быць небясьпечна. І я ўжо ў такім перадпэнсійным узросьце, я наогул апалітычны чалавек і не магу сказаць, што на той момант заўзята падтрымлівала тое, што адбывалася. Але ўсё мяняецца, цяпер у мяне на многія рэчы адкрыліся вочы, я стала па-іншаму думаць шмат пра што.

Напрыклад, пра тое, што, на жаль, ня ўсе законы ў нас у краіне працуюць. Раней я думала па-іншаму. Я вырасла ў Савецкім Саюзе, ува ўсіх дзяцей майго пакаленьня было пэўнае выхаваньне, цяперашняя моладзь думае па-іншаму. Я лічыла, што мы жывём у прававой дзяржаве, дзе ёсьць законы, і яны павінны выконвацца. Я думала, што гэта так...

## „Вырашыў больш не ўцякаць“

*Аляксандар:*

— Я амаль упэўнены быў, што гэтым разам мяне дакладна арыштуюць, бо вырашыў для сябе, што больш ня буду ўцякаць ад лукашэнкаўскіх карнікаў. Так і здарылася. Калі натоўп, убачыўшы іх, пабег, я застаўся стаяць на месцы. Са мной засталіся стаяць мая жонка, мой найлепшы сябар і яшчэ некалькі дзясяткаў чалавек. Ну а чаго бегаць?! Чаго тады прыходзіць на гэтыя акцыі? Каб пагуляць з карнікамі ў даганялкі?.. Не паверыце, ніякага страху не было. Страх даўно прайшоў, засталася толькі нянавісьць. Я ледзь яе стрымліваў.

Нас узялі пад рукі і павялі ў аўтазак. Біць ня білі, але мой карнік увесь час спрабаваў заламіць мне руку за сьпіну. Я казаў яму, што ня буду ўцякаць. Ён ня верыў...

Па дарозе да аўтазака я папрасіў карніка, які вёў маю жонку, адпусьціць яе, бо наша непаўналетняе дзіця засталося дома адно. І здарыўся цуд — жонку адпусьцілі.

Мяне завялі ў аўтазак і, перш чым пасадзіць у жалезную клетку, абшукалі. Тэлефоны забіралі адразу, але я свой прадбачліва ня ўзяў з сабой... Клетак у аўтазаку некалькі. Ёсьць шматмясцовыя, а ёсьць і аднамясцовая. Я сядзеў у аднамясцовай.

Нас прывезьлі ў мясцовае аддзяленьне гестапа, завялі ў цір і паставілі да сьценкі... Страляць ня сталі — на гэты раз... Кожнаму раздалі папяровыя пакеты і загадалі скласьці ў іх матузкі, рамяні і іншыя рэчы з кішэняў. Мой сябар, зь якім мы былі на акцыі, — а ён ужо спрактыкаваны, яго ўжо раз затрымлівалі — адразу сказаў: „Пакеты — дрэнная прыкмета. Значыць, нас, хутчэй за ўсё, не адпусьцяць“. Ён не памыліўся.

У ціры нейкі обэрштурмбанфюрэр, які гаварыў па-расейску амаль без акцэнту, падыходзіў да кожнага затрыманага, прасіў назваць прозьвішча, імя і здымаў усіх на відэа. І наогул, гэта дзіўна, але ўсе карнікі разумелі расейскую і ніштавата на ёй гаварылі.

Потым праз кожныя тры хвіліны ў цір стаў прыходзіць нейкі ротэнфюрэр. Ён зачытваў прозьвішча і адводзіў затрыманых на допыт. Калі на зачытанае прозьвішча ніхто не адгукнуўся, я пажартаваў: „Яго ўжо расстралялі“. Усе засьмяяліся. Ротэнфюрэру жарт таксама спадабаўся,

ён усьміхнуўся і з баварска-шклоўскім акцэнтам сказаў: „Вельмі добра, што расстралялі“.

Наогул, забягаючы наперад, скажу, што карнікі гэтым разам абыходзіліся з намі надзіва добра. Думаю, быў проста такі загад мясцовага брыгадэнфюрэра — ня біць. Быў бы загад забіць — забілі б, там жа, у ціры, або ў момант затрыманьня. Забілі б нават маці родную, бо мазгоў і сэрца ў гэтых хлопцаў, па-мойму, ужо не засталося. Іх даўно ўжо замянілі загады і службовыя інструкцыі.

Праз паўгадзіны мяне ўжо дапытваў нейкі унтэрштурмфюрэр. (Так, забыўся сказаць, амаль усе карнікі былі альбо ў масках, альбо ў балаклавах.) Утойваць свой удзел у акцыі я ня стаў, а проста сказаў, што прыйшоў на яе для таго, каб ушанаваць памяць забітага супрацоўнікамі МУС Рамана Бандарэнкі. Унтэрштурмфюрэр не паверыў сваім вушам. Ён абурыўся і пачаў даказваць мне адваротнае, што міліцыя тут ні пры чым. Не даказаў. І словы пра „забітага супрацоўнікамі МУС“ у мае паказаньні ён чамусьці не запісаў. Забыўся, напэўна. Напісаў проста — „прыйшоў ушанаваць памяць Бандарэнкі“.

У невялікай актавай залі, куды мяне прывялі пасьля допыту, за вялікім белым сталом сядзелі два ротэнфюрэры ў балаклавах і з нашыўкамі амону на грудзях. Мне загадалі сесьці і чакаць. У залі нас сабралася чалавек 30. Ротэнфюрэры не зьвярталі на нас амаль ніякай увагі, яны захоплена глядзелі на смартфоне відэа пра рыбалку. Тады я спытаў: „Таварышы фашысты (закрэсьлена) міліцыянты, можна пытаньне?“ — „Ну,“ — сказаў ротэнфюрэр зь дзіўным нямецкім імем Андрэй (прозьвішча і сваё званьне ён чамусьці не назваў,

пасаромеўся, напэўна). — „А можаце растлумачыць, чаму нас затрымалі?“ — „Вам павінны былі ўжо растлумачыць“, — не адрываючыся ад экрану смартфону, сказаў ротэнфюрэр Андрэй.

Ну а далей, як той казаў, слова за слова, і завязалася гарачая дыскусія на прадмет любові да радзімы. Ротэнфюрэр Андрэй даказваў нам, што ён абараняе радзіму ад такіх, як мы. Расказваў нам, што мы, змагары, хочам забіць яго маленькую дачушку, што траціна тых, хто выходзіць на акцыі пратэсту, атрымліваюць за гэта грошы. Так-так, хлопцы, яны шчыра вераць ва ўсё гэтае трызьненьне! Гэтыя бараны вераць у тое, што мы хочам забіць іхных дзяцей. Уяўляеце, як ім засралі мазгі?! Дакладней, мазгоў у гэтых дзяцей амаль няма, таму што, калі я сказаў ім: „Хлопцы, зразумейце, галакост таксама быў законны“, — ротэнфюрэр Андрэй перапыніў мяне і спытаўся: „Што такое галакост?“

Уяўляеце іх інтэлектуальны ўзровень?! Я не скажу, што там усе такія. Па вачах некаторых карнікаў было відаць, што ім сорамна і няёмка за тое, што яны робяць. Яны, напэўна, ведалі пра галакост і разумелі, што імі цяпер пагарджае ўвесь беларускі народ, што ў вачах беларускага народу ўсе яны цяпер — фашысты.

Пасьля цікавай і ажыўленай дыскусіі, якая доўжылася каля гадзіны, нас пагрузілі ў аўтазакі і адвезьлі ў турму, дзе я ў мярзотных умовах з ванітнай ежай і з цудоўнымі сукамэрнікамі правёў суткі.

На наступны дзень мяне паднялі з нараў і павялі ў мясцовы турэмны тэатар. Тэатар уяўляў зь сябе малюсенькі пакой. Замест сцэны — стол. За

ім ужо сядзелі два акторы: мужчына ў чорнай мантыі і бляндынка ў ахоўнай масцы. Актор у мантыі абвясьціў, што цяпер яны зь дзяўчынай згуляюць асабіста для мяне пацешную кароткую сцэнку вядомага беларускага рэжысэра А.Р.Лукашэску пад назвай „Беларускі суд“. Сцэнка мне спадабалася. Яна доўжылася хвілін сем. Я нават сьмяяўся адзін раз, а менавіта ў той момант, калі актор у мантыі спытаў у мяне: „Ці давяраю я суду?“ Падыскутаваць з „судзьдзём“ не атрымалася, бо ён прафэсійны актор і ня стаў адказваць на мае пытаньні пра скрадзеныя Лукашэнкам выбары, забітага Бандарэнку і іншых ахвяраў рэжыму.

Віны сваёй я не прызнаў. Мне далі 10 базавых. Прызнаў бы, як потым я высьветліў у тых, хто выйшаў пасьля мяне, далі б наогул пяць. Чаму так мала? Думаю, мясцовы брыгадэнфюрэр загадаў „судзьдзям“ не злаваць пакуль народ. Але я не шкадую, што не прызнаў, бо лічу, што ня трэба прыніжацца перад вылюдкамі. А самае галоўнае, — бегаць ад іх ня трэба. Гэта, сябры мае, наша самая вялікая памылка за апошнія тры месяцы. Навалачы падабаецца, што мы бегаем ад іх, яны атрымліваюць ад гэтага кайф.

Мы кожны дзень, а ня толькі ў нядзелю, павінны выходзіць на плошчы і самі, мірна і добраахвотна, як гэта рабілі палякі яшчэ ў васьмідзясятыя, заходзіць у аўтазакі. Мірна, добраахвотна, тысячамі, дзясяткамі тысяч — у аўтазакі. Іншых спосабаў перамагчы лукашызм у нас проста няма. Праз пару дзён нас бы ўжо не затрымлівалі. А яшчэ праз тыдзень усеагульнай забастоўкі і штодзённага выхаду на плошчы хаця б мільёна людзей па ўсёй краіне рэжым нашага аграфюрэра паў бы.

Калі вароты турмы ўжо адчыняліся, наглядчык, які праводзіў нас, па-добраму і шчыра сказаў нам: „Посьпехаў вам, хлопцы, і бывайце!“

„Мы не разьвітваемся, — сказаў я яму, — хутчэй за ўсё, мы яшчэ вернемся, таму што спыняцца не зьбіраемся. Бо калі мы спынімся — нам усім канец...“

У першага стрэчнага я папрасіў патэлефанаваць. Праз 15 хвілін пад’ехала мая жонка, абняла мяне, пацалавала і сказала, што я дурань. Я зь ёй згодны.

## „Сядзім ціха, не вызіраем, бо ў вокны сьвецяць ліхтарамі“

*Сьведка:*

— Тут ня будзе адрасоў і імёнаў, у мэтах бясьпекі мы нават не абменьваліся кантактамі, але ўсе героі і лічбы рэальныя.

Мы ў гасьцях у нейкай з кватэр на „плошчы Пераменаў“. Нас 15 незнаёмцаў. За вакном чуваць, як б’ецца шкло: зьнішчаюць мэмарыял памяці Рамана. Мы сядзім ціха, не вызіраем туды, бо ў вокны сьвецяць ліхтарамі, выглядваюць цені, шукаюць, дзе ёсьць людзі. Сама „плошча“ ў ачапленьні.

Мы ціхенька размаўляем, думаем, як будзем дабірацца праз пару гадзін дадому. У гэты момант да нас далятаюць навіны, што нелюдзі ў чорным пачынаюць хадзіць па кватэрах, грукацца ў дзьверы, пагражаць уладальнікам кватэр выламаць дзьверы. Патрабуюць пашпарты з прапіскай і праводзяць незаконныя ператрусы ў кватэрах. Мы

выключаем сьвятло, сядзім ціха. Вакол „плошчы“ сама меней шэсьць бусікаў зь ціхарамі.

Стук у дзьверы. Нас няма. Другі, больш настойлівы. Тузаюць ручку. Моцны грукат, магчыма, дубінкай. У іншай кватэры паводзілі сябе ня так ціха, ім давялося адчыніць дзьверы. Нам жа пашанцавала, паверылі і сышлі.

Выведка данесла, што езьдзяць на ліфтах, падымаюцца на верхнія паверхі і зноў прачэсваюць увесь дом па лесьвіцах. Думаем, як выбірацца. У гэты момант даведваемся, што на выхадзе правяраюць пашпарты. Так, вы ўсё дакладна прачыталі. Пашпарты, на ўваход і на выхад. Глядзяць прапіску; калі не супадае з адрасам дома — арыштоўваюць і адводзяць у бус. Хлопцы зь іншай кватэры паспрабавалі прыкінуцца жыхарамі. Не пракаціла, усіх забралі. Паркоўка ачэпленая, машыны аглядаюць, нават багажнік, каб там не вывозілі людзей. Нелюдзі ўсё гэтак жа прачэсваюць дом, стукаюць па лесьвіцы дубінкамі, каб мы ведалі, што яны там. Робяць другое кола і стукаюць у суседнія дзьверы.

Мэмарыял прыбраны цалкам. У нейкі момант пад'ехаў хлопец на таксі, паклаў адну кветку. Праз хвіліну яго забралі. Гісторыя паўтарылася пазьней, а 5-й раніцы, з маладой парачкай. Усклалі кветкі, хвіліна — у бус.

Гаспадары неймаверныя: накармілі, макарона па-флёцку, гарбата, кава, зладзілі начлег, раніцай смачная каша. Хачу паставіць ім 5 зорак на Airbnb, але не знайшоў іх кватэру там. Жартуем, у якія дні нам змогуць перадачкі ад сваякоў прывезьці? Ужо ўпэўненыя ў тым, што адным днём гэта ня скончыцца. Яны сьцяну ахоўвалі кругласутачна, а

тут цэлыя кватэры цудоўных людзей, непарадак. Зноў жартуем, што ў нас вечарынка інтравэртаў, усе маўчаць і сядзяць у цемры.

Сяк-так выспаліся, з камфортам разьмясьціліся ўсе ў пакоі. У гэтай кватэры далей небясьпечна, дамаўляемся зь іншай, насупраць. Там ужо 20 чалавек, мы басанож і з рэчамі ў руках, каб не шумець, перабягаем туды. Нас 35. Спрабуем прыдумаць плян, нарэшце знайшлі зарадку для тэлефону! (У такіх выпадках рэкамэндую браць яе з сабой заўсёды.) Зьвязваюся з усімі, хто можа дапамагчы: прававы дэфолт, законы не працуюць, ніякіх правоў ніхто не трымаецца і ўсе бясьсільныя.

Чаты думаюць зьбіраць натоўпы, каб прыйсьці на „плошчу Пераменаў“, ідуць спэцыяльныя ўкіды пра канцэрты і іншыя рэчы, каб адцягнуць ад нас увагу. У нейкі момант ачапленьне здымаюць. Мы чакаем, мясцовыя жыхары зноў ідуць у выведку. Усё чыста, пашпартны кантроль зьняты, патрулёў няма. Дамаўляемся выходзіць усе ў 9:25 (адначасова, каб не змаглі ўсіх узяць). Навіна хутка разносіцца ўва ўсе дамы, на вуліцу выбягае ня менш за 200 чалавек. Не зрабіў фота, было не да гэтага. На вуліцы ўжо шмат машын неабыякавых людзей, з адной зь іх крычыць дзяўчына, каб мы садзіліся. Заскокваем, рэзка торгаемся зь месца і зьяжджаем. Даведваемся, што побач з намі ў нейкім падвале сядзела каля 50 чалавек, без сьвятла, без прыбіральні. Разумею, што нам яшчэ пашанцавала...

А вакол кіпіць жыцьцё, людзі едуць на працу, бо нічога ня здарылася, іхны сьвет не зьмяніўся, для іх усё гэтаксама няма вайны, зьверстваў і

забойстваў. А я ў гэты момант пішу ўсім родным, што са мной усё добра. Знаходзім сябе ў сьпісах зьніклых, бо мы былі бяз сувязі.

А Менск далей жыве ў сваім рытме...

## „Забярыце мяне замест яго!“

*Ларыса Соўсь, 79 гадоў:*

— Я ўвогуле на гэты марш не ішла. Я хаджу на маршы пэнсіянэраў, гэта так. У той жа дзень, 6 сьнежня, я ішла проста гуляць па сваім раёне. Некалькі гадоў таму мне зрабілі складаную апэрацыю, і мне проста трэба шмат рухацца. І я штодзённа раблю такі шпацыр па сваім раёне.

Я выйшла дзесьці каля 12, гуляла па сваіх вуліцах. Зрабіла адно кола, пайшла на другое і каля новай станцыі мэтро „Кавальская слабада“ я пабачыла людзей і спынілася паглядзець, чаго яны сабраліся. І раптам людзі сталі ўцякаць... Адна хвіліна, сэкунда, напэўна... І проста мора людзей у чорным адзеньні і з аўтаматамі. Яны беглі ў арку дому на рагу Варанянскага і Жукоўскага, даганялі маладых людзей, якія ўцякалі. І праз нейкі час я пачула стрэлы. А потым сталі выводзіць людзей з гэтай аркі да аўтобусаў.

Нармальная рэакцыя кожнага чалавека, асабліва жанчыны майго ўзросту, якая мае дзяцей, унукаў, гэта крычаць: „Што вы робіце?!“ Людзі крычалі: „Фашысты!“ Потым я бачу — вядуць чалавека, рукі за сьпіну скруцілі, у кайданках. Бачыць гэта немагчыма. Кожны чалавек адразу ўяўляе

свайго сына ці ўнука на ягоным месцы. Я стала крычаць: „Забярыце мяне замест яго!“

Яны вялі іх да бусаў, і мы, жанчыны, ішлі за імі. І калі я сказала: „Бярыце мяне“ — яны не хацелі. Але іхны нейкі вялікі начальнік сказаў браць. Яны мяне схапілі і павялі да мікрааўтобуса. Ад іх моцна пахла гарэлкай. Менавіта не перагарам, а тым, што яны зараз выпілі. Гэта было чуваць.

У гэтым мікрааўтобусе была жанчына, якая выйшла з мужам гуляць, яна крычала: „Дзе мой муж, дзе мой сын?“ Выйшла гуляць і сустрэла там сына. І ў гэты момант выскачыла гэтая зграя, сталі ўсіх хапаць, і яна стала бараніць свайго сына. Яна думала, што яе з мужам схапілі. Але пасьля, калі мы ўжо прыехалі, высьветлілася, што мужа не ўзялі, а сына дваццацігадовага ўзялі.

Хто там быў, усіх хапалі без разбору, незалежна ад таго, ці ты ўдзельнічаў, крычаў — не крычаў. І яшчэ быў чалавек, які… Я гэта ўсё бачыла на свае вочы, а калі ты бачыш — гэта шок, перажыць проста немагчыма. Сядзеў чалавек, рукі за сьпінай былі зьвязаныя нейкім пластмасавым жгутом. Ён увесь час прасіў: „Разьвяжыце, мне нязручна“. Яны кажуць: „Мы ня можам, гэта можна толькі кусачкамі“. У яго была парваная куртка і вельмі вялікі сіняк фіялетавы пад вокам. Гэтае вока апухала проста на вачах.

Нас павазілі па горадзе, спыніліся і перасадзілі ў іншы, большы аўтобус. Там ужо было значна болей людзей, якіх яны недзе назьбіралі. І прывезьлі ў гэтае Кастрычніцкае РУУС. Мы спусьціліся кудысьці ў цокальны паверх. Там селі, нас сталі ўсіх апытваць. Амаль усе людзі былі з вышэйшай адукацыяй. Там быў малады доктар, ну відаць,

што малады. Ён сківічна-тварны хірург. Быў яшчэ адзін лекар. Быў асьпірант кітайскай мовы, у асьпірантуры ў Кітаі вучыцца. Словам, эліта краіны. Нармальныя, адэкватныя людзі. Ніякія ня п'яніцы.

Адзін чалавек быў выпіўшы, яго пасьля прывезьлі. Я думаю, выпадкова. Ён, відаць, пабачыў, як хапаюць людзей, і нешта ў такім стане мог і сказаць. Заадно яго і захапілі таксама. Відаць было, што ён чалавек выпадковы там.

Потым бачыла аднаго мужчыну ў блакітнай куртцы, амонавец на яго паказваў пальцам: „Гэты, гэты і гэты!“ На траіх. Значыць, яны быццам супраціўляліся, а астатнія не. Дык вось у сіняй куртцы быў чалавек, які быў у вельмі кепскім стане. Людзі прасілі: „Выклічце лекара, яму кепска, у аўтобусе ён двойчы траціў прытомнасьць“. Але „хуткую“ выклікалі зусім ня хутка. Гадзіны чатыры, напэўна, ён там прасядзеў.

Яшчэ перада мной сядзеў малады хлопец, яму прастрэлілі сьцягно. Я сядзела за ім і бачыла, як увесь час капала кроў на падлогу, кропелькі крыві. І яшчэ ён казаў, што каля самага вуха яму куля прайшла, але, дзякуй Богу, не закранула.

У міліцыі, мяркуючы па ўсім, нікога ня білі. Іх прывезьлі ўжо пабітых. Мяне ніхто не чапаў, відаць, праз мой такі ўзрост. Я інвалід другой групы — яны ж усё гэта перапісвалі.

Мяне адпусьцілі, я ноч ня спала. І я ўвесь час думаю: ну як, як такое можа быць? У нармальнай краіне, Беларусі. Беларусы столькі гора пражылі ў сваёй гісторыі. Вось я вам скажу, у маёй асабіста сям'і: я з 1941 году, тры месяцы мне было, калі вайна пачалася. Маме прыйшлося са мной маленькай і братам ісьці ў вёску да сястры, уцякаць

зь Менску, бо бамбілі. І там мы засталіся. Хоць там ужо былі немцы. І быў загад сабрацца ў гета. Усім габрэям, потым іх усіх зьнішчылі. А мама мая была габрэйка. Дык вось: ніводзін чалавек у вёсцы ня здрадзіў. І гэта было небясьпечна для ўсіх людзей. Вось такія беларусы. Мой тата ваяваў, быў паранены пад Сталінградам. І нягледзячы на гэта, на тое, што яго сям'я столькі перажыла ў часе вайны, калі ўжо вайна скончылася і мы ўжо жылі на Ленінградзкай у Менску, наш дом дабудоўвалі палонныя немцы, і мой тата іх падкормліваў. Я гэта добра памятаю. Іншы сказаў бы: „Гэта фашысты, яны нам столькі гора прынесьлі", а ён разумеў, што гэта простыя людзі, гэтыя салдаты. Значыць, у беларусаў ёсьць вось такая рыса, такая дабрыня. Яна многім людзям уласьцівая, але беларусам асабліва. Таму я і думаю: ну як, як у нас цяпер могуць быць такія людзі? Няўжо ў іх ёсьць маці? Калі яны ведаюць, што іхныя дзеці ладзяць сафары на людзей, забіваюць, зьнішчаюць, нявечаць. І ім усё беспакарана.

Таму, і ня толькі таму, я хаджу на гэтыя маршы пэнсіянэраў, бо я разумею, што іншага шляху няма, толькі вось так пратэставаць. Самае галоўнае, ня трэба баяцца. Яны разьлічваюць на тое, што мы баімся. Гэтая ўлада трымаецца на хлусьні і гвалце. Трэба гэта ператрываць, трэба працягваць мірна.

## „Ну як гэта так: за мяне гінуць людзі, а я ўдома сяджу“

*Валерыя Сьмірнова, 89 гадоў:*

— У панядзелак, 14 сьнежня мы з дачкой дамовіліся пагуляць. Ёй 67 гадоў, Людмілай яе зваць. Яна сказала: „Пойдзем на плошчу Незалежнасьці“. Мы пайшлі. Глядзім — нікога не відаць. Аказалася, усе мітынгоўцы стаялі за ялінкаю.

Быццам зьніадкуль столькі амонаўцаў прыбегла! Я паглядзела — некалькі аўтобусаў стаіць. Нас з усіх бакоў амонаўцы прыціснулі. Ды не ў адзін шэраг яны стаялі, а ў два ці тры. Такога „цуду“ я яшчэ ня бачыла ніколі. Ажно ногі трэсьліся. Думала: „Куды яны зараз нас пагрузяць?“

Страшна было, вядома. Мы трымаліся як маглі. Амонаўцы сплялі рукі паміж сабой. Мы хацелі вырвацца — дык ніяк жа ня вырвесься.

Усе прасілі: „Адпусьціце нас дадому“. Але старшы падышоў і сказаў: „Мы толькі праверым вашы дадзеныя“. А я кажу: „У мяне ўсё з сабою, вось, вазьміце. Глядзіце, я інвалід другой групы. Вось маё пасьведчаньне“. — „Не, нам трэба ўсё запісаць. Так што ідзіце спакойна ў аўтобус“.

Але ніхто не пайшоў. Яны пачалі з чатырох бакоў сьціскаць нас. Увогуле выціснулі нас так, што мы самі заходзілі ў аўтобус. Ён ужо быў поўны, так што мы ехалі стоячы каля гадзіны. Аўтобус ехаў так павольна…

Мы запыталіся ў амонаўцаў: „Куды мы едзем?“ — „Ня ведаем. Куды давязуць, туды і давязуць“.

Усе вокны былі залепленыя цёмнай паперай. Душна. І тыя, хто сядзеў побач, пачалі адрываць гэтую паперу. Амонаўцы сталі крычаць на іх: „Што вы робіце?“ — але людзі ня слухалі іх.

У Серабранцы мы апынуліся. Я ў гэтым раёне ніколі не была. Завялі ў нейкія мэталёвыя бункеры, дзе было шмат дзьвярэй. Нас было 80 чалавек, і нас падзялілі на два бункеры па 40 чалавек. Усе стаялі ў холадзе. Там нешта ўдалечыні ацяплялася ледзь-ледзь, але дзьверы не зачыняліся.

І вось мы прыкладна з 15-й гадзіны стаялі. Прысесьці не было куды. У прыбіральню выходзілі пад канвоем. Дзяўчаткі прасілі пакурыць — ім не дазвалялі нават выйсьці з гэтага бункеру. Вады няма. Цэлы дзень галодныя. Ну галодныя, і добра. Перажылі.

Калі нас рэгістравалі і ўсё забіралі ў асобныя мяшэчкі, у мяне не спыталі пра тэлефон, а я і не сказала. Так тэлефон застаўся ў мяне. Мяне прамацалі трошкі. А мужчыну так прамацвалі! І матузкі зьнялі, і папругу зьнялі, і сьцяг знайшлі. Сказалі: „На поўную, дарагі, будзеш плаціць“.

Усе рэчы апісалі, паклалі ўбок, і на гэты стол мы змаглі сесьці ўтрох. Астатнія стаялі. Шэсьць гадзін стаялі. Потым а 20-й гадзіне нас пачалі выклікаць. Сфатаграфавалі і спыталі, колькі разоў былі на мітынгу. Я сказала, што першы раз. І тое мы не ішлі на мітынг, а проста міма праходзілі. Ніякага мітынгу не было — людзі толькі зьбіраліся. Але ніхто гэтага не ўлічыў.

Напісалі пратакол і сказалі падпісаць. Там дзесьці 10 подпісаў трэба было паставіць. Я спытала: „А што вы напісалі ў пратаколе? За што я буду падпісваць? Вы ж мяне ў турму пасадзіце. За

што?“ — „Нічога страшнага, падпісвайце“. — „Акуляраў не ўзяла. Нават ня ведаю, што мне рабіць“. — „Мы пішам, што вы прыйшлі на мітынг“. — „Ды ня выйшла я на мітынг! Міма ішла“. — „Не, усё роўна вы былі на мітынгу. Стаўце подпіс“.

Гэтым і скончылася. Думала, што забяруць мяне на старасьці гадоў у турму, пасадзяць і буду адбываць ні за што... Мы ішлі з дачкою пад ручку і трапілі ў бункер. Лічы, тая ж турма.

І тут нас пачалі выпускаць па тры чалавекі з гэтага бункеру. Мы пачалі выходзіць зь Ленінскага РУУС і думаць, як нам даехаць. Я тут не была ніколі, мы маглі заблукаць, ды і позна ж яшчэ. Дачка кажа: „Зараз дастану тэлефон і патэлефаную“. Спахапілася — і аказалася, што ў яе тэлефон выцягнулі! Сказалі, што аддадуць, але калі, невядома.

У мяне тэлефон застаўся. Думала, што зь яго патэлефаную. Але мы выйшлі, а там і валянтэры стаяць, і сваякі ўсе мае. Божа, я не чакала! Стаю, рот разявіўшы.

Унучка Наташа прыбегла, плакала. Праўнучка Даша таксама там была. Радыя былі, што мы вызваліліся. Валянтэры далі гарачай гарбаты папіць. І піражок далі нейкі. Паела, папіла, сказала „вялікі дзякуй“. І загулі аўтамабілі!

Я ніколі не была ў турме і нават ня думала, што на пэнсіі апынуся там. Здавалася б, сядзі ўдома ды сядзі. Але як гэта так: за мяне гінуць людзі, а я ўдома сяджу? Вось я ўстала і пайшла. І пайшла, як на вайну.

Мы ўсе за новае жыцьцё, а то 26 гадоў адно і тое ж. Лукашэнка езьдзіць па палях, па лугах, да скаціны пад хвост зазірае. Цяпер, праўда, пера-

ключыўся на мэдыцыну. Езьдзіць па лякарнях, размаўляе з усімі, да хворых садзіцца.

Я б хацела бачыць новую Беларусь без Лукашэнкі. Толькі б яго не пакінулі тут кімсьці працаваць, таму што ён усё сапсуе. Цяпер будуць выбары — ды ніхто за яго галасаваць ня будзе, як мне здаецца. Калі Лукашэнкі ня будзе, то жыцьцё станецца зусім іншым. Усё пераменіцца.

У мяне ёсьць смартфон. У Telegram я чытаю ўсё цікавае пра палітыку. YouTube гляджу. Tut.by чытаю. Там увесь час пішуць: „Дашліце камэнтар". Я яшчэ ня цямлю, як гэта рабіць. Я б даслала камэнтар, але мяне б зноў пасадзілі.

## „Мама, там нехта ў дзьверы моцна грукае"

*Кацярына, маці траіх дзяцей:*

— У мінулую пятніцу, 18 сьнежня, да мяне прыйшла ўчастковая інспэктарка. Я займалася сваімі справамі на кухні. Тут забягае старэйшая дачка і кажа: „Мама, там нехта ў дзьверы моцна грукае". Час вячэрні. Я адна дома зь дзецьмі, муж у адʼезьдзе. Спачатку вырашыла нікога не пускаць. Але калі жанчына паведаміла, што на мяне будзе заведзеная справа, я дзьверы адчыніла.

Госьця прадставілася ўчастковым інспэктарам. Сказала, што прычына візыту — сьцяг, які вісеў у вакне.

Я запярэчыла: у мяне нічога не вісіць у вакне. Прапанавала прайсьці ў пакоі і пераканацца. Але інспэктарка сказала, што і так усё ведае. Яна

жыве насупраць майго дому, назірала сьцяг даўно і нават ведае час, калі яго зьнялі. Фота вакна мне паказала са словамі: „Заўтра я гэтую справу закрыю“.

Сваіх дакумэнтаў інспэктарка не прад'явіла. Як пайшла, давялося тэлефанаваць у міліцыю і ўдакладняць, ці сапраўды гэта была супрацоўніца міліцыі. Там гэта пацьвердзілі.

На наступны дзень я вырашыла схадзіць у пастарунак і высьветліць сытуацыю. Трохгадовага сына давялося ўзяць з сабой.

У пастарунку я зноў сустрэлася з інспэктаркай. Яна сказала, што ў маім пытаньні ўжо ўсё вырашана: да суду мяне затрымаюць. Мне прапанавалі зьвязацца з блізкімі, каб тыя забралі сына. А калі няма з кім пакінуць, тады яго забярэ інспэктар у справах непаўналетніх, якога тады ж і выклікалі. Вядома, я патэлефанавала маме.

Мама перадала мне сьпехам сабраныя рэчы, забрала з рук заснулае дзіця і зьехала. А мяне ў той жа вечар адправілі на Акрэсьціна.

Мне пашанцавала. Я трапіла ў камэру да дзяўчат, якія сядзелі ўжо тыдзень. Яны ў чымсьці мяне супакоілі. Кніжкай, арэшкамі падзяліліся. У панядзелак адбыўся суд, пасьля мне вярнулі рэчы і я паехала дадому.

Ужо праз пару гадзін я была ў дзіцячым садзе — забірала малодшага сына. Ён, вядома, кінуўся мне на шыю. Сказаў, што вельмі сумаваў. Ноччу спаць лёг са мной у абдымку. Старэйшая дачка кажа, што хвалявалася, але ня моцна. І ўсё ж я за ёй пільна назіраю, каб гэтае „хвалявалася ня моцна“ ня вылілася ў псыхалягічныя праблемы. А

сярэдні сын, яму 7 гадоў, нічога ня ведае: ён усе выходныя гасьцяваў у сьвякрухі.

Тое, што адбылося, для мяне стала шокам і каштоўным жыцьцёвым досьведам адначасова. Я не разумею, навошта было мяне ў гэтай сытуацыі затрымліваць. Як быццам гаворка ідзе пра нейкую злачынку... Я ў жыцьці ні за што і ніколі не прыцягвалася. А тут — проста сьцяг, які быў зьняты з вакна за некалькі дзён да пачатку падзей.

На Акрэсьціна я прабыла амаль двое сутак: з суботы да абеду панядзелка. Рашэньнем суду мяне пакаралі штрафам на 30 базавых велічынь за ўдзел у „адзіночным пікеце“ і адпусьцілі дадому.

Ёсьць у гэтай гісторыі і прыемны момант. Я прыйшла ў захапленьне ад таго, колькі людзей мяне падтрымалі. Пра маё затрыманьне стала вядома ў сацыяльных сетках. І вельмі многія, знаёмыя і незнаёмыя людзі, прыйшлі мяне сустракаць з ізалятару, прапаноўвалі дапамогу. Я заўсёды ведала, што беларусы выдатныя.

## „З сурвэтак мы зрабілі навагоднюю ялінку“

*Антон, 19 гадоў, студэнт:*

— Я трапіў за краты за тое, што сфатаграфаваўся з суседзямі па Малінаўцы на фоне бел-чырвона-белага сьцяга.

Пры гэтым, паводле пратаколу, я ўдзельнічаў у маршы, выкрыкваў палітычныя лёзунгі. Сьведка на судзе паблытаў і дату майго затрыманьня, і мес-

ца, і час — усё адно далі 15 сутак. Не зьмякчыла прысуд нават тое, што ў мяне інваліднасьць зроку.

Чатыры дні я правёў на Акрэсьціна. Адзін зь іх — з сукамэрнікам, у якога пацьвердзіўся каранавірус; яго пасьля забралі. У сераду нас перавезьлі ў Жодзіна. Перадачы ніхто атрымаць ужо не пасьпеў.

Пашанцавала, што валянтэры далі хаця б зубныя шчоткі, туалетную паперу і крыху печыва.

Перадача ад сваякоў прыйшла акурат перад Новым годам — 30 сьнежня, але яе чамусьці ўвесь дзень і ноч трымалі пад дзьвярыма і аддалі толькі 31-га.

Сваякі паклалі нам сыр, каўбасу. З навагодняга — крыху мандарынаў і сурвэткі зь зімовымі ўзорамі. Лісты мне ўсе 15 дзён не аддавалі, хоць ведаю, што іх пісалі. Мы самі 31 сьнежня перадалі на волю віншаваньні для сваіх — з тымі, хто выходзіў з турмы раней.

31 сьнежня бліжэй да адбою хлопцы — у камэры было 10 чалавек — селі за стол, упрыгожылі яго сурвэткамі, расклалі сваё „багацьце“.

У перадачы аказаліся аднаразовыя кубачкі. Мы налілі ў іх вады з-пад крана і „чаркаваліся“, прамаўляючы тосты: „Каб новы год быў лепшы за стары“, „За перамены“, „Каб не сустракацца больш у падобных месцах“... Дзяўчаты з суседняй камэры пачалі сьпяваць „Муры“ і Jingle Bells. А недзе ў 23:34 (відаць, у адной з камэр змаглі даведацца пра час) у СІЗА пачуўся крык: „Сыходзь! З Новым годам! Ура!“ Ахоўнікі, канечне, афігелі ад такога нахабства. Пачалі рабіць заўвагі, усіх супакойваць. Адзін супрацоўнік папрасіў: „Давайце хаця б Новы год сустрэнем па-за палітыкай“.

Пасьля 00:00 грымелі салюты. У нейкі момант нават здалося, што пару залпаў было зусім побач зь СІЗА. Мы вырашылі, што гэта каб падтрымаць нас.

1 студзеня ніякіх паслабленьняў для асуджаных не было — пад'ём у 6:00 і ўсё паводле раскладу. Праўда, ежа была нашмат лепшай, чым звычайна: на сьняданак далі рыс, на абед быў смачны боршч, мяса далі нетрадыцыйна шмат. Складвалася ўражаньне, што кухар спэцыяльна пастараўся.

На волі мяне сустракалі ня толькі сваякі, але і суседзі з двара. З фаервэркамі і шампанскім. Так што сьвята для мяне працягнулася. Праўда, большым сьвятам было зноў спаць на сваёй канапе з выключаным сьвятлом. Ведаеце, адно з маіх хобі — гістарычная рэканструкцыя. І я актыўна зьбіраў старую форму міліцыянэраў, яшчэ савецкую нават. А цяпер і ня ведаю, што з гэтым рабіць. Апранаць яе пасьля выбараў дакладна ня хочацца.

*Уладзімер, 38 гадоў, распрацоўнік інтэрнэт-крам:*

Мяне схапілі недалёка ад станцыі мэтро „Партызанская" 20 сьнежня, у родным раёне, калі я адзін ішоў дадому. Асноўную частку сваіх сутак я адбыў у Жодзіне.

Ніякіх паслабленьняў у гонар сьвята нам не рабілі. Нават не выводзілі пагуляць, хоць мы вельмі прасілі — за 13 дзён я дыхаў сьвежым паветрам толькі адзін раз. Але вось душу мы, нарэшце, дачакаліся 31 сьнежня. А так усё, як звычайна:

прыбіральня безь дзьвярэй, адпаведныя пахі і ахоўнікі, якія сьвяцілі лазэрам у вочы, каб мы не сядзелі на ложках (на лаўцы на ўсіх месца не хапала, даводзілася стаяць).

Падняць сабе настрой атрымалася толькі перадачамі, зь якіх і склаўся сьвяточны стол.

Бліжэй да паўночы мы чулі, як нейкія людзі крычалі пад турмой: „З Новым годам!“ Было вельмі прыемна. Раніцай 1 студзеня мы зноў разбавілі традыцыйны рацыён нашымі перадачкамі: было крыху мандарынаў і нават кавалак чырвонай рыбы. Павіншавалі адзін аднаго. Незвычайныя ў мяне эмоцыі ад сустрэчы Новага году ў турме — будзе што ўспомніць. Такое дакладна не забудзеш.

2 студзеня на свабодзе мяне сустракаў натоўп з блізкіх. Было вельмі прыемна, што столькі чалавек прыехалі мяне сустрэць. І з падарункамі! А дома мяне чакаў сьвяточны стол і яшчэ порцыя падарункаў пад ялінкай.

Астатнія сьвяты правяду дома, бо захварэў за кратамі на каранавірус.

*Максім, 33 гады, дырэктар рэстаўрацыйнай фірмы:*

— Забралі 20 сьнежня проста каля пад'езду ў Менску. Пакуль я вёў размову з бабуляй, якая падтрымлівае рэжым Лукашэнкі, невядомыя выбеглі з буса і мяне забралі: на 12 сутак па вядомым артыкуле 23.34.

У камэры са мной былі некалькі айцішнікаў, выкладчык вышэйшай матэматыкі, навуковец,

інжынэр, спартовец, а таксама адзін мужчына, які сядзеў за крадзеж.

Самым цяжкім для мяне было спаць з уключаным сьвятлом. На пытаньне, чаму так, нам адказалі: „Каб вам не было тут салодка“. У камэры была антысанітарыя, паўсюль — цьвіль і жудасны смурод. Праўда, праз некалькі дзён знаходжаньня ў Жодзіне мы атрымалі мыла і ўжо вымылі ўсё, да чаго дацягнуліся. Акрамя гэтага, нам не аказвалі мэдычнай дапамогі — у некаторых сукамэрнікаў была тэмпэратура, мы прасілі лекі ці хаця б кіпеню, але некалькі дзён нас ігнаравалі. Толькі пад самы Новы год далі дзьве таблеткі парацэтамолу на дзесяць чалавек.

31 сьнежня дайшла першая перадача. Ліставаньне пры гэтым блякавалася цалкам.

У нас атрымаўся сапраўдны сьвяточны стол, бо да гэтага мясцовую ежу больш выкідалі — яна была нясмачная. З сурвэтак мы зрабілі навагоднюю ялінку. Нягледзячы на адбой у 22:00, мы бліжэй да 00:00 перастукваліся і крычалі адзін аднаму „Жыве Беларусь!“. Мы ведалі, што недзе побач з намі ў Жодзіне Марыя Калесьнікава і Сяргей Ціханоўскі, таму разьлічвалі, што нехта захоча прыйсьці павіншаваць іх пад турму. Так і адбылося: уначы мы пачулі звонку і гук ад фаервэркаў, і крыкі „Жыве Беларусь!“. Самы цікавы дзень у турме атрымаўся. Што тычыцца жаданьняў, то загадалі мы ўсе адно: тое, чаго хоча ўся краіна.

*Арцём:*

— Мяне затрымалі 20 сьнежня на раённым маршы ў Менску. З Заводзкага РУУС адвезьлі на Акрэсьціна, а на наступны дзень быў суд паводле двух пратаколаў (артыкулы 23.34 і 23.4 КаАП — удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і непадпарадкаваньне патрабаваньням супрацоўнікаў міліцыі).

Супраць мяне сьведчыў засакрэчаны супрацоўнік міліцыі „Макідонскі“ (менавіта праз „і“). Судзьдзя прысудзіла 15 сутак арышту, і я выйшаў на волю ўжо ў 2021 годзе — 4 студзеня. Ужо падчас затрыманьня супрацоўнікі паабяцалі, што я буду сустракаць Новы год „з жалезнай ялінкай“.

У камэры было 8 чалавек, і амаль усе „нашы“ людзі. Хаця некаторых затрымалі выпадкова: той, што атрымаў 12 сутак, ішоў у краму па хлеб, а другі, якому далі 14 сутак, выходзіў з пад’езду ў таксоўку.

На Каляды асаблівага сьвяткаваньня не было. Я ўсіх павіншаваў, сказаў, што павінна быць 12 страваў, мы пасьмяяліся, бо там місак было 12, а ня страваў. А на Новы год час нам ніхто не абвяшчаў. Трэба было некалькі разоў спытацца ў ахоўнікаў, колькі часу, бо хацелі пачаць сьвяткаваць у 23:34.

Пра Новы год мы даведаліся, калі за вакном пачулі выбухі пэтардаў. Радыё ў гэтую ноч наогул не ўключалі. Гэта была адзіная ноч, калі ўсе былі крыху разьняволеныя: і вязьні, і ахоўнікі.

Мы крыкнулі ў калідор „Жыве Беларусь!“, нехта зь іншых камэраў адказаў „Жыве!“, потым усім паверхам крычалі „Сыходзь!“. Напярэдадні, у сераду, нам амаль усім перадалі перадачы, таму

было адчуваньне сьвяточнага стала. Ахоўнік трапіўся больш-менш добразычлівы, магчыма, падпіў ці што, казаў нам: „Вас падманула звычайная кухарка“. Гэта выклікала сьмех, бо вядома было, хто падмануў яго.

Тое, што ўсіх пазбавілі сямейных сьвятаў, асабліва цынічна. Гэтыя запужваньні маюць адваротны вынік. Мы там толькі з хлопцамі кансалідаваліся, пасябравалі, дамовіліся, што іншага шляху няма і трэба змагацца да перамогі.

*Андрэй Шарэнда, Берасьце:*

— Затрымалі мяне 29 сьнежня за бел-чырвона-белы сьцяг на гаўбцы. Асноўнай мэтай пераднавагодняга затрыманьня было сарваць сьвята, зрабіць кепска за грамадзянскую пазыцыю. Калі я выйшаў з ІЧУ, то даведаўся, што дома зрабілі ператрус і затрымалі маю жонку Паліну. Яе ў кайданках адвезьлі ў ІЧУ Берасьця. Паліну затрымалі ў адміністрацыйнай справе, таксама праводзіцца праверка ў крымінальнай — нібыта за зьнявагу супрацоўніка пры затрыманьні мяне.

Малодшаму сыну 4 гады, і ён цяжка гэта ўспрымае. Калі прыйшлі зь ператрусам, Паліна не адчыняла дзьверы, дык іх выбілі нейкай кувалдай. У гэты час яна была з сынам у іншым пакоі. У сына стрэс, і ён пытаецца, дзе мама.

Новы год сустрэлі ў камэры, зь дзьвюма мандарынкамі. Па фаервэрках за сьценамі мы зразумелі, што Новы год ужо прыйшоў. Зьелі па мандарынцы і так адзначылі. У ахоўнікаў на тэлефоне, ці дзе, чуўся пачатак выступу Лукашэнкі, але мы

яго ня слухалі. Яго потым ці то выключылі, ці то прыглушылі. Нас ніхто не папярэджваў, што ўжо Новы год.

У сувязі са сьвятам не было ніякага паслабленьня, а ў мэню буракі замянілі на шаткаваную капусту. Падчас праверкі 1 студзеня я павіншаваў усіх з Новым годам. На праверцы ўсіх ставяць тварам да сьцяны, робяць шмон у камэры. І калі супрацоўнікі ІЧУ спыталі, якія ёсьць пытаньні, я павіншаваў іх з Новым годам. Яны сказалі: „Вас таксама“.

# АНОНС ЗАМЕСТ ПАСЬЛЯСЛОЎЯ

Падзеі народнага паўстаньня 2020-га ня скончыліся як для герояў гэтай кнігі, гэтак і для ўсіх, каго абрала сваім сьведкам гісторыя.

Новыя сьведчаньні ўдзельнікаў складуць кнігу "Галасы Беларусі — 2021".

# VOICES OF BELARUS — 2020

In the summer of 2020, hundreds of thousands of citizens across Belarus took to the streets. There were three catalysts for the mobilization and politicization of these crowds: the government's response to the pandemic, falsification of presidential election results, and widespread violence perpetrated against peaceful protesters by riot forces.

Hundreds of quotes from those who participated in or witnessed the uprising are contained in this volume. These individuals speak about their hopes - and their suffering. Eyewitness testimonies were published by Radio Liberty, independent media, and in social networks. The identity of witnesses and journalists is concealed to protect their safety.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03–25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009–2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.




*Сяргей Дубавец.*
**Тантамарэскі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 356 с.




*Алесь Пілецкі.*
**Казкі па целефоне.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 298 с.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 132 с.: іл.




*Дзьмітры Гурневіч.*
**Забойства ў цэнтры Эўропы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 248 с.: іл.




*Сяргей Астраўцоў.*
**Спадар Свабода.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 328 с.: іл.




**Каліноўскі на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 830 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі
і палітычнае
нараджэньне
Беларусі.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2020. —
140 с.: іл.




**Гаворыць Радыё
ВЫЗВАЛЕНЬНЕ...**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2020. —
172 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
4-е выд., дап.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2020. —
826 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Невядомы Менск.
Гісторыя
зьнікненьня.**
Кніга першая.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2021. —
476 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста шосты.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2021. —
540 с.: іл.